

## 1. СТАРАЯ ШКОЛА

Нядаўна ў нас пачалі будаваць новую цагляную школу. Месца для яе выбралі прыгожае, высокае — на цвінтары[1] за былой царквой, у якой зараз знаходзіцца клуб. Наша настаўніца Антаніна Аляксандраўна гаворыць, што восенню мы пойдзем ужо ў новую школу, у чацвёрты клас.

А пакуль мы вучымся ў старой і заканчваем трэці. Старая школа — гэта пачарнелая ад часу драўляная будыніна на высокім падмурку. Некалі трывалыя, смалістыя бярвенні сцен патрэскаліся, сям-там параслі мохам. Толькі нядаўна адрамантаваны бляшаны дах у сонечныя дні весела паблісквае новымі цынкавымі лапікамі.

Каля школы выстраіліся ў рад сівыя, аджыўшыя свой век таполі. Кару з іх мы даўно аблупілі на лодачкі, і дрэвы свецяць голымі бакамі. На самай высокай сухой верхавіне пасяліўся бусел. Непадалёку ад яго гнязда бойка гамоняць задзірыстыя вераб'і.

Мой бацька расказваў, што калісьці, яшчэ да рэвалюцыі, калі ён сам быў вучнем, у нашай школе знаходзілася воласць. А бабуля дык яшчэ і цяпер школу называе воласцю.

---

[1] Цвінтар — прыцаркоўная плошча.

Прыйдзе яна з калгаса дамоў абедаць і пачынае расказваць:

— Сустрэла я сёння каля воласці Агату, што за Халімона выйшла...

— Каля школы, баб,— папраўляю я.

А яна толькі рукой адмахваецца:

— Адкасніся, смала! Буду я табе школкаць...

І зноў за сваё: воласць ды воласць.

Што такое воласць, я ўжо добра ведаю,— ад старых чуў. Там сядзелі валасны старшыня і пісар. Яны выцягвалі з людзей жылы і зводзілі кудысьці іхніх кароў. І яшчэ ў воласці сядзеў паліцэйскі прыстаў. Вусаты такі. З шабляй і бізуном. Ён сек мужыкоў дубцамі і саджаў іх у халодную.

Халодная ёсць і зараз. Яна знаходзіцца якраз пад вокнамі настаўніцкай. Гэта вялізны цагляны склеп з цяжкімі дубовымі дзвярыма, на якіх заўсёды вісіць іржавы замок. Часта на перапынках мы, хлапчукі з трэцяга «Б», спускаемся па сцёртых падэшвамі каменных прыступках да гэтых дзвярэй і кратаем замок — можа, адамкнецца. Замок не адмыкаецца. Тады мы па чарзе заглядваем у шчыліну паміж дошак, пакрытых зеленаватай цвіллю. За дзвярыма цёмна хоць вока выкалі, адтуль патыхае сырасцю і перакіслай капустай. Але кожны з нас у той цемры штосьці бачыць — і кожны бачыць рознае.

— Ш-ш-шкілет,— таямнічым шэптам паведамляе Коля Бурэц, чарнявы, з зыркімі, як у цыганёнка, вачыма. Яго дражняць Храбры Заяц. І мянушка гэтая прыліпла да яго нездарма. Аднойчы на ўроку Колю выклікалі чытаць.

Ён адкашляўся і пачаў:

— Храбры заяц. Кхм. Жыў у лесе заяц, і ўсяго ён ба...

У гэты час са столі адваліўся кавалак тынку і ўпаў проста на Колю. Увесь клас засмяяўся, а ён заплакаў. І пачаў заікацца.

З таго часу і пайшло: Храбры Заяц ды Храбры Заяц.

За Колем да дзвярэй прыліпае Санька. Ён глядзіць доўга і ўважліва, засланіўшыся ад святла рукамі. Мы стаім, прытаіўшы дыханне, і чакаем, што ён скажа. Я пабойваюся, што Санька забыўся пра мяне: хутка зазвініць званок і трэба будзе бегчы ў клас, не паглядзеўшы ў шчыліну. Нарэшце Санька задаволіўся.

— Шкілет-дрындулет, — насмешліва сказаў ён і аўтарытэтна дадаў: — Там ланцугі...

Цяпер надышла мая чарга. Колькі я ні прыглядаўся, але ні шкілета, ні ланцугоў не ўбачыў. Аднак, каб не быць горшым за іншых, заявіў:

— Ага ж...

І ўсе пабеглі ў клас.

Пасля ўрокаў мы зноў пайшлі глядзець халодную. На гэты раз нам пашанцавала: дзверы таямнічага склепа былі расчынены на ўсю шырыню. Хто іх расчыніў, мы не ведалі, толькі бачылі, як школьная прыбіральшчыца цётка Мар'я цягнула цераз дарогу дзежку да калодзежа. Мы, як качаны, скаціліся па каменных прыступках. Санька першы шмыгнуў у чорны праём дзвярэй. Праз хвіліну ўнізе штосьці загрукатала, і неўзабаве пачуўся прыглушаны Санькаў голас:

— У, чорт... нагарадзілі тут...

Следам палез я, а потым і Коля Бурэц. Аказалася, што за дзвярыма быў яшчэ цэментаваны ганак, якога Санька ў цемры не разгледзеў. Цяпер ён стаяў каля перакуленых начовак і збянтэжана паціраў лоб. У яго заўсёды так: не паспее адзін гуз сысці — другі наб'е. Уявіць Саньку без гуза проста немагчыма.

Нічога страшнага ў халоднай мы не знайшлі: не было тут ланцугоў, якімі, на думку Санькі,

прыкоўвалі змагароў за свабоду да сцяны, і тым больш не валяліся шкілеты. Над намі навісала сырая цагляная столь, нашы галасы гудзелі, як у пустой дзежцы. На падлозе валяліся старыя, разбітыя начоўкі стаяла вядро з анучамі, якімі цётка Мар'я мые ў класах. Пад нагамі хрумсталі бульбяныя парасткі, у кутку ляжалі два качаны капусты, відаць, пакінутыя на высадку, ды некалькі запыленых адкаркаваных бутэлек ці то з-пад газы, ці то з-пад алею.

— А ўсё ж тут страшна было сядзець,— зазначыў я, калі мы выбраліся са склепа.

Санька на гэта нічога не адказаў, толькі сярдзіта засоп, быццам мы вінаваты, што ён набіў сабе гуз, затое Коля з пагардай хмыкнуў:

— П-падумаеш, страшна. Мой б-бацька калісьці тут сто разоў сядзеў...

Ну і хвалько ж гэты Заяц. Што яму ні скажаш, ён адразу:

— П-падумаеш!

— Скажы яшчэ тысячу,— не сцярпеў я.

У чорных зыркіх вачах Колі загарэліся сярдзітыя агеньчыкі, а кірпаты нос яшчэ больш задраўся ўгару.

— Не верыш? — абурыўся ён і пачаў даказваць: — Пры буржуях сядзеў? Сядзеў. Ён аднаму п-пану па мордзе як п-пляснуў, яго і п-пасадзілі. Потым яго б-белякі расстраляць хацелі. Ён т-таксама сядзеў. А п-потым уцёк... Мой бацька матросам быў, во... Ён белых, ведаеш, як б-біў? З кулямёта — тра-та-та-та...

Што праўда, то праўда: Колеў бацька быў некалі матросам.

У іхняй хаце ў вышываных ручніках і зараз вісіць фотакартка прыгожага маладога мужчыны з чорнымі вусамі, у бесказырцы. На бесказырцы напісана «Быстрый». Мы з Санькам, калі ў хаце не было дарослых, залазілі на стол і самі чыталі.

І з кулямёта, напэўна, ён белых таксама біў, таму што грудзі яго перакрыжаваны кулямётнымі стужкамі.

Колеў бацька загінуў гадоў дзесяць назад. Застрэлілі з абрэза ноччу. Ён быў старшынёй сельсавета.

— А майго дзеда пры буржуях дубцамі секлі, бо ён шапкі не хацеў здымаць,— пахваліўся раптам Санька і з такім гонарам паглядзеў на нас, быццам гэта не дзед, а ён, Санька, не здымаў перад буржуямі шапкі. Яго аблуплены нос блішчыць, як памазаны салам. Ён забыўся нават пра свой гуз.

Тут і я не змоўчаў. Праўда, майго дзеда не секлі дубцамі і бацька не быў матросам, але сказаць знайшлося што.

— А мой бацька,— паведаміў я,— калі хадзіў у школу, дык у класе да дзвярэй качаргу паставіў. Поп ішоў на ўрок, дзверы адчыніў, а качарга па лбе яго я-ак трэсне!..

Санька зарагатаў, а Коля спытаў:

— Ну і што?

— Гуз у папа быў яшчэ большы, чым у Санькі. А поп схапіў бацьку за вуха ды ў куток. Каленкамі на грэчку.

— А дубцамі не секлі? — пацікавіўся Санька.

— Не, толькі дома вяроўкай.

І ўсю дарогу, пакуль не разышліся па хатах, мы спрачаліся паміж сабой, абараняючы гонар сваіх бацькоў.

## 2. ГЭЙ, ПА ДАРОЗЕ...

Наша з Санькам парта самая лепшая ў класе: яна стаіць каля акна. Сядзець тут намнога цікавей, чым у любым іншым месцы. Пройдзе хто-небудзь

цераз школьны двор, праедзе па дарозе грузавік ці падвода, сядзе ў сваё гняздо бусел — усё мы бачым. Затое і заўвагі Антаніны Аляксандраўны сыплюцца на нашы галовы, як гарох.

— Макавей, не круціся!

Гэта Санька загледзеўся на бязногага каваля дзеда Цімоха, які пад'ехаў на сваёй трохколавай «лісапеце» да сельмага.

— Сырцоў, табе на ўроку нецікава?

Гэта ўжо я назіраю, як рудая кошка школьнай прыбіральшчыцы цёткі Мар'і ціхенька падкрадаецца да вераб'я.

А сёння нам і зусім не сядзіцца: хутка празвініць апошні званок, пасля якога мы на ўсё лета станем вольнымі арламі. Заўтра ўжо канікулы!

У Антаніны Аляксандраўны таксама прыўзняты настрой. Яна прыйшла ў клас урачыстая і радасная. У яе гладка прычасаных валасах сёння быццам менш сівізны, быццам разгладзіліся і маршчыны на твары. У новай сіняй сукенцы, дробненькая, худзенькая, яна ходзіць паміж парт і шчабеча тонкім галаском:

— Дарагія мае хлопчыкі і дзяўчынкі! Вось прайшоў і яшчэ адзін год. Мы з вамі, ідучы да вяршынь навукі, узняліся яшчэ на адзін прыгорачак. Няхай сабе ён невялічкі, але...

Па-святочнаму зіхацяць шкельцы яе акуляраў, якія неяк самі сабой, без аглобелек, трымаюцца на носе. У нас з Санькам так не выходзіць. Шмат разоў мы рабілі з тонкіх медных дроцікаў такія акуляры — і ўсё дарэмна. Толькі начэпіш іх на нос, яны тут жа і зваляцца на зямлю.

— ...але і на канікулах не забывайце, што вы школьнікі,— працягвае шчабятаць Антаніна Аляксандраўна, а Санька штурхае мяне локцем у бок і паказвае вачыма на акно.

Там, на вуліцы, каля трансфарматарнай будкі, якую нядаўна пабудавалі побач са школай, ходзіць калгасны электраманцёр Іван Буслік. Каб і хацеў, дык Бусліку лепшага прозвішча не прыдумаеш. Ногі ў яго тонкія, доўгія, як аглоблі. Ён крок зробіць, а звычайны чалавек — два.

Буслік высока задзірае галаву і нешта разглядае ўверсе, у перапляценні правадоў. На поясе ў яго шырокая папруга з ланцугом, а на плячы жалезныя кіпцюры, якія ён заўсёды прымацоўвае да сваіх даўжэзных ног, калі хоча залезці на слуп.

Электрычнасць для нас яшчэ навінка, нейкае незразумелае цуда. Яе правялі ў вёску з паўгода назад, і ўсе мы, дзеці і дарослыя, дзіву даёмся, як гэта па жалезным дроце бяжыць агонь, як ён залазіць у лямпачку і гарыць там без газы і чаду.

Мая бабуля дык толькі плячыма паціскае:

— І прыдумаюць жа...

А Івану Бусліку ўсё гэта зразумела як пяць пальцаў. Вось чаму ён бадай што самы паважаны чалавек у вачах вясковых хлапчукоў. Вось чаму мы заўсёды, затаіўшы дыханне, сочым, калі ён лазіць на слуп або адчыняе дзверы трансфарматарнай будкі. Зайсці б туды самому ды паглядзець, хоць адным вокам, што робіцца за дзвярыма, на якіх прыбіта таблічка з надпісам: «Не чапаць. Смяртэльна». Але Буслік нас і блізка туды не падпускае. Адно, што ён дазваляе рабіць, дык гэта насіць за ім свае цяжкія жалезныя кіпцюры.

Іншыя класы ўжо адпусцілі, а наша настаўніца ўсё ніяк не можа з намі разлучыцца, быццам мы ідзём не на канікулы, а ляцім у вырай.

Цяпер яна раіць нам збіраць гербарыі, засушваць розныя кветкі, лісточкі. Гэта ўсё нам спатрэбіцца, калі мы прыйдзем у чацвёрты клас.

А пад акном стаіць Міцька Малах з трэцяга «А», ці, як мы яго называем, Мангол, і махае палатнянай торбай з кніжкамі. Міцька вельмі рад, што ён ужо на вуліцы. Яго тоўстыя губы расплыліся ў шчаслівай усмешцы, а замест вачэй — дзве хціўныя шчылінкі.

Я паказаў Міцьку кулак, а ён мне язык. Тут якраз дарэчы было б крыкнуць: «Малах, Малах! У рабых штанах!» Але ў класе не крыкнеш.

— А ўвосень, калі вы прыйдзеце ўжо ў чацвёрты клас, у нас будзе новая школа,— гаворыць далей Антаніна Аляксандраўна.— Новая, прасторная, светлая.

У гэты час Міцька-Мангол чамусьці страціў цікаўнасць да нашага акна. Хвіліну-другую ён стаяў нерухома, прыслухоўваўся, а потым пусціўся ў подбрыкі да сельсавета, як малады жарабок.

Там, з цвінтара на вуліцу, крочыць строй допрызыўнікаў. Хлопцы дружна топаюць і старанна адмахваюць у такт крокаў рукамі. Наперадзе строю нейкі вайсковец ідзе задам наперад і штосьці крычыць. А за дапрызыўнікамі, узнімаючы босымі нагамі пыл, імчацца хлапчукі. Толькі нас з Санькам там не хапае. Мы сядзім у класе, і нашы сэрцы точыць чорная зайздрасць.

Нарэшце Антаніна Аляксандраўна сказала:

— Ну, дзеці, да пабачэння. Да першага верасня.

— Да пабачэння,— радасна адгукнуўся клас, і вось перад намі — вуліца, сонца, вецер і буйная хлапечая воля — бяжы куды хочаш: перад табою цэлы белы свет.

Дапрызыўнікаў мы дагналі ўжо за вёскай. Яны ішлі ў Лісічыя равы на стрэльбішча.

Вайсковец па-ранейшаму то ідзе задам, то забягае збоку і ўвесь час надрываецца:

— Аць-два! Левай, левай! Не часціць! Шаціла, не цягні нагу!

У першай шарэнзе Міцькаў брат Панас. Нягледзячы на спякоту, ён у новым суконным пінжаку, абвешаным markedрознымі значкамі. Там і Асаавіяхім, і Чырвоны Крыж, і МОПР, але самы галоўны з іх «Варашылаўскі стралок» на тоненькіх медных ланцужках. Кожны з нас аддаў бы невядома што, каб толькі мець хоць які-небудзь з гэтых значкоў. Іншы раз, калі Панас бывае ў добрым настроі, ён дае нам памацаць свае рэгаліі — тады радасці на цэлы дзень.

Сёння Панас горды і непрыступны. У яго на плячы адзіная на ўсю каманду вінтоўка-дробнакаліберка. Яшчэ больш фанабэрыцца наш прыяцель Міцька-Мангол. Ён проста расце на вачах.

— Ага, а мой брат сёлета ў Чырвоную Армію пойдзе!

У Санькі брата няма, таму ён прапускае Манголавы словы міма вушэй. У мяне ёсць брат, але што гэта за брат? Ён пойдзе ў школу толькі праз два гады, а пакуль што нават не ўсе літары вымаўляе. Завуць яго Грышка, а ён гаворыць — Глыжка. Так мы яго і завём Глыжка.

Затое ў мяне ёсць дзядзька Назар, і, каб Міцька не вельмі задзіраў свой нос, я яму напамінаю:

— А мой дзядзька ў Іспаніі быў!

Тут і Санька кінуўся мне на падмогу:

— Ага! А ў яго дзядзька лётчык!

— У яго ордэн! — дадаў я.

Міцька здаўся. Ён нічога не адказаў і пабег пераганяць дапрызыўнікаў. Ды і што тут скажаш, калі ў чалавека такі дзядзька?

Дзядзька Назар прыязджаў да нас у госці гады два назад. На ім было новенькае вайсковае адзенне і рыпучыя рамяні. Бацьку ён прывёз новыя камандзірскія боты, маці — вялізную цёплую хустку

ў клетку, а мне падарыў сваю пілотку. Праўда, яна была велікаватая і лезла на вочы, але маці крыху яе ўшыла, і атрымалася добрая рэч. Хлопцы з усёй вуліцы прасілі памераць.

А яшчэ ён прывёз патэфон з бліскучай нікеліраванай ручкай. Кожны дзень яго ставілі на расчыненае акно, і па вуліцы разлівалася песня:

Пасею гурочкі,
Чатыры лісточкі,
Не бачыла я мілога
Чатыры гадочкі.

Каля нашай хаты спыняліся маладзіцы, дзяўчаты, і, калі песня канчалася, яны зноў і зноў лагодна прасілі:

— Іван, пусці яшчэ раз!

І я зноў пачынаў круціць бліскучую ручку. Мае сябры стаялі на прызбе і зайздросцілі: ім таксама хацелася хоць патрымацца за патэфон.

— Ой, скруціць ён яму галаву,— непакоілася маці.

А дзядзька толькі смяяўся:

— Няхай круціць! Новы купім.

Цэлы месяц я хадзіў за дзядзькам, як прывязаны. Эх, і нагледзеўся я тады кіно за дзядзькавы грошы! А цукерак паеў столькі, што Міцьку і не снілася.

Да нас часта прыходзілі ўсякія родзічы. Яны частаваліся, спявалі песні, а я, натапырыўшы вушы, лавіў кожнае слова з іхніх размоў.

Дзядзька расказваў неахвотна і ўсё неяк загадкамі:

— Там было горача... Пакуль што іхняя ўзяла...

Але не-не ды і траплялiся асобныя словы: рэспубліканцы, фашысты, Грэнада... Што яны азначаюць, я толкам не ведаў, аднак здагадваўся — за імі хаваецца нешта вельмі важнае.

А бацьку ён адкрыта сказаў:

— Быў у Іспаніі...

Адным словам, Міцькаваму брату да майго дзядзькі яшчэ далёка скакаць.

— Аць-два, аць-два! Левай,— не сунімаецца дапрызыўніцкі камандзір.

Па полі ідуць нам насустрач дзяўчаты і жанчыны з капаніцамі. Яны сабраліся на абед.

І тут хлопцы не вытрымалі і заспявалі:

Если завтра война,
Если завтра в поход,
Если темная сила нагрянет...

А дзяўчаты ў адказ:

Хутка ў армію паедзе
Мой мілёнак дарагі.
Толькі два гады — не тыдзень,
Мне палюбіцца другі.

Дзяўчаты спяваюць больш голасна — нашага запявалы амаль не чуваць. І тут мы з Санькам прыйшлі дапрызыўнікам на дапамогу:

Как один человек,
Весь советский народ
За великую Родину встанет.

Сілы не шкадавалі. Атрымлівалася хоць і не вельмі складна, затое гучна.

Калі я заўважыў сваю бабулю, хавацца было позна ўжо.

— А цябе гэта куды нясе нячысцік? — закрычала яна на ўсё поле.

— Баб, страляць! — не разгубіўся я.

Ну і разышлася ж яна: і маці дома хворая, і курэй з проса сагнаць няма каму, і кабанчыка паглядзець, ці не залез у чужы агарод, таксама няма

каму. А я толькі і думаю, як аббегчы ўвесь свет ды біць лынды. Вось вярнуся дамоў, дык бацька мне настраляе.

Што яна там яшчэ пад жаночы смех і жарты крычала мне ўслед, я не чуў. Мы былі ўжо далёка і спявалі новую песню:

Эй, по дороге,
Эй, по дороге,
По дороге войско красное идет!

## 3. У НОВАЙ ШКОЛЕ

Мой бацька — цясляр, і таму ў нас у сенцах на паліцы процьма, як кажа бабка, рознага жалязячча: стамескі, долаты, рубанкі, фуганкі, стругі крывыя і прамыя, малаткі вялікія і малыя. А сякер дык ажно тры, не лічачы калуна. Сякеры ў бацькі розныя: адной кожны дзень сякуць дровы, другой бацька чэша на будоўлях бярвенне, а трэцяя самая важная. Ёю робяць толькі тонкую работу: яна вострая, як агонь. Апошнюю сякеру бацька любіць больш за ўсё і, пасля таго як мы с Санькам перасеклі на ёй пару цвікоў, хавае ад мяне.

Кожную раніцу са скрынкай, у якой ляжаць інструменты і цвікі, бацька ідзе ў новую школу. Там ужо заканчваюць ставіць рамы і навешваюць дзверы.

Вечарам, калі бацька прыходзіць дахаты, я, пакуль маці збірае вячэру, паліваю яму на рукі. Прыземісты, каржакаваты, ён пахне свежымі сасновымі стружкамі. Густы, даўно не стрыжаны чуб і чорныя калматыя бровы прыпудраны пілавіннем. Бацька фыркае, як морж, і пырскі дажджом разлятаюцца ва ўсе бакі. Звычайна пры гэтым мы размаўляем.

— Ну, брат, і школа будзе,— гаворыць бацька.— Сам бы пайшоў вучыцца, ды, мабыць, гадоў багата...

— А страшна ўверсе? — цікаўлюся я.

— Што ты? — І ў яго вачах загараюцца хітрыя іскаркі.— Галава кругам ідзе. Сёння я залез на вільчык, дык Стараселле відаць. Між іншым, дзеда Кулагу бачыў. Ён мне рукой махаў: няхай, маўляў, унук у госці прыйдзе, грушы паспелі.

Вось так заўсёды: з ім сур'ёзна, а яму — жартачкі. Калі яшчэ тыя грушы будуць, а ён — паспелі. Але праверыць, відаць ці не відаць са школы Стараселле, усё ж не шкодзіць.

З такой думкай я і Санька пайшлі на будоўлю. Сёння якраз нядзеля і, апрача вартаўніка, старога, глухаватага Міхея, тут нікога няма. Ды і Міхей, прымасціўшыся пад штабелем дошак, соладка сапе ў цяньку.

Двухпавярховая школа нам здалася сапраўды вельмі высокай. Санька прыкінуў, што калі ўзяць іхнюю хату ды зверху паставіць нашу, а потым і хлеў, дык усё роўна да вільчыка не дастанеш, хіба толькі на хлеў зацягнуць яшчэ і сенцы — тады іншая справа. Разважаючы так, мы выбраліся на чарапічны дах і змоўклі ад здзіўлення. Адсюль усе нашы Падлюбічы відаць як на далоні. Куды ні паглядзіш — усюды густыя, кучаравыя вербы, з-за якіх амаль не відаць саламяных стрэх, і сады, сады. А ў іх яблыкі, грушы, кусты парэчак і агрэсту, непралазныя чашчобы маліны ўздоўж межаў, якія раздзяляюць адзін агарод ад другога.

Усё нам зверху відаць. Паглядзіш туды, дзе раніцой узыходзіць сонца, і перад табой неабсяжныя прасторы лугоў, зараснікі вербалозу і алешніку, бліскучыя шкельцы азёраў і рачулак. Шчыльным парканам за лугамі сінее сасновы бор. Адсюль

да яго, здаецца, рукой падаць, хоць ісці трэба кіламетраў шэсць.

Паглядзіш туды, дзе сонца садзіцца, і перад табой бязмежнае калгаснае поле, калышацца, ходзіць буйнымі хвалямі жыта, побач зелянее бульба. Па яе пасевах туды-сюды снуюць коні, дакладней кажучы, маленькія конікі, а следам за імі такія ж маленькія людзі. Там калгаснікі разворваюць рады. Летам ім нядзеля не за нядзелю.

Наша вуліца Ніжні Дол самая прыгожая. Яна ўся ў вербах. Гэта таму, што нам без вербаў жыць нельга. Бацька гаворыць, яны нас ратуюць.

Пасярод вуліцы цячэ раўчак. Летам у ім вераб'ю па калена, затое вясной раўчак разліваецца на ўсю вуліцу. Ён затапляе агароды і сады, імчыць, не выбіраючы дарогі, размывае берагі. Каб не вербы, дык і хаты пазносіў бы.

Самога раўчака мы з Санькам адсюль не бачым. Ён хаваецца ў густых зарасніках гарчаку і ваўчкоў. Але нам і так вядома: там плёскаюцца качкі, купаюцца свінні, хлапчукі з дзёрну гародзяць гаці і б'юць жаб. З-за гэтага раўчака ў нас з Санькам на нагах цыпкі.

Адразу ж за нашай вуліцай разліўся Сітняг — вялікае возера. На сонцы Сітняг пераліваецца, іскрыцца срэбрам. На беразе стоўпіліся каровы, а побач з імі фантанамі ўзнімаюцца пырскі. Там купаюцца хлапчукі.

Далёка-далёка за Сітнягом, там, дзе сустракаецца зямля з небам, відаць горад. Дакладней кажучы, не сам горад, а толькі элеватар. Туды маці па нядзелях носіць малако, яйкі, розную дробязь з агарода: маладыя бурачкі, моркаўку, а адтуль — гасцінцы: абаранкі з макам, морс у тоўстай рабрыстай бутэльцы, які, здаецца, піў бы і піў бы без пярэдыху.

Стараселле якраз у другім баку. Колькі мы ні ўглядаліся з Санькам, але майго дзеда Кулагу так і не ўбачылі. Там таксама ўсюды вербы. Адна макаўка царквы тырчыць.

Насядзеўшыся ўволю на даху, мы пайшлі аглядаць школу з сярэдзіны. Тут пахла свежай масляной фарбай, смалістымі стружкамі, вапнай і яшчэ немаведама чым. Калідоры доўгія, шырокія, што вуліца, і гулкія, як калодзеж.

— Гэ! — крыкнуў Санька.

Атрымалася так, быццам сто Санькаў крыкнула.

— Гэта мы! — не ўтрымаўся і я.

— Ы-ы! — гулам пракацілася па пустой школе.

Мы прабеглі па калідорах-вуліцах, паляпалі новымі дзвярыма, разы па два з'ехалі па поручнях лесвіцы з другога паверха на першы і спыніліся ў адным класе. Клас быў недабелены. Тут валяліся квачы і стаяла дзежка з мелам. Мел на дне, а зверху сіняватая вадзічка.

— Трэба ўзмуціць,— сказаў Санька.

Потым яму захацелася зрабіць добрую справу — крыху пафарбаваць. А ў нас так: што робіць Санька, тое і я, што — я, тое і Санька.

Перацягнуць дзежку да рыштавання ў нас не хапіла сілы, таму мы паклалі на яе дошку і ўзяліся за работу. Мел з квачоў пырскаў нам на галовы, на кашулі і штаны. Добрая справа яшчэ толькі пачалася, а нас ужо не пазнала б і родная маці. Санька з рыжаватага ператварыўся ў бела-рабога, а мае новыя чартакожавыя штаны сталі квяцістыя, як бабуліна святочная кофта. У гэты час і грымнуў гром.

— А-а, паганцы! Дык гэта вы што?

На парозе як з-пад зямлі вырас дзед Міхей з доўгім кійком у руках. Па ўсім было відаць, што жартаваць ён не збіраўся. Яго рэдкая казліная бародка аж траслася ад гневу.

— А хлуда вы не хочаце? — спытаў стары.

Што-што, а хлуд нам не патрэбен. Я кінуў дошку, якую ўвесь час падтрымліваў, каб Санька не зляцеў на падлогу, і сігануў у расчыненае акно. Санька спачатку ўскочыў абедзвюма нагамі ў дзежку, а адтуль ужо як чорт выляцеў услед за мной.

Ад школы па-за агародамі мы выскачылі на поплаў, а потым па крапіве і дзядоўніку выбеглі да раўчака. Тут спыніліся і агледзеліся. Я дык яшчэ нічога, а на Саньку страшна было глядзець: белы з галавы да ног. Больш таго, на Санькавым ілбе сядзеў новы гуз велічынёй з добрую сліву.

Да самага вечара мы мылі ў раўчаку і сушылі на траве сваё адзенне.

А калі ішлі дамоў, Санька сказаў:

— А школа ўсё ж добрая.

Я з ім згадзіўся: добрая школа, высокая.

## 4. ЧАПАЕЎЦЫ

Лета над сялом плыве спякотнымі сонечнымі днямі, навальнічнымі хмарамі, зорнымі, парнымі начамі. Раніцой яно рассыпае буйныя росы па травах, звініць аб донне даёнак тугімі струменямі цёплага, пахкага малака. І вось ужо разлягаецца голас пастуха:

— Гэ-э!.. Гэ-э! Куды пайшла! Эх, воўк тваё мяса еш!

Гучна ляскае доўгая, цяжкая пуга.

І раптам дзесьці далёка, на краі вёскі, пачынае часта-часта ляпаць па бабцы малаток, яму адгукаецца другі ў другім двары, затым у трэцім, чацвёртым і, нарэшце, у нашым, пад самымі вокнамі:

— Цюк-цюк-цюк-цюк-цюк...

Змоўкне на хвіліну і зноў. Гэта бацька наводзіць касу.

Мая бабуля таксама вострыць цаглінай капаніцу. У калгасным садзе яшчэ не выпаланы буракі. Ад гэтых буракоў ва ўсіх аж рукі адвальваюцца.

Бабуля ў мяне малайчына. Ёй ужо каля шасцідзесяці, і ніштo сабе — як маладая: рухавая, упраўная. Мабыць, таму і называюць яе не па бацьку, а проста так: цёця Моця. Без яе ні адна справа ні ў сваім, ні ў калгасным агародзе не абыходзіцца: і парніковыя рамы шкліць ды абмазвае, і расаду вырошчвае, і памідоры пасынкуе, і грады прапалвае, і высадкі малоціць. Людзі здзіўляюцца: адкуль у яе толькі сілы бяруцца?

Твар у бабулі гарбаносы, сухі, валасы густыя і чорныя, вочы зыркія, то насмешлівыя, то калючыя. Яна імі мяне наскрозь бачыць, яна ведае, чым я дыхаю. Вось толькі зубоў у яе мала. Але ўсё роўна хутчэй, чым яна, яблык не згрызеш: дастане з кішэні ножык, шкраб-шкраб-шкраб — і ў рот. Дарэчы, у бабульчынай кішэні знойдзеш не адзін толькі ножык. Там убачыш і новы цвік, і сырамятны раменьчык, і скрутачак медных дроцікаў — што хочаш.

Свой «струмент» бабуля не давярае нікому. Аднойчы бацька сам навастрыў капаніцу наждаком, дык потым бяды не мог абабрацца — не так.

— Ну, глядзі тут, дзеўка. Я пайшла! — крычыць бабуля ў акно, паскрыгатаўшы аб капаніцу цаглінай.

Дзеўка — гэта мая маці. Яна ўжо некалькі год хварэе. Яе і дома лячылі, і клалі ў бальніцу, ды лекі не дапамагалі. Бабуля гаворыць, што маці надарвала сэрца і новага тут не ўставіш.

Маці, охкаючы, топчацца ля печы, грыміць у парозе вілкамі і качаргой, праклінае цяжкія чыгуны.

Стаміўшыся, яна садзіцца на лаўку, і па яе худых шчоках коцяцца слёзы.

— Мам, чаго ты? — спалохана пытаюся я.

— Спіце, спіце,— схамянаецца маці.— Гэта я так, дзеткі, прыпамятавалася жаласлівае...

Але ўжо не спіцца. Мне вельмі шкада маці, і я сам сабе абяцаю, што буду заўсёды яе слухацца і з заўтрашняга дня буду добра пасвіць кабанчыка і гуляць з Глыжкам. Сёння мне яшчэ нельга, Санька назначыў ваенныя манеўры. Ён цяпер у нас Чапаеў, а я яго Пецька.

Наеўшыся тоўчанай бульбы з малаком, мы з Глыжкам выбягаем з хаты. А тут сонца поўны двор, поўная вёска, поўнае неба. На двары ў смецці корпаецца квактуха з куранятамі. Паграбае лапамі, паквохкае, і кураняты трушком да яе. Убачыўшы, што нічога талковага не выкапалася, яны расчаравана разыходзяцца ў бакі. Квактуха сама збянтэжана — павінна ж было штосьці быць! І яна зноў пачынае грабаць, яшчэ больш старанна.

Кабанчык ужо ўзараў паўдвара — увесь лыч да самых вачэй у зямлі. Ён сустракае нас, як блізкіх прыяцелей, вясёлым рохканнем:

— Рох-рох-рох!

Кабанчык быццам пытае: што, хлопцы, пойдзем пакапаем мурог на поплаве? Але больш за ўсё ўзрадаваўся нашаму з'яўленню Жук. Ён аж затанцаваў каля сваёй будкі, бразгаючы ланцугом. У яго сабачых вачах нямы папрок: ну і спіце ж вы, як паны! А вось хлеба вынесці, мабыць, забыліся.

Санька налятае на мяне, нібы віхор. Ён як з-пад зямлі вырас: грозны і рашучы. Выгаралыя, кудлатыя валасы тырчаць ва ўсе бакі, а на лбе зноў свежы гуз.

— Ты сядзіш вось тут,— накінуўся ён на мяне,— а хутаране нашу крэпасць на поплаве занялі...

Хутаране — гэта такія ж хлопцы, як і мы, толькі з Хутара. А Хутар — вуліца, што па той бок поплаву. У нас з імі даўно ідзе жорсткая барацьба. Гэтыя самыя хутаране, якімі верхаводзіць Пецька Смык, нахабна лічаць сябе чырвонымі, а нас белымі. А ўсё якраз наадварот: чырвоныя — гэта мы, белыя — яны. У нас камандзір Чапаеў. Санька не сам гэта прыдумаў. Яго Чапаевым назваў кінамеханік, а цяпер і ўсе людзі так завуць, нават мой бацька.

Ён заўсёды смяецца:

— Што, Чапаеў, новы гуз носіш? Ну, нічога, лоб трывалы будзе.

Нам з Санькам вельмі падабалася кіно пра Чапаева. Мы схадзілі за грошы раз-другі, а потым дзе ты іх, гэтых грошай, набярэшся? Вырашылі перахітрыць кінамеханіка. Калі скончыўся першы сеанс, мы залезлі ў куток пад лаўку і сядзім як мышы пад венікам. Удалося. Мы і ў другі раз, і ў трэці, а на чацвёрты раз...

Мы з Санькам не любім успамінаць, што было на чацвёрты раз. Калі майго сябра выцягнулі з-пад лаўкі, ён сказаў з перапуду:

— Я...я... Ча-ча-паеў...

— Вось я табе дам Чапаеў! — раззлаваўся кінамеханік і вывеў яго з клуба за вуха, а ў калідоры, дзе было процьма народу, аб’явіў: — Вы бачылі? Ён Чапаеў!

А затым куляй вылецеў і я. З таго часу і пайшло пра Саньку — Чапаеў ды Чапаеў. Толькі хто ж за гэта будзе крыўдзіцца?

Асноўныя «ваенныя» падзеі адбываюцца на поплаве. Ён нібы знарок прыдуманы для такой справы. Зараснікі дзядоўніку, крапівы, конскага шчаўя тут такія, хоць ваўкоў ганяй. Гэта дае магчымасць скрытна перасоўвацца нашым «войскам», рабіць засады і хадзіць у разведку.

Ёсць на поплаве такое месца, як Глінішча. Тут уся наша вёска капае гліну для розных патрэб: каму трэба ў хляве дзірку замазаць, каму комін паладзіць, каму печ перакласці. Капалі яе нашы прадзеды, дзяды, капаюць і бацькі. Хто кошыкам, хто вядром, хто возам — і перацягнулі людзі ў свае хаты і двары амаль паўпоплаву. Цяпер тут яма на яме. І ямы не звычайныя, а з рознымі падкопамі і пячуркамі.

На Глінішчы мы збудавалі крэпасць. Выбралі зручную яму, нацягалі сухіх камякоў гліны, дзёрну, што нарылі свінні, і атрымаліся сцены. Цэлыя два дні развяваўся над імі наш непераможны сцяг. А цяпер там сядзяць хутаране: Пецька Смык і яго смыкаўцы. Так што манеўраў сёння не прадбачыцца, а будзе штурм.

— Гуляй каля двара! — загадаў я Глыжку.

А ён насупіўся і таксама рвецца ў бой.

— А няхай бяжыць,— дазволіў Санька.

Неўзабаве сабралася ўсё наша войска. Апрача нас з Санькам і Глыжкі тут былі Коля Бурэц, Міцька Малах і яшчэ з дзесятак меншых хлапчукоў, з нашай вуліцы.

Баявыя дзеянні пачаліся нашай атакай. Хутаране сустрэлі нас дружнымі залпамі дзёрну. Кінуліся ўрассыпную з трывожным гогатам гусі. Каза, што пасвілася недалёка ад крэпасці, сарвалася з прывязі і з жаласным мэканнем пацягнула дахаты вяроўку з жалезным клецам. Пусціўся наўцёкі белалобы бычок. Мы наступалі і адступалі, наступалі і адступалі хутаране, былі кавалерыйскія атакі і засады, сінякі і гузы, рукапашныя сутычкі і падраныя штаны, скрытыя абходы і калючкі дзядоўніку ў каленях і ў далонях.

Ужо з лугу праехалі на падводах дзяўчаты з песнямі, прайшлі стомленыя касцы, вярнуліся з

пашы каровы, а бітва на Глінішчы не сціхала. Яна пагражала зацягнуцца на ноч. І толькі Санькава маці ўсталявала мір на зямлі. Яна прыйшла сюды з лазіной, і наш Чапаеў, робячы абыходныя манеўры, пусціўся дахаты. Тады і астатняе войска ўспомніла, што яно яшчэ не абедала, хоць час ужо быў і вячэраць.

Нас з Глыжкам сустрэлі дома далёка не так, як пераможцаў, і асабліва мяне.

— Што, з'явіўся? — змрочна спытаў бацька.— Вось бяда. Хоць ты яму кол на галаве чашы.

— А Божа ж ты мой,— агледзеўшы нас [redacted] ног да галавы, сказала маці.

Бабуля, як заўсёды, прадказвае будучыню:

— Не на дабро гэта яны разгуляліся ў вайну. Ой, не на дабро!

## 5. МЫ СТАНОВІМСЯ БЯЗБАЦЬКАВІЧАМІ

Не паспелі мы прывыкнуць да электрычнасці, як Іван Буслік і яшчэ нейкія дзядзькі зноў пачалі лазіць па слупах і цягнуць новыя правады. Аднойчы яны спыніліся і каля нашага двара. Ногі Бусліка — нібы брыгадзірская казліна, якой мераюць поле. Прайшоўся ён разы са два ад слупа да хаты, змераў адлегласць, а потым паставіў паміж вокнаў лесвіцу і давай свідраваць сцяну свердзелам.

Бабуля рукамі пляснула:

— Ды што ж гэта ты, хлопец, зноў дзіркі ў сцяне робіш? Зімой жа ўвесь дух з хаты вытхнецца.

А Буслік сядзіць на лесвіцы і зубы шчэрыць:

— Бабка, [redacted] музыкай жыць будзеш. Паскачаш, і цёпла стане.

І сапраўды, неўзабаве загучала ў хатах музыка. У Санькі радыё круглае і чорнае, як патэльня.

А ў нас на куце пад абразамі стаіць невялікая ружовая скрынка. Пакруціш ручку, і гэтая скрынка як урэжа «Лявоніху», дык лепш атрымліваецца, чым у Адама, вядомага на ўсю вёску гарманіста. А іншы раз і казку раскажа: «Жылі-былі дзед ды баба...»

Глыжка на гэтае цуда надзівіцца не можа. Я і сам ніяк не ўцямлю, чаму яно гаворыць: язык там які-небудзь жалезны ёсць, ці што?

Выбраўшы зручны момант, калі ў хаце нікога не было, мы ■ Глыжкам вырашылі паглядзець, як зроблена радыё. Адарвалі абцугамі заднюю сценку скрынкі і ткнулі ўсярэдзіну свае насы. Ніякага языка там не аказалася: адны жалязячкі ды драцікі. Паспрабавалі цвіком — прыліпае.

— Магніт,— растлумачыў я Глыжку.

Мы разглядалі радыё, мацалі, пакуль яно не сапсавалася. Круць-верць — маўчыць, верць-круць — як у рот вады набрала. Так-сяк зграблі ўсё ў кучу і ходзім самі не свае.

На другі дзень да нас зноў прыйшоў Іван Буслік. Бацька паклікаў. Паглядзеў Буслік спачатку на радыё, потым на нас ■ Глыжкам і па-змоўніцку падміргнуў. Затым ён пакалупаўся крыху ў драціках, скрынка пашыпела, пакашляла, быццам у глотцы яе нешта перасела, і строгім незнаёмым голасам сказала: «Наше дело правое, враг будет разбит, победа будет за нами!»

Бацька аж ускочыў з лаўкі.

— Што гэта?

— Здаецца, вайна,— няўпэўнена адказаў Буслік, потым згроб свае абцужкі, адвёрткі, шрубкі-болцікі і, махнуўшы рукой на бутэльку, якую бацька паставіў на стол, выбег з хаты.

Вайна. Бацька надзеў на галаву шапку і таксама ляпнуў дзвярыма.

Што такое вайна, я ведаю. Вайна — гэта калі бацьку прыносяць з сельсавета павестку, каб ён хуценька збіраўся ў нейкі там ваенкамат. Тут маці пачынае плакаць і збіраць торбу. Бабуля таксама ходзіць па хаце з кута ў кут і гаворыць, што якой толькі пошасці на чалавека не прыдумаюць. І ў мяне шкрабаюць на душы кошкі, але я трымаюся, стараюся, каб не заплакаць. Я мужчына.

Як я памятаю, ён адзін раз ужо хадзіў ваяваць. Пайшоў летам[1], а вярнуўся аж вясной. Гасцінец прынёс: чырвонаармейскую шапку, папругу і абмоткі. У шапцы з чырвонай зоркай красаваўся я, папругай ён сам падпяразваўся, а абмоткі аддаў маці. З іх добрыя супонькі выйшлі. Маці насіла на базар малако, гародніну і ўсё хваліла тыя абмоткі: трывалыя, мяккія, плячо не рэжуць.

Дні праз два ці тры пасля таго, як Буслік паладзіў радыё, бацька зноў атрымаў павестку. Цяпер у нас поўная хата радні і суседзяў. Першым прыйшоў дзед Мікалай — бацькаў дзядзька. У яго вялікія будзёнаўскія вусы і сівая галава. Здаецца, ён толькі што прыехаў з млына і не паспеў абцерушыць мучны пыл з валасоў.

Дзед прывітаўся, сеў на лаўку і сказаў:

— Ну вось... дажыліся, ліха яго бацьку няхай.

Затым прыкульгаў наш сусед Захар Маляўка. Некалькі год назад яму бервяном у лесе пераламала нагу. З таго часу, наступаючы на яе, ён неяк смешна падскоквае. Мабыць, таму і мянушка за ім замацавалася — Скок. Спытай у людзей, дзе Захар Маляўка жыве, дык некаторыя плячыма пацісну̃ць

---

[1] Верасень 1939 года. Вызваленне Чырвонай Арміяй з-пад улады буржуазна-памешчыцкай Польшчы Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі.

і пачнуць успамінаць, хто ж гэта такі. А скажы Скок — адразу пакажуць.

Дзядька Захар жвава пераскочыў цераз парог, паставіў свой кіёк ля парога і, прывітаўшыся, спытаў:

— А мой жа ты татка, дык што ж гэта яно будзе?

Што яно будзе, яму ніхто не сказаў. Усе прамаўчалі.

Другі сусед, дзед Мірон, хмуры і маўклівы, калматы і здаравенны, як мядзведзь, не прыйшоў. У яго ў самога госці. Сына адпраўляе — Васіля. Мы з Санькам гэтаму рады. Толькі ўчора дзед абяцаў панакручваць нам вушы — у сад лазілі. І хто ведае, як бы ён паглядзеў на нас, калі б зайшоў у хату.

Мая цётка Марына з'явілася са сваім мужам дзядзькам Андрэем. Сама цётка нізенькая, кругленькая, як пампушка, затое дзядзька Андрэй худы і высокі, нібы жэрдка. На вайну ён не пойдзе. Кажуць, у яго трухлявая сярэдзіна.

— Дзякуй Богу, там такія не трэба,— радуецца цётка.

— Не хвалюйся, і тут насярбаешся,— папярэджвае яе дзядзька Андрэй.

Само сабой зразумела, былі тут і мы з Санькам. Без нас, як без солі.

Госці сядзяць, выпіваюць і закусваюць. Звычайна ў такіх выпадках бацька гаворыць, што мне няма чаго рабіць за сталом, а сёння прамаўчаў. Таму мы з Санькам таксама сядзім разам з усімі,— праўда, выпіваць не выпіваем, а толькі налягаем на пампушкі са смятанай ды слухаем, што кажуць людзі.

Мой бацька густа дыміць цыгаркай і разважае:

— Гэтага трэба было чакаць. Тыдні два назад сустрэў я кума на базары. Яго старэйшага сына забралі ў армію. Дык вось кум і кажа: «Дрэнь спра-

вы, Кірыла. Выдалі ім вінтоўкі з патронамі і гэтыя, як іх, каскі. Відаць, пачнецца...»

Дзед Мікалай задуменна ківае сівой галавой:

— Ну, калі казкі выдалі, значыць, шабаш...

— Ды не, тат,— умешваюся я ў размову,— не казкі, а каскі.

— Адзін чорт,— адмахваецца бацька,— казкі ці каскі. Куля не паглядзіць.

Тут мне захацелася растлумачыць, што каску, мабыць, куля ўсё ж не праб'е, але падышла бабуля і тузанула за рукаў. Гэта, каб я не быў разумнікам і не лез куды не трэба.

— Я іх бачыў на польскай,— працягваў бацька.— Яны і тады на нас коса глядзелі.

Дзядзька Андрэй хрупае радыску і ў знак згоды ківае галавой. Яго востры кадык бегае па доўгай, нібы ў гусака, шыі, то ўткнецца ў падбародак, то схаваецца пад каўняром кашулі. Калі кадык супакоіўся, дзядзька заявіў:

— Атмасфера даўно зараджана порахам.

Ён заўсёды гаворыць па-вучонаму, асабліва калі пад чаркай.

— А куды ж, мой татка, мы глядзелі? — спытаў дзядька Захар. Голас у яго тонкі, высокі. Сусед гаворыць, быццам на дудачцы грае.

— Туды і глядзелі,— адгукнуўся дзед.

— Давайце мы лепш спяём,— перабіла мужчынскія размовы цётка і, не чакаючы згоды, зацягнула высокім, прарэзлівым голасам.

У нас з Санькам аж у вушах зазвінела.

Ой, паля вы, паля,
Вы зялёны паля.

Мужчыны набралі духу і ляніва загулі басамі:

А чаму ж на вас, паля,
Ураджаю няма?..

— Трэба вышэй,— параіў Скок і пачаў дапамагаць цётцы:

А чаму ж на вас, паля,
Ураджаю няма?..

Ад натугі ў суседа выступілі на шыі жылы і пачырванеў твар. Здавалася, вось-вось у яго горле лопне нейкая струна і ўсё скончыцца. Але струна не лопаецца, і тонкі, чысты голас плавае над басамі:

Толькі вырасла адна
Кучаравая вярба-а-а!

— Вось, мой татка, як спяваюць,— пахваліўся Скок і зноў зацягнуў. Спяваючы, ён закідвае галаву ўгару, быццам певень п’е ваду.

Што пад той, пад вярбой,
Салдат ранены...

Яго падтрымала цётка:

Ў галавах у яго
Вараны конь стаіць.

Тут маці, якая да гэтага ўсё набівалася гасцям, каб яны паспыталі то бліноў, то студзіны, моўчкі паднялася з-за стала і, закрываючыся ад людзей хусткай, выйшла ў сенцы. Басы змоўклі. Толькі высокі голас суседа ўсё не хацеў сціхаць:

На грудзях у яго...

І раптам голас абарваўся. Апошнія словы Скок не праспяваў, а, уздыхнуўшы, прагаварыў:

Сцяг чырвовы ляжыць...

Настала цяжкая цішыня, толькі муха дзінькала ў акне, б’ючыся аб шыбу.

— Эх, чорт,— раззлаваўся раптам бацька і грукнуў па стале кулаком, аж падскочылі міскі і лыжкі. Потым ужо больш спакойна звярнуўся да гасцей: — Аб чым я вас папрашу...

Тут бацькаў голас задрыжаў, і ніжняя губа часта-часта заторгалася.

— Усіх прашу: і цябе, дзядзька Мікалай, і цябе, Марына, і вас, суседзі, калі здарыцца такое... Словам, прыгледзьце сірот, калі што...

Цётка Марына адразу захліпала і загаласіла пра тое, што бедныя нашы галованькі і што самі мы таксама бедныя-бедныя. Мне аж самому захацелася плакаць, толькі Санькі пасаромеўся. Потым смяяцца будзе.

Дзед Мікалай пакратаў свае будзёнаўскія вусы, быццам хацеў праверыць, ці на месцы яны, і, глуха кашлянуўшы, адказаў:

— Бог дасць не здарыцца. Вернешся. А мы тут не кінем іх.

— Ды што казаць,— падтрымаў яго дзядзька Андрэй.

Па вуліцы я іду побач з бацькам і стараюся выглядаць героем, ступаю шырока, нага ў нагу з дарослымі.

Не спяшаючыся, відаць, баючыся што-небудзь забыць, бацька вучыць маці:

— Авёс на агародзе сажніце, складзіце на хату — сушэй будзе. Ды толькі добра вымалаціце, а то мышы аўсянку пасякуць. Карова ацеліцца — цяля не трымайце. Не пракорміце. А будзе якая капейка — купіце на зіму хоць якога кабанчыка. Дзеду Мірону пуд пшаніцы аддасцё з працаднёў.

А маці ідзе і чамусьці яго не слухае. Яна думае пра нешта зусім іншае і ўвесь час цяжка ўздыхае.

— Сена паможа прывезці дзядзька Мікалай. Вы тады яму скажыце.

— І казаць не трэба,— адгукнуўся ззаду дзед.— Мы тут з Іванам як-небудзь управімся...

Я аж расту на вачах: гэта дзед пра мяне гаворыць.

За вёскай нас дагнала падвода. На ёй людзі ехалі таксама на вайну — усе з торбамі.

— Болей не праводзьце,— сказаў бацька,— доўгія провады — лішнія слёзы.

Мазолістай, цяжкай рукой ён раскашлаціў валасы на маёй галаве.

— Ну, глядзі тут, сын. Слухайся маці, дзеда, бабу. Струмент мой не расцягні. Можа, спатрэбіцца.

Бацька лёгка ўскочыў на падводу і паехаў.

Мы з Санькам беглі следам, пакуль не засапліся, а потым селі ў прыдарожны палын, і нам стала горка-горка: ці то ад палыну, ці то ад пылу, якога наглыталіся, даганяючы падводу, ці то ад крыўды, што нас не бяруць на вайну. Там бы мы сябе паказалі, а заадно пакаталіся б і на танках, назбіралі б па кішэні гільз, а то і разжыліся б кулямётнымі стужкамі, якімі абвешваюцца матросы ў кінафільмах пра рэвалюцыю. А дома чорта лысага выседзіш.

Дамоў я прыбег пад вечар, абгойсаўшы ўсю вёску. Тут, аказваецца, кабанчык нарабіў бяды: залез у агарод і ўзараў цэлы рад бульбы.

З гэтага выпадку бабуля сустрэла мяне з асаблівай урачыстасцю.

— А-а, бязбацькавіч! Прыйшоў? — спытала яна, як бы не верачы сваім вачам, і патрасла перад маім носам зглумленым калівам бульбы.

— Што ты такое кажаш? — спрабавала была заступіцца за мяне маці.

Але бабулю ўжо цяжка суняць.

— Тое і кажу: не паспеў бацька за парог выйсці, а яму ўжо ўправы няма...

Адным словам, бабуля мяне наскрозь бачыць, яна ведае, чым я дыхаю, ёй здаецца, што ў мяне растуць рогі...

Неўзабаве пайшоў на вайну і Санькаў бацька, і Санька таксама стаў бязбацькавічам.

## 6. ГЕРОЙСКІ КАБАНЧЫК

Пайшлі бацькі на вайну, адгаласілі ў вёсцы бабы, адзвінелі песні, і зноў жыццё пайшло сваім парадкам. Вострацьь людзі сярпы, ладзяць цапы — пачынаецца жніво. Але іншымі сталі вяскоўцы, неспакойнымі, заклапочанымі, у вачах трывога, у размовах трывога. А размовы ходзяць самыя розныя. Мы з Санькам іх слухаем ды на вус матаем.

— Кажуць, Мінск немец забраў...

— Во, прэ, гад...

— Ды брэшуць усё...

— Дыму без агню не бывае.

— А пра шпіёна не чулі? Шпіёна пад Стараселлем злавілі.

— Уцёк ён...

— А я кажу — не ўцёк...

Мы з Санькам у сувязі з гэтымі размовамі сталі вельмі пільнымі. Каго толькі на вуліцы чужога ні сустрэнем, прыглядаемся, ці не шпіён. Вельмі ўжо нам хочацца самім злавіць хоць аднаго.

Некаторыя мужчыны, якіх не забралі ў армію, запісаліся ў апалчэнцы. Ім выдалі вінтоўкі і патроны. Ходзяць яны па вёсцы са зброяй, а хлапчукі следам бегаюць:

— Дзядзька, дай патрон...

Верхаводзіць апалчэнцамі калгасны брыгадзір Максім Здор. У яго не тое што вінтоўка, але і рэвальвер ёсць.

На калгасны двор прывезлі немаведама адкуль палявую кухню. Цяпер апалчэнцы не ходзяць дамоў абедаць. Ім гатуе маці Колі Бурца. Коля і сам не адзін раз еў апалчэнскі суп, а потым хваліўся — смачна.

Амаль кожны дзень праз вёску ідзе войска. З раніцы да позняга вечара мы дзяжурым на шашы, баючыся прапусціць хоць адну калону. Як толькі чырвонаармейцы спыняюцца на прывал, Санька выносіць вядро з карцом, і мы цягаем з калодзежа ваду, поім стомленых, запыленых, спацелых байцоў.

За гэта нам дазваляюць памацаць кулямёт, памераць каску, а адзін вясёлы кучаравы баец падарыў нам тры вінтовачныя гільзы. Мы доўга не маглі іх падзяліць і ледзь не пабіліся.

А аднойчы камандзір дазволіў паглядзець у бінокль. Тут нам было ўжо і зусім добра. Калі я навёў бінокль на нашу новую школу, дык яна апынулася пад самым носам. Здаецца, рукой дацягнуцца можна. Іншая справа, калі перавернеш бінокль другім канцом. Тады школа становіцца не большая за цагліну, і знаходзіцца яна цяпер аж на самым краі вёскі. Мы праверылі гэта і на Санькавай хаце, і на трансфарматарнай будцы, і на таполях — аднолькава. Цэлы тыдзень мы потым жылі ўспамінамі пра гэты бінокль.

А войска ідзе ўсё болей і болей. Толькі цяпер не так, як раней. На прывалах доўга не расседжваюцца. Перавернуць байцы анучы, параматаюць абмоткі, і вось ужо гучыць:

— Станавісь!

Другія ў біклажкі і вады не паспеюць наліць.

Цяпер падводы, палявыя кухні, гарматы, аўтамашыны абвешаны галлём вербаў. Сякуць галіны і на нашых вербах. Сухія з машын скідаюць, а на іх

месца торкаюць свежыя. I зусім, відаць, недарэмна. Над вёскай цяпер часта вісіць «рама». У нас з Санькам на языку новае слова — маскіроўка.

А бабы з сярпамі ўсё бегаюць на поле. Ходзіць і мая бабуля жаць жыта.

— Вайна вайной,— гаворыць яна,— а хлеб хлебам.

Затым паківае перад маім носам закарэлым пальцам і дадасць спецыяльна для мяне:

— Вайной сыты не будзеш.

Што будзе далей, як яно будзе далей, ніхто нічога не ведае. Адно цяпер зразумела — вайна не пройдзе староной, не міне нашай вёскі. I ўсе да гэтага рыхтуюцца. У кожнай хаце цяпер штодзень пякуць хлеб, а ў іншых і па два разы на дні. Пячэ хлеб і мая маці, рэжа яго на скібкі і кідае нанач на гарачы под. А раніцой яна выграбае качаргой з печы сухары. Цяпер гэтых сухароў і ў нас, і ў Санькі па два мяхі. Гэта на чорны дзень, які не за гарамі.

Скок супраць сваёй хаты пад вербамі выкапаў канаву, паклаў зверху бярвенне і растлумачыў нам з Санькам, што гэта бліндаж. Услед за ім пачала капаць бліндажы ўся вёска. Мая бабуля таксама не захацела адставаць ад людзей. Яна дала мне ў рукі рыдлёўку, другую — Саньку, бо ён круціўся якраз на нашым двары, і павяла нас у канец агарода. Там яна адмерала шырыню, даўжыню, паказала, куды кідаць зямлю, і наогул расказала, як што рабіць, быццам усё жыццё толькі тым і займалася, што капала бліндажы.

Калі яма была гатова, бабуля нацягала з двара living рознага ламачча — жэрдак, старых дошак — і пачала масціць перакрыцце. У гэты час і прыкульгаў да нас дзядзька Захар.

Ён крытычна агледзеў наша ўмацаванне і задудзеў:

— А, татка мой родны, у вас жа накат будзе слабкі.

Ён пачаў угаварваць бабулю разбурыць наш свінушнік і пакласці яго на бліндаж, а то, маўляў, як трапіць снарад ці міна, дык тут нам і капцы будуць.

— Ды, можа, яшчэ і нічога не будзе,— не згаджалася бабуля.— Толькі дарэмна свінушнік зглумім.

Бліндаж атрымаўся ў нас вельмі ўдалы. Адно толькі — бабуля не дазваляе на ім гарцаваць, баіцца, што насціл праваліцца. Але калі яе няма, мы ўсё ж гарцуем — і нічога, толькі пясок у шчыліны сыплецца.

Над вёскай усё часцей равуць нямецкія самалёты. На ўсход ідуць нагружаныя, аж неба дрыжыць, а назад — парожнія. Дзесьці ў Гомелі бухаюць зеніткі, у небе ўзнікаюць спачатку белыя воблачкі, а затым ужо даносяцца глухія частыя выбухі. Вечарамі за калгасным дваром неба налівеецца густой чырванню.

Аднойчы я прачнуўся сярод ночы ад страшэннага грукату. Стогне над хатай неба, а па сценах пакоя бегаюць чырвоныя водбліскі. Маці і бабуля спалохана глядзяць у вокны і па чарзе божкаюць.

— А Божа ж мой, Божа,— шэпча маці.

— А Божа ж,— дапамагае ёй бабуля.

У мяне ў самога сэрца ёкнула. Я кулём зваліўся з ложка і таксама ўткнуўся ў акно. Далёка, над Гомелем, шугалі пажары, трывожна мітусіліся на небасхіле яркія промні пражэктараў. Яны то збіраліся ў кучу, то разбягаліся ў розныя бакі, старанна абмацваючы неба. Невядома чаму, мабыць, з перапуду, я выскачыў на двор. І тут неба заверашчала вялізнай недарэзанай свіннёй. Страшэнны, незразумелы мне гук свідруе вушы, пранізвае ўсяго наскрозь. Не па-

спеў я ўцяміць, што гэта такое, як мяне здзьмула з ганка і пакаціла па двары. Зазвінелі разбітыя шыбы, загаласіла не сваім голасам бабуля.

І раптам усё змоўкла. Супакоілася неба, патухлі пражэктары, толькі зарава пажараў гуляла над горадам.

Раніцой мы з Санькам пайшлі глядзець, дзе ўпала бомба. А ўпала яна на Скокавым агародзе, развяліла плот, пасекла яблыні і забіла карову ў хляве. Людзі прыходзяць да Скока як на экскурсію: прыйдуць, паглядзяць яму, паківаюць галовамі — во, хвароба! Многія кажуць, што нашаму суседу яшчэ пашанцавала, што яму так наканавана.

Сама Скачыха стаіць каля ямы і расказвае жанчынам, як яно было:

— Мой хацеў якраз з бліндажа вылезці, а я яму кажу: куды цябе панясе нячыстая сіла? І тут яно як трэсне ды як гакне, дык мой назад потырч...

Потым яна пачынае плакаць і прыгаварваць, што карова была залатая, што каб ім, гадам, так лёгка дыхалася, як ёй будзе лёгка пракарміць сваю плойму без каровы. Жанчыны спагадліва ківаюць галовамі, а мужчыны стаяць убаку і з выглядам бывалых людзей спрачаюцца, які быў калібр бомбы.

— Хунтаў на сто будзе,— кажа дзед Мікалай і правярае рукой, ці не згубіліся будзёнаўскія вусы.

А дзядзька Андрэй, які ўсё глытае свой кадык і ніяк не можа яго праглынуць, не згаджаецца з дзедам. Ён думае, што ва ўсе дзвесце не ўбярэш.

У Скока пяцёра дзяцей. Большаму Скачку — Лёшку — год восем. Ногі ў яго рэпаныя-перарэпаныя. Штаны на адной шлейцы з вялізным гузікам увесь час спаўзаюць, бо ў кішэні поўна асколкаў. Пад носам дзве вяроўкі гуляюць у жмуркі. Шмыгае Лёшка носам — вяроўкі схаваюцца, пройдзе

хвіліна — зноў выглянуць. Убачыўшы нас, Лёшка ўзрадаваўся. І не дзіва, ёсць перад кім пахваліцца.

— Ух, і яму выкапала ў нас! Бомба была асколашная...

А нам з Санькам дык яма не спадабалася. Мы думалі, туды цэлая хата ўвойдзе, а яна толькі мне па пояс.

На двары таксама таўчэцца народ. Людзі заглядаюць у хлеў. Заглянулі і мы. Там забітая карова ўжо вісіць на бэльцы ўніз галавой, і Скок здымае з яе шкуру. Па руках ходзіць невялічкі акрываўлены кавалачак жалеза, і ўсе, разглядаючы яго, уздыхаюць, ківаюць галовамі.

А нехта з мужчын сказаў:

— Так і чалавек. Багата яму трэба?

Скокава карова — першая ахвяра вайны, якую я і Санька ўбачылі сваімі вачыма. І мы аднесліся да яе з усёй павагай: пастаялі, паглядзелі, уздыхнулі і адышлі. Праўда, мы б і яшчэ стаялі, але нас паклікаў Лёшка.

— Пайшлі, штосьць пакажу,— шматзначна паабяцаў ён і шмыгнуў носам.

Гэтым «штосьць» аказалася дзірка ў свінушніку. Яе таксама прабіў асколак. Ён прайшоў, можа, на адну пядзю ад таго месца, дзе спіць кабанчык. Самому ж кабанчыку хоць бы што. Мы ткнулі свае насы ў закутак. Кабанчык задраў угару лыч, весела рохнуў і зноў пачаў перакопваць падсціл. Быццам і не было яму бамбёжкі, быццам начхаць яму і на дзірку, і на асколак. Геройскі кабанчык — гэта мы адразу зразумелі.

Нагледзеўшыся на кабанчыка, мы па прыкладу Лёшкі таксама назбіралі па кішэні асколкаў і пабеглі да Санькавай хаты. Тут нас чакала сапраўдная ўдача. Аказваецца, Санькава маці паспела ўжо схадзіць у горад.

— Ой, людцы, шчо там робіцца! — расказвала яна.— Усё разбіта, усё разбурана, хапаюць, грабуць... Шчоб воны паказылыся!

Санькава маці — жанчына не падлюбская. Тоўстыя залацістыя косы, твар круглы, як сонца, і ямачкі на шчоках. Прывёз яе дзядзька Іван здалёк, з нейкіх хахлоў, і казалі людзі, што на руках насіў. Праўда, асабіста я гэтага не бачыў і, пакуль не ўцяміў, што гэта толькі так гаворыцца, доўга дзівіўся з дзядзькавай сілы. Цётку Марфешку, як называў яе Санькаў бацька, каб падняць, дык трэба пад'есці.

З горада цётка прынесла макацёр патакі. Сёння ноччу разбамбілі цукеркавую фабрыку, і цяпер гэтая патака цячэ ў горадзе па канавах уздоўж дарог, як вада пасля дажджу.

Мы сядзім з Санькам каля макатра, мачаем у патаку хлеб і ядзім. Крыху пахне мазутам, крыху трашчыць пясок на зубах, але не так ужо гэта і страшна. Можна жыць.

## 7. МЫ ЗБІРАЕМСЯ Ў ПАХОД

Санькава маці хоча ісці ў адступленне. Не заставацца ж тут пад фашыстам. Яна насыпала ў торбы сухароў, наклала ў іх рознага адзення. Кожны дзень яна думае, што б яшчэ такое ўзяць, і торбаў становіцца ўсё больш. Хто іх панясе, мы з Санькам нават не ўяўляем.

Мая маці таксама надумалася адступаць.

— Цю-у! — замахала на яе рукамі бабуля.— Няхай ужо гэтая хахлушка, дык ёй, можа, ёсць куды ісці. А я чаго пайду ў белы свет са сваёй хаты? У тую вайну, калі прыйшлі немцы, я не адступала і зараз не буду. Не дажывуць яны таго дня, каб я ім усё кінула-рынула.

Не хочам адступаць і мы з Санькам. Цяпер кожны дзень па радыё гавораць, што трэба ісці ў партызаны і рабіць так, каб зямля гарэла пад нагамі ў ворага. Там, куды прыйшлі фашысты, партызаны ўжо ваююць. Як гэта робіцца, мы прыблізна ведаем. Да вайны кіно сто разоў бачылі. «Валачаеўскія дні». Партызаны ходзяць па лесе са сцягам. Наперадзе камандзір. Яны робяць на дарогах засады і страляюць. Ад іх так уцякалі японцы, што глядзець любата.

Мы з Санькам, калі што, таксама пойдзем у партызаны. Пра гэта мы нікому не расказваем. Мая бабуля так адпартызаніць, што месца не знойдзеш. Падрыхтоўка ідзе ў глыбокай тайне.

У Санькавай маці ёсць швейная машына. Цётка Марфешка шые на ёй дзяўчатам кашулі і хлопцам штаны. Санька таксама ўмее абыходзіцца з машынай: заправіць нітку, паставіць на месца чаўнок і нават зробіць шоў. Да гэтага яго прывучае маці. Санька вырасце і будзе мець кавалак хлеба.

Калі дома нікога не бывае, мы што-небудзь шыем. Асабліва нам падабаецца рабіць кашалькі. Матэрыялам для кашалькоў служыць цырата, якой накрываюць стол. Мы адразаем ад яе невялікія кавалкі, і пакуль што ніхто гэтага не прыкмячае. Аднак кашалькі — дробязь у параўнанні з тым, што мы робім зараз. А зараз мы шыем сабе чырвонаармейскія ранцы.

І сапраўды, як вы пойдзеце ў партызаны, калі ў вас няма чырвонаармейскага мяшка з супонькамі? Куды вы будзеце класці сухары, бінты і ёд? Без бінтоў і ёду ісці нельга. Могуць параніць. Чым вы перавяжаце тады свае раны?

І вось, калі Санькава маці пайшла да суседзяў і заседзелася, мы пачалі. Я стаю каля акна і назіраю, каб нас не засталі знянацку, а Санька пера-

бірае на швейнай машыне кавалкі матэрыі, што прынеслі суседзі для шыцця. Тут і паркаль, і сацін, і мультан. Але больш за ўсё нам спадабаўся кавалак чорнага чартакожу: трывалы, дзябёлы — самы раз на мяшкі. Гэты чартакож прынесла ўчора Малашыха — Міцькі-Мангола маці.

Яна сказала цётцы Марфешцы:

— Пашый ты майму бандыту штаны.

Сам «бандыт» так задаваўся будучымі штанамі з кішэняй, што на нас з Санькам і глядзець не хацеў. Ён паслухмяна круціўся, калі з яго здымалі мерку. Тоўстыя Міцькавы губы расплыліся ў лагоднай усмешцы. Аднак Міцьку давядзецца пакуль што бегаць у старых штанах. Вайна ёсць вайна.

Санька ўзяў вялікія кравецкія нажніцы, прымераўся і спрытна разрэзаў чартакож на дзве часткі. Затым ад кожнага кавалка адхапіў яшчэ па два доўгія паскі. Гэта на супонькі.

І работа закіпела. Я стаю на пасту, а Санька шые і шые. На шырокім, як у качкі, Санькавым носе выступілі кропелькі поту. Часам нітка то рвецца, то блытаецца, і Санька злосна чартыхаецца.

Пакуль маці прыйшла ад суседзяў, у нас было ўжо ўсё гатова: мяшкі пашыты, напоўнены сухарамі і схаваны на гарышчы ў саломе. Яна ўбачыла нас толькі тады, калі мы ўжо злазілі па лесвіцы ўніз.

— Чаго гэта вас тут носіць? — пацікавілася цётка Марфешка.

Ад нечаканасці Санька прамінуў адну перакладзіну, грымнуўся на падлогу і ляснуўся лбом аб ступу.

— Чаго-чаго! — са злосцю адказаў ён маці.— Проста так!

Цётка падазрона агледзела нас і паківала галавой:

— Ой, глядзі, біс, шчоб я цябе не ажаніла...

А мы ўжо на вуліцы атрасаем з галоў кастрыцу і павуцінне. Санька, апрача гэтага, яшчэ і гладзіць новы гуз.

## 8. НА ВЫПАДАК РАНЕННЯ...

Цяпер нам патрэбны бінты і ёд. Іх можна купіць толькі ў нашага фельчара Цімафея Іванавіча. І зрабіць гэта — не чхнуць. Нас могуць параніць не адзін раз, таму і бінтоў трэба багата. Значыць, фельчар або хто іншы можа здагадацца, навошта нам столькі, і тады тайна будзе раскрыта. Да таго ж сам фельчар ведае нас з Санькам як аблупленых. Мы са школы не раз уцякалі, калі ён прыходзіў то са сваімі ўколамі, то з воспай, то з пілюлямі. Воспу і пілюлі яшчэ можна было цярпець, а вось уколы нам не падабаліся.

Не хто іншы, як я, мінулай зімой катаўся на жалезных санках з гары і ўрэзаўся ў плот. Давялося сшываць верхнюю губу. І рабіў гэта Цімафей Іванавіч.

Не так даўно ў Санькі вырасла на шыі скула з яблык. З гэтай скулай ён няньчыўся цэлы месяц. Яго некалькі разоў вадзілі ў медпункт. Цімафей Іванавіч мазаў скулу нейкімі мазямі. Мазаў, мазаў, а потым узяў і разрэзаў. Санька і войкнуць не паспеў.

Ужо сёлетняй вясной я наеўся зялёных яблыкаў, дык Цімафей Іванавіч, неяк даведаўшыся пра гэта, ледзь не па ўсёй вёсцы ганяўся за мной з касторкай. Дудкі — не злавіў!

І вось да такога чалавека мы ідзём купляць бінты і ёд.

У калідоры медпункта пахне карболкай, спіртам і яшчэ чымсьці. На невялікім услончыку сядзіць

чырвонаармеец з забінтаванай рукой, а па калідоры, не спыняючыся ні на хвіліну, ходзіць жанчына з грудным дзіцем на руках. Дзіця крычыць, аж захліпаецца. Яно не хоча ні малака з бутэлечкі, ні соскі-падманкі.

— А гора ж ты маё, гора,— прыгаварвае маці, гушкаючы малое.

Мы з Санькам парахманелі, ціхенька сталі ў куток, трымаем у потных кулаках свае капейкі.

— Скажам, што хто-небудзь што-небудзь парэзаў,— шапнуў я Саньку на вуха.

Той моўчкі кіўнуў галавой.

Каб прабавіць час, мы пачалі разглядаць плакаты, развешаныя ў калідорчыку па сценах. На адным з іх напісана: «Мыйце рукі перад ядой», і над літарамі малюнак: з-пад крана тугім струменем свішча вада на намыленыя рукі дзядзькі. Дзядзька ўсміхаецца на ўвесь рот — напэўна, пасля мыцця рук яго чакае смачны абед.

На другім плакаце цётка, выскаліўшы белыя, як цукар, зубы, трымае ў руках парашок і зубную шчотку. Яе не датычыць, што ў вокнах медпункта дрыжаць шыбы, уздрыгвае зямля. Страляюць ужо зусім недалёка — мабыць, пад Стараселлем, а то і яшчэ бліжэй. Чуваць, як разрываюцца зенітныя снарады.

Чырвонаармеец прапусціў уперад цётку з дзіцем, потым пайшоў і сам. Калі ён выйшаў ад Цімафея Іванавіча з новенькай, беласнежнай павязкай, на прыём рушыў Санька.

«Муха — разносчык заразы. Знішчайце мух!» — прачытаў я, а потым пачаў разглядаць вялізнага малярыйнага камара.

— Ёсць! — радасна далажыў у гэты момант Санька і ўрачыста ткнуў мне пад нос пакуначак бінту і бутэлечку ёду.

Я заходжу і баюся, а што, калі Цімафей Іванавіч успомніць пра зялёныя яблыкі і дасць мне касторкі? Мусіць, давядзецца выпіць: вайна ёсць вайна.

Але ўсё абышлося добра. Цімафей Іванавіч сустрэў мяне ветліва, быццам узрадаваўся, што даўно не бачыў:

— А-а, малады чалавек, гэта вы?

Лысая галава блішчыць, як люстэрка. На кончыку носа акуляры з адной аглабелькай. Замест другой — шнурочак, зачэплены за вуха. Сівая рэдкая бародка клінам тырчыць наперад. Агледзеўшы мяне з ног да галавы паверх акуляраў, Цімафей Іванавіч спытаў:

— Ну, на што скардзіцеся, малады чалавек?

— Бабка нагу парэзала,— прыдумаў я на хаду.— Бінт трэба і ёд.

Мне здалося, што Цімафей Іванавіч здзівіўся. Ён падазрона паглядзеў на мяне і перапытаў, быццам недачуў:

— Бабка?

— Ага.

— Нагу парэзала?

— Нагу,— пацвердзіў я.

Цімафей Іванавіч развёў рукамі.

— Што гэта сёння ўсе ногі рэжуць?

Мабыць, і Санька тое ж самае яму сказаў.

Ухнула дзесьці блізка. Задрыжалі шыбы, зазвінелі ў шафе з лякарствамі бутэлечкі і шклянкі.

— Тэк-с, тэк-с,— у роздуме вымавіў фельчар. Затым ён устаў з-за стала, патупаў да шуфлядкі і падаў мне бутэлечку і пакуначак.

Усё было б добра, каб мы на гэтым спыніліся. Аднак нам здалося, што бінтоў мала, і пад вечар мы зноў прыйшлі ў медпункт. Цімафей Іванавіч ужо збіраўся дахаты: схаваў у футляр свае акуляры, зняў халат.

Ну і хітры ж Санька. На гэты раз ён першы не пайшоў, а паслаў мяне. Маўляў, ён ужо хадзіў першы.

Цяпер фельчар сустрэў мяне холадна.

— Ну, што яшчэ? — буркнуў ён.

— Глыжка нагу парэзаў,— паведаміў я, трымаючыся, на ўсякі выпадак, бліжэй да дзвярэй.

— Дык я вам даў ужо і бінт і ёд.

— Бабка ўсё вымазала. Нічога не засталося,— пусціўся я на хітрыкі.

— Што? — спалохаўся чамусьці Цімафей Іванавіч.— Так парэзала?

— Да самай косці! — выдумаў я і пальцамі паказаў, якой шырыні і глыбіні рана на бабульчынай назе.

Фельчар раззлаваўся.

— Варвары! Цемрадзь! — грымнуў ён на ўвесь свой медпункт.— Так скалечылі нагу і маўчаць!

Фельчар схапіў чамаданчык, з якім ён хадзіў па хатах, узяў чорны лакіраваны кіёк і падаўся да дзвярэй.

Я выскачыў у калідор і разам з Санькам пусціўся наўцёкі. Адбегшы за трансфарматарную будку, мы з-за вугла наглядалі, што будзе далей. А далей адбылося якраз тое, чаго мы так баяліся. Фельчар з заклапочаным выглядам выйшаў з медпункта і жвава падыбаў у бок нашай хаты, апіраючыся на кіёк. Спіна сагнута крукам, барада тырчыць наперад.

— Пайшоў лячыць тваю бабку,— усміхнуўся Санька.

А вечарам яму было не да смеху. Не да смеху было і мне. Дарослым хацелася ведаць, куды дзеўся чартакож і навошта я ўвёў у зман фельчара. Мы мужна перанеслі ўсе выпрабаванні, якія выпалі на нашу долю ў гэты дзень.

## 9. А ЧАГО Ж Я ХАЦЕЎ АД НЕМЦАЎ?

Ранішнюю цішыню парушыў посвіст снарадаў. Яны праляцелі над самымі хатамі, ледзь не зачапіліся за вербы і разарваліся — адзін на поплаве, другі на агародах.

Бабуля схапіла вядро вады, заліла ў печы недагарэлыя галавешкі, выскачыла на двор і скамандавала:

— Бягом у бліндаж!

Мы ўсе кінуліся туды. Сядзім гадзіну, другую, пятую. А наверсе грукоча вайна, малоціць зямлю цяжкімі цапамі, вытрасае з яе душу. Маці прыхілілася да сцяны і, сціснуўшы зубы, стогне — зноў у яе ўсхадзілася сэрца. Глыжка зашыўся ў куток на мех з сухарамі, прыціх, быццам і няма яго. Бабуля ўвесь час лае сама сябе, што не паслухалася Скока і не разбурыла свінушнік для перакрыцця. А я з самага краю, амаль на выхадзе, накрыты начоўкамі. Мне страшна і разам з тым цікава, што робіцца наверсе, як там нашы, дзе немцы. Бой грыміць, грукоча,— здаецца, што па зямлі качаюць вялізную жалезную бочку з каменнем: з аднаго боку нашы, з другога немцы. Вось бочка недзе за сялом набірае разгон, фашысты налягаюць, і яна коціцца па вуліцах, па хатах, па вербах, па нашым агародзе, скаланаючы зямлю. Зараз наедзе на бабульчын бліндаж, раструшчыць гнілое ламачча над галавой, утопча нас у пясок. Але тут нашы налягаюць з другога боку, і бочка коціцца назад, грукаючы каменнем па сваіх жалезных баках. На сэрцы робіцца лягчэй: наша ўзяла.

Я не вытрымаў і высунуўся з-пад начовак. Гляджу, па бульбе, прыгінаючыся да зямлі, бягуць два чырвонаармейцы — адзін у касцы, у другога забінтаваная галава. Раз-пораз яны чмякаюцца ў буль-

боўнік і страляюць у бок Міронавага саду. Адыходзяць.

Я падзяліўся назіраннямі са сваімі. Маці нічога не сказала, а бабулі гэта не спадабалася.

— На вуліцы ім месца няма ваяваць,— з неадабрэннем сказала яна.— Людскую бульбу ім трэба выталачыць.

А потым накінулася на мяне, быццам гэта я іх прывёў на агарод:

— Сядзь, ірад, пакуль не паказалі табе саву смаляную.

Апоўдні ўсё сціхла. Чуваць толькі, як стракочуць конікі ў траве, быццам маленькімі пілкамі пераразаюць сухія былінкі. У чыстым, бязвоблачным небе, шырока распластаўшы крылы, кружыцца каршак, а вакол яго з гоманам носіцца дробнае птаства.

Бабуля першая вылезла наверх.

— Ой, Госпадзі, усе косці анямелі,— прастагнала яна і пайшла ў разведку.

Ёй карцела хутчэй паглядзець, ці цэлая хата, ці не здарылася чаго з каровай, ці не псуюць куры грады. Але да хаты бабуля не дайшла. Яна трушком прыбегла назад і падняла нас па трывозе:

— Адарка! Хутчэй бяры дзяцей ды ў хату. Танкі па агародах ідуць. Затопчуць!

Маці спалохана вохнула, схапіла за руку анямеўшага Глыжку, я следам за імі.

Танкі яшчэ далёка, на гары. Яны трушчаць платы, ламаюць яблыні, прасуюць копы жыта — ідуць напрамкі, не выбіраючы дарогі.

— Хату, можа, аб'едуць,— абнадзейвае нас бабуля.

У хаце ад акна мяне не адцягнуць. Толькі маці з бабуляй адвернуцца, а я ўжо і прыліп да шыбы.

— Адыдзі, нячысцік!

Адыду. А праз хвіліну зноў. Вельмі ўжо хочацца паглядзець, якія яны — немцы.

— З рагамі,— злуецца бабуля.

З рагамі не з рагамі, а ўсё ж страшныя. Рассыпаліся ланцугом па агародах, у расхрыстаных мундзірах, на баку жалезныя рабрыстыя бляшанкі, на жываце аўтаматы. Ідуць, перагукваюцца, цыгарэткі смаляць.

Затрашчаў і рассыпаўся наш спарахнелы плот. Яго ботам паваліў салдат. Паваліў, паглядзеў па баках, зазірнуў у бабульчын бліндаж і пайшоў далей па аўсяніішчы.

З нашага агарода ён звярнуў у Міронаў сад. Спыніўся пад антонаўкай, сарваў яблык і кінуў у траву — кісла, падышоў да другога дрэва — таксама не спадабалася. Гляджу, з маліны вылазіць яшчэ адзін. Удвух яны аблюбавалі белы наліў. Яблыкаў на дрэве было ўжо небагата: дзед Мірон іх даўно абтрос і раздаў чырвонаармейцам. І мы з Санькам там трохі пахадзілі. Але на самай верхавіне яшчэ вісела дзесяткі са два.

Немцы страсянулі, але дзе ты іх страсеш, дрэва старое, дзябёлае. Гэта не спыніла фашыстаў. Адзін з іх, здаравенны, як калгасны бугай, перадаў свой аўтамат другому, спрытна ўскарабкаўся наверх і пачаў трэсці з усёй сілы. Яблыня захадзіла, захісталася, ніжняя, самая развесістая галіна затрашчала і як бы нехаця апусцілася на зямлю. Немец паляцеў з дрэва потырч, падхапіўся, і абодва зарагаталі. Праз нейкую хвіліну яны сабралі яблыкі і пайшлі.

— Во як! — сказаў я.— Не спытаўшыся, зайшлі ў чужы сад, нарабілі шкоды... Хіба так можна?

— А чаго ж ты хацеў ад немцаў? — буркнула бабуля і зноў: — Адыдзі ад акна, сатана!

Калі ў Міронавым двары загрукатала аўтаматная чарга і залямантаваў сабака, я ўжо больш не здзіўляўся. А чаго ж я хацеў ад немцаў?

## 10. МЫ БУДЗЕМ СКУСВАЦЬ БЫРКІ

Наша хата ходзіць ходырам, тонка звіняць у вокнах шыбы. Па вуліцы бясконца ідуць і ідуць нямецкія войскі. Ляскочуць, аж у вушах звініць, танкі, буксуюць у нашым раўчаку тупарылыя машыны, вялізныя з шырачэзнымі, як печ, крупамі біцюгі цягнуць калёсы.

— Ай-я-яй,— дзівіцца мая бабуля.— Як з прорвы.

Мяне яна і за парог не пускае, затое сама абышла ўсё сяло. Вярнуўшыся, яна прынесла пад фартухом нямецкую сякеру: з аднаго боку лязо, а з другога абушок з кошкай, каб цвікі з дошак выцягваць.

Маці ўбачыла бабульчыну знаходку і рукамі замахала:

— Выкінь, каб яе і паху ў хаце не было. Старая, а глуздоў не хапае. Калі знойдуць, ведаеш, што будзе?

Бабуля не пакрыўдзілася:

— Трасцу яны знойдуць!

І панесла сякеру ў сенцы.

А мне ў хаце не сядзіцца, выбег на вуліцу паглядзець, што робіцца на белым свеце.

Немцы размясціліся па дварах, з коньмі, з машынамі, з кухнямі. Загагаталі гусі, закудахталі куры, а ў Салодкай Пёклы, што жыве ад нас праз два двары, завярашчала свіння.

— Ой, што ж гэта робіцца, людзі добрыя! — загаласіла Пёкла.

Каля нямецкага начальніка круціцца цывільны перакладчык, спалохана заглядае яму ў рот, і вочы

ў яго быццам у нашага Жука, калі я ем хлеб, а яму не даю.

— Табе, цётка, маркі дадуць,— абяцае ён Пёкле.

Свіння вялікая і дужая. Немцы ўчапіліся ў яе, як кляшчы, хто за вушы, хто за ногі, хто за хвост. А свіння хрукнула, крутанулася — і на вуліцу. Двое кінуліся пераймаць, а трэці бяжыць следам, трымае за хвост. На мурагу ён паслізнуўся, наступіўшы на каровін блін, але хваста не выпусціў, паваловся жыватом па траве. І ўсё ж яны падужалі свінню. Наваліліся гуртам, звязалі.

Неўзабаве зазірнуў немец і ў нашу хату. Малады, гладкі, у шэрым, ладна падагнаным мундзіры. Бабуля была на агародзе, а маці стаяла ў двары на лаўцы і ўстаўляла замест выбітай шыбы фанерку.

— Матка, яйкі!

— Няма яек! — не вельмі ветліва адказала маці, не пакідаючы ляпаць малатком па цвічку.

Тут ён аж збялеў ад злосці, крычыць, кулакамі пагражае. А маці быццам і не чуе яго, робіць сваю справу, з лаўкі не злазіць. Я не думаў, што яна такая смелая. Гэта зусім вывела фашыста з раўнавагі. Ён ударыў ботам па лаўцы, і маці паляцела на зямлю. Немец выхапіў з ножнаў цясак і сунуў ёй пад нос.

— Рэж, гад, рэж,— крычыць яна, а сама аж калоціцца. Шчокі расчырванеліся, вочы гараць.

Я не вытрымаў і з плачам кінуўся да яе. А тут і бабуля падаспела.

— Пан! Паночку! — пачала яна прасіць, і ў голасе было столькі лагоднасці, што аж слухаць мутарна.— Дзеткі во, пан. Малыя.— І паказала на нас з Глыжкам.

Ці яго кранула бабульчына лагоднасць, ці падзейнічала наша з Глыжкам прысутнасць, але немец схаваў нож, абышоў распластаную на зямлі маці

і шмыгануў у сенцы. Чуем, лесвіца заскрыпела — палез яйкі шукаць. А потым зазвінела шкло. Там стаяць рамы, якія устаўляюцца ў вокны на зіму.

Слухае бабуля, што робіцца на гарышчы, і прыгаварвае:

— Бі, бі, каб цябе маланка біла. Шукай, шукай — хваробу ты там знойдзеш пасля мяне.

Фашыст трапіўся настойлівы. Наверсе нічога не знайшоў — палез у хаце на паліцу. Заглянуў у адзін гладыш, у другі, бразнуў іх аб падлогу і пайшоў. Дзверы так і засталіся расчыненыя.

Маці зрабілася дрэнна. Яна легла ў пасцель. Глыжка зашыўся на печ, грызе сухар і спалохана выглядае з-за коміна.

А бабуля збірае чарапкі і не супакойваецца:

— Каб ты касцей сваіх не сабраў, сабака шалудзівы.

Што немец кідаўся да маці з нажом, што нарабіў нам шкоды — з гэтага я ўжо не дзівіўся. Чаго я ад іх хачу? Немцы! Мяне больш уразіла тое, што бабуля сказала «пан» і нават «паночку». Я чуў, што калісьці і ў нашай вёсцы быў пан. Я ведаў, што за мяжой іх і зараз як сабак нярэзаных. І ў кніжках пра гэта ёсць, і Антаніна Аляксандраўна ў школе расказвала. А тут на́ табе — жывы пан! Мяне разабрала на бабулю злосць, быццам яна ва ўсім гэтым была вінавата.

— Пан! Пан! Распанкалася тут! — накінуўся я на яе.

Бабуля спакойна выпрасталася і, трымаючы ў прыпале чарапкі, са здзіўленнем спытала ў мяне:

— Ты не чамярыцы аб'еўся?

— А ты панкала б паменш,— не сціхаў я.

Яна адказала мне ўжо на парозе:

— Дурны ты са сваёй маткай разам. Каб разумныя былі, не лезлі б дарма на ражон.

І ляпнула дзвярыма.

Але і бабульчынай вытрымкі хапіла ненадоўга. На гэты раз зайшлі ў двор двое. Не сказаўшы ні слова, яны пачалі расчыняць вароты. Пара шырачэзных біцюгоў ледзь праціснулася паміж шуламі, а калёсы зачапіліся за плот. Падгніўшае каля зямлі шула затрашчала і пахілілася.

Немцы не сталі асаджваць коней, каб заехаць у двор па-людску, а пагналі іх наперад. Ад гэтага з трэскам звалілася ўся пераплёціна. Бабуля маўчала. Яна стаяла на ганку і толькі з дакорам ківала галавой: няма ў людзей розуму, свой не ўставіш.

У двары немцам не спадабалася. Відаць, ім тут было цесна. Таму яны развалілі і той плот, які адгароджваў двор ад агарода. Бабуля памкнулася была паказаць, што на агарод ёсць варотцы, але яе адпіхнулі. Потым на градах немцы пачалі забіваць у зямлю калы. І гэта на агурках і памідорах, куды бабуля і курыцы не давала ступіць, куды мяне не падпускала і блізка, каб не пацёр націну! Калі я быў меншы, мяне палохалі русалкай, якая нібыта сядзіць у траве і толькі чакае каго-небудзь з малых, каб заказытаць. А як падрос, мне проста далі зразумець, што будуць бедныя вушы. А тут біцюгі! Ды ў іх капыты, як рэшаты!

Бабуля зноў падбегла да немцаў і запанкала:

— Пан! Паночку! Так не гут...

«Во,— думаю,— па-нямецку бабуля рэжа...»

Яна раіць ім паставіць коней на аўсянішчы. Няхай яго топчуць, шкоды такой не будзе. А «пан» ужо адарваў жардзіну ад паваленага плота, выцягнуў на агарод і прымярае да калоў. Канавязь думае зрабіць. Быццам незнарок, ён павярнуў жардзіну вакол сябе і пляснуў яе канцом бабулі па патыліцы. Старая звалілася ў мяжу, а немец заржаў, як жарабец. Вясёлы, чорт.

У бабулі аж слёзы на вачах выступілі. Яна высмаркалася ў фартух і пайшла ў сенцы. Аб чым з нелюдзямі размаўляць?

Гэтыя двое стаяць у нас ужо другі дзень. Нацягалі ў хату саломы, зрабілі з дошак агародку, каб салома не раскідалася па падлозе, і заслалі ўсё гэта шэрай суконнай коўдрай.

— Гэта яны сабе пасцель такую зрабілі,— растлумачыў я Глыжку, а бабуля са злосцю мяне паправіла:

— Не пасцель, а гайно.

Адзін з фашыстаў такі высокі, што заўсёды б'ецца лбом аб вушак дзвярэй. Ён падоўгу ляжыць у сваім гайне і іграе на губным гармоніку. У маці ад яго музыкі галава расколваецца.

— Скажы ты яму,— просіць яна бабулю кволым голасам,— каб сціх.

Бабуля яму ўжо сто разоў казала: хворая ў хаце, а ён толькі:

— Я-я-я-я!

І зноў рыпае:

— Тылі, тылі, тылі-тылі...

У другога вочы, як у нашай каровы, лупатыя, сумныя, якога колеру — не разбярэш, быццам вадой налітыя. Гэты ўсё ходзіць па дварах ды лазіць па курасаднях. Дзвюх нашых курыц яны ўжо зжэрлі, ды яшчэ бабулю скубці іх прымусілі.

Бабуля, вядома, абскубла, хоць увесь час і бурчала:

— Каб вас саміх чэрці абскублі.

А іх біцюгі тым часам трубяць наш авёс на поўны рот, быццам прыйшлі з галоднага краю. Мы яго і абмалаціць нават не паспелі, як бацька загадваў. Паводзяць сябе біцюгі не горш за сваіх гаспадароў: паўснапа ў зубы і пачынаюць малоць, нібы дзедава саламарэзка, а паўснапа — пад ногі. На дармаўшчыну яно можна.

З-за гэтага аўса ў мяне з бабуляй непрыемныя размовы.

— Што? Зберагла? — папракаю я яе кожны раз, калі лупаты немец кідае пад ногі біцюгам новы абярэмак.

А яна злуецца:

— Не твайго розуму справа!

Як бы не так. Не майго. Аддала б тады тым чырвонаармейцам, што хацелі купіць для сваіх коней, дык пашкадавала, расплакалася:

— Мне ж, старой бабе, карову пракарміць трэба. Вы ў калгасе накасіце. Тут недалёка.

А цяпер фашысцкія коні трубяць наш авёс за маліну.

Бабуля глядзіць на ўсё гэта і толькі ўздыхае. Яна гаворыць, што калі гэты дудар са сваім лупатым курашчупам хутка ад нас не з'едзе, то мы пойдзем жабраваць. Ды яно ўжо і так хутка будзем скусваць быркі. Авёс коні даядаюць, грады вытанцавалі, як ток, курэй засталося ўсяго тры, двор разбурылі — як бура прайшла.

Пра быркі бабуля заўсёды ўспамінае, калі ў хаце галаднавата. Іх скусваць — усё адно, што пакласці зубы на паліцу. Але што гэта за быркі такія, я не ведаю. Мне здаецца, што быркамі бабуля называе біркі, якія прывязваюць у сельмагу да розных тавараў. Мы будзем хадзіць у магазін і скусваць іх. Уяўляю, як гэта зробіць бабуля бяззубым ротам.

## 11. МЫ ПРЫГЛЯДАЕМСЯ, ШТО ДА ЧАГО

Першыя дні, пасля таго як немцы занялі нашы Падлюбічы, на ўсходзе за лесам яшчэ грымела. І мы з Санькам не трацілі надзеі, што не сёння-заўтра нашы вернуцца. А калі над вёскай паказаўся

савецкі «ястрабок», нам і зусім стала зразумела — хутка немцы пабягуць. І раптам немаведама адкуль ударылі зеніткі, завалаклі неба чорныя хмары дыму. «Ястрабок» узвіўся ўгару, развярнуўся і знік за хмарай. Паступова сціхла і за лесам.

Схлынулі з вёскі немцы. Яны рушылі далей на ўсход. Паехаў і наш дудар са сваім лупатым курашчупам.

Бабуля ім і шчаслівай дарогі пажадала:

— Едзьце, каб вас калёсы пераехалі...

Мы з Санькам сядзім на прызбе і трымаем нараду. Калі вернуцца нашы — невядома: можа, праз тыдзень, а можа, і праз месяц. Мы апынуліся ў тыле ворага. Што нам рабіць — ісці адразу ў тыя партызаны ці крыху пачакаць, пакуль і другія пойдуць?

— Давай прыгледзімся, што да чаго, можа, вінтоўку знойдзем ці наган,— прапанаваў Санька.— А потым і пакажам ім, дзе ракі зімуюць.

Адчапіўшыся так-сяк ад Глыжкі, мы выскачылі на вуліцу і пабеглі да школы. Бяжым і змены прыкмячаем. А змен цікавых вельмі багата. Каля сельмага ўпаў снарад і выкапаў яму, як у Скока на агародзе. Другім снарадам ссекла самую высокую таполю каля школы. Буслінае гняздо раскідана па дарозе, і сам бусел ляжыць нежывы ў пыле.

— Хто бусла пакрыўдзіць — таму не бачыць шчасця,— успомніў Санька.

Я таксама веру гэтаму. Але што зараз зробіць свайму забойцу мёртвая, акрываўленая птушка?

Шмат год прылятаў бусел вясной з далёкага поўдня на школьныя таполі, прыносіў на сваіх крылах цяпло і радасць нам, дзецям. Бусел прыляцеў — неўзабаве канікулы. Шмат год ён выводзіў са сваёй бусліхай буслянят. Яны выраслі на нашых вачах, вучыліся лятаць. Мы сачылі, як яны,

падужэўшы, узнімаліся высока-высока, пад самае неба, і кружылі над вёскай, расправіўшы шырокія лёгкія крылы.

Аднойчы бусел прыляцеў з лугу, трымаючы ў сваёй чырвонай дзюбе нейкую вяроўку. Седзячы ў гняздзе, незнарок упусціў яе.

Гэта была не вяроўка, а гадзюка. Мёртвая гадзюка. За гэта мы любілі бусла.

І вось ён ляжыць сам у дарожным пыле, нежывы, акрываўлены. Больш не ўзнімецца пад воблакі, не зробіць развітальнага круга перад вылетам у вырай. Яго забілі немцы.

Мы пахавалі бусла недалёка ад дарогі, замест помніка паклалі на яго магілу вялікі камень.

Думаючы пра буслінаю долю, мы падышлі да сельмага. Дзверы расчынены насцеж, у вокнах ніводнай шыбы.

Ткнулі туды насы і ўбачылі Міцьку Малаха. Ён кідаў цэглу на пустыя бутэлькі, якія ляжалі ў куце.

— Мангол, што ты робіш?

— Б'ю бутэлькі,— адгукнуўся Міцька, і вочы яго схаваліся ў хітрыя шчылінкі.

— А навошта?

— Каб немцам не дасталіся.

Мы з Санькам хмыкнулі:

— Патрэбны яны немцам...

— Яшчэ як патрэбны! — упэўнена адказаў Міцька, выбіраючы больш важкую цагліну каля разбуранай печы.— Яны бензіну ў іх паналіваюць, а потым у нашы танкі будуць кідаць.

А і сапраўды ж! Як жа пра гэта мы забыліся? Яшчэ калі толькі пачалася вайна, мы самі збіралі бутэлькі з-пад сітра, з-пад газы, з-пад піва,— якія траплялiся,— і здавалі іх на прыёмны пункт. Гаварылі, што гэтыя бутэлькі патрэбны Чырвонай Ар-

міі. Кожная бутэлька — спалены фашысцкі танк. А тут гэтых бутэлек цэлы воз. Добра, што немцы іх не бачылі, а то заграбасталі б.

І мы пачалі дапамагаць Міцьку. Каб было цікавей, выстраілі посуд радамі, быццам гэта фашысты, і цаглінай:

— Агонь!

Утрох мы хутка расправіліся з бутэлькамі і пайшлі далей. Глядзім — праўлення калгаса няма, адно пажарышча. Цагляная грубка разбурана, навокал валяюцца розныя абгарэлыя паперы: ведамасці, квітанцыі, працоўныя кніжкі калгаснікаў.

Міцька знайшоў абгарэлую пішучую машынку. Мы выцягнулі яе на траву, пакруцілі, павярцелі — не працуе. Ну, куды яе? Грымнулі каменем раз-другі, раструшчылі, растаўклі, каб не дасталася ворагу.

Воддаль ад пажарышча валялася жалезная скрыня, цяжкая-цяжкая, з месца не скранеш. У такіх скрынях хаваюць грошы. Але ніякіх грошай у ёй няма, скрыня паламаная, дзверы, як сказаў Міцька, з мясам выдраны.

— Гэта Няўмыка,— паведаміў ён, пастукаўшы босай нагой па жалезе.

— Няўмыка ў турме,— не паверыў Санька.— Можа, хто іншы.

— Быў! — сказаў Міцька і цыркнуў слінай скрозь рэдкія зубы. Цыркаць слінай Міцька мастак. Ні ў каго з нас так не выходзіць, як у яго.

Да вайны Кузьма Няўмыка ў калгасе не працаваў, рэдка жыў дома. Ён гаварыў, што з яго спецыяльнасцю толькі ў горадзе і быць. Што ў яго за спецыяльнасць, у вёсцы ведалі старыя і малыя. Ён краў у паяздах чамаданы, выразаў на базары кішэні, лазіў па кватэрах. Гэта я сам часта чуў ад дарослых.

Іншы раз Кузьма з'яўляўся ў вёсцы з перавязанай галавой, [redacted] сіняком пад вокам, а то і зусім родзічы прывозілі ледзь жывога. Тады па вуліцы хадзілі чуткі, што Няўмыка дзесьці не на таго нарваўся. Але праходзіў тыдзень-другі, і ён, адлежаўшыся, зноў знікаў.

Бывала і так, што Кузьма вяртаўся з горада ў новых хромавых ботах, дарагім касцюме, з поўнай кішэняй грошай. Тады [redacted] яго хаты, якая стаіць якраз супраць новай школы, з раніцы да ночы чуліся п'яныя песні, шум і гвалт. Гэта Няўмыка біў сваю Усцінню — худую, заўсёды перапалоханую жанчыну. Вочы ў яе вялікія і круглыя, нібы пятакі, таму ўсе і завуць Няўмычыху Савой.

Ёсць у Няўмыкі хлопец Коля. Ён пайшоў у школу на год раней нас з Санькам, але мы дагналі яго ў другім класе. Колю нават пасадзілі разам са мной. На першым жа ўроку Няўмыканёнак украў у мяне каляровыя алоўкі, і на перапынку мы пабіліся. Пасля гэтага настаўніца нас рассадзіла.

Коля — хлопец здаровы, як і яго бацька, і такі ж руды, і такі ж злодзей. Толькі ён не ходзіць у горад, а крадзе ў вёсцы. Бывала, зойдзе ў сельмаг з доўгім дротам, на канцы якога вострая дзюбка. Толькі прадавец адвернецца, ён дзёўб — і булка або коржык у руках. Лаві яго потым, даганяй.

Летам, калі людзі ў полі, разведае Няўмыканёнак, у каго хата без нагляду, выставіць шыбу, палазіць у печы па гаршках, павыцягвае з баршчу мяса, паздымае з гладышоў вяршкі, а грошы блізка — і грошы забярэ. Яго лавілі, надзіралі вушы, білі лазой і крапівой, вадзілі да бацькі, калі той быў дома. Але нічога не дапамагала. Які дуб, такі клін, які бацька, такі сын.

Перад самай вайной Няўмыка абакраў сельмаг, і яго, мабыць, у пяты раз пасадзілі ў турму.

— А пазаўчора ён цэлы воз дабра з горада прывалок,— расказваў Міцька.— Шафы, люстры, адзенне абярэмкамі насілі.

Тут мы вырашылі, што Няўмыка — гад, што такіх трэба душыць, і пайшлі глядзець, што робіцца ў новай школе.

Па дарозе мы крыху пастаялі каля хаты-чытальні, на якой ужо вісеў партрэт Гітлера. Пад партрэтам надпіс: «Гітлер — вызваліцель». Але мы і без надпісу здагадаліся, хто гэта такі,— не раз да прыходу немцаў бачылі малюнкі ў газетах. І тут тая ж касая пасачка валасоў над ілбом, тыя ж вусікі, тыя ж калючыя злосныя вочы. Побач з партрэтам загад на нямецкай і рускай мовах: хто будзе хаваць камісараў і яўрэяў — таму расстрэл.

Я ўспомніў, як немцы зламалі Міронаву яблыню, як ішлі па агародах танкі, як лавілі Пёкліну свінню, успомніў нашага дудара з курашчупам, таго немца, што кідаўся да маці з нажом, і сказаў:

— Добры вызваліцель.

— Гад ён,— падтрымаў мяне Міцька і прапанаваў: — Давай мы яму вочы выдзерам цвіком.

Міцька дастаў з кішэні гарэлы цвік, залез на прызбу, каб можна было дастаць Гітлера. Але ў гэты момант з былога сельсавета выйшлі два немцы, і мы пусціліся наўцёкі. Вочы ў Гітлера засталіся цэлыя.

У чарапічным даху школы, якраз у тым месцы, дзе мы сядзелі з Санькам, калі лазілі глядзець на Стараселле, вялізная дзірка. Голыя рэбры крокваў абгрызлі асколкі. Адна кроквіна звісае над сцяной, калышацца ад ветру і рыпіць.

Раптам расчыніліся школьныя дзверы, і адтуль высунуўся руды, успацелы твар Няўмыкі. Рэдкія, чырвоныя валасы прыліплі да мокрага лба. Ён цягне кніжную шафу. Шафа не пралазіць у праём,

і Няўмыка натужна сапе, крэкча, лаецца на свайго Няўмыканёнка, які без толку блытаецца ў яго пад нагамі.

— Ану, патрымайце дзверы! — закрычаў ён са злосцю на нас.

Ніхто не паварушыўся з месца, а Міцька, дык той нават агрызнуўся:

— Няма дурных!

Няўмыка толькі коса зірнуў і вывалак шафу на ганак без нашай дапамогі. Тут ён узваліў яе на плечы і пацягнуў у свой двор. Коля пакрочыў следам. Калі ён праходзіў міма нас, Санька злаўчыўся і ўбрыкнуў яго босай нагой. Я не вельмі гучна, каб не пачуў сам Няўмыка, сказаў Колю, што ён рудая сучка, а Міцька паказаў кулак.

— А яны б'юцца і дражняцца,— паскардзіўся ён бацьку, а потым, адбегшы на бяспечную адлегласць, запусціў у нас цаглінай.

Нам з Міцькам нічога, а Саньку цагліна трэснула па назе. Цяпер Санька не даруе гэтага праклятаму Рудзьку да магілы.

У школе ўсё было перавернута дагары нагамі. Новыя парты, за якімі нам не давялося пасядзець і аднаго ўрока, выкінуты з класаў у калідор. Частку іх ужо хтосьці пасек, паламаў. У клас немцы, як і ў нашу хату, нацягалі саломы. Усюды валяюцца пустыя пачкі ад нямецкіх цыгарэт, шматкі газет, бляшанкі з-пад кансерваў — розныя патрэбныя нам рэчы.

Я ўзяў сабе два цыгарэтныя пачкі з прыгожымі малюнкамі, Санька знайшоў яшчэ зусім новае лязо ад брытвы, а Міцьку пашанцавала больш за ўсіх. Ён выкапаў у саломе бляшанку з-пад гуталіну. Бляшанка была незвычайная. Збоку яе прымацавана бліскучая круцёлка. Павернеш круцёлку, і вечка адчыняецца само. Міцька сказаў, што ў гэтую бляшанку ён будзе штосьці класці і насіць

у кішэні. Мы вельмі зайздросцілі яму і шкадавалі, што немцы забылі толькі адну такую добрую рэч.

У бібліятэцы на падлозе валяюцца кніжкі. Многія з іх падраныя, запэцканыя бруднымі ботамі. Апрача немцаў тут пахадзіў і Няўмыка. Гэта ён іх павыкідаў з шафаў. Паглядзела б на ўсё гэта наша Антаніна Аляксандраўна, якая нярэдка сварылася на нас толькі за тое, што крыху замусоліш старонку пальцамі!

У Санькі аж вочы заблішчалі ад сквапнасці.

— Давай дамоў занясём,— прапанаваў ён.

Ды не так проста занесці. Кніжак навалена пад самыя падаконнікі. Мы выбіраем, на наш погляд, толькі самыя цікавыя: пра пагранічніка Карацупу, пра Гарыбальдзі — італьянскага змагара за свабоду, пра конніка без галавы, пра дзеда Талаша, пра Цімура і яго каманду, пра Хаджу Насрэдзіна.

Амаль да вечара мы носім кніжкі дахаты, дзесятай дарогай аббягаючы немцаў.

Я нанасіў кніжак поўную дзежку, якая цяпер усё роўна будзе пуставаць, бо агуркі і капусту вытапталі біцюгі. У Санькі на гарышчы атрымаўся цэлы штабель. Міцька напакаваў дзве скрынкі з-пад яблыкаў. Мы не ўкралі кніжкі. Прыйдуць нашы — аддадзім у школу. А пакуль што, калі будзе час, пачытаем.

## 12. ШУКАЕМ САБЕ ХВАРОБЫ

Паўлік Здор, сын камандзіра апалчэнцаў, жыве на другім канцы вёскі. Ён старэйшы за нас з Санькам гады на два, перад вайной скончыў пяць класаў. Паўлік дужы, каржакаваты, хутчэй за ўсіх бегаў, далей за ўсіх ныраў. Хлапчукі з яго вуліцы хадзілі за ім гужам.

А мы з Паўлікам не сябравалі. Дакладней кажучы, ён не хацеў звязвацца з такой драбязой, як мы. Іншы раз у школе на перапынках, калі з нас хто-небудзь трапляўся яму пад руку, Паўлік даваў пстрычку ў нос ці ў лоб — гэтым нашы адносіны і абмяжоўваліся. А зараз у нас толькі і размовы пра Паўліка. Мы нават ідзём яго праведаць. Паўліку мінай адарвала ногі. Яго насілі чэрці ў полі, ён сам шукаў сабе хваробы, а такім шустрым, як мы, на думку маёй бабулі, і галовы пазносіць.

— Не прыходзь тады, бязбацькавец, і дамоў,— часта папярэджвае яна мяне.

Мы крочым па вуліцы і мяркуем, што давядзецца, мабыць, цяпер Паўліку ездзіць на трохколавай «лісапеце», як ездзіць кавалёў бацька, дзед Цімох. Але кавалёваму бацьку яшчэ добра, у яго ёсць жалезныя ногі. Сын выкаваў. Гэтыя ногі нас вельмі здзіўлялі. Заўсёды, калі стары прыязджаў у сельмаг купіць тытуню, мы з цікаўнасцю разглядалі і яго «лісапету», і яго ногі, падобныя на качэргі. Ён тупаў імі да прылаўка, грукаючы аб падлогу, а ступні на шрубах згіналіся і разгіналіся, як сапраўдныя. У некаторым сэнсе яны былі і лепшыя за сапраўдныя: стары каваль хадзіў босы ў самую моцную сцюжу. Жалеза, настыўшае на марозе, у цяпле толькі пакрывалася інеем — і ўсё.

А хто выкуе такія ногі Паўліку? Бацька яго, відаць, не ўмее. Мог бы зрабіць той жа каваль, дзядзька Пятро, ды ён, напэўна, дорага возьме, і больш таго, каваля зараз няма дома: ён на вайне.

У Здораў двор нас не пусцілі. Мы пастаялі крыху пад варотамі, паглядзелі ў шчыліну, як фельчар Цімафей Іванавіч адмывае на ганку рукі ад крыві, паслухалі, як галосіць у хаце Паўлікава маці, і пайшлі. Мы пайшлі за вёску, на калгаснае поле, дзе

нядаўна грукатаў бой. Там, кажуць, валяецца процьма ўсялякага дабра, можна нават гармату ўзяць, абы захацеў. Міцька хваліўся, што ён знайшоў сапраўдны камандзірскі компас. З тым компасам залезь куды хочаш, у які хочаш густы дзядоўнік ці ў лазу на лузе, усё роўна будзеш ведаць, дзе поўнач, дзе поўдзень, дзе ўсход і дзе захад: стрэлка паказвае. Нам бы такі компас з Санькам, нізашто ў партызанах не заблудзіліся б. Чаго толькі Міцьку мы за яго не давалі — і тры гільзы, і раменны трэнчык, і нават ракету зусім яшчэ цэлую,— не хоча мяняцца, і ўсё тут.

— Можа, ён мне і самому спатрэбіцца,— стаіць Міцька на сваім.

А то, кажуць, Коля Бурэц, той самы, у якога бацька быў матросам, прывалок дамоў вінтоўку з усімі прычындаламі — штыком і затворам. Толькі сам Бурэц нікому ў гэтым не прызнаецца, баіцца, каб маці не дазналася: вушы абарве.

Мы ідзём па вузкай сцяжынцы ўздоўж дарогі, абіваем босымі нагамі пыл з шырокага лісця і дзябёлых, ужо сухіх сцяблін трыпутніку, ідзём і марым: вось бы нам знайсці па нагану ды патронаў да іх па кішэні або гранат штук па дзесяць.

— Вінтоўкі таксама возьмем, калі што,— згаджаюся я на ўсякі выпадак.

— Можна і кулямёт прыцягнуць,— разважае Санька.

Абапал дарогі стаіць пераспелае жыта, схіліў дадолу каласы сухі, як порах, ячмень. Дакраніся да яго, і зерне дажджом пасыплецца на зямлю. Там, дзе да прыходу немцаў пачалі жаць, стаяць снапы, складзеныя ў бабкі, і копы. Шмат бабак павалена, раскідана. Каля самай дарогі два папялішчы. Тут былі сцірты хлеба. Яны згарэлі пасля таго, як прыйшлі фашысты. Мы думаем, што без

партызанаў тут не абышлося. А можа, апалчэнцы спалілі, каб не застаўся хлеб ворагу.

Поле скрэмзана ўдоўж і ўпоперак танкамі, перакапана акопамі. Мы ходзім па акопах, шукаем наганаў. Думалася, што іх тут будзе валяцца колькі хочаш, але так толькі думалася. У вялізным, круглым акопе знайшлі адны гільзы ад снарадаў ды пустыя скрынкі. Відаць, тут стаяла гармата. Наперадзе акопа зямля высмалена, чорная ад сажы, а навокал ямка на ямцы — поле ўзарана выбухамі. Люты быў бой.

Далей у жыце знайшлі процівагаз. Паглядзелі — цэлы. Вырашылі ўзяць. Можна многа рагатак зрабіць. Затым трапілася чырвонаармейская каска і маленькая пехацінская рыдлёўка. Каску мы памералі. Спачатку Санька, а потым я. Яна была вялікая, закрывала вочы. Затое рыдлёўка самы раз, па нашай сіле. Забралі яе з сабой.

— Сюды! Сюды! — раптам закрычаў Санька.

Я думаў, што там ужо немаведама што, аж нічога асаблівага. На дне неглыбокай ямкі, відаць, варонкі ад снарада, крыху прыстасаванай пад акоп, як насыпана пустых стрэляных гільзаў. Былі яны і проста так, і ў кулямётных стужках. Перакапалі, перагледзелі ўсе да адной — няма цэлых. Відаць, кулямётчык адбіваўся да апошняга патрона. Тут жа, у ячмені, мы знайшлі брудныя, акрываўленыя бінты і прастрэленую наскрозь біклажку. Жывы ён застаўся ці не?

Лазячы па акопах, мы вымазаліся ў гліну, як чэрці, Санька да ўсяго яшчэ залез і ў нейкі мазут, а потым чорнай рукой выцер пот з ілба. Цяпер ён, як дзядзька Пятро, калі той вечарам ідзе дамоў з калгаснай кузні. Ды ўсё гэта дробязь у параўнанні з тым, што мы не знайшлі яшчэ ніводнага нагана.

Мы ляжым на чыстым пясочку каля акопа і адпачываем. Гаварыць нічога не хочацца. Санька калупае пальцам зямлю, а я проста гляджу на неба. Па небе плывуць белыя, мяккія воблакі, часта махаючы крыльцамі, амаль вісіць на адным месцы і звініць, заліваецца жаўрук. Яму ўсё роўна, зжата ці не зжата поле, знайшлі мы з Санькам наганы ці не, ёсць вайна ці няма. Усё звініць і звініць, як і ўчора, і пазаўчора, і год, і сто год назад.

Цвыркаюць у ячмені конікі, пераліваецца хвалямі гарачае паветра. Я гляджу на неба і думаю пра свайго бацьку. Дзе ён, у якім жыце адбіваецца ад ворагаў? Думаю пра дзядзьку Назара. Дзе ён зараз лятае на сваім «ястрабку»?

І раптам Санька штурхнуў мяне ў бок:

— Глянь сюды!

Я паглядзеў. Непадалёку, абапёршыся на рыдлёўку, стаіць наш сусед, дзед Мірон. Мы не любім дзеда. Гэта сквапны чалавек. Сквапны і злосны. Ён спіць і ў сне мяркуе, як бы нас з Санькам крапівой адсцёбаць. А сустрэне на вуліцы, кожны раз пальцам трасе і глядзіць з-пад калматых броваў, як з-пад страхі, наскрозь праймае. І ўсё з-за грушы-спасаўкі, да якой мы сваімі локцямі і каленямі праклалі па яго бульбе цэлую дарогу.

— Чаго ён тут? — хмура спытаў я ў Санькі.

— Чаго? Можа, здабычу якую шукае...

— Давай падгледзім.

Дзед Мірон стаіць, стаіць доўга, нерухома, быццам акамянеў. Зношаная, зашмальцаваная шапка вісіць пад рукамі на цаўі рыдлёўкі, і на сонцы блішчыць спацелая лысіна.

Калі глядзець на дзеда знізу, уткнуўшыся падбародкам у пясок, ён здаецца вялікім-вялікім. За яго спінай на гары відаць царква, але галава старога большая за царкоўную макаўку і намнога

вышэй яе. Мы разумеем — гэта таму, што царква далёка, а стары блізка. Нарэшце ён паківаў лысай галавой, нацягнуў на самыя вушы сваю шапку, ускінуў на плячо рыдлёўку і пайшоў проста па жыце далей, у поле. Мы з Санькам кінуліся да дарогі.

Перад намі курганок свежай зямлі. На курганку каска з чырвонай зоркай і вінтоўка без затвора. Нам не трэба тлумачыць, што гэта такое. Пад курганком ляжыць баец, наш баец. Нам чамусьці стала сорамна. Горка і цяжка на душы.

— Здагадзька! — упікнуў я Саньку.— Зда-бы-ычу.

Санька ўздыхнуў і сказаў:

— Не будзем больш трэсці дзедаву грушу...

— І Рудзьку надаём, калі палезе,— дадаў я.

— Надаём! — падтрымаў мяне Санька.

Гэта прагучала як клятва.

Цэлы дзень мы поўзалі па акопах, па канавах уздоўж дарог, па жыце, але наганаў не знайшлі. Не трапіліся гранаты і кулямёты. Мабыць, позна хапіліся, і ўсё гэта пабралі ўжо іншыя.

— Нам трэба было яшчэ болей дома сядзець,— бурчыць увесь час Санька.

Быццам я ў гэтым адзін вінаваты, быццам не сам ён прыдумаў перанесці дамоў школьныя кніжкі. Цяпер вось і будзем сядзець без наганаў.

І раптам нас напаткала ўдача. Ля самага калгаснага двара, калі мы ішлі, апусціўшы галовы, дахаты, у прыдарожным дзядоўніку Санька заўважыў зялёную жалезную скрынку. Адчынілі, а там патроны! Запраўленыя ў кулямётную стужку, яны паблісквваюць на сонцы! Дзюбачкі куль пафарбаваны ў розны колер. Цэленькія, некранутыя капсулі.

На душы ў нас стала весялей. Цяпер можна жыць. Няхай сабе пакуль што ў нас няма ні нага-

наў, ні вінтовак, затое на першы выпадак ёсць боепрыпасы. Нам застаецца занесці іх дахаты і схаваць у саломе або закапаць на агародзе. Праўда, зрабіць гэта не так проста — па вуліцах ходзяць немцы. Не станем жа мы ўзбройвацца ў іх на вачах.

І тут у мяне ўзнікла добрая думка. Я сцягнуў з сябе кашулю, зашпіліў гузікі і завязаў рукавы. Атрымалася нядрэнная торба. Мы напхалі туды крыху травы, потым паклалі скрынку з патронамі, а зверху зноў прыкрылі травой. Няхай цяпер здагадаюцца фашысты, што мы нясём. Яны падумаюць, што гэта корм для Санькавай казы.

Ношка аказалася не такая і лёгкая. Для мяне яшчэ дык нічога, а Санька, калі падыходзіць яго чарга несці, гнецца ў тры пагібелі. Трава, якой абкладзена скрынка, растрэслася, і з кашулі выпірае востры рог. Тым не менш мы спакойна прайшлі міма сельмага, дзе сноўдаліся два немцы. Падумалі яны пра Санькаву казу ці не, але нас не кранулі.

Праз двор нам таксама ўдалося праскочыць непрыкметна. Цётка Марфешка штосьці шыла і на нас нават не зірнула.

На агародзе мы зноў адчынілі скрынку і доўга любаваліся патронамі, пералічвалі іх, мацалі рукамі, а потым закапалі на бульбянішчы і накідалі зверху сухога бульбоўніку. Дамовіўшыся потым патроны падзяліць, мы разышліся па хатах.

Сонца садзіцца за калгасным полем. На школьных таполях, уладкоўваючыся на начлег, бесклапотна гамоняць вераб'і. А за сялом на гары стаіць чалавек, стомлена абапёршыся на рыдлёўку, стаіць як акамянелы. Гэта дзед Мірон. Ён хавае нашых байцоў. Мы ніколі не будзем трэсці яго грушу.

## 13. ДЗЕД МІРОН НА НАС СПАДЗЯЕЦЦА

Наш агарод [redacted] аднаго боку Міронавага саду, а Санькаў — з другога. На Санькавым агародзе непралазны гушчар маку-самасею. Цётка Марфешка, полючы грады, заўсёды шкадуе яго рваць. Вясной маку не відаць, але потым, набраўшыся сілы, ён глушыць агуркі, памідоры, бульбу і капусту. У час цвіцення на нашай вуліцы няма прыгажэйшага агарода, чым Санькаў. Ён гарыць чырвоным полымем.

Калі мак паспявае, яго галоўкі шамацяць на ветры, і з акенцаў, што ўтвараюцца пад шапачкамі макавак, рассяваюцца па зямлі дробныя чорныя зярняткі. Мабыць, з-за гэтага маку ў Санькі і прозвішча такое — Макавей.

Іншы год цётка Марфешка збірае маку амаль цэлы пуд. Але заўсёды мы выходзім на збор ураджаю раней за яе. Мы з Санькам не чакаем, пакуль макаўкі высахнуць і пачнуць шамацець, а рвём, калі яны крыху пажаўцеюць. Адкруціш адну галоўку, абкалупаеш зверху брыжкі, і церушы сабе чырванаватыя зярняты на далонь.

Калі хапае цярпення, іх можна назбіраць цэлую жменю. А тады ўжо ўсе адразу ў рот. Лепшага смаку і не знойдзеш!

Санькавай маці нашы вылазкі ў агарод не вельмі падабаюцца. Звычайна, прагнаўшы нас старым дзеркачом, яна доўга крычыць услед, што мы — саранча, што ад нас махалам не адмахаешся, што Санька дулю цяпер з'есць, а не корж з макам.

Праз некаторы час, калі мы вяртаемся ў двор, яна пачынае нам расказваць розныя жахі. З яе слоў выходзіць, што мак — самая небяспечная рэч на свеце. Калі яго наесціся багата, можна заснуць і не прачнуцца. Як Санька быў малы, дык крычаў

дзень і ноч. Думалі, надарвецца, давалі макавы адвар, каб заснуў. Але колькі давалі? Адну кропельку. Мы з Санькам слухаем ды хмыкаем самі сабе. Дай нам зараз маку па цэламу рэшату, дык мы не тое што не заснём, а нават не задрэмлем.

На другі дзень пасля паходу ў поле мы вырашылі паглядзець, ці не ўкраў хто нашы боепрыпасы. Ішлі агародам і непрыкметна для саміх сябе пачалі есці мак. Спачатку Санька сарваў адну макаўку, а потым і я. Аднак вельмі параскашавацца нам не ўдалося. Рыпнулі варотцы, і на агарод выйшла цётка Марфешка. Пачуць нас яна пачула, а вось убачыць не ўдалося: мы шмыганулі ў бульбу, а там паўзком дабраліся да Міронавага плота і прыселі ў бур'яне. Цётка доўга падазрона аглядала агарод, бурчала нешта сабе пад нос, потым падвязала фартух і пачала збіраць агуркі-насеннікі. А гэта значыць — надоўга.

Мы ляжым у траве і ціха перашэптваемся. Калі б прыйшлі партызаны, мы першыя паказалі б ім, дзе жыве Няўмыка. Ён цяпер стаў важнай птушкай, начапіў на рукаў павязку і ходзіць па вёсцы з нямецкай вінтоўкай. На ім новы, з іголачкі касцюм, хромавыя боты, у руцэ гумавая палка. Ляпае ён той палкай па халяве і смяецца з людзей:

— Хопіць з вас, нажыліся пры бальшавіках. Дайце цяпер і мне пажыць.

Сустракаючы старых мужчын, Няўмыка крычыць на іх, каб здымалі шапкі, а на жанчын, каб нізка кланяліся.

— Што, забыліся пры бальшавіках, як гэта робіцца?

Не пазнаць цяпер і рудога Няўмыканёнка: у новых крамных штанах, у шаўковай кашулі. На двары лета, а Рудзька ў чаравіках ходзіць — так распанеў. Праўда, адзін раз, калі ён паткнуўся да

нашага раўчака, мы яго абляпілі граззю, але, відаць, дарма зачапіліся. Пагражаў бацьку сказаць пра савецкія кніжкі.

Паліцэйскіх у нас зараз пяць. Трое нашых, а два нейкія чужасельскія прыблуды. Бліжэйшы памочнік у Няўмыкі — крывароты Ахонька. Мая бабуля гаворыць, што ён усё жыццё нягеглым быў, а тут, бачыш, у людзі выбіўся.

У мяне да крываротага Ахонькі асаблівы рахунак. Ён пабіў маю бабулю, патрабуючы самагонкі. Самагонкі ў нас не было, а каб і была, дык не для гэтага крывароцькі.

Бабуля яму на той час так і сказала:

— Ідзі ты адсюль, гіцаль.

А ён размахнуўся ды кулаком ёй у грудзі. Бабуля і сёння яшчэ стогне.

— Эх, хутчэй бы партызаны,— уздыхаем мы з Санькам, а па той бок плота паблісковаюць на сонцы сакавітыя хрусткія антонаўкі. Калі глядзіш на іх, аж слінкі цякуць. Адна бяда — нельга нам трэсці і Міронавы антонаўкі, бо таксама абяцалі. Але Санька знаходзіць выйсце.

— А навошта нам трэсці? — разважае ён.— Назбіраем на зямлі ападкаў. Усё адно гніюць.

Падумалі і вырашылі, што так будзе сумленна і дзед Мірон не будзе злавацца.

Ёсць у Міронавым плоце адна наша запаветная дошка. Цвік, якім яна прыбіта да ніжняй жэрдкі, амаль зусім пераела ржа, а што яна не даела, мы абцугамі перакусілі яшчэ вясной. Цяпер гэтая дошка лёгка адыходзіць убок. Пацягнеш яе рукой і лезь, калі ласка.

І вось Санька і я пад антонаўкай, поўзаем па бульбянішчы, шукаем яблыкаў. Санька ўжо схаваў за пазуху штук пяць, а я толькі два. Мне крыўдна і не хочацца адставаць ад яго.

І раптам Санька шэпча:

— Мірон.

І сапраўды, я ўбачыў Мірона, які ішоў у наш бок. У руках ён трымаў гладыш і яшчэ штосьці абматанае чыстай анучкай. Уцякаць праз свой ход позна. Калі дзед заўважыць, сораму не абярэшся.

— Давай сюды! — сказаў Санька і шмыгануў у Міронаў бліндаж.

З перапуду ён ляпнуўся лбом аб бервяно, якое падтрымлівала накат, аднак нават не войкнуў. За Санькам скаціўся ў бліндаж і я. Разлік у нас просты: дзед паходзіць па садзе і паверне назад, а мы спакойна адсядзімся тут і потым уцячом.

Пасля яркага сонечнага святла ў бліндажы цёмна хоць вока выкалі. Чамусьці моцна пахне лякарствам. А чаму — разбірацца няма калі. Мы жвава рынуліся ў самы цёмны куток.

У гэты момант пачуўся чыйсьці хрыплы голас:

— Вады-ы...

Мы з Санькам абамлелі — хто тут яшчэ апрача нас? Памкнуліся былі да выхаду, і зноў позна. У бліндажы стала зусім цёмна — святло засціў дзед Мірон. Сагнуўшыся ў дугу, каб не ўдарыцца галавой аб бярвенні, ён прайшоў міма нас і схіліўся ў цемры над чалавекам.

— Стой! Стой! — раптам закрычаў незнаёмы.— Арлоў, глядзі справа! Справа глядзі! Бліжэй падпускай... Агонь!

Я і дыхаць перастаў, прыліп да сырой глінянай сцяны. Але праз хвіліну незнаёмы сціх.

Чуваць, як стукае карэц аб зубы, цурчыць на салому вада ды дзед сам сабе мармыча пад нос:

— Госпадзі, Божа мой, твая воля...

Паступова вочы прывыклі да цемры. Цяпер я добра бачу дзеда. Ён стаіць на каленях каля раненага, папраўляе пад галавой падушку, падбівае

салому пад посцілку. Ранены ў гімнасцёрцы, з зоркай на рукаве, галава абкручана белымі анучкамі, пад расхрыстаным каўняром таксама бінты з чорнымі плямамі. Кроў.

Я ківаю галавой Саньку:

— Пакуль дзед нас не бачыць, давай ціхенька выйдзем.

Санька прыклаў палец да губ:

— Маўчы! Не заўважыць.

Але Мірон нас заўважыў. Спачатку разгубіўся, уздрыгнуў і ледзь не выпусціў гладыш, а потым, разгледзеўшы, што за госці, сярдзіта нахмурыў бровы і сурова буркнуў:

— Ану выходзьце!

Дзед дыбае наперадзе і не азіраецца. Нам можна тысячу разоў уцячы. Аднак мы чамусьці гэтага не робім, а пляцёмся следам паслухмянымі авечкамі. Толькі перад тым, як зайсці ў двор, Санька быў прыпыніўся ў нерашучасці. Тут стары расчыніў варотцы і прапусціў нас у двор.

У Міронавых сенцах прыемны халадок. Смачна пахне спелымі яблыкамі і мёдам. Толькі нам не да гэтага. А што, калі дзед здыме з крука вунь тыя лейцы ды дасць добранька? Будзем тады ведаць.

З хаты выйшла Міроніха, баба Гапа, ветлівая і гаваркая жанчына.

— А-а, хлопцы,— сказала яна, быццам даўно чакала такіх гасцей.— Вы чаго-небудзь прыйшлі?

З клеці адгукнуўся Мірон:

— Гэта я іх прывёў. Справа ў нас важная.

Ён прынёс некалькі вялікіх чырвоных яблыкаў, паклаў іх на стол, паставіў талерку мёду.

— Частуйцеся... Ды вы не саромейцеся, сядайце.

Для прыліку мы крыху панекалі, маўляў, не хочам, так сказаць, толькі што ад стала, ды і мёд мы не вельмі любім.

— А вы ўсё ж паспытайце. Можа, і спадабаецца.

Паспыталі. Нішто сабе. Есці можна. І пачалі паціху налягаць. Але не так ужо, каб дзед падумаў, што мы век мёду не бачылі. А потым так захапіліся гэтым заняткам, што забыліся пра ўсё на свеце. Санька нават нос вымазаў. Але як ні стараліся, увесь мёд з'есці не змаглі, адваліліся ад стала.

І тут дзед пачаў размову:

— Вось што, хлопцы, вы ўжо немалыя, і я прашу вас мне дапамагчы...

Мы сядзім, натапырыўшы вушы: чаго гэта ён ад нас хоча?

— А што зрабіць? — пытае Санька.

— Па-першае,— сказаў дзед, паскробшы ў барадзе,— было б вельмі добра, каб у вас былі кароткія языкі. Пра тое, што вы бачылі сёння ў бліндажы, каб ні адна жывая душа не ведала. І дома не гаварыце.

Нам нават крыўдна стала: за каго дзед нас лічыць? Нам што ні скажаш — магіла. Пра чартакож і зараз ніхто нічога не ведае.

— А па-другое,— працягваў дзед,— вы ўсюды бегаеце, усё бачыце. Калі заўважыце што-небудзь падазронае, мне скажыце... Ну, куды паліцаі ходзяць, што робяць...

— Учора Ахоньку чэрці насілі па агародах,— тут жа паведаміў я,— толькі не на нашай вуліцы.

— Вось бачыце, нам з вамі трэба трымаць вуха востра... Яны жартаваць не будуць. Загад іхні чыталі?

— Пра камісараў? Чыталі,— кіўнуў Санька галавой.

За варотамі дзед Мірон яшчэ раз строга нас папярэдзіў:

— Дык глядзіце ж, хлопцы, ані-ні...

І пайшоў. Дзед нам спадабаўся. Аказваецца, ён не такі ўжо і нелюдзімы, і не такі ўжо і скнарлівы. Вунь колькі мёду наваліў, еш толькі. І нам з Санькам паверыў. Дапамажыце, кажа, хлопцы. Як з дарослымі размаўляў. Цяпер мы не будзем спускаць вачэй ні з Ахонькі, ні з Няўмыкі і асабліва з Рудзькі — той хутчэй за ўсё можа пранюхаць штонебудзь. Заўжды па садах лазіць.

На абед я спазніўся. Бабуля, прыбіраючы посуд са стала, сустрэла мяне са здзеклівай ветлівасцю.

— У вас папелі, а ў нас паелі,— сказала яна, а потым і зусім раззлавалася: — Дзе гэта ты швэндаешся цэлымі днямі?

Так я і скажу, што быў у Мірона, што бачыў там камісара. А як жа!

## 14. КАМІСАР І КАМАНДЗІРЫ

Дзед Мірон цяпер усім суседзям скардзіцца, што на яго напала нейкая хворасць: спіну разагнуць не можа. Чаго ўжо ён ні рабіў: і на чарэні грэўся, і ў печ на ноч лазіў, і шкіпінарам мазаўся — усё дарэмна. Вось цяпер фельчар ходзіць, банкі ставіць.

— І банкі-хварабанкі не дапамагаюць,— уздыхае дзед.

Толькі мы з Санькам ведаем, чаго Цімафей Іванавіч зачасціў да Мірона. Ведаем і маўчым, таму што скажы аднаму ды другому, дык і да Няўмыкі дойдзе.

Цяпер мы ў дзеда Мірона частыя госці. Прыйдзем, раскажам, што чулі, што бачылі, пачастуемся яблыкамі, заглянем у бліндаж. І тут таксама расказваем, што робіцца на свеце. Ранены ўжо крыху акрыяў і рад нас бачыць. За час, што ён ляжыць тут

у дзеда, у яго адраслі густая барада і вусы. Толькі востры нос тырчыць ды запалыя вочы бліпчаць.

Завуць яго Аляксандрам Карпавічам, і Санька вельмі задаецца, што камісар яго іншы раз называе цёзкам.

Кожны раз ён сустракае нас адным і тым жа:

— А-а, гэта вы, таварышы камандзіры! Як справы, таварышы камандзіры?

Якія там справы? Справы не вельмі вясёлыя. Немцы зноў прыязджалі ў вёску, забралі ў Малахаў кабана, а Няўмыка з Ахонькам завіталі да майго дзеда Мікалая і папрасілі салёных агуркоў на закуску, затым выйшлі на двор, завязалі вяроўкай дзверы, каб дзед не выскачыў, і забралі гусей. Пакуль дзед вылез праз акно, дык іх і след прастыў.

— Яны заплоцяць,— крывячыся ад болю, супакойвае нас Аляксандр Карпавіч,— за ўсё заплоцяць...

— Ага ж, заплоцяць, калі рак свісне,— сумняваемся мы, а камісар на сваім стаіць:

— Чырвоная Армія прыйдзе — і заплоцяць...

— А калі яна прыйдзе?

Камісар доўга не адказвае. Ён заплюшчыў вочы ад знямогі і часта, няроўна дыхае. На зжаўцелай скроні б'ецца сіняя жылка. Мы думаем, што ён ужо заснуў, але раптам, не расплюшчваючы вачэй, камісар загаварыў:

— Прыйдзе наша армія, прыйдзе, таварышы камандзіры.

Прыйсці яна прыйдзе, а пакуль што вакол робіцца такое, аб чым і расказваць няма ахвоты. Учора праз нашу вёску немцы гналі вялікую калону палонных. Чырвонаармейцы чорныя ад пылу, абраслыя, галодныя, панурыя. У хвасце, увесь час адстаючы, ішлі трое. Дакладней кажучы, двое цягнулі трэцяга. Ён, абняўшы сваіх таварышаў за

плечы, вісеў мяшком. Таксама, як і ў нашага камісара, забінтавана галава і на босай назе мокрая крывавая ануча. Жанчыны былі кінуліся з хлебам і бульбай, але немцы пару разоў паласнулі з аўтаматаў над галовамі, і ўсе разбегліся ў розныя бакі, пахаваліся ў двары. Ужо адтуль цераз платы пачалі шпурляць у калону хто кавалак хлеба, хто сухар. Я, Санька і Міцька Малах таксама шпурлялі.

Толькі адзін чалавек нічога не даваў чырвонаармейцам. Ён стаяў каля сельмага, радасна ўсміхаўся немцам і крычаў у калону:

— Што? Дапамог вам ваш Сталін?

Гэта быў Няўмыка. Мы з Санькам каб змаглі, дык у лыжцы вады яго ўтапілі б.

А яшчэ Няўмыка хваліўся, што немцы забралі ў палон усю нашу армію.

— Няпраўда,— адгукнуўся камісар.— Вы, таварышы камандзіры, яму не верце. Вось слухайце, я вам раскажу, як нашы б'юцца. Дайце толькі вады глынуць.

Прагнаўшы смагу, Аляксандр Карпавіч загаварыў, успамінаючы нядаўнія баі. Іх засталося няшмнога: ён, батальённы камісар, і пяцёра байцоў: узбек Джамал Хаджыеў, запявала і балагур, Косця Арлоў з Данбаса, беларус Цімох Качанок і двое разанскіх хлопцаў — Пеця Кашуцкі і Саша Перапёлкін. Нямецкіх танкаў таксама было пяць. За танкамі ішлі аўтаматчыкі.

Тут Аляксандр Карпавіч змоўк і аблізаў сухія, патрэсканыя губы. На яго шчоках захадзілі жаўлакі. Відаць, цяжка яму ўспамінаць той бой.

Нямецкім снарадам зраўняла акоп, дзе знаходзіліся Косця Арлоў і Цімох Качанок. Іх засталося чацвёра: ён, батальённы камісар, і трое байцоў. Адступаць не было загаду. Ды ніхто пра гэта і не думаў. У іх былі бутэлькі з гаручай вадкас-

цю, кулямёт і вінтоўкі. Тры танкі засталіся стаяць у жыце, на той вышыні. Два падпаліў Джамал і адзін — разанскія хлопцы. Нямала лягло і фашысцкіх аўтаматчыкаў. Але і нашых засталося трое: ён, батальённы камісар, ранены ў плячо, і двое разанскіх хлопцаў. Джамал быў забіты асколкам снарада. Сашу Перапёлкіну адарвала руку. Ён сыходзіў крывёй.

Вечарам, калі на зямлю апусціліся прыцемкі, прыйшоў загад адступаць. Яны пахавалі ў адной магіле сваіх таварышаў і пайшлі. А немцы ўсё білі і білі па той вышыні.

Сашу Перапёлкіна яны пакінулі ў бліжэйшай вёсцы ў надзейных людзей, а потым... Потым пачаўся бой за нашу вёску. Камісара раніла ў галаву, і ён апрытомнеў у бліндажы дзеда Мірона. А полк? Полк іх пайшоў. Ён вернецца.

— Няпраўду гаворыць ваш Няўмыка, няпраўду,— як бы падвёў рахунак усяму сказанаму Аляксандр Карпавіч.— Наша армія змагаецца. Яна вернецца. Не вешайце толькі насы, таварышы камандзіры...

Камісар адкінуўся на падушку, на яго лбе выступілі кроплі поту. Пакуль ён адпачывае, зноў расказваем мы. Два дні назад вярнуўся дамоў з вайны адзін наш падлюбскі дзядзька. Мы яго добра і не ведаем, бо далёка жыве. Ведаем толькі, што завуць Палікарпам. Дачулася пра гэта мая маці і пачала прасіць бабулю: схадзі ды схадзі да Палікарпа, можа, ён ведае што пра нашага бацьку, можа, дзе сустракаў, можа, што-небудзь чуў. А сама маці схадзіць не можа. Яна не ўстае з пасцелі.

Бабуля пайшла. Ну і я з ёй.

Палікарп ляжаў на печы. На яго страшна было глядзець, такі схуднелы. Адны маслы ды вочы. Аказваецца, ён не прыйшоў з вайны, а ўцёк з

палону, з нейкага канатопскага лагера. Тры тыдні ішоў, [redacted] дадому дайсці не мог, зваліўся дзесьці ў адной вёсцы вёрст за сорак адсюль. Адтуль яго на падводзе прывезлі. Цяпер ляжыць на печы і сам злезці не можа.

Пра майго бацьку Палікарп нічога не ведае.

— Бачыў я яго толькі перад адпраўкай на фронт. Іх полк ранейшым эшалонам пайшоў,— паведаміў ён нам [redacted] бабуляй.

— А вы майго бацьку не сустракалі? — спытаўся я раптам у камісара.

Той расплюшчыў цяжкія, пасінелыя павекі і доўга ў мяне ўглядаўся.

— А як яго прозвішча?

— Сырцоў.

У мяне заіскрылася надзея.

— Ён такі вось... чубаты,— падказаў я камісару.— На мяне падобны.

— Ну як жа, як жа... Ведаю я твайго бацьку,— сказаў камісар.

— А дзе ён? — загарэўся я.

— Ён у нашым палку служыць. Твой бацька храбры баец. Ён танк нямецкі падбіў. А дзе зараз? Там, дзе полк. З палком пайшоў. Вось фашыстаў разаб'ём, ён і вернецца.

— А мой? — не ўтрымаўся Санька.— Яго прозвішча Макавей. Іванам завуць.

Санькавага бацьку, аказваецца, камісар таксама добра ведае. Ён служыць у тым жа палку, толькі падбіў не танк, а самалёт. Прыцэліўся і — бах з вінтоўкі проста ў бак з бензінам. Самалёт адразу ж і загарэўся. Мне дык аж крыху зайздросна стала. Але, падумаўшы, я супакоіўся. Танк падбіць таксама нядрэнна.

Натхнёныя подзвігамі сваіх бацькоў, мы паведамілі камісару:

— А мы ў партызаны пойдзем!

У нас, па сутнасці, ужо ўсё гатова: мяшкі з сухарамі ёсць, бінт і ёд таксама, патронаў цэлая скрынка. Толькі зручнага моманту чакаем.

Камісар быў першы чалавек, каму ні Санька, ні я не пабаяліся раскрыць тайну. Мы былі ўпэўнены, што ён нас падтрымае, а можа, папросіцца і разам з намі. Такога можна ўзяць.

Мне здалося, што камісар чуць-чуць усміхнуўся. Але гэта, відаць, мне толькі здалося, таму што ён сур'ёзна спытаў:

— А зброя ў вас ёсць?

— Зброі ў нас няма,— сказаў я.— Толькі патроны. Гавораць, ёсць вінтоўка ў Колі Бурца, але той нізашто яе не аддасць. Ён нават не прызнаецца, дзе яе хавае. Можа, у вас ёсць лішні наган?

— Не, таварышы камандзіры, лішняга няма. А свой я не аддам — не пад'язджайце. І ў партызаны вам яшчэ рана ісці. Пагуляйце, падрасціце крыху.

Добра яму гаварыць — падрасціце. Пакуль будзем расці, усіх фашыстаў паб'юць. Што тады рабіць?

## 15. КАМІСАР ІДЗЕ НА ЎСХОД

Сёння раніцой мне ад дзеда Мікалая была добрая праборка. Прыйшоў ён да нас, каб паладзіць страху ў хляве, а бабуля яму і паскардзілася, маўляў, Іван ад рук адбіўся. І вось дзед сядзіць каля акна на ўслоне, раз-пораз мацае свае вусы і чытае мне пропаведзь:

— Дык што ж гэта ты, хлопец, га?

Я стаю насупраць і разглядаю свае парэпаныя ногі. На адным вялікім пальцы збіты пазногаць, а другі завязаны анучкай. Скокнуў учора са страхі на разбітую бутэльку.

— Што ж ты маўчыш? Ці размаўляць, можа, са мной не хочаш? — дапытваецца дзед.

Бабуля выцягвае з печы чыгун і падлівае масла ў агонь:

— Даўно палка хадзіла...

Вось тут і пайшло! Калі ён быў такі, як я, дык і ў полі араў, і каня пасвіў, і сеяў, і касіў, і малаціў, і чаго-чаго толькі не рабіў, а не гойсаў днямі чорт ведае дзе. Па-мойму, ён столькі працаваў, што дарослым і рабіць не было чаго. Яны, напэўна, цэлымі днямі білі лынды ды лушчылі гарбузікі.

— Ты чаго ўсміхаешся? — пакрыўдзіўся стары.— Ты забыў, што табе бацька казаў? Забыў?

— Не,— вымавіў я праз сілу.

— Ну дык глядзі ж. Вунь на тваёй шыі брат, маці хворая і баба старая. Хопіць дурніцу ганяць.

На тым і скончылася. Дзед вынес з сенцаў лесвіцу і палез на страху, а мы з бабуляй пайшлі на агарод капаць бульбу.

Я падкопваю віламі-трызубцамі калівы, а каравыя бабуліны пальцы дбайна пераграбаюць зямлю, кідаюць бульбіну за бульбінай у стары лазовы кош. Мая нага на вілах, а вочы то ў Міронавым садзе, то на вуліцы. З галавы не выходзяць думкі пра камісара, пра яго расказ аб нашых бацьках. Увесь час карціць расказаць пра бацьку і бабулі. Але яна пачне тады дапытвацца, адкуль гэта мне вядома.

Калі я ўжо занадта задумаюся або загледжуся і праміну каліва ці мелка падкапаю, бабуля зноў на мяне: каму мы робім? Сабе ці чорту лысаму?

Накапаную бульбу яна высыпае ў мяхі. У свой — два кашы, у мой — адзін.

— Ох, грэх мой цяжкі,— уздыхае бабуля кожны раз, ускідваючы мяшок на плечы, а я ўслед:

— Ох, мех мой цяжкі!

І валакуся за ёю ў хату. Там мы высыпаем бульбу пад падлогу і — зноў на агарод.

Непадалёку, на свежым бульбянішчы, корпаецца Глыжка: будуе ў зямлі розныя пячуркі, капае траншэі і акопы. Ён вымазаўся з галавы да ног — вачэй не відаць. Яму, зразумела, можна жыць на маёй шыі.

Бульба ўдалася добрая. Падымеш корч — паглядзець прыемна: буйная, чыстая.

Бабуля ўвесь час радуецца:

— Слава Богу, хоць драчонікі есці будзем.

А мне не да драчонікаў. Зусім выбіўся з сіл, ні рук, ні ног не чую. На думку бабулі, гэта ад вялікага панства.

Мы працавалі да вечара. Пачало ўжо змяркацца. Доўгі цень ад плота лёг на ўвесь агарод, на вербах загаманілі вераб'і. Пацягнула сырасцю.

У гэты час на нашай вуліцы і паказаліся паліцэйскія. Наперадзе важна крочыць Няўмыка. На ім ужо не цывільнае адзенне, а нямецкі мундзір, у руках тая ж гумавая палка. Вінтоўку павесіў на плячо ўгару прыкладам, быццам паляўнічы. За Няўмыкам валакуцца крывароты Ахонька і яшчэ адзін незнаёмы, чужасельскі. Чаго яны тут сноўдаюць? Раўчака нашага з жабамі не бачылі, ці што? А можа, самагонкі шукаюць?

Калі Няўмыка стаў пераходзіць вуліцу, а Ахонька паказаў свайму прыяцелю рукой на Міронаву хату, страшная здагадка апякла мяне. Вынюхалі, сабакі. Па камісара ідуць.

Я кінуў мяшок на зямлю і, ледзь не збіўшы з ног ашаломленую бабулю, кінуўся па бульбянішчы ў Міронаў сад. Хутчэй! Хутчэй! Галоўнае — паспець раней, чым яны, галоўнае — папярэдзіць дзеда Мірона.

На маё шчасце, паліцэйскія затрымаліся каля раўчака. Няўмыка перамахнуў яго лёгка, а Ахонька скочыў у гразь. Цяпер ён абмывае запэцканыя боты, а яго спадарожнікі стаяць і рагочуць.

Рагачыце сабе, а я ўжо на плоце. Трохі разадраў кашулю, трохі насадзіў у жывот скабак, ды пакуль жаніцца — загаіцца.

У двары разляцеліся з-пад ног ашалелыя ад страху куры, шмыгнуў пад ганак кот, і вось я ўжо ў хаце лаўлю ротам паветра:

— Па-па-па-ліцэйскія...

А выскачыць не паспеў. Загрукалі на ганку боты, бразнула клямка, і парог пераступіў Няўмыка. За ім праціснуўся чужасельскі. Ахонька застаўся на двары.

— Добры дзень, Мірон,— прывітаўся Няўмыка і хуткім, зладзейскім позіркам агледзеў хату.

Чужасельскі нічога не сказаў. Прымёрз у парозе і пазірае спадылба. Мяне вельмі здзівіў яго твар, быццам на ім чэрці гарох малацілі: яміна на яміне.

— Што, не чакалі гасцей? — задаволена хмыліцца Няўмыка, ляпаючы гумавай палкай па халяве.

«Во,— думаю,— руды сабака. Яшчэ ў госці набіваецца».

Дзед Мірон, які пры маім з'яўленні жвава злез з печы, цяпер хворы-хворы. За паясніцу трымаецца абедзвюма рукамі, дыбае да стала і стогне:

— А якія цяпер госці? Во скруціла ў барановы рог, хоць гвалт крычы. Ды вы сядайце, сядайце...

Няўмыка крыва ўсміхнуўся:

— А мы чулі, што вы прымаеце тут, корміце, поіце, на дарогу даяце... Дзе ваш пастаялец?

У гэты час у хату забегла баба Гапа, трымаючы ў руках бутэльку самагонкі. Паліцаі правялі пачастунак вачыма, а дзед мне ў гэты момант непрыкметна вокам — плюсь, а сам выдумляе:

— Ды які там пастаялец? Ішоў салдат з палону, ну пераначаваць пусціў. Дык ці мала што? Чалавек жа.

— А мы паглядзім.— У голасе Няўмыкі пачулася пагроза. Ён кінуў рабому: — Заглянь пад падлогу.

Сам Няўмыка адчыніў скрыню і пачаў ператрасаць ручнікі, абрусы, дзедавы споднікі.

У гэты момант я цішком, цішком і — за дзверы. Памкнуўся быў з сенцаў на двор, а на прыгрэбніку поркаецца Ахонька. Ну куды мне! Заўважыць — верне назад. Тады ўсё загіне. У хаце нічога не знойдуць, дык могуць і на агарод пайсці. А Аляксандр Карпавіч там сядзіць і нічога не ведае.

Я хуценька ўскарабкаўся па лесвіцы на гарышча, там у франтоне былі дзверцы ў сад.

Мяккія прыцемкі ахуталі вёску. На чыстым, халодным небе заблішчаў шчарбаты маладзік. Мы выпаўзлі з бліндажа і прыслухаліся: дзесьці на краі вёскі брэшуць, заліваюцца сабакі ды шуміць вецер у пажоўклым ужо лісці яблынь.

Камісар надзеў на гімнасцёрку старую ватоўку, нацягнуў на бінты шапку і стаў падобны на звычайнага вясковага дзядзьку. З кішэні штаноў ён выцягнуў наган, паклаў за пазуху і сказаў:

— Пайшлі.

Стараючыся не шамацець, па густым бульбоўніку выпаўзлі на ржышча, там па-за копамі саломы прашмыгнулі да плота і залеглі ў малінніку на мяжы. Зноў прыслухаліся. Адсюль было чуваць, як ляпаюць у Мірона дзверы, гудуць мужчынскія галасы.

Я пераскочыў цераз плот хутка і бясшумна: не першы раз. А камісар не змог. Ён узяўся быў за жардзіну, паспрабаваў і, скрыгануўшы зубамі, асеў. Не зажылі яшчэ раны. Давялося адкручваць дрот, якім была прымацавана дошка.

Калі камісар схаваўся ў нас пад павеццю ў саломе, я пайшоў у хату разведаць, што там чуваць.

Такая перасцярога аказалася зусім не лішняя. У хаце была госця. Цётка Скачыха. У апошні час яна нярэдка прыходзіць вечарамі. Прыйдзе, сядзе на ўслоне, возьме на прыпол свайго самага меншага Скачка Юрку і бясконца балбоча. Ляжыш на печы, а яны з бабуляй:

— Ла-ла-ла-ла... Кажуць, Міхей прыйшоў дамоў... Бу-бу-бу-бу... Гэта ж трэба, гэта ж трэба — немцы за дзесяць рублёў адну марку даюць, а я, дурная, аблігацыі выкінула, можа, і за іх што даваць будуць.

Адным словам, толькі слухай: і хто што казаў, і хто што чуў, і хто каго бачыў, і хто ажаніўся, і хто памёр, і ў каго што немцы забралі, і пачым на базары шклянка солі і шклянка табакі.

Больш суседка лапоча. Бабуля яе за вочы інакш і не называе, як памяло. Ёй на язык што трапіць, заўтра ўся вёска ведаць будзе.

Не паспелі за мной зачыніцца дзверы, як бабуля рукамі пляснула.

— А Божачка ж ты мой... Паглядзіце вы на яго.

Я сапраўды быў прыгожы: кашуля распаласавана, рука ў крыві. Аб той пракляты дрот разадраў, а штаны ўсе ў зямлі, у пыле, быццам мяне па раллі валаклі. Ды хіба гэта так важна?

Я бабулю і слухаць не стаў, а прама звярнуўся да Скачыхі:

— Там цябе, цётачка, дзядзька шукае. Аж з ног збіўся. Нехта да вас прыехаў.

— Прыехаў? — не паверыла Скачыха.

— Ну, можа, прыйшоў. Не ведаю,— удакладніў я.

Суседка крыху пабурчала, што, маўляў, і знаходзяць жа людзі час ездзіць, але загарнула свайго Юрку і пайшла, а бабуля, праводзіўшы яе за парог,

узялася за мяне. На яе думку, у мяне выраслі рогі, ды іх няма каму спілаваць. Я, мабыць, спадзяюся, што бабуля пойдзе ў краму і купіць матэрыі, каб пашыць мне новую кашулю, быццам я не ведаю, што́ зараз за час. Апошнюю сваю спадніцу яна таксама не будзе перашываць мне на штаны.

— Маё дзіцятка, слухайся бабы,— просіць маці з ложка.

Цьмяна хліпае каганец на камінку. Па сценах бегае вялізны бабульчын цень. Цень то са смешным носам на паўсцяны, то нос маленькі, затое рукі даўжэзныя і галава агурком. Глыжка яшчэ не спіць.

— Баб, глядзі! — паказвае ён на сцяну і смяецца.

— Змоўкні хоць ты, сатанёнак! — злуецца бабуля і збірае на стол вячэру.

Пры Глыжку я не магу расказваць пра камісара, які сядзіць пад павеццю ў саломе. Малое — дурное. Дзе-небудзь пахваліцца.

Мяне выратаваў дзед Мірон. Ён прыйшоў, калі добра сцямнела, паклікаў бабулю за парог, і яны там пра нешта нядоўга размаўлялі. Вярнулася бабуля ў хату спалоханая і разгубленая, неяк здзіўлена паглядзела на мяне і чамусьці прашаптала:

— Ідзі.

Я сяджу на вуліцы, прыслухоўваюся да таго, што робіцца навокал. Хоць яшчэ і не вельмі позна, а вёска быццам вымерла: ні агеньчыка, ні чалавечага голасу. Толькі выбежыць хто з жанчын да калодзежа, бразне вядром і хуценька зноў у двор. Звычайна ў гэты час звінелі, шумелі гулянні: заліваўся гармонік, дзінькаў бубен, а галасістыя дзяўчаты спявалі на ўсю вёску пра чарнабровага мілёнка. Там-сям на прызбах вялі свае бясконцыя размовы жанчыны. А цяпер ціха. Усе пазашываліся

ў хаты, пазавешвалі вокны, прытаіліся. Толькі сабакі брэшуць то ў адным баку, то ў другім.

У двары пад павеццю дзед Мірон доўга размаўляе з камісарам. Аб чым яны там? Можа, думаюць ісці ў партызаны, дык няхай і мяне возьмуць. Ну і Саньку, зразумела. Мы будзем у іх за разведчыкаў. Там, дзе дарослы не пройдзе, хлапчук заўсёды прашмыгне. Мы хітрыя. І смелыя.

Мне моўчкі падміргваюць зоркі на небе. Іх там насыпана, як бульбы на агародзе. Ні ў адзін кош не ўбярэш.

Нарэшце рыпнулі варотцы, і дзед Мірон прасунуў галаву:

— Ну як, ціха?

— Ціха, — адказаў я.

За дзедам выйшаў Аляксандр Карпавіч:

— Ну, бывай, бацька. Бывай, Мірон Захаравіч. Дзякуй табе за ўсё. Буду жывы — не забуду.

Яны паціснулі адзін другому рукі, абняліся.

— Ты адзін з вёскі не выйдзеш. Нарвешся,— папярэдзіў камісара дзед і звярнуўся да мяне: — Вывядзі да гарадзішча і пакажы дарогу на Ярылавічы. — І зноў да камісара: — Калі зможаш, зайдзі да Гаўрылы Маслюка. Другая хата ад лесу. Ён кум мне. Чалавек добры. Ну, бывай...

І мы пайшлі. Горды аказаным мне давер'ем, я крочу наперадзе, увесь час шэптам папярэджваю свайго спадарожніка, дзе выбоіна, дзе ямка.

Вось і поплаў. Тут мне знаёма кожная купіна, кожны куст дзядоўніку, кожная калдобіна. Рэдкімі кудзелькамі пачаў клубіцца туман.

Мінуўшы поплаў, нячутнымі крокамі прайшлі цёмны, засаджаны вербамі правулак, а потым агародамі зрабілі вялікі круг, каб абысці Ахонькаву хату. Далей нізам, уздоўж канавы па тарфяным балоце, можна ісці спакойна.

За гарадзішчам на сцежцы, якая вядзе лугам аж да самай рэчкі, мы развіталіся. Аляксандр Карпавіч падняў мяне пад пахі і моцна прыціснуў да грудзей. Яго калючая барада апякла крапівой мой лоб і шчокі.

— Ну, Іван, геройскі ты хлопец,— сказаў ён.— Будзь такі заўсёды і цвёрда вер — наша возьме. І Санька твой малайчына. Да пабачэння, таварышы камандзіры. Мы яшчэ сустрэнемся.

Я доўга стаяў і глядзеў яму ўслед, пакуль яго высокая постаць не знікла ў начной цемры. Шчаслівай дарогі, таварыш камісар!

## 16. ПІ, ФАШЫСЦКАЯ МОРДА!

Санька вельмі шкадаваў, што ён не праводзіў камісара.

— Не мог паклікаць,— злаваўся ён на мяне.

Адно толькі суцешыла хлопца — камісаравы словы, што Санька — малайчына.

Скачыха таксама была мной незадаволена. Неяк прыйшла да нас на бульбянішча, дзе мы капаліся з бабуляй, пагаманіла пра нейкіх курэй ды пра тое, што яе кабанчык, каб ён апух,— смактун нялюдны, а потым да мяне прычапілася:

— А ты, хлопец, брахлівы. Дзядзька з ног збіўся... Навошта збрахаў? Не сорамна?

Я моўчкі ўскінуў мяшок на плечы і панёс у хату. Зараз жа прызнаюся. А як жа!

Пакапалі людзі бульбу на агародах, пазграбалі бульбоўнік, пазацягвалі ў сухое месца. Зіма ўсё падбярэ. Мы з бабуляй таксама ўправіліся. Цяпер стала вальней, і я часта бегаю да Санькі. Зашыўшыся ў дрывотнік, мы што-небудзь майструем. Сёння раніцой, напрыклад, пачалі рабіць жалезныя

швайкі. Знайшлі кавалак тоўстага дроту, усадзілі сякеру ў калодку і куём ды плешчам. Гэта будзе грозная зброя. Швайкамі можна непрыкметна пракалваць шыны фашысцкіх аўтамашын.

Мы не пападзёмся. Мы хітрыя. Санька будзе назіраць, ці не ідзе хто, а я падкрадуся і — раз! Паглядзім, ці далёка яны тады заедуць на сваіх тупарылых грузавіках. Для гэтага трэба толькі добра навастрыць швайкі. Таму мы стаpанна куём ды плешчам, шорхаем па цагліне дротам.

К абеду зброя была гатова, але ў вёсцы, як на тое ліха, не аказалася машын, а калі яны і праходзілі па шашы, то не спыняліся, быццам фашысты здагадваліся, чаго стаяць каля дарогі гэтыя два хлапчукі: адзін бялявы, з аблупленым носам, а другі чарнявы, з доўгай шыяй.

Пад вечар супраць старой школы адзін грузавік усё ж спыніўся. З-пад брызенту выскачыла некалькі салдат, яны пачалі пахаджваць, размінаць ногі. А потым разбрыліся хто куды. Шафёр таксама пайшоў да калодзежа па ваду. Вось ён, самы зручны момант!

— Назірай! — загадаў я Саньку, а сам падаўся да машыны.

Спачатку іду з такім выглядам, быццам машына мяне і не цікавіць. Проста чалавеку трэба прайсці міма — і ўсё. А сэрца, як злоўлены верабей. Рукі ў кішэнях, а ў спацелай далоні швайка.

Калі засталося некалькі крокаў, з-пад брызенту высунулася нямецкая каска.

— Цурык! — гаўкнула яна.

А калі немец крычыць «цурык» — гэта ён не ў госці кліча. Тут варон не лаві, а ўцякай, пакуль цэлы. Ад нечаканасці я аж прысеў, а потым ірвануў з месца і пабег даганяць Саньку.

Адным словам, наша першая дыверсія не ўдалася.

— Каб не гэты пад брызентам,— уздыхнуў я.

— Нічога. Другім разам,— суцешыў мяне Санька, і мы пацягнуліся да Міцькі Малаха. Справы ў нас асаблівай да яго не было. Проста даўно бачыліся.

Аднак да Малаха не дайшлі. У правулку пад вербамі стаялі дзве вайсковыя пафарбаваныя ў зялёны колер фурманкі. Міма іх не пройдзеш — трэба паглядзець, чым нагружаны, тым больш што і салдат не відаць, і коні выпражаны.

Падышлі. Паглядзелі. На фурманках нейкія доўгія жалезныя скрынкі. На скрынках незразумелыя надпісы.

— Снарады,— сказаў Санька.

Немцы былі ў двары, і нам ніхто не перашкодзіў гэтыя скрынкі памацаць і нават панюхаць. Пахла не то фарбай, не то нейкім мазутам — не разбярэш. І тут Санька прыдумаў добры план.

— Давай мы загваздкі павыцягваем. Дарогай колы пазвальваюцца — во немцы пакрэкчуць!

Аднак з нямецкай фурманкі не выцягнеш загваздкі. Іх там і няма зусім, а ёсць гайкі. Голымі рукамі не адкруціш.

Мы поўзаем пад фурманкамі, абмацваем гайкі, можа, якая не вельмі туга закручана. Але нічога не выйшла, толькі ў каламазь запэцкаліся па самыя вушы.

Мы вылезлі з-пад фурманак, сталі воддаль і абмяркоўваем правал чарговай дыверсіі, праклінаем каламазь, як раптам:

— Ком гэр![1]

Гэта з двара выйшаў салдат. У адной руцэ ён трымае вядро, а другой за повад вядзе каня.

Мы стаім і прыкідваем: уцякаць ці ісці? Бачыў ён, што мы рабілі, ці не?

---

[1] Ідзіце сюды! *(ням.)*

Біцюг загрукаў капытамі аб парог варотцаў і высунуўся на вуліцу. Гатовыя ў любы момант кінуцца наўцёкі, мы ўсё ж падышлі.

— Васэр, васэр[1],— паказаў фашыст на калодзеж і сунуў мне ў рукі вядро, а Саньку повад.

Да чаго мы дажыліся! Замест таго каб змагацца супраць фашыстаў, вымушаны паіць іхніх коней. Рыпіць журавель, звонка падаюць у калодзеж кроплі сцюдзёнай вады, а мяне разбірае на Саньку злосць.

— Вось дык герой. Не паспеў яго гэты бугай паклікаць, як ён рад старацца.

— А ты чаго не ўцякаў? — агрызаецца Санька.— Ты смелы, ну і ўцёк бы.

— А можа, я цябе выручыць хацеў?..

Фашыст знік за варотамі. Біцюг фыркае, аж пырскі ляцяць ва ўсе бакі, і так матае галавой, што повада не ўтрымаць.

Тут Санька паглядзеў навокал ды як дасць біцюгу кулаком па храпе:

— Стой, Гітлер няшчасны!

Біцюг задраў галаву, падаўся назад, ледзь з рук не вырваўся, і, толькі ўбачыўшы ваду, супакоіўся і пацягнуўся да вядра. Санькаў прыклад натхніў і мяне.

— Пі, фашысцкая морда!

І вядром біцюгу ў зубы.

Конь зноў задраў галаву, а потым пастаяў, паклацаў зубамі, быццам набраў у рот камення, і другі раз пацягнуўся да вядра. А я яму яшчэ раз:

— Пі, фашысцкая морда!

Праўда, цяпер атрымалася не вельмі ўдала — паўвядра вады плюхнулася Саньку на галаву. Цяпер фыркаюць двое — фашысцкі конь і мой таварыш.

---

[1] Вада *(ням.)*.

Санька да ўсяго яшчэ і лаецца:

— Ты ж глядзі, куды льеш, чорт сухарукі.

Затое, калі немец прывёў другога біцюга, першы ўжо і глядзець не хацеў на ваду. Ён пужліва адварочваўся ад вядра і, ідучы задам, цягнуў за повад Саньку.

Другога мы напаілі такім жа чынам і далажылі фурманшчыку:

— Гатова, пан! Не хоча болей.

— Гут, гут[1],— пахваліў нас немец, і мы пабеглі ад калодзежа задаволеныя.

Будзем мы іх коней паіць. Знайшлі дурняў.

## 17. КУЛЯМЁТ ПАД КРЫЖАМ

Я з Глыжкам яшчэ ляжу на печы, чакаю снедання, а бабуля падаіла ўжо карову, бразгае даёнкай па ўслоне, цэдзіць у гладышы малако. У печы дрэнна разгараюцца дровы. Яны шыпяць на розныя лады і гучна страляюць. Бабуля праклінае іх страшнымі праклёнамі і ўсё здзіўляецца, чаму гэта ў багатага поўная печ дроў і ўсе гараць, а ў беднага адна палка і тая толькі куродыміць. У гэты момант рыпнулі дзверы, загрукалі ў парозе боты. Я выглянуў з-за коміна — Ахонька, а з ім мардаты немец у касцы. На касцы дзве літары «SS».

— Збірайся,— прагугнявіў бабулі Ахонька.

Бабуля ў плач, у слёзы:

— А куды ж гэта, мой ты галубок? А я ж старая, і ў мяне вунь у печы гарыць, кінуць нельга...

— Не скуголь, ведзьма! — рыкнуў Ахонька і да мяне: — А ты чаго сядзіш, шчанюк!

Я злез з печы і стаў апранацца, думаючы, што б гэта магло азначаць.

---

[1] Добра *(ням.)*.

— А ты чаго разлеглася? — гыркае ўжо Ахонька на маці.

— Хворая яна, зусім хворая,— звярнулася чамусьці бабуля не да паліцэйскага, а да эсэсаўца, які каменнай глыбай стаяў у парозе.

— Гут,— кіўнуў каскай немец, і Ахонька адчапіўся.

Ён узяў з міскі кіслы агурок і, чакаючы, пакуль мы збяромся, пачаў хрумстаць яго, нібы конь. Відаць, дзесьці з раніцы нажлукціўся, а закусіць не закусіў.

Вуліца ўжо гамоніць устрывожанымі жаночымі галасамі. Немцы і з іншых двароў выганяюць людзей.

— Шнэль! Шнэль![1] — штурхае фашыст у плечы дзеда Мірона.

— Ды не назаляй ты ім,— просіць яго і баба Гапа.

З намі побач кульгае дзядзька Захар.

— Вось і дажыліся,— дудзіць ён сам сабе.— Спачатку курэй ды свіней, а потым і нас. А на што мы, уласна кажучы, спадзяваліся, мой татка?

— Куды гэта яны нас, дзядзька? — спытаў я.

— На кудыкіну гару,— горка ўсміхнуўся ён і заскакаў шпарчэй.— А мой ты татка, каб мне такія ногі, як у цябе, я даўно б...

А што даўно, ён не дагаварыў. На другім канцы вуліцы грымнуў стрэл. Ён пракаціўся рэхам па вёсцы, устрывожыў сабак у дварах, варон на школьных таполях.

Заўважыўшы, што я трымаюся бліжэй да платоў і часта азіраюся на мардатага немца, які цягнецца воддаль за намі, дзед Мікалай тузануў мяне за каўнер світкі.

---

[1] Хутчэй *(ням.)*.

— Ты глядзі,— буркнуў ён у свае сівыя вусы,— а то пакажуць табе пачым хунт ліха.

Ды яно і так уцякаць позна. Нас прыгналі да новай школы. А тут ужо амаль уся вёска: жанчыны, дзяды, дзеці, мужчыны. У вачах людзей трывога: што задумалі гэтыя немцы?

Мардаты салдат, што прыгнаў нашу вуліцу, падышоў да афіцэра, які курыў каля чорнай легкавой машыны цыгарэткі, і штосьці прагаўкаў, прыклаўшы руку да каскі.

Афіцэр абыякава махнуў пальчаткай у бок школы, і нас далучылі да натоўпу.

Мая галава быццам на шрубе круціцца ва ўсе бакі. Усё хочацца ўбачыць, усё пачуць. Як скрозь туман даносяцца галасы.

— Усіх жа не будуць страляць,— супакойвае сябе хрыплы бас.

— У зубы табе паглядзяць,— злосна адказвае другі.

— Можа, паперу якую прачытаюць і адпусцяць,— спадзяецца трэці.

І тут жа той самы злосны адгукваецца:

— Можа — надвае варожа...

— Мам, а чаму мы не ідзём да бабы? — цікавіцца хлопчык гадоў трох.

— Пойдзем, подзем,— абяцае маці.

— Кажуць, і фельчара забралі: кагосьці там хаваў...

— Цыц ты! Не мялі...

— Сядзелі б ціха — не было б ліха...

— Мам, хлеба,— хныкае хлапчанё.

Прыгналі яшчэ людзей. З Хутара. Мяне неяк адціснулі ўбок. Дзед Мікалай з бабуляй згубіліся, але затое знайшоўся Санька.

Ён узрадавана спытаў:

— І ты тут?

І, не даўшы мне рота раскрыць, зашаптаў у самае вуха:

— Апалчэнцаў забралі... І фельчара. Ён зброю хаваў. Чырвонаармейца, якога ён лячыў, таксама... Максіма Здора катавалі.

Працуючы локцямі і галавой сярод цесна спрасаваных світак, кажухоў, дзе прыгінаючыся, дзе бокам, мы сталі прабівацца наперад.

— Угаманіцеся, гайдамакі! — зашыпела нейкая цётка.

А хутарскі дзядзька даў Саньку па патыліцы так, што шапка налезла на вочы. Але мы ўсё ж прабраліся, куды хацелі. Цяпер нам усё відаць.

Афіцэр ужо стаіць на ганку школы і ўсё смаліць свае цыгарэткі. Твар доўгі, што агурок. Высокі картуз сядлом робіць яго яшчэ больш выцягнутым.

За афіцэрам перасгупае з нагі на нагу нейкі цывільны дзядзька ў шэрым суконным паліто з футравым каўняром. Калі на яго кідае позіркі афіцэр, дзядзька чамусьці ўсміхаецца, паказваючы шчарбатыя зубы.

— Яшчэ смяецца, падлюга,— заўважае Санька, свідруючы шчарбатага вачыма з-пад наехаўшай на лоб бацькавай шапкі.

І раптам афіцэр пстрыкнуў акурак чорнымі скуранымі пальцамі проста ў наш бок. Акурак упаў Саньку пад ногі і задыміў пасярод лужыны, пакрытай за ноч кволым лядком.

Афіцэрская прамова была кароткая. Ён, як разлаваны гусак, штосьці крычаў, звяртаючыся да натоўпу, і яго высокае «ге-ге-ге» каціліся над усім цвінтарам. Затым выйшаў наперад шчарбаты.

— Пан афіцэр гаворыць,— засіпеў ён праступджаным голасам,— што нямецкія ўлады высока цэняць і паважаюць тых, хто падтрымлівае спакой і парадак, хто выконвае...

Тут ён запнуўся, праглынуў, нібы гарачую бульбіну, нейкае незразумелае слова і доўга хапаў ротам паветра. Нарэшце яму ўдалося злавіць шчарбатымі зубамі канец наступнага сказа, і зноў у галовы людзей паляцелі цяжкія, як цагліны, словы:

— ...іх распараджэнні і загады...

— ...сурова карае тых, хто...

І пад канец бухнуў самы цяжкі камень:

— ...будуць расстраляны.

Мне здалося, што мы з Санькам тут стаім адны: уся вёска стаіла дыханне. А шчарбаты выцягнуў паперу і пачаў чытаць прозвішчы. Пад сэрцам загуляў халадок: можа, і мы туды з Санькам трапілі?

— А Божачка літасцівы,— не вытрымала нейкая жанчына.

— Мам, хлеба,— заенчыла хлапчанё.

— Ціха, дзіцятка, ціха. Вунь верабейка скача...

— А на каго ж ты мяне па-кі-да-а-еш? — залямантавала прарэзлівым голасам нейкая жанчына.

І раптам па натоўпу прайшоўся гул:

— Вядуць...

На школьны ганак іх выводзілі па аднаму. Першым паказаўся Максім Здор — камуніст, калгасны брыгадзір. Казалі, што ён, калі адступалі нашы, кудысьці сышоў, ды чамусьці вярнуўся. Пры вобыску ў яго знайшлі наган і хацелі захапіць нейкія паперы, ды Максім паспеў іх сунуць у грубку. Застаўся адзін попел.

Убачыўшы Максіма, я спалохаўся і хацеў зноў схавацца за світкі і кажухі, але мае дзіравыя буркі нібы прымёрзлі да зямлі. Жах застыў у шырока расплюшчаных вачах Санькі. Камандзір апалчэнцаў быў у парванай сподняй кашулі. Адна штаніна разадрана да калена. Валасы на галаве зліпліся і спадаюць на лоб крывавым камяком. Шырокім падцёкам запяклася кроў на правай няголенай шчацэ.

Ён ступае босымі нагамі па замёрзлай зямлі, па тонкаму лёду лужын, і чорная, халодная вада б'е пырскамі са шчылін угару, расплываецца бруднымі плямамі.

Але больш за ўсё мяне ўразілі вочы. У іх не было страху, а толькі смутак і нямы папрок.

Многія пад яго позіркам апускалі галовы, быццам у чым вінаватыя.

І раптам вёска зашумела. З натоўпу выбегла жанчына, без хусткі, [redacted] доўгімі, растрапанымі валасамі. Яна адштурхнула немца з аўтаматам і павісла на шыі Максіма.

— Ой, галубок ты мой ненаглядны! Ой, саколік мой ясны... А твае ж дзетачкі драбней маку...

Немец разгубіўся, але не разгубіўся Няўмыка. Ён узнік быццам з-пад зямлі, размахнуўся і ўдарыў Здорыху па галаве прыкладам. Нават гэхнуў, як гэта робяць дрывасекі.

Жанчына ціха спаўзла пад ногі. Максім памкнуўся быў да Няўмыкі, але да яго падбегла яшчэ некалькі немцаў.

Іх выводзілі па аднаму. Дзесяць чалавек. Дзевяць нашых і адзін у чырвонаармейскім адзенні, незнаёмы.

— Перадайце ў Залужжа Нятылькінай Хадоры. Не дайшоў я...— крыкнуў ён.

За маёй спінай нейкая бабуля ціха спытала:

— І як гэта Бог церпіць?

Але ёй ніхто нічога не адказаў.

Непадалёку ад царквы, на краі цвінтара, стаяў надмагільны помнік. Гэта быў вялізны граніт, адпаліраваны з аднаго боку. На гладкай бліскучай паверхні выбіты літары: «Раб Божий Павел 1853—1910». З расказаў бабулі я ведаў, што раб Божы Павел — бацька айца Платона, а айцец Платон — апошні поп нашай вёскі.

Граніт урос у зямлю, вакол яго густыя зараснікі палыну, а зверху цяжкі чыгунны крыж. На гэтым камені пад крыжам немцы паставілі кулямёт. Адзін з іх зараз дзелавіта запраўляе стужку з патронамі, а другі ботамі прымінае да зямлі сухое бадыллё, каб не перашкаджала цэліцца.

Апалчэнцаў, фельчара і палоннага чырвонаармейца паставілі на краі старой, зарослай палыном сіласнай ямы. Халодны вецер развявае шматкі падранай Максімавай кашулі. Фельчар чамусьці зняў акуляры і хукае на шкельцы. Спіна сагнута крукам, вострая сівая бародка клінам тырчыць наперад.

Іх дзесяць. Дзевяць мужчын і адна дзяўчына — камсамолка Каця Бароўская — маленькая, худзенькая. Дзяўчына бездапаможна азіралася навокал, сцепалася ад холаду. Але раптам яна выпрасталася, павярнула галаву да людзей і крыкнула:

— Бывай, мама! Бывайце, людзі...

Каска схілілася да кулямёта, і звонкі дзявочы голас абарваўся. Кулямёт прашыў насцярожаную цішыню кароткай чаргой і захліпнуўся. Зазвінела ў вушах, закружылася над таполямі ўстрывожанае вараннё.

— А-а-а! — павіс над натоўпам надрыўны жаночы стогн.

— У-ух! — уздыхнула вёска сотнямі грудзей.

Я расплюшчыў вочы. Іх засталося двое. Максім Здор не хоча падаць. Стараючыся ўтрымаць раўнавагу, ён робіць крок назад, а потым нахіляецца наперад і ідзе, быццам супраць моцнага ветру. Цімафей Іванавіч стаіць на каленях і вобмацкам шукае ў пакрытай інеем траве свае акуляры. Нарэшце акуляры знайшліся. Стары зноў хукае на шкельцы...

Зноў закрычалі вароны. Зноў вострым болем паласнула па сэрцы працяжнае, пякучае:

— А-а-а!

Немцы не дазволілі забраць забітых дамоў. Сіплы перакладчык растлумачыў, што яны будуць ляжаць непахаванымі тут некалькі дзён, каб усе маглі іх бачыць,

Яны ляжаць у сухім бадыллі. Вакол валяюцца ржавыя бляшанкі з-пад кансерваў, абрэзкі ліставога жалеза, бітае шкло, кавалкі калючага дроту — у гэтую яму раней ссыпалі смецце. Толькі Максім застаўся наверсе. Ён распластаўся на сырой сцяжынцы ва ўвесь рост — вялікі, дужы. Хтосьці чыстай хусцінкай прыкрыў яго твар. І калі вецер падняў край хусцінкі, Максім зірнуў на мяне шкляным вокам. У гэтым позірку не было ні страху, ні здзіўлення, ні болю.

— Мая ты ясачка, мая ты красачка,— убівалася над Кацяй старая маці.

Дамоў ішлі моўчкі. Толькі Скок, ужо развітваючыся з намі, асуджальна паківаў галавой і кінуў адно-адзінае слова:

— Дасядзеліся...

На гэта дзед Мікалай зазначыў:

— Ім цяпер усё роўна, а мы яшчэ запяём Лазара...

Ужо вечарам дома, кладучыся спаць, я ўспомніў гэтыя дзедавы словы і спытаў у бабулі:

— А як гэта пяюць Лазара?

Бабуля, расчэсваючы рэдкія валасы, уздыхнула:

— Пажывеш — убачыш...

А потым адклала ўбок грэбень і заспявала цягучым, старэчым голасам:

Як быў у нас Лазар,
І я яго знаў...
Меў скарынку хлеба,
Й тую хтось украў...

Цьмяна хліпае кволы агеньчык каганца. Бабуля, седзячы на краі чарэні, у такт словам ківаецца ўсім тулавам, і вастраносы цень паўтарае яе рухі на сцяне.

— Баб, паглядзі,— смяецца Глыжка.

Стогне на ложку хворая маці.

Стогне ў коміне вецер.

## 18. РАДАСНЫ ВЫСПЯТАК

Зіма лягла дружна. Звечара клаліся спаць — на двары была чорная, мёрзлая зямля, чорныя стрэхі, голыя, панурыя вербы, а раніцой усталі — нават у хаце святлей, чым заўсёды. Ноччу выпаў снег.

Мы з Глыжкам устыкнулі на босую нагу бурку і без шапак і світак выбеглі на вуліцу. Ну і прыгажосць жа навокал! Белым абрусам пакрыты двары, вуліцы і агароды, кудлатымі лапамі абвіслі пад цяжарам снегу галіны вербаў. А паветра, як морс,— так і піў бы бясконца. Мы былі вельмі рады снегу. Глыжка нават з'еў яго трошкі. Шкада, што не салодкі.

Пачатак зімы — заўсёды радасны для нас, хлапчукоў, час. Хоць ідзе вайна, а пакатацца на санках з гары хочацца. І мы цэлымі днямі стынем цяпер на вуліцы, цягаем на гару санкі.

Тут пачуеш розныя хлапчукоўскія навіны. Вось стаіць Міцька Малах, паспускаў доўгія рукавы зашмальцаванай, дзіравай матчынай ватоўкі і ківае галавой нам з Санькам. Мы цягнем на гару Глыжку, які ў бабулінай хустцы, завязанай па самыя вочы, рассеўся на санках, нібы капа. Старыя, стаптаныя буркі яму ледзь не па пояс — ног не сагнеш.

— Дайце з'ехаць пяць разоў,— просіць Міцька,— штосьці скажу.

— Нічога ты не скажаш, Мангол,— сумняваецца Санька і прыўзнімае чырвонай, як гусіная лапа, рукой бацькаву шапку з вачэй.

Міцька божыцца страшэннай бажбой і, азірнуўшыся чамусьці па баках, паўшэптам паведамляе:

— У Стараселлі партызаны былі...

— Брэшаш! — не паверылі мы з Санькам.

— Каб я праваліўся,— клянецца Міцька.— Мая маці туды ўчора хадзіла да цёткі. Ёй цётка расказвала. Ноччу прыйшлі, старасту забралі і ўсіх паліцэйскіх. Толькі адзін уцёк. Ну і расстралялі іх...

— Каго? Партызан? — не зразумеў Санька.

Міцька глянуў на яго з пагардай і нават цыркнуў слінай скрозь зубы.

— Дурань ты. Паліцэйскіх расстралялі,..

— Можа, і да нас прыйдуць? — спытаў я ў Міцькі. Чамусьці думалася, што ён і пра гэта ведае.

Міцька пастаяў, падумаў, капнуў пятой пару разоў снег і ўпэўнена сказаў:

— Не. У нас горад пад бокам, а лес далёка.

Пра партызан іншы раз можна пачуць і ад дарослых.

Да нас часта вечарамі прыходзяць жанчыны: Скачыха, баба Гапа, цётка Марына. Гэта каб маці весялей было. Сядуць яны каля яе ложка і пачынаюць ціха свае бясконцыя размовы.

— Такі кісель атрымліваецца з буракоў, такі кісель, што не трэба і твой цукар,— цмокае губамі ад задавальнення Скачыха.— Закваскі нанач у іх пакладзеш і ў печ, а раніцой...

Пагавораць пра кісель.

А потым цётка Марына пачынае скардзіцца:

— Мой зусім з глузду з'ехаў, здзяцініўся. Прыцягнуў дамоў нейкую скрыню і ў салому схаваў.

Адчыніла я, а там — Госпадзі, Божа літасцівы, гэтыя во... як іх... ну, што хлопцу з пасёлка руку адарвала...

— Гранаты,— падказваю я з печы, але на мяне не звяртаюць увагі.

— Куды ты, кажу я яму, хваробу гэтую прынёс. Дзеці ж у хаце. А ён — не суй, кажа, носа не ў сваё проса. Рыбу глушыць буду...

І тут баба Гапа ў размову ўвязваецца:

— А ці чулі вы, мае дзяўчаткі, што ў Чысталужжы было. Пайшоў мой брацельнік у лес ламачча якога назбіраць, бо паліць жа людзям нечага, а там сустракаюць яго двое з ружжамі. Ну, мой брацельнік ужо і Богу памаліўся... А яны толькі спыталі, хто ёсць у сяле. Тытунь, праўда, забралі... Ды сказалі, каб язык прыкусіў...

— Ай-я-яй-я-яй,— уздыхае чамусьці Скачыха.

Ці ёй шкада таго тытуню, ці так чаго — не ведаю.

Але ходзяць па сялу і іншыя чуткі: немцы Маскву забралі. Пра гэта Няўмыка на кожным рагу менціць:

— Усё цяпер. Амба. Масква цяпер наша.

Толькі людзі гавораць featуснае. Адны вераць, другія не вераць. Дзед Мірон, калі мы з Санькам яму паведамілі пра Няўмыкавы прамовы, чамусьці на нас раззлаваўся. Глянуў з-пад броваў, як з-пад стрэх, усадзіў сякеру ў калодку, выцер спацелы лоб і спытаў:

— Вы што, хлопцы? У Няўмыкі памочнікамі? Сабака брэша, а вы па сялу разносіце. Не можа таго быць!

Дзядзька Захар ходзіць хмара хмарай. Паткнуліся мы да яго са сваімі роспытамі, а ён як гыркне:

— Адкуль я ведаю? Адчапіцеся, смаркачы! — І паскакаў з вядром да калодзежа.

На шашы мы сустрэлі трох немцаў. Ідуць яны, цокаюць кованымі абцасамі па каменні і весела гергечуць.

Тут Санька асмеліўся і здалёк крыкнуў:

— Пан, Масква капут?

Немцы спыніліся, змералі нас вачыма з ног да галавы і заржалі:

— Я-я! Москаў капут!

На другі дзень з самай раніцы ўвальваецца да нас ў хату яшчэ адзін фашыст.

— Матка, яйкі. Москаў капут!

— Якія табе яйкі-хварабайкі зімой? — адказала яму бабуля.

Калі ён выйшаў з хаты, буркнула:

— Бач, чэрці, раскапуткаліся...

Мінуў тыдзень ці два. І вось аднойчы прыбягае да нас Санька, радасны, усхваляваны. Не паспеў дзверы зачыніць, як адразу пахваліўся:

— Мне немец выспятка даў!

Бабуля засмяялася:

— Во, шчасце табе, мой хлопец, падваліла. І як гэта табе толькі ўдалося?

Санька абмятае ад снегу ногі і расказвае з пятага на дзесятае:

— Яны ў нас жывуць пяты дзень. Кожны дзень я ў іх пытаў: пан, Масква капут? Капут, кажуць, капут... А сёння раніцой я зноў: пан, Масква... А ён мне выспятка як дасць! Аж я аб ступу лбом! Во! — І Санька, сцягнуўшы шапку з галавы, паказаў гуз.— Памацай! — сказаў ён.

Я памацаў, гуз быў вялікі і цвёрды.

— Дык чаму ж гэта ён, ірад? — здзівілася бабуля.

— Таму,— шматзначна адказаў Санька.

Цэлы тыдзень усім хваліўся мой сябар нямецкім выспяткам. А тым, хто не верыў, дазваляў памацаць гуз. Дарослыя смяяліся. Скок цяпер не

гыркаў на нас, а доўга распытваў, як яно было, і потым пляснуў у далоні:

— А мой жа ты татка, во і пачалося... А яны думалі...

Пахваліўся Санька сваім гузам і дзеду Мірону. Дзед таксама смяяўся, аж слёзы на вачах з'явіліся.

— Мабыць, ім пад Масквой далі выспятка,— сказаў ён, уволю нарагатаўшыся.

— Немец, напэўна, падумаў, што я дражнюся,— радаваўся Санька сваёй удачы.

## 19. ЯК НАС ПАДВЁЎ КОТ

Аднойчы Коля Бурэц пахваліўся, што ў яго ёсць дзве гранаты. Мы з Санькам і прычапіліся да яго, як сляпы да плота: або дай, або прадай.

— А навошта в-в-вам? — хітра жмурыць Коля свае цыганскія вочы.

— Рыбу глушыць будзем,— выдумляю я.

— І-і-і я буду,— упіраецца Коля.

— Мы табе рагатку дадзім,— абяцае Санька.

Бурэц крыху падумаў, паскроб патыліцу і адрэзаў:

— Н-не. Мне с-с-самому трэба.

Ну і хітры ж гэты Заяц: цягнуў з нас жылы, пакуль увесь процівагаз за адну гранату не выцыганіў. Давялося аддаць, хоць і шкада было. Але без процівагаза можна абысціся: газаў пакуль што не пускаюць. Ды і процівагаз не такі ўжо і ўвесь. Пару лямак на рагаткі мы ад яго адрэзалі.

Дык і граната была не бог ведае якая. Праўда, з рабрыстым кожухам, з ручкай, але без капсуля. Толькі, што ні кажы, граната ёсць граната. Боепрыпас.

Мы занеслі гранату на гарышча Санькавай хаты. Цяпер там захоўваецца ўсё наша снаражэнне. Патроны яшчэ восенню адкапалі і перахавалі ў салому.

Санькава маці, цётка Марфешка, не любіць, каб мы па гарышчы хадзілі, бо тады ў хаце рыпіць старая столь і ў шчыліны паміж дошак сыплецца кастрыца.

— Ціха! — шэпча Санька, прыкладаючы палец да губ, і першы бярэцца за лесвіцу.

Ён лезе па ёй асцярожна, каб не стукнула, не грукнула. Вось зніклі за апошнім бервяном яго буркі, і тады пачынаю я: стану на адну перакладзіну, паслухаю і зноў.

На гарышчы цемнавата, салома прыцярушана дробным сняжком, а пад стрэхі дык цэлыя гурбы намяло. Ды ўсё ж тут не так, як на вуліцы,— больш зацішна. А ля коміна і зусім добра — можна пагрэць рукі, крыху пасядзець і пашаптацца без лішніх сведак.

Санька прывалок сюды скрынку з патронамі, і мы ў дзесяты, можа, раз любуемся імі і пералічваем, ці не ўбавілася. У партызаны мы пойдзем ужо хутка. Знойдзем толькі вінтоўкі. Спачатку заглянем у Стараселле да майго дзеда Цімоха, пераначуем, адпачнём, разведаем сёе-тое і далей. Калі дзед спытае, чаго мы прыйшлі, мы адкажам, што хацелі ведаць, як ён тут жыве.

Свішча пад стрэхамі вецер, шуршыць аб сцены сухім, калючым снегам. Грукае ў сенцах цётка Марфешка, валачэ ў хату ступу. Вось ляпнулі дзверы, і неўзабаве ў хаце пачалося:

— Гук-гук, гук-гук...

Аж вядро, што вісіць на сцяне ў сенцах, бразджыць. Значыць, узялася. за проса. Цяпер і нам можна смялей.

— Давай праверым мяшкі з сухарамі, — кажа Санька.

Ён доўга корпаецца ў саломе, чхае ад пылу і ніяк не можа іх знайсці.

— Можа, не тут паклаў? — стаю я над душой.

— Ды тут! — злуецца Санька.

Раптам ён заверашчаў не сваім голасам і з круглымі ад перапалоху вачыма адскочыў убок. Я і сам ад нечаканасці ледзь не зляцеў у сенцы на падлогу.

— Што там?

А Санька аж калоціцца:

— Штосьці жы-жыв-жывое...

Мяне ахапіла злосць.

— Ну і партызан! — І па прыкладу Міцькі Малаха цыркнуў слінай скрозь зубы. Праўда, атрымалася не вельмі ўдала, сліна павісла на падбародку, але я выцер непрыкметна яе рукавом і сам рашуча палез у хованку.

Санька стаіць убаку, а я асцярожна мацаю ў саломе. Вось пад руку трапілася супонька, пацягнуў за яе, і з саломы выскачыла шэрая тлустая мыш. Яна глянула на мяне чорнымі бліскучымі пацеркамі, спалохана піснула і хуценька шмыгнула зноў у салому.

На нашы торбы было горка глядзець. Дзірка на дзірцы. Ад сухароў засталася адна толькі пацяруха, перамешаная з мышыным памётам. Папера, у якую былі запакаваны бінты, таксама прыйшлася мышам да смаку. А ў Санькавым мяшку яны ўхітрыліся нават звіць сабе кубло. Толькі бутэлечкі з ёдам і засталіся цэлыя.

І тут нам на вочы трапіўся кот. Ён сядзеў за комінам, натапырыўшы ад холаду густую шэрую поўсць, і салодка драмаў. Кот быў стары, лянівы і глухі як пень.

План помсты ўзнік сам сабой. Мы толькі паглядзелі адзін на аднаго і ўсё зразумелі без слоў.

Вось мы зараз пакажам мышам. Яны будуць доўга памятаць нашы партызанскія сухары.

Санька сігануў за комін, але зачапіўся за рэзгіны і загрукатаў старымі дзіравымі чыгункамі, якія хавала тут яго маці, спадзеючыся калі-небудзь іх паладзіць. Кот неахвотна пацягнуўся і лянiва падаўся ад Санькі ў другі бок. Добра, што я тут стаяў. Я і схапіў яго за мяккі, тлусты каршэнь.

Прыцягнуты на месца мышынага злачынства, кот нічога не хоча разумець, а толькі лыпае сваімі бессаромнымі вачыма ды глядзіць, як бы задаць лататы. Мы яго і носам у салому тыцкаем, і торбу з мышыным кублом даём панюхаць — хоць бы што.

— А, дык ты яшчэ драпацца, паразіт! — разышоўся Санька і даў кату добрага кухталя.

А я дабавіў, і кот залямантаваў як рэзаны.

Мы так раззлаваліся на ката, што і не заўважылі, калі ўзлезла на гарышча цётка Марфешка. Узнялі вочы — стаіць над намі з дзеркачом у руках. Выхапіла яна ката ў Санькі ды гэтым катом яму па галаве. У нас і языкі адняліся. Кот нарэшце вырваўся ў цёткі з рук і загрукатаў па лесвіцы ў сенцы, як нячыстая сіла. А Санькава маці схапіла торбу з мышыным кублом ды зноў — Саньку па вачах.

Я думаў, што мне гэта пройдзе сном. Не прайшло. Абодвух яна прывалакла ў хату за вушы.

— Дык вось дзе Малашыхін чартакож! — здагадалася ўрэшце яна і кінула на швейную машыну нашы армейскія мяшкі.— Паглядзі, што яны вырабляюць...

І вось мы цэлую гадзіну стаім перад ёй, як ёлупні, апусціўшы ўніз вочы. На нашы галовы, як з мяшка, сыплюцца розныя праклёны і пагрозы.

Цётка Марфешка ніяк не можа супакоіцца. Звычайна яна размаўляе па-нашаму, па-падлюбскаму, а калі раззлуецца, тут ужо рэжа па-свойму.

— А такэ дурнэ, а такэ ж лядашчэ,— гаворыць яна пра Саньку.

І я таксама «дурнэ» і «лядашчэ»...

— Каб вы сказылыся, хай вам грэц!

Мы нічога супраць гэтага не маем, абы да вяроўкі не дайшло. Санька вінавата шморгае носам. Я разглядваю свае буркі. На адным з іх са свежай дзіркі тырчыць клок рыжай ваты. Трэба неяк запхаць яе пад матэрыю, а то будуць мне дома ад бабулі добрыя партызаны...

А за акном на двары крадзецца да сініцы стары Санькаў кот. Сініца жвавая, спрытная: скок-скок — і на вішню. Кот толькі аблізнуўся. Так табе і трэба, лайдак.

— Гэць відсюля під тры чарты, скажэны! — пужнула нас з хаты цётка Марфешка, і мы выпырхнулі за парог.

## 20. А МАЁЙ МАЦІ ЎЖО НЕ ХОЛАДНА

У хаце ў нас пахне лякарствамі. Матчына сястра, цётка Марына, цяпер прыходзіць да нас кожны вечар. Сядзе яна на ўслончыку супраць ложка і ціха плача:

— А мая ж ты дзеўка, а мая ж ты сястрыца...

Нас з Глыжкам быццам і няма ў хаце: ходзім на дыбачках, не смяёмся, не гуляем — сланяемся з кутка ў куток, прытулку не знойдзем.

У той вечар маці паклікала нас да сябе.

— Нахіліся,— папрасіла яна мяне і, пагладзіўшы маю галаву гарачай рукой, зашаптала: — Горкія вы мае...

Буйная слязіна скацілася па апухлай шчацэ і павісла на мочцы вуха, як пацерка.

— Будзьце харошыя... Прыйдзе бацька... Шкадуй брацiка...

Глыжка стаiць побач, насупiўся. Ён не зусiм добра разумее, што адбываецца, i таму нясмела пытае:

— Мам, а ты куды?..

Мы спалi на печы, i ноччу мне здалося, што за каўнер зваліўся вялiкi прусак. Я адчуў, як ён бегае па плячах, i са страху падхапiўся, заграбаў за каўняром рукамi, стараючыся скiнуць гэтую дрэнь.

Потым прыгледзеўся i зразумеў, што здарылася. Цётка галосiць над пасцеллю, а ў матчыных руках свечка. Бабуля разгублена бегае па хаце, i па сценах спалохана мiтусяцца яе ценi: адзiн ад свечкi, а другi ад каганца.

Я саскочыў з печы, падбег да ложка. Мацi ляжыць строгая, на яе васковым твары застаўся ўрачысты спакой. Мне не верыцца, не хочацца верыць. Можа, ёй проста стала лягчэй i яна заснула. Але свечка... I гэты цётчын голас. Ад яго мароз па спiне...

Ранiцой я хаджу, як у цяжкiм, страшным сне. Мацi ляжыць на лаве, прыбраная ў новую кофту i спаднiцу. На лбе, як павязка, нейкая жоўтая паперка. На ёй штосьцi намалявана, штосьцi напiсана. А ў руках, складзеных пад грудзьмi, усё тая свечка. Свечкамi прапахла ўся хата, я чую iх мядовы, прытарны пах нават на двары.

На куце, уткнуўшы нос у тоўстую кнiгу, гугнявiць нейкiя незразумелыя словы Чмыхава Маўра, пажылая жанчына з сытым тварам, як намазаным здорам. Яе ўсе завуць у нас манашкай. Папа ў нашай вёсцы даўно няма, вось Маўра i зарабляе сабе хлеб на нябожчыках.

На кончыку яе мясiстага носа старыя, трэснутыя акуляры. Здаецца, яны вось-вось зваляцца на

падлогу і разаб'юцца зусім. І тады ўсё скончыцца. Скончыцца гэтае гугнявае спяванне, гэтае бясконцае: «Госпадзі, памілуй; Госпадзі, памілуй; Госпадзі, памі-і-і-луй...»

Маўрын голас, як чад. Ад яго ў мяне баліць галава, ад яго няма ратунку ні на печы, ні ў парозе, ні за дзвярыма.

З самай раніцы ў нас поўная хата жанчын. Яны заходзяць ціха, у парозе неяк баязліва, паспешліва хрысцяцца і выцягваюць шыі, заглядваюць цераз галовы пярэдніх, а потым шэптам робяць свае заўвагі:

— Адмучылася, бедная...

— Вось сірот толькі пакінула...

— Глядзі ты, як жывая...

— Дык маладая ж яшчэ зусім. І сарака няма...

— Эх, такі бабскі век...

— А большы, глядзі-тка, не плача...

— У бацьку пайшоў, цвердакаменны...

— А меншаму гэта ж колькі? Ай-я-яй, мабыць, і помніць маці не будзе...

— Будзе. Я сваю помню, хоць і малая засталася...

— Ну, цяпер цёці-Моці дастанецца...

А я і сапраўды не плачу. І хацеў бы, ды няма чым.

Чамусьці мне ўспомнілася, як даўно, калі я не хадзіў і ў школу, да нас прыехала «хуткая дапамога». Хата гарэла ясным полымем. Нада мной схіліўся нейкі дзядзька ў белым і штосьці такое сказаў. Тады я пачуў, як загаласіла маці. Яна галасіла, нібы па нябожчыку, ірвала валасы на галаве, падала на канапу і білася галавой аб сцяну. Белы дзядзька не ведаў, каго ратаваць — мяне ці яе.

А потым шыбы ў бальнічным акне. Кожны дзень раніцой я хукаў на іх, каб сышла намаразь,

і ў маленькую, як гузік, адтуліну выглядваў на вуліцу. Пад акном стаяла яна, мая маці, і радасна ўсміхалася.

Суседская дзяўчынка Валька, якую не аддалі ў бальніцу, памерла, яе задушыла шкарлятына, а мяне бацька прывёз дамоў на санях жывога.

Зараз маці ляжыць на лаве.

Мне здаецца, што я — гэта зусім і не я, а хтосьці іншы, пабочны. У печы ярка гараць дровы, аж агонь скача ў комін. Кіпяць чыгуны. Вялікія чыгуны. Свіныя. А ў іх вараць сёння боршч і кашу. Каля печы круцяцца чужыя цёткі. І чаго яны тут круцяцца?

Па двары ходзяць чужыя дзядзькі. Вось Скок выцягнуў з дрывотні дошку, паклаў яе на ўтаптаны снег і прайшоўся рубанкам. Ружовыя, кучаравыя стружкі ўюцца клубкамі, падаюць на снег. Скрыгае аб сухі смалісты сучок лязо. Не хоча стругацца сучок.

Нейкія мужчыны топчуцца з ламамі і рыдлёўкамі, смаляць цыгаркі.

— Не ў час памерла,— уздыхаюць,— зямля будзе як камень.

Дзед Мікалай туляецца па двары, зазірае ў хлеў, пад павець. Вось ён цягне абярэмак сена. Куды гэта сена? Карове? А навошта карове сена? У руках у Скока бацькава сякера. З-пад яе адлятаюць буйныя трэскі. Іх збірае Скачыха ў прыпол: у печы пампушкі не запякаюцца.

— Мабыць, велікаватая? — пытаецца хтосьці з мужчын пра дамавіну.

— З вялікага неываліцца...

Хто неываліцца? Ага, мая маці неываліцца.

Яе ўкрылі толькі адной марляй. Марля наскрозь свіціцца. А на вуліцы мароз. Мароз і мяцеліца. Чаму яны не ўкрыюць яе коўдрай? Навошта яны

абулі яе ў чуні з палатна? А самі ж у бурках, у світках, у кажухах...

Падаюць белыя сняжынкі, кружацца, прыліпаюць да маіх шчок і скочваюцца расой. А на матчыным твары не растаюць, не растаюць на губах. Паляжаць, паляжаць, пакуль не здзьме іх вецер, і падаюць новыя.

Глыжка цягнецца побач са мной. Ён не скардзіцца на глыбокі снег. Ён нічога ў мяне не пытае, а проста са здзіўленнем глядзіць на ўсё, што робіцца навокал, і маўчыць. Спачатку Глыжка не хацеў ісці, а хацеў ехаць разам з маткай на санях. Дзед не дазволіў — замерзне, прастудзіцца.

...Усе моўчкі сядзяць за сталом. Скачыха і баба Гапа носяць міскі [illegible] гарачым баршчом. А на куце спалохана мігае лампадка, іскрыцца пазалота Багамацеры, востраносай, худой, з вялікімі сумнымі вачыма.

Глуха стукнуў кавалак хлеба аб стол, як мёрзлы камяк зямлі аб века дамавіны. Гэта дзед Мікалай, наразаючы лусты, незнарок упусціў акраец. І вось заскрабалі па місках лыжкі...

— Паспытайце, дзеткі, канону. Паспытайце, — просіць нас Чмышыха.

А сама ўжо пхае за абедзве шчакі.

Канон — гэта хлеб, накрышаны ў ваду, падсалоджаную мёдам. Канон пахне свечкай, якую маці трымала ў руках, і ён мне не лезе ў горла. Але для прыліку трэба ж хоць лыжку памачыць.

А Глыжку канон спадабаўся: салодкі. Калі ўсе сваякі і суседзі яго паспрабавалі, Глыжка падцягнуў да сябе міску і пачаў скрабаць па дну.

— Дзіцё. Што яму? — уздыхнула баба Гапа і ражком хусткі выцерла вочы.

— Бог даў, Бог і ўзяў, — адгукнулася на гэта Маўра, са смакам абгрызаючы костку.

— Выпіце яшчэ па адной! — просіць Скачыха, наліваючы з запацелай бутэлькі мутную самагонку.— Няхай ёй зямля пухам будзе.

Ад выпітай гарэлкі, ад гарачага баршчу ўсе разамлелі, у многіх пачалі заплятацца языкі. Расчырванеліся жанчыны. Ім стала вельмі шкада нас з Глыжкам.

— Ёй цяпер што? — чуецца [redacted] аднаго боку. — Вось гэтым дастанецца...

— Пакуль баба жывая, не памруць, — абнадзейвае хтось з другога боку.

— А колькі той бабы засталося?

— Слухайце, дзеткі, бабу. Слухайце, — са слязьмі ў голасе просіць цётка Марына.

За апошнія дні яна асунулася, схуднела, вочы чырвоныя, наплаканыя, і яе цудоўны, звонкі голас стаў хрыплы: сарвала, галасіўшы.

— Э-э, каб бацька быў, — уздыхае нехта.

— Калі бацька памрэ, дзеці пры матцы, а калі маці памрэ — дзеці сіроты! — адрэзала манашка, жуючы пампушку.

— Што праўда, то праўда, — згадзілася Скачыха.— Прыйдзе, мачыху возьме, бабу выганіць...

Тут дзед Мікалай не вытрымаў, памацаў свае вусы і буркнуў:

— Добра з хрэнам, добра і так. Пра дзікае вы журыцеся, а яно абрасце — і ў вырай. Няхай спачатку прыйдзе...

Я быў удзячны дзеду. Чаго яны прычапіліся? Лепш бы грызлі свае косткі ды сёрбалі боршч.

Спалохана мігае перад Багародзіцай лампада. За вокнамі цёмна і страшна. Усе даўно разышліся, толькі суседка і цётка Марына дапамагаюць бабулі прыбраць са стала. Яны грукаюць лыжкамі, міскамі, чыгункамі, і я чую, як Скачыха дае парады:

— Ты памыі злівай у ражку — кабанчык паесць...

— А няхай ён выпрастаецца,— кляне яго ў адчаі бабуля.

Мы з Глыжкам ляжым на печы. Брат спалохана прыціснуўся да мяне, збіраецца плакаць. «Шкадуй браціка»,— сказала маці. І я заплакаў першы. Няхай толькі хто яго пальцам кране — у зубы дам.

Ласкава прыгравае спадыспаду чарэнь, шамаціць па сценах калючы снег ды завывае ў коміне вецер. Холадна на вуліцы, холадна на могілках, холадна, відаць, і там, дзе зараз мой бацька. Возьме ён мачыху ці не возьме, а хутчэй бы прыйшоў.

## 21. МОЙ КАЖУШОК І ГЕРМАНІЯ

На двары зіма, а мне трызніцца спякотная, сонечная Афрыка. Я начытаўся пра яе ў кніжках, што нацягаў са школы. У Афрыцы душна і страшна і навокал ні кропелькі вады. Я прабіраюся праз непралазныя джунглі, галіны дзівосных дрэў б'юць мяне па твары гарачым лісцем.

— Вады! Вады! — крычу я.

А за маёй спінай трашчыць буралом. Гляджу — тыгр! Вялізны тыгр падрыхтаваўся да скачка. У маіх руках вінтоўка і побач скрынка патронаў, якія мы знайшлі з Санькам, але ў вінтоўкі не адкрываецца затвор... Цэлюся, а тыгр шэпча:

— Госпадзі, Божа мой, і за што такая напасць...

А потым кідаецца на мяне і абдымае гарачымі, ласкавымі лапамі.

— Не раскрывайся,— просіць ён.

Тыгр пахне кажухом.

Затым у нейкім ружовым тумане ўзнікае баба Гапа. Яна водзіць перад маім тварам гарачым

вугальком, плюе ў розныя бакі і шэптам загадвае, каб хтосьці з мяне выйшаў, ды на чыстае поле, ды на сухі лес[1]...

А потым загарэлася наша хата. Я кідаюся па печы, хачу выскачыць з полымя і куды ні ткнуся — сцяна.

— Пакладзіце яму на лоб мокрую анучу,— замест таго каб тушыць пажар, раіць Гапа.

І ўсё сціхае.

А раніцой мне стала дзіўна: хата цэлая, і знаходжуся я не ў афрыканскіх джунглях, а на печы. Побач сядзіць мурзаты Глыжка і спалоханымі, круглымі вачанятамі глядзіць на мяне. На вокнах снежныя лахматыя кажухі. Шыпяць і страляюць у печы сырыя дровы, грукае ў парозе качарга. Па хаце ходзіць певень з чорным, абмарожаным грэбенем.

— Баб, снедаць,— папрасіў я і сам не пазнаў свайго голасу: нібы сляпое кацяня прапішчала.

Бабуля жвава ўскарабкалася на прыпечак, і мне стала аж смешна: нос вымазаны ў сажу, з-пад хусткі, якую яна сабе зрабіла са старой байкавай коўдры, звісае на лоб рэдкая пасмачка валасоў.

— Ну, значыць, выкараскаўся,— узрадавалася яна.— Гэта ж трэба, паўзімы праваляўся.

Зашорхала па драчцы бульба, загрымела перад печчу патэльня, і вось ужо дымяцца ў місцы гарачыя драчонікі з ружовай скарыначкай. Для такога выпадку старая дзесьці раздабыла нават скварку здору. Я яго ўжо сто гадоў, мабыць, не еў.

Сядзіць бабуля побач са мной на краі чарэні і глядзіць мне ў рот.

— Еш, унук, еш. Бачыш, як Грыша ўмінае...

Добрая ўсё ж у нас бабуля, хоць іншы раз і сварыцца, хоць ёй часта і здаецца, што ў нас растуць рогі, што мы нячысцікі і ідалы... А вось сёння лас-

---

[1] Словы з загавораў, якімі «лячылі» бабкі-шаптухі.

кавая, спагадлівая. Шкада толькі, што і яна збіраецца паміраць. Пра гэта бабуля часта гаворыць, асабліва калі мы з Глыжкам не слухаемся.

— Вось будзеце такімі неслухамі,— пагражае яна,— вазьму і памру. Будзе вам тады воля, хоць галовы паскручвайце.

На печы, на гладкай бярозавай жэрдачцы, побач з цыбуляй вісіць вялікі чорны клунак. Вісіць ён даўно, мабыць, з таго часу, як і печ зрабілі. Што ў гэтым клунку, бабуля хваліцца не любіць. Хіба што вельмі назаляць станеш. Тады яна адмахнецца, нібы ад надакучлівай мухі, і скажа:

— Адчапіся, смала. Пасаг мой там вісіць. Як да Бога на суд пайду — прыбрацца трэба будзе.

Сама бабуля ўсё жыццё ходзіць у чыіх-небудзь неданосках, а свой пасаг не чапае нават у вялікае свята.

Асабіста я лічу, што гэта няправільна, і часта даю парады:

— Ды знасі ты, баб. Новае купім.

Калі пры такіх размовах дома былі дарослыя — бацька, маці або гасцявала цётка Марына,— бабуля крадком паглядвала на іх і папракала нас з Глыжкам:

— Вы, унукі, купіце... Ад вас дачакаешся. Выпхнеце потым у рыззі...

Бацька тады браўся за цыгарку, а цётцы Марыне раптам трэба было некуды ісці.

Аднойчы бабуля пераглядала свой клунак, ці не паела яго моль, і я падгледзеў, што ў ім было. Там ляжалі чорная сацінавая спадніца, расшытая па падоле вузенькай зялёнай стужкай, белыя брызентавыя спартыўныя тапачкі з гумавай падэшвай, споднія кашуля з тонкага льнянога палатна, сіняя паркалёвая кофта ў гарошыну і самая прыгожая рэч — гарусавая хустка. Хустка, відаць, і бабулі падабалася больш за ўсё. Пераклаўшы, ператросшы

іншую адзежу, яна доўга, асцярожна гладзіла яе на каленях сваімі каравымі, кашчавымі рукамі. Пры гэтым бабуля схіляла галаву то ў адзін бок, то ў другі. Яна не магла налюбавацца.

А хустка сапраўды была прыгожая: уся ў буйных ружовых кветках, рассыпаных па зялёным полі. Сцяблінкі і лісточкі руж былі такія яркія, як траўка вясной.

Калі бабуля крадком накінула хустку на галаву, я не вытрымаў:

— Баб, а ты прыгожая!

Яна сапраўды быццам памаладзела, упалыя шчокі паружавелі, радаснымі іскрынкамі засвяціліся вочы. Пачуўшы мой голас, бабуля чамусьці спалохалася, хуценька сцягнула гаруску [redacted] галавы і няветліва адгукнулася:

— Прыбяры і пень, дык прыгожы стане.

Так і вісіць з той пары чорны клунак побач з цыбуляй.

Сёння бабуля ў добрым настроі. Яна хутка выпаліла ў печы, зачыніла комін, каб дарма не грэць неба, падмяла ў хаце, загнала пад печ курэй, а потым немаведама [redacted] якога свята дала нам з Глыжкам па жмені гарбузовых семак. Астатнія зноў кудысьці схавала. Гэта на насенне.

Глыжка не ўмее лузгаць семкі. Ён іх есць з шалупінамі. Вось бабуля і калупае яму старымі чорнымі пазногцямі: абшчыпле беражкі, спрытна расшчэпіць белыя створкі і пакладзе семку на падушку.

— Гусачка,— гаворыць яна.

Семкі сапраўды падобныя на маленькіх гусянятак, зялёненькія, доўгенькія і з дзюбачкай. Глыжка бярэ гэтых гусачак [redacted] падушкі і ў рот. Добра, што ў бабулі няма зубоў,— сама ніводнай не з'есць.

Застукалі ў сенцах боты, рыпнулі дзверы, і па хаце пракацілася белае воблачка марознага паветра.

Няўмыка паляпаў рукавіцамі, пацёр імі пунсовыя вушы і сказаў:

— Эх і мароз. Пячэ...

— Пячэ,— адгукнулася бабуля, жвава злазячы з печы.— Пячэ, аж з носа цячэ.

У парозе за Няўмыкам таўкуцца два немцы. Яны згорбіліся, пасінелі, у аднаго з іх сапраўды з носа цячэ. Пастукаўшы крыху абцасамі, немцы падышлі да печы і растапырылі рукі перад засланкай.

— Холёд,— сказаў бабулі той, у якога з носа цячэ, калі яна выйшла насустрач.

Бабуля ім растлумачыла, чаму так:

— Гэта ж вам не Пятроўка. У Пятроўку — горадна, а ў Піліпаўку — холадна.

— Ну, хопіць,— груба перабіў яе Няўмыка.

Ён ходзіць па хаце ў добрых валёнках, у доўгім дубленым кажуху, на плячы вінтоўка ўгару прыкладам. Пад яго цяжкімі крокамі рыпаюць масніцы.

— Паступіў загад збіраць для нямецкага войска цёплыя рэчы. Калі хочаце, каб бальшавікі не вярнуліся, трэба дапамагчы Германіі,— аб'явіў ён і выцягнуў з кішэні зашмальцаваны школьны сшытак.— Сырцовы? — грозна спытаў ён і, паслініўшы аловак, пачаў штосьці крэмзаць на паперы чырвонымі адубелымі пальцамі.

— Гэта чым жа я дапамагу той Ярманіі? — здзівілася бабуля.— Хіба што спадніцу аддам... Вось світка ёсць.— Яна паказала паліцаю латаную-пералатаную ватоўку.

Няўмыка скрывіўся, быццам нешта кіслае з'еў.

— Ды я ведаю. Ва ўсіх адна і тая ж песня, а кажухі і валёнкі пахавалі. Вось мы зараз паглядзім...

— Холёд,— умяшаўся ў размову немец. Ён паказаў бабулі на замёрзлае акно і растлумачыў: — Эс іст кальт...[1] Бр-р-р!

І паказаў, як яго прабірае мароз.

— А чаму ж ваш Гітлер вам не даў кажухоў? — спытала бабуля.— Хіба ён не ведаў, куды пасылае?

Пачуўшы слова «Гітлер», немцы насцярожыліся і запытальна паглядзелі на Няўмыку, што той скажа.

А Няўмыка глянуў спадылба і буркнуў:

— Прыкусі язык, старая качарга...

І прыступіў да справы. Ён перавярнуў усё дагары нагамі ў скрыні. Ніякіх кажухоў там, зразумела, не было. Ператрос матчыну пасцель, заглянуў пад ложак і палез да нас з Глыжкам на печ.

— Дзіця там хворае,— кінулася наперарэз бабуля.

Няўмыка адпіхнуў яе ўбок, нібы сухую былінку.

— Ведаем мы вас...

І сцягнуў з мяне мой кажушок.

Гэта быў не бог ведае які кажух. Яго перашылі мне са старога бацькавага. Было на ім некалькі латак, былі ў ім і дзве-тры дзіркі. Руды Няўмыка доўга круціў адзежыну ў руках, быццам ён не забіраў проста так, а купляў на базары і баяўся пераплаціць.

— Швах...— адгукнуўся ад печы адзін з немцаў.— Зэр швах[2].

— Вось і я кажу,— радасна падтрымала яго бабуля,— па швах ледзь ліпіць... Ды і сіроцкі гэта. Грэх браць...

— А мы за грэх ды ў мех,— крыва ўхмыльнуўся Няўмыка і кінуў кажушок на падлогу.— Гут,— падбадзёрыў ён немцаў.— На рукавіцы можна перашыць...

---

[1] Холадна... *(ням.)*

[2] Дрэнны, вельмі дрэнны *(ням.)*.

І паказаў ім свае аўчынныя рукавіцы.

І раптам бабуля спалохана вохнула і з лямантам кінулася на печ. Там Няўмыка развязваў яе чорны клунак.

— Што ты робіш, ірад? — загаласіла старая.— Я ж на смерць берагу...

Ад моцнага штуршка ў грудзі яна адляцела на сярэдзіну хаты і зноў коршакам учапілася за Няўмыкаў кажух.

— Не руш, Аўдзеіч. Не крыўдзі старога чалавека. Бог цябе пакарае. У чым жа на могілкі мяне панясуць?..

На гэты раз бабуля адляцела яшчэ далей, паваліла ўслон. Грымнуўся аб падлогу гладыш і рассыпаўся на чарапкі.

Немцы стаялі на тым жа месцы і з цікавасцю назіралі за гэтай няроўнай барацьбой. Глыжка са страху зашыўся за комін, я хацеў злезці з печы, заступіцца за бабулю, ды сарваўся з прыпечка і разбіў аб жалезны ложак скроню.

Апрытомнеў я зноў на чарэні. Расплюшчыў вочы — ляжу, укрыты посцілкай, зірнуў на жэрдку — няма клунка, толькі пляцёнка цыбулі. Нада мной заплаканы бабульчын твар.

— А дурненькі ты,— ласкава папракае яна мяне.— Хіба так можна? Табе ж ляжаць трэба...

— Забралі? — спытаў я, хоць і так было ўсё ясна.

Бабульчыны вочы наліліся слязьмі. Яна гучна высмаркалася ў фартух і ўздыхнула:

— Каб іх за жывот так узяло ды не адпусціла.

Мне шкада кажушка, шкада і бабульчынага клунка: такая прыгожая была гаруска. Толькі, калі добра падумаць, тут ёсць чаму і радавацца. Немцам холадна, так ім і трэба. Справы ў іх неважнецкія, калі Германіі спатрэбіўся мой кажушок.

Ды і бабулька, мабыць, цяпер не будзе так часта збірацца паміраць. Няма пасагу — трэба нажыць.

Але яна, напэўна, думае інакш. Цэлы дзень ходзіць сама не свая. За што ні возьмецца — усё з рук валіцца. Увесь час уздыхае ды вохкае. І толькі пад вечар старая крыху супакоілася. Нарэзала сечкі карове, прынесла вады, а потым села ў парозе на ўслон, склала на прыпале рукі і ўздыхнула:

— Нічога не зробіш. Для чаго я сабе яго берагла — няхай ім для таго будзе...

Гэта яна пра свой пасаг.

## 22. НЯМЕЦКІЯ ЖАРТАЧКІ

Калі зіма сустракаецца з летам, гэта называецца Стрэчаннем. Так нам бабуля казала. У гэты дзень трэба, каб певень напіўся пад страхой вады. Тады будзе добра. Тады на нейкае там свята вол пад'есць травы. У нас, праўда, вала няма, але ёсць карова. Яна траву таксама любіць.

Вокны ўжо адталі, скінулі калматы снежны кажух, і ў хаце светла ад сонца. Яго праменні заглядваюць у вядро з вадой, і па стале бегаюць палахлівыя зайчыкі.

Глыжка з самай раніцы прыліп да шыбы. Яму вельмі хочацца ўбачыць, нап'ецца певень з-пад страхі ці не. Яму надакучыла зіма.

Надакучыла зіма і мне. Я доўга качаўся пасля хваробы на печы, а потым, калі крыху ачуняў, не мог выйсці на вуліцу — не было чаго апрануць. Кажушок забраў Няўмыка на патрэбы Германіі. Праўда, Германія атрымала дулю, а не кажух. Яго адрамантавалі, пацягнулі зверху матэрыяй. У ім цяпер катаецца на каньках Рудзька, Няўмыкаў вырадак. А Сава раскашуецца ў бабульчынай хустцы.

Кажуць, у нядзелю ў царкву прыходзіла: зверху цёплая хустка, а спадыспаду — гаруска.

Я таксама сяджу побач з Глыжкам і з захапленнем гляджу на вуліцу. Там радуюцца цеплыні вераб'і, скачуць, весела жыўкаюць: жыў-жыў! Мне б іхнія клопаты.

Падставіўшы бок пад сонца, грэецца карова. Яна ад задавальнення жмурыць вочы і штосьці жуе. У расталым смецці капаюцца нашы тры яшчэ няз'едзеныя немцамі курыцы і певень. Чорны, абмарожаны грэбень у яго, мабыць, баліць, але ён трымаецца гогалем, расхаджвае важна, як паліцай, і ўсё павышае голас на курэй, увесь час да іх прыдзіраецца. А вось ісці піць ваду пад страхой ён і не думае. Затое напілася рабая.

— Баб, а калі кулыча? — крычыць ад акна Глыжка.

Бабуля сядзіць пад падлогай, перабірае бульбу. На братаў голас яна высунула галаву, абвешаную павуціннем:

— Што курыца?

— Калі кулыча нап'ечча, будзе вол тлаву ешчы?

Бабуля на хвіліну задумалася, а потым упэўнена сказала:

— Будзе!

І зноў схавалася пад падлогу. Ёй няма часу з намі тачыць лясы — трэба бульбу перабраць: што варыць, што на насенне.

Пад ложкам са шчыліны ў падлозе выцягнуўся на святло парастак. Расце ён ужо даўно. Спачатку паказаўся сіняваты зубок, дужы і ядраны, поўны сілы, якую дала яму маці-бульбіна, поўны надзеі, што пусціць карэнне ў зямлю, што будуць ліць на яго цёплыя дажджы, што будзе над ім сонца. Але парастак паспяшаўся. Над ім няма неба, а толькі дошкі ложка ў павуцінні, не льюць дажджы,

а стаіць затхлае, сухое паветра, няма і сонца. Парастак не хоча з гэтым мірыцца, ён расце і расце насуперак лёсу. Але абставіны мацней за яго. Ён выцягнуўся і пабялеў, стаў кволы і вялы — у бульбіны ўжо не хапае соку. Не сёння, дык заўтра яе знойдзе бабульчына рука, абарве крохкую сцяблінку, белыя мяккія карэньчыкі. Бульбіну пакладуць у чыгун і зварaць, а парастак выкінуць на смецце...

Мы таксама з Глыжкам падраслі за зіму, як той парастак. Глыжка стаў худы, твар у яго зеленаваты, плечы вострыя, вострыя і лапаткі. А я, на думку бабулі, і зусім зацвіў. Гора ды хвароба нікога не красяць.

Сёння на вуліцы вясна звоніць пад стрэхамі ледзяшамі, сонца адбірае вочы, і бабуля дазволіла крыху пабыць на двары. Я апрануў яе світку, выскачыў на вуліцу і пабег да Санькі. Мы не бачыліся аж з мінулага тыдня. Тады Санька заходзіў да мяне на водведы і прынёс цэлы абярэмак навін.

У Санькавай хаце ўжо месяц жыве трое немцаў. Бабулю, маці і самога Саньку яны выгналі ў трысцен, а ў хату нацягалі нейкіх скрынь з радыёлямпамі. У двары немцы паставілі доўгую жэрдку і на самы яе верх прычапілі дрот з нейкім абручом. Другі канец дроту правялі ў хату.

— Дык гэта ж радыё,— здагадаўся я.

Цяпер немцы па чарзе ў навушніках дзяжураць каля самай вялікай скрыні, над якой устаноўлена нейкая хвароба ў выглядзе рамкі з жалезнага тоўстага дроту. Немец спакваля паварочвае гэтую хваробу то ў адзін бок, то ў другі, а скрыня пішчыць, быццам у ёй поўна пацукоў і мышэй. Гэты піск і слухае немец ды штосьці ў сшытак запісвае.

Усё гэта Санька ўласнымі вачыма бачыў праз шчыліну ў дзвярах, і ён думае, што гэта тое, чым знаходзяць, адкуль гавораць па радыё партызаны.

Так і большыя хлопцы гавораць: Косцік Буслік, напрыклад, з сёмага класа. Больш таго, Санька паказаў мне чорную, відаць, перагарэлую радыёлямпу. Праўда, ён бажыўся, што лямпа цэлая, што ён яе сцягнуў з-пад самага носа фашыстаў.

І вось мы з прыяцелем сядзім у кухні на прыпечку, праз адчыненыя дзверы назіраем, што робіцца ў пярэдняй хаце. Сапраўды, Санька не выдумаў. Скрыня пішчыць, мігае лямпачкамі, а даўганосы, з прылізанымі русымі валасамі радыст без мундзіра, у споднім кашулі курыць цыгарэты і круціць раму.

— Гэта Рауль,— шэптам пазнаёміў мяне Санька з немцам.

Другі, у акулярах, тоўсты, з абвіслымі, налітымі салам шчокамі, расселся за сталом і абедае. На стале кавалак сала, з дзесятак яек і цагліна нямецкага хлеба, загорнутага ў празрыстую паперу.

— А гэта Пауль,— прадставіў таўстуна Санька.— Есць, як карова, і вясёлы, гад! Усё яму жартачкі.

Пауль, нібы кот, мармыча сабе пад нос напханым ротам песеньку і падміргвае нам. Сапраўды, весялун. Вось ён бярэ са стала яйка, раскалупвае і вылівае ў рот:

— Оп!

Пры гэтым ён зноў падміргвае нам маленькім, прыпухлым вокам, калупае другое яйка і зноў:

— Оп!

Па-мойму, ён нават забыўся ўкусіць хлеба. Хіба так яйкі ядуць? Мы з Санькам, калі здараецца, з адным можам аплесці па лусце хлеба. Можам нават хлеб без яйка. Толькі бабуля дае па мерцы. Прыкіне на вока, адрэжа к баршчу, і больш не прасі.

А Пауль:

— Оп!

З печы саскочыў лянівы Санькаў кот. Ён пацягнуўся, пазяхнуў ва ўсю сваю кацiную пашчу

і, падняўшы хвост клічнікам, падаўся да Пауля. Абышоўшы пару разоў вакол стала, кот як бы без ахвоты мяўкнуў і пачаў церціся аб немцавы боты. Пауль не адштурхнуў ката, а заглянуў пад стол і заўсміхаўся.

— О! — узрадаваўся ён.— Рускі кошка. Гутэн таг![1] Рускі кошка хоцел кушат?

І ён кінуў на падлогу кавалачак сала. Санька ўздыхнуў. У іх зусім дрэнна з ежай. У нас хоць бульбы хопіць да шчаўя, а цётка Марфешка ўжо зараз па родзічах ходзіць: хто ячменю з паўвядра дасць, хто пуд бульбы. Яна зараз не шые. Немцы не дазваляюць. Ім не чуваць, як піпкае ў навушніках, калі на кухні строчыць машына.

— Каб яго чарвякі елі,— сказаў Санька ці то пра немца, ці то пра ката і ўздыхнуў.

Дома маці няма, і калі будзе той абед, яшчэ невядома.

— Во, паразіт, меліць,— кіўнуў я на ката.

— Вельмі мне трэба смярдзючы шпэк! — з пагардай адазваўся Санька і нават зморшчыўся.

А кату хоць бы хны: есць на поўны рот і толькі хыркае ад задавальнення. Наеўшыся, Пауль адкінуўся на спінку крэсла, сыта ікае, назірае за катом, за намі, дыміць цыгарэтай і ўвесь час усміхаецца. Відаць, штосьці смешнае надумаў.

Нарэшце кот соладка аблізаўся, панюхаў падлогу, крыху яшчэ пасядзеў і, зразумеўшы, што нічога больш не выседзіш, хацеў падацца на печ. Але Пауль не збіраўся адпусціць яго проста так. Ён вырашыў паказаць да канца сваю гасціннасць.

— Рускі кошка караша кушаль. Рускі кошка даваць айн цыгарэт!

І пачалася шумная валтузня. Кот вырываецца, жаласліва мяўкае, а тоўсты Пауль рагоча на ўсю

---

[1] Добры дзень *(ням.)*.

глотку, пхае яму ў зубы цыгарэту і падміргвае нам вокам. Вось, маўляў, які я жартаўнік!

Нарэшце прылізаны Рауль, які сядзеў з навушнікамі за скрыняй, не вытрымаў, штосьці злосна буркнуў і паказаў на апарат. Відаць, яму з-за шуму дрэнна чуваць, як пішчыць скрыня.

Пауль выйшаў на кухню, зноў пхае кату цыгарэту. Той круціцца, адварочвае морду і не хоча курыць. Нарэшце, злаўчыўшыся, ён драпнуў немца за руку.

Пауль перастаў рагатаць. У вачах яго мільганулі злосныя агеньчыкі. Але толькі на адзін момант, мільганулі і патухлі. Яго тоўстыя, масляныя губы зноў расплыліся ва ўсмешцы. Фашыст падміргнуў нам з Санькам і сказаў ці то жартам, ці то сур'ёзна:

— Рускі кошка іст партызан...

Кот заверашчаў, быццам з яго жывога здзіралі шкуру. Ён ірвануўся з апошніх сіл, яшчэ раз драпнуў немца за руку і маланкай сігануў за комін: Пауль прысмаліў яму гарачай цыгарэтай нос.

— Партызан капут! — паведаміў нам пасля гэтага фашыст і, разглядаючы сваю руку, пайшоў у пярэднюю хату.

А тут, ля печы, застаўся толькі непрыемны пах паленай кацінай поўсці.

Мне трэба ўжо ісці дамоў, ды вельмі ж цікава, што будзе далей, якога коніка яшчэ выкіне Пауль. Па ўсім відаць, справа з катом не скончылася. Насвістваючы нейкую песеньку, Пауль падышоў да скрынкі і пачаў перабіраць тонкія, рознакаляровыя дроцікі, шнуркі, спрабаваць іх рукамі, ці трывалыя. Мы з Санькам трывожна пераглянуліся. Што ён збіраецца рабіць? Хоча звязаць ката, а можа... павесіць? У гэты час прылізаны немец зняў навушнікі і паклікаў Пауля. Ён тыцнуў пальцам у свой наручны гадзіннік і нешта сказаў. Пауль

паказаў свой гадзіннік і агрызнуўся. Яны пачалі спрачацца. Аднекуль з-за сцяны выйшаў трэці немец, заспаны і злосны. Пазяхнуўшы так, што ў роце аж нешта хруснула, ён гыркнуў на Пауля і Рауля, і тыя, як нашкодзіўшыя хлапчукі, вінавата змоўклі, выцягнулі рукі па швах.

— Курт,— растлумачыў мне Санька.— Ух, і злы, як ваўкадаў!

У яго знешнасці сапраўды ёсць нешта такое ад ваўкадава. Асабліва ніжняя сківіца. Я падумаў, што ў ёй будзе, мабыць, [redacted] паўпуда. Яна адвісае пад уласным цяжарам, і каб закрыць пашчу, ваўкадаву даводзіцца, напэўна, ужываць немалую сілу.

Пагыркаўшы, Курт-ваўкадаў апрануў мундзір, і яны [redacted] прылізаным выйшлі [redacted] хаты. Па дарозе абмацалі нас з Санькам вачыма, але нічога не сказалі.

— На разжыву,— упэўнена заявіў Санька.— Кожны дзень ходзяць па хатах. Пакуль яек па касцы не назбіраюць, не вернуцца.

Каля апаратуры застаўся адзін Пауль. Але не паспелі зачыніцца дзверы, як ён таксама скінуў навушнікі і падаўся на двор.

Тут Санька пацягнуў мяне за рукаў і прапанаваў:

— Пойдзем паглядзім.

Санька тут, як гаспадар, папстрыкаў нейкімі кнопкамі на апараце. Пстрык — лямпачкі патухлі. Пстрык — загарэліся.

— А гэта вось батарэі. Вазьміся пальцам.

Я ўзяўся — крыху тарганула. А потым Санька схапіў навушнікі, паслухаў сам і дазволіў мне. Нічога не разбярэш — толькі піпкае.

Каля сцяны, на падстаўцы, збітай з дошак, тры вінтоўкі. Вядома, не паглядзець іх таксама нельга. Урэшце, мы павінны ведаць і зброю ворага — гэта нам не пашкодзіць. Я схапіў першую, якая трапілася мне пад рукі, вінтоўку і павярнуў затвор.

З задняй яго часткі высунулася нейкая круглая штука. Я паставіў ручку затвора на месца, а штука так і засталася, не схавалася. Ну, цяпер усё, цяпер нам капут. Паспрабавалі запхнуць штуку пальцамі — не паддаецца.

— Трэба націснуць на спуск,— сказаў я Саньку.

— А калі там патрон? — спалохаўся ён.

Калі там патрон — грымне стрэл. Тады і зусім нашы справы дрэнь.

Можа, мы і выйшлі б неяк з цяжкага становішча, можа, мы і засунулі б як-небудзь тую штуку на месца, ды ў гэты час зарыпеў ганак. Нас нібы злізала карова языком.

Адчыняюцца дзверы, а мы з Санькам ужо зноў сядзім на прыпечку, і выгляд у нас самы рахманы.

Калі б Пауль паглядзеў на нас, ён убачыў бы самых дабрачынных людзей, якім няма справы да розных там вінтовак, якія і не думаюць ісці ў партызаны. Але ён не павярнуў у наш бок і галавы. Жаласна зарыпела пад яго цяжкай тушай падлога. Пауль падыходзіць да падстаўкі, бярэ тую самую вінтоўку, якую мы толькі што разглядалі з Санькам, цэліцца ў наш бок і не спяшаючыся ідзе да прыпечка. Ён свідруе мяне вузенькімі, заплыўшымі вачыма, а па налітых салам шчоках ходзяць злосныя жаўлакі. Я не адводжу позірку ад яго лютых вачэй і думаю: зноў жартуе ці не? Чорнае вочка дула ўсё бліжэй і бліжэй. На спускавым кручку тоўсты палец, на пальцы белы бліскучы пярсцёнак. Зараз палец уздрыгне і гэта жалязяка плюне ў мяне агнём.

Мы з Санькам нібы прымерзлі да цёплых цаглін, сядзім, не дыхаем.

Немец прыставіў вінтоўку да майго носа, стаіць і маўчыць. Маўчу і я, пазіраю, як вол з-пад абуха.

І раптам:

— Пу!

Гэта быў не стрэл. Гэта Пауль крыкнуў на ўсю сілу сваёй луджанай глоткі. Я падскочыў, як абвараны, а Пауль ледзь не поўзае па падлозе.

— Ха-ха-ха-ха!

Трасецца тоўсты жывот.

— Гы-гы-гы-гы!

Твар стаў чырвоны, як бурак. Крывёю наліліся шчокі.

— Аха-ха-ха-ха!

Ад смеху на вачах з'явіліся слёзы.

— Іхі-хі-хі-хі!

Праўду Санька казаў — вясёлы, гад, усё яму жартачкі. Санька сядзіць побач, белы як палатно, а на яго носе выступілі кропелькі поту. У мяне, відаць, выгляд таксама не вельмі геройскі, і таму немец ніяк не можа суняцца.

— Ого-го-го-го!

Калі ён крыху супакоіўся, то пачаў чытаць нам мараль:

— Рускі кнабе[1] нікс карош. Рускі кнабе іст партызан. Партызан — пу!

Я іду дамоў і думаю пра тое, што бачыў і што перажыў у Санькавай хаце. Вядома, гэты Пауль крыху ненармальны, як гэта гаворыцца, цопнуты з-за вугла мяшком, а ў мяшку калун быў. Нават есці па-людску не ўмее: па цэламу яйку вылівае ў рот і хлеба забывае ўкусіць.

Ката Санькавага Пауль усё-такі павесіў. На другі дзень ён узяў тоненькі гнуткі дроцік, зрабіў пятлю і задавіў на галіне бэзу перад акном. Усім траім радыстам было вельмі смешна.

Кот, схіліўшы галаву набок і выскаліўшы тонкія вострыя зубы, цэлы дзень матляўся на халодным ветры.

---

[1] Хлопчык *(ням.)*.

## 23. «НАВОШТА МНЕ ТВОЙ ЦУРЫК?»

Неяк вясной, калі з палёў ужо збегла вада, а на двары раніцой яшчэ хрупалі пад нагамі кволым лядком рэдкія лужыны, у нашай хаце спыніліся два немцы-фурманы. У двор яны заехалі з падводай, распраглі коней і пачалі распараджацца, як гаспадары. Адзін з іх злазіў на гарышча, знайшоў курынае кубло, і ў хаце засквірчэла яечня.

Мы з Глыжкам сядзім на печы, выглядаем з-за коміна і думаем: няўжо яны ўсё падужаюць з'есці? З'елі.

— Каб ім шкулля ў бок,— сказаў на гэта мой брат і, уздыхнуўшы, лёг спаць.

Але Глыжкавы праклёны не дапамаглі. Скулле ў немцаў не павыскаквала. Раніцой яны адкруцілі яшчэ галаву нашай рабой курыцы, засмажылі яе, з'елі і толькі пасля гэтага сабраліся ехаць. Адзін выносіць з хаты свае манаткі: шынялі, каскі, бляшанкі процівагазаў, а другі запрагае коней.

Калі падвода выехала за вароты, бабуля з палёгкай уздыхнула, паслала ім услед сваё «каб вас пераехала...» і, бразнуўшы вядром, пайшла да калодзежа. Мы [redacted] Глыжкам злезлі з печы і давай шныпарыць па хаце: можа, немцы што забылі. Але забылі яны небагата: пусты пачак з-пад цыгарэт ды скамечаную нямецкую газету. У газеце на фотаздымку быў Гітлер. Ён вешаў салдату на грудзі крыж. Пачак я аддаў Глыжку, а сабе ўзяў з яго толькі белую бліскучую паперку. Газету пакруцілі-павярцелі — нічога не разбярэш — кінулі ў парог. Неўзабаве прыбягае дамоў бабуля, разгубленая, заплаканая і злосная.

— А дзе вядро? — пытаюся я.

— Адчапіся хоць ты! — злуецца яна.— Вядро паехала.

— Куды паехала? — цікавіцца Глыжка.

— Можа, у Ярманію, можа, яшчэ куды,— разводзіць рукамі бабуля і сварыцца сама на сябе: — Гэта ж трэба мне быць такой: старая, а дурная. Мазгі высахлі.

А ля калодзежа адбылося вось што. Толькі бабуля набрала вады, як пад'ехалі нашы начлежнікі. Адзін з іх саскочыў з падводы і да бабулі:

— Гіб![1]

Выхапіў вядро [redacted] рук і панёс каню. Біцюг выжлукціў поўнае вядро за мінуту. Бабуля зачэрпала новае.

А немец зноў:

— Гіб!

Другі біцюг таксама са смакам напіўся, паскрыгатаў зубамі. Пасля гэтага немец шпурнуў вядро на падводу, махнуў лейцамі.

Бабуля спачатку разгубілася. Яна была ўражана такім нахабствам і не ведала, што рабіць, а калі схамянулася, пабегла следам:

— Пан, а вядро?

Немец смяецца.

— Вядро, кажу, давай,— не сунімаецца старая і працягвае рукі да падводы.

Тут немец раззлаваўся.

— Цурык!

Бабуля не адстае. Яна не можа ўцяміць, што крычыць гэты пан. Ёй шкада вядра. Яно амаль новае, ацынкаванае, перад самай вайной купленае ў сельмагу. Зараз такое днём з агнём не знойдзеш, ні за якія грошы не купіш.

— Аддай, нечысць, вядро! — настойліва патрабуе яна, а немец сваё:

— Цурык!

---

[1] Дай! *(ням.)*

Тут бабуля таксама не на жартачкі раззлавалася.

— Навошта мне твой цурык? Ты мне, нехрысць, вядро вярні!

Немцу надакучыла крычаць, ён зняў з шыі аўтамат.

— Каб ты ўтапіўся ў гэтым вядры, ідал! — крыкнула бабуля ўслед падводзе і пайшла дамоў.

Цяпер сядзіць і журыцца:

— Вось дурная дык дурная! Трэба было хоць той цурык узяць, пакуль даваў. А цяпер ні вядра, ні цурыка.

Я, як умею, тлумачу бабулі, што такое гэты самы цурык. Калі немец крычыць цурык, тут варон не лаві, а ўцякай, пакуль цэлы. У іх розуму хопіць: бабахне — і ўсё табе.

Бабуля крыху збянтэжылася, але ўсё ж знайшла сабе апраўданне:

— Дык чорт іх разбярэ, калі яны гавораць не па-людску, а гергечуць.

— Як гэта гергечуць? — дапытваецца Глыжка, і бабуля з ахвотаю тлумачыць:

— Вядома як, мой унучак. Збяруцца — і гергер-гер, што сабакі.

А сама спрытна хапае вілкамі чыгунок з печы і ставіць яго на ўслон. Смачна пахне адцэджаны ў міску бульбяны адвар. Як карова перастала даіцца, бабуля яго не вылівае ў ражку, а накрышыць у яго цыбулі, і мы лыжкамі сярбаем гэтую юшку з бульбай. Ежа не панская, ды ўсё ж лепш, чым есці нішчымную бульбу.

Пакуль мы зверху чыгунка здымалі і елі пахкія, саланаватыя прыгаркі, бабуля схадзіла ў сенцы і прыйшла адтуль з... нямецкай гранатай. Я, як абвараны, выскачыў з-за стала.

— Баб, што гэта? Дзе ты ўзяла?

Яна хітра паглядзела на мяне і, задаволеная сама сабой, пахвалілася:

— Ды прыхавала, пакуль яны курыцу ганялі. Вядро забралі, дык няхай хоць гэта будзе. Добры таўкачык!

Не паспеў я і рота раскрыць, як граната была ўжо абмыта ў вадзе, выцерта ручніком і раз ці два паспела таўкануць гарачую бульбу ў чыгунку.

— Гэта ж граната! — закрычаў я, кідаючыся да стала, каб выхапіць з рук таўкачык.

Бабуля войкнула і адскочыла ў парог. Выгляд у яе разгублены, рукі цярэбяць зашмальцаваны фартух, а вочы з жахам глядзяць на стол. Там дыміць бульба і з чыгунка тырчыць драўляная ручка гранаты. Глыжка залез пад стол і маргае там спалоханымі вачыма.

Я выхапіў гранату з чыгунка і выбег на двор. Да шэрай металічнай бляхі прыліпла камякамі таўчонка. За хлевам я выцер гранату саломай, схаваў яе ў кучу леташняга бульбоўніку, а бабулі сказаў, што выкінуў у раўчак.

— І правільна,— пахваліла яна мяне.— Трэба было, каб ніхто і не знайшоў. Гэта ж дзіва, што робіцца на свеце: гляджу — рэч такая акуратная, ну, думаю, бульбу добра таўчы, аж яно вунь што!..— усё ніяк не можа супакоіцца бабуля.

У той жа дзень граната была перахавана. Яна апынулася на гарышчы Санькавай хаты разам са скрынкай патронаў.

Дзякуючы бабульчынай прамашцы мы з Санькам цяпер узброены значна лепш.

## 24. ШТАНЫ З АРЛОМ

Гэта я маю на ўвазе свае новыя штаны. Але і старым штанам будзе крыўдна, калі не ўспомніць іх добрым словам. Таму я раскажу ўсё па парадку.

Мае старыя штаны мне купіў бацька, калі яны былі зусім новыя. Гэта адбылося яшчэ да вайны, перад Першамайскім святам. Вельмі спадабаліся мне ў іх кішэні: шырокія, глыбокія. У гэтыя кішэні можна пакласці паўвоза розных гаек, старых цвікоў, каменьчыкаў для рагаткі і ўсялякага іншага дабра.

Штаны спадабаліся мне яшчэ і сваёй незвычайнай трываласцю. Бацька ўмеў выбіраць матэрыю. Ён не звяртаў асаблівай увагі на колер тканіны, абы не маркія, а спрабаваў на разрыў. Дзябёлыя, не трашчаць — значыць, добрыя. Аднойчы я павіс, зачапіўшыся штанамі, на плоце і правісеў там паўгадзіны, пакуль не зняў дзед Мірон. І вы думаеце, штаны разадраліся па жывому? Нічога ім не зрабілася, толькі па шву трэснулі.

Праўда, другі раз, калі я напароўся на цвік, яны ўсё ж паддаліся. Але Санька прыладзіў на дзірку добрую латку, і штаны сталі лепш за новыя.

Аднак бабуля лічыць, што калі б у мяне былі і жалезныя штаны, дык, мабыць, і тым бы я даў рады. Я думаю, што ў яе цэлая скрыня адзежы, што яна зараз выцягне мне абнову і скажа:

— На, насі, Іван!

А дзе яе ўзяць, у мяне галава не баліць.

Толькі дарэмна бабуля мяне папракае: баліць галава, яшчэ і як баліць! Ад старых магазінных штаноў засталіся адны добрыя ўспаміны. На іх нават латкі латаныя. Яны ледзь ліпяць і свецяцца, як сіта. Зараз яшчэ нічога сабе, на печы можна коўзацца, а летам і на людзі не выйдзеш. Гэта зараз самая галоўная перашкода на маім шляху ў партызаны. Без штаноў, мабыць, не прымуць. Дык як жа тут не балець галаве?

І вось аднойчы прыносіць бабуля ў хату нямецкі мех, рассцілае яго на стале і кліча мяне з печы, дзе я чытаю кніжку пра дзеда Талаша.

— Паглядзі-тка, мой хлопец! — просіць яна.

Я гляджу. Мяшок новы, шчыльны, трывалы. Крыху дзябелаваты, праўда, але ж немцы не ведалі, што такому пану, як я, будуць з яго шыць адзежыну. Дзе бабуля здабыла гэты мяшок, яна не гаворыць. На ўсе мае пытанні толькі адмахваецца:

— Дзе ўзяла, там і ўзяла...

Але нарэшце не вытрымала і растлумачыла больш падрабязна:

— У Ярманію збегала і купіла!

З гэтага мяшка будуць раскошныя штаны. Адно мне толькі не падабаецца: чорны арол са свастыкай. Бабулі ён таксама не па душы, ды што ты зробіш? Яна спрабавала яго адмыць, празаліла нават у жлукце[1], а арлу — хоць бы што, як сядзеў, так і сядзіць. Штаноў [redacted] нямецкім арлом я насіць не буду. Няхай бабуля на гэта не спадзяецца.

Бабуля пакрыўджана падбірае губы і злуецца:

— Вялікі асэсар! Зносіш, калі прыпрэ...

Аднак яна ўсё ж паабяцала зрабіць так, каб гэты арол не вельмі кідаўся ў вочы. Яна яму месца знойдзе, тым больш што зусім не абавязкова, каб ён свяціў наперадзе.

Мая бабуля — чалавек беражлівы. Яна кроіць мяшок так, каб дарэмна не прапала ніводнага кавалачка. Матэрыі цяпер не купіш, а выткаць няма з чаго. Ды і хто гэта мне будзе ткаць? Вось ажанюся, тады няхай жонка і тчэ.

Да вайны я аднойчы бачыў каля сельсавета матроса ў белай кашулі, у бесказырцы са стужкамі, але больш за ўсё мы, хлапчукі, зайздросцілі, пазіраючы на шырачэзны чорны клёш. Цяпер, напэўна, той матрос пазайздросціў бы майму клёшу. Першы раз я нават у ім заблудзіўся і трапіў абедзвюма нагамі ў адну калашыну, а потым неяк усё ж выблытаўся.

---

[1] Ж л у к т а — дзежка без дна для празольвання бялізны.

Штаны пашыты трывала — суровымі, вошчанымі ніткамі. Праўда, сцяжкі велікаватыя і няроўныя, дык чаго ж я хацеў ад старой бабы! Яна ж не машына. Добра, што яшчэ так зляпіла. А што велікаватыя — не бяда. Мне хопіць іх навек. Я буду ў іх жаніцца.

Бабуля пакруціла, павярцела мяне, крытычна агледзела справу сваіх рук і задаволена адзначыла:

— Ну вось, зусім іншы хлопец. На чалавека падобны. Скідай, гузік прышыю.

Не, сапраўды добрыя штаны, і арол не мазоліць вочы. Калі сядзіш, дык яго і зусім не відаць.

Хлапчукі спачатку смяяліся з майго арла. А Санька дык яшчэ і крытыкаваў бабульчыну працу: і пояс не так прышыты, і кішэня касабокая. Санька — спец. Але паступова на маю абнову перасталі звяртаць увагу. Толькі мянушка да мяне новая прыліпла — Матрос.

Аднойчы ў нядзелю я, Санька і Міцька Малах сабраліся на вуліцы, супраць нашай хаты, пагуляць у чыжыка.

Глыжка пад нагамі таўчэцца, шморгае носам і крыўдзіцца:

— Ушо шамі ды шамі, і я буду...

Мая чарга біць, а Санькава ісці ў поле пасвіць. Толькі гэта я прыладзіўся добра ўрэзаць па чыжыку, як чыясьці дужая рука балюча ўзяла мяне за вуха. Гэта была рука Няўмыкі. Ён заўсёды з'яўляецца там, дзе яго не чакаюць, заўсёды прыходзіць туды, куды яго ніхто не кліча. Сёння ён нават без вінтоўкі, толькі гумавая палка пры ім. Руды твар яго раздаўся ў шырыню ад добрага харчу. Вочы прыжмураныя, пякучыя і злыя.

— Больш не буду! — заенчыў я, бо вуха аж затрашчала. Мне здавалася, што яно там ледзь трымаецца: вось-вось адарвецца.

За вуха ён і прывалок мяне ў хату.

Бабуля перапалохалася. Яна думае, што я натварыў там бог ведае чаго. Ад мяне, бязбацькавіча, можна ўсяго чакаць, апрача хіба дабра.

— Гэта што такое? — грозна паказвае паліцай на мае новыя штаны.

— Штаны! — усё яшчэ нічога не разумеючы, нясмела адказвае бабуля.

— Штаны-ы! — здзекліва цэдзіць скрозь зубы Няўмыка.— Прыкідвайся дурніцай! Адкуль ваеннае імушчаства, я пытаю?

Тут бабуля ўсё зразумела і пачала клясціся:

— Няхай мяне маланка заб'е на гэтым месцы, Аўдзеіч, у салдата на яйкі выменяла.

Няўмыка не верыць. Ён кінуў маё вуха і збіраецца скласці пратакол. Ён добра ведае, чым мы дыхаем і што мы за народ. Мы народ такі, што спім і думаем, як бы пагрэць рукі на маёмасці нямецкай арміі. Мы пры бальшавіках занадта распусціліся, а цяпер нам лейцы нацягнуць.

Бабуля паспешліва выходзіць у сенцы і вяртаецца адтуль з запыленай бутэлькай пад фартухом. На стале з'яўляюцца сырыя яйкі і акраец хлеба.

— Слухай, Аўдзеіч, ну яго к чорту, гэты пратакол. Ты ж наш чалавек, падлюбскі,— просіць старая.— Вось спытай у каго хочаш — выменяла.

Няўмыка коса глянуў на стол, крыху памуляўся, а потым выпіў адну шклянку — ахнуў, выпіў другую — таксама ахнуў і ледзь-ледзь паверыў.

— Ну, глядзі, старая качарга,— ужо больш міралюбна сказаў ён,— другі раз — усё! Пратакол — і ўсё!

А потым павярнуў мяне да бабулі спінай і зноў спытаў:

— А гэта што такое?

— А ліха ж яго ведае, Аўдзеіч. Непісьменная. Птушка нейкая быццам намалявана, ці што.

— Я табе дам — птушка! — зноў раз'юшыўся паліцай.— Вось пацягну пару разоў — паразумнееш. Гэта сімвал нямецкай улады!

Бабуля вінавата разводзіць рукамі.

— Глядзі ж, каб не было!

І выйшаў з хаты.

Вось тут бабуля і дала сабе волю.

— Каб цябе п'яўкі пілі, ірад. Берагла аратаму, дык вось выжлукціў, руды сабака. Ну і прычапіўся, сатана: імушчаства, імушчаства. У Ярманію збегала і купіла.

Потым пачала мяне зноў разглядаць, як на прымерцы, пацiскаць плячыма.

— Хм, і чым яму тут паганае месца, сіньвалу гэтаму самаму?

Але штаны ўсё ж пафарбавала. Фарбу сама прыдумала: намяшала шалупіння з цыбулі, альховай кары, яшчэ чагосьці. Доўга ўсё гэта варыла, пераварвала, моршчылася ад непрыемнага паху. Потым узяла мае штаны, кінула іх у чыгун, сказала:

— Дай Бог у добры час...

Штаны зрабіліся рудыя, як наша карова, і нават з такімі ж плямамі. У іх мяне спачатку і наш Жук не пазнаў, разы два гаўкнуў, а потым доўга прынюхваўся: не мог зразумець, я гэта ці не я. Але затое ў іх можна гойсаць цяпер дзе хочаш, пэцкаць у гліну, у попел — нічога не відаць. Хіба што ў дзёгаць залезеш, тады іншая справа.

## 25. ВЕЧАРЫ НА СКОКАВАЙ ПРЫЗБЕ

Я ўжо хлопец ладны, і няма чаго мне цэлымі днямі біць лынды. Калі бабуля была такая, яна пасвіла ўжо гусей і свіней у нейкага старога Вугнача. За гэта яе кармілі. Мне таксама нічога не зробіцца, калі ўскапаю якую граду, калі дапамагу выпалаць

проса, калі пакапанічу бульбу, калі прывалаку крыху травы, калі прыцягну мяшок торфу з балота. Не Вугначу гэта ўсё, ■ сабе. Мне чужы дзядзька гэтага не зробіць, і на бацьку спадзявацца не даводзіцца: можа, ён ужо там, дзе і матка. А пакуль бабуля жывая, яна не дасць мне вырасці лайдаком і валацугам. Вось калі яна памрэ, тады мне будзе воля, тады я магу і галаву сабе скруціць. Эх, і сумна ж гэта слухаць кожны дзень!

Затое вечарам я вольная птушка. На двары цёпла і суха. Можна бегаць і лазіць па раўчаку колькі хочаш. Адно кепска — цыпкі. Асабліва калі вылезеш з вады і на вецер. Скура трэскаецца, і ногі сухімі кропелькамі крыві абсыпаны, быццам макам. Тады да іх і дакрануцца нельга. А калі бабуля вечарам памажа іх сырадоем, лепшай катаргі і не прыдумаеш. Тут і наскачашся, і наплачашся, прыпомніш і дзядзьку, і татку, і родную матку.

Праўда, ногі табе памажуць, калі ў цябе не хапае глуздоў і ты сам прыцягнешся дахаты ў той час, як дояць карову.

Я ж не такі дурань, каб лезці на ражон. Ды мне і некалі. І Саньку, і Міцьку-Манголу, і Колю Бурцу — Храбраму Зайцу таксама некалі. Усе мы вечарамі круцімся каля Скокавай прызбы.

Тут у гэты час збіраюцца падлеткі, што ўжо танцуюць з дзяўчатамі польку, кракавяк і сербіянку. Буслікаў Косцік, які да вайны быў у сёмым класе, брынкае на балалайцы, а кавалеры з дзяўчатамі таўкуць босымі нагамі пыл на дарозе. Мы ж блытаемся сярод танцораў, кідаемся ў дзяўчат хрушчамі, за што атрымліваем удосталь ад іх кухталёў, а ад кавалераў — выспяткаў.

На адпаліраваным спадніцамі бярвенні, якое ляжыць пад плотам, колькі я памятаю, чынна рассядаюцца цёткі і маладзіцы. Тут усім верхаводзіць

сама Скачыха. Яе голас не сціхае ні на мінуту. Тра-та-та, тра-та-та — толькі слухай. Аднačасова Скачыха паспявае хутка, як машына, лузгаць чорныя сланечныя семкі. Яна без семак, як і яе муж без тытуню. Гэта ўжо і ў прыказку ўвайшло: «А мае вы таечкі, мне ж у горад трэба пазарэз — семкі выйшлі».

Так усе і гавораць: важная справа, як у Скачыхі ў горадзе.

У жанчын размовы жаласлівыя.

— А мае вы таечкі, ці чулі вы, што Нінка Падроба пісьмо з Германіі прыслала?

Сёлетняй вясной немцы забралі ў Германію каля дваццаці хлапцоў і дзяўчат. Плачу было на ўсё сяло, як па нябожчыку. Хто ўхітрыўся сабе хваробу ці калецтва якое нажыць, той застаўся, а астатніх па Няўмыкаваму спісу пагналі пад канвоем.

— А што яна піша? — цікавяцца маладзіцы.

Прыціхлі і мы, хлапчукі. Цікава ўсё ж, як там, у Германіі.

— Ды піша яна — добра,— уздыхае Скачыха,— а прыпісвае так, што матка з бацькам ужо тыдзень роўма равуць. Жыву, маўляў, у ласцы, як у казцы. Мне, маўляў, і не снілася, што так жывуць людзі, а прыпісвае так: хутка сустрэну свайго брата роднага.

Слухаюць маладзіцы, уздыхаюць, а ў якой слёзы блізка — ражком хусткі змахвае. Брат Нінчын апалчэнцам быў, у сіласнай яме ад нямецкай кулі злёг. Значыць, сустрэне яго Нінка на тым свеце. І толькі ж учора мы з хлопцамі разглядалі нямецкія плакаты на сельуправе. На фотаздымку красуецца круглатварая, прыбраная, як на Вялікдзень, прыгажуня. Яна на машынцы наразае хлеб і весела ўсміхаецца. А знізу надпісана: «Я працую ў фрау Шварцкопф. У мяне лёгкая праца, добрая ежа і

высокія заработкі. Прыязджайце на працу ў Германію».

— А Сцёпка Ладыміраў,— паведамляе Скачыха,— відаць, памрэ, мае таечкі.

— Дык чаго ж гэта ён напіўся?

— Тытуню параілі добрыя людзі настояць. Маўляў, паваляешся, пакуль бяруць у Германію, і ачуняеш.

— Ну, гэтага хоць на сваёй зямлі пахаваюць.

Мы з Санькам не маленькія, мы разумеем, што ад такога жыцця, як намалявана на сельуправе, роўма людзі не равуць і тытунь не п'юць. Сваю немку намалявалі і думаюць людзей абдурыць.

На прызбе збіраюцца мужчыны: падлеткі, дзяды. Тут верхаводзіць сам Скок. Як толькі ён выходзіць на вуліцу, мы перабягаем ад бервяна да прызбы: размовы мужчынскія цікавейшыя.

Дзядзька ведае процьму казак і быляў. Тут табе і пра дурнога пана, і пра хітрага мужыка, і пра храбрага салдата, і пра дужага волата, і пра двух сыноў разумных і аднаго дурня. Расказваць казкі Скок майстар. Скруціць цыгарку даўжынёй з качаргу і пачне:

— Далёка-далёка, за трыдзевяць земляў, куды і воўк не дабяжыць, куды і груган не даляціць, жыў ды быў...

І змоўкне. Выцягне крэсіва і краменьчыкам: ляп-ляп. Іскры ляцяць, а кнот не запальваецца. Вось мы тут і круцімся, быццам на гарачай чарэні: хто ж там жыў, хто там быў?

Любата паслухаць дзядзькавы казкі: і смешна, і страшна. Калі на дварэ цёмна, так і глядзі, каб цябе хапуны якія-небудзь не схапілі, старайся сесці бліжэй да дарослых.

Асабліва нам падабаецца казка пра хітрага мужыка і дурнога пана. Яе мы чулі, можа, тысячу

разоў і ведаем назубок. Толькі да вайны пан быў проста панам, а цяпер гэта пан-немец. Так і гергеча, як фашыст, вось-вось, здаецца, гыркне:

— Матка, яйкі!

А яшчэ ведае дзядзька многа ўсяго іншага. У апошні час ён амаль кожны дзень ходзіць у горад. Навяжа пучкоў дзесяць цыбулі, накапае маладой бульбы, потым кашолку на плечы і паскакаў, падпіраючыся кійком. Раней усё гэта рабіла Скачыха, а цяпер ёй сам дзядзька семкі купляе.

Суседзі смяюцца:

— Ці не баішся ты, Захар, каб пан які яе ў Германію не звёз?

— Ды не ў тым загваздка, мой татка,— адмахваецца сусед.— Проста мая баба ў нямецкіх грашах не разбіраецца: маркі-шкваркі, фенікі-венікі — для яе цёмны лес.

Тытунёвы дым з дзядзькавага носа вырываецца, як з двухствольнай стрэльбы, чапляецца за няголеныя вусы і воблакам узнімаецца ўгару.

— Сёння на базары аднаго вешалі,— кажа ён і мезеным пальцам збівае попел са сваёй качаргі.

А дзяўчаты каля бэзу пад вокнамі сакочуць, аж заліваюцца.

— Цыц, вы! Галота!

Дрынкнула і абарвалася струна на Касцікавай балалайцы.

— Як?

Скок набірае поўныя грудзі паветра, быццам збіраецца патушыць лямпу.

— Вядома як. Акружылі базар, каб людзі не разбегліся, падагналі машыну пад тэлеграфны слуп, на якім вісіць гадзіннік, і...

— Той самы гадзіннік?

— Той самы,— ківае дзядзька галавой і пускае носам цэлую хмару.

Той гадзіннік ведаем і мы з Санькам, хоць былі ў горадзе два разы. Да вайны з бацькамі ездзілі на калгасных конях прадаваць восенню бульбу. Ён круглы і такі вялікі, што за сто крокаў убачыш, каторая гадзіна. Сёлетняй вясной мы насілі шчаўе. Шкло на гадзінніку ўжо разбіта, і стрэлкі стаяць на месцы. Санька казаў — току няма.

— А ён што? — хвалюецца Косцік.— Хіба не прасіўся?

Скок плюнуў на цыгарку і стаптаным абцасам уціснуў яе ў пясок.

— Што толку прасіцца? Стаяў як каменны. Рукі вяроўкай звязаныя. Рускі якісь, што з немцамі быў, крычаў, маўляў, гэта партызан, бальшавіцкі бандыт і рознае такое. Страшыў, словам.

Я ўяўляю сабе, як там было. Партызан, як Максім Здор — апалчэнцкі камандзір. Шырокія плечы, расхрыстаная кашуля, ільняным снопам спадаюць на лоб валасы. Адным словам, дужы і горды чалавек. Ён нічога не сказаў на допыце, нічога не сказаў і пад гадзіннікам.

— Чулі, як учора ў горадзе бухнула? — пытае між іншым дзядзька Скок.

— Ну?

— У нас аж шыбы зазвінелі,— улез у размову Міцька.

— Электрастанцыю ўзарвалі,— паведаміў сусед і давай зноў круціць качаргу.

Я сам чуў гэты выбух, толькі не звярнуў увагі: цяпер усюды бухае. З нашай вёскі некалькі такіх хлопцаў, як мы з Санькам, падарваліся: хто на міне, хто снарад разбіраючы, хто на чым іншым. Цяпер гэта не дзіва.

— Можа, сама? — сумняваецца нехта з кавалераў.

— Дурань! — асякае яго Косцік-гарманіст.— Буры гэта зрабіў, яго работа.

— Буры ці не Буры,— разважае дзядзька, ляпаючы абломкам рашпіля па крэмню,— а справа зроблена. Прыехала некалькі чалавек у нямецкай форме, і галоўны іхні гаворыць: «Гутэн таг, мы камісія». Прымаць, словам, будзем вашу работу. Ну, усё як мае быць агледзелі. «Гут,— кажуць,— можна запускаць». А самі селі — і аўхвідзерзэй. І тут самая галоўная машына трах-бах — і бывайце здаровы. Немцы, мой татка, забегалі: васіс дас?

— Васіс дас — кіслы квас,— увярнуў я к слову, і ўсе засмяяліся, а Скок падхапіў:

— Кіслы квас у іх выйшаў потым, калі праз гадзіну сапраўдная камісія прыехала.

— Ну, вядома, гэта Буры! — зноў рашуча паўтарыў Косцік.

Пра нейкага Бурага ўжо даўно ходзяць самыя неверагодныя чуткі. Кажуць, да вайны ён быў настаўнікам нямецкай мовы, а цяпер, пераапрануўшыся ў афіцэрскую форму, ходзіць па горадзе, абедае ў нямецкіх сталовых, заходзіць у штабы — усё разведвае і перадае нашым. Аднойчы пагрузіў на машыны ўсё, што было ў нямецкім шпіталі, і адвёз да партызан у лес. Кажуць, яшчэ цэлы рэстаран з немцамі падарваў.

І вось сабралася нямецкае начальства і гаворыць:

— Хопіць нам важдацца з гэтым Бурым!

Прыдумала тое начальства хітры план, як злавіць Бурага, а ён сядзіць паміж немцаў і хваліць усё гэта: «Гут, гут». Вось які гэты Буры!

Мы з Санькам выцягваем шыі і ловім кожнае слова.

— Вы чулі, якая ў нашых зброя ёсць?

Мы круцім галовы на голас — Косцік Буслікаў расказвае:

— Выязджае на поле бою танк. Браня — ні адзін снарад не возьме. І раптам адчыняюцца ў ім спецыяльныя дзверцы, а адтуль танкетак штук дзесяць...

«Во,— думаю я,— добра нашы зрабілі. Немцы лічаць, што танк адзін, і сядзяць сабе, у вус не дзьмуць, а калі схопяцца — позна. Што і казаць, хітра зроблена. Няхай паскачуць цяпер нямецкія морды!»

Дарослыя дзядзькі недаверліва хмыкаюць — байкі.

Толькі адзін Скок пускае дым у два струмяні і ківае галавой:

— Можа быць...

Толькі гэта яшчэ не ўсё. У нашых гармата такая ёсць — прывязуць воз снарадаў, а яна адным махам — бабах іх немцам на галовы. Снарады разрываюцца, а з іх вылятаюць другія снарады, а з другіх — трэція. Праўда, крыху меншыя.

— Выдумкі.

— Чаго там выдумкі? — падтрымаў Косціка Скок.— «Кацюша» называецца.

— І адкуль ты ўсё ведаеш? — здзіўляюцца мужыкі.

— Ад людзей чуў мой татка на базары...

Нам з Санькам таксама карціць расказаць, што мы ад людзей чулі. Кажуць, што нашых нямецкія кулі не бяруць. Смаляць фашысты з кулямётаў, а нашым хоць бы хны. Кулі ад іх, як гарох, адскакваюць.

— Яны бранявыя шчыты на грудзях носяць,— заканчвае расказ Санька.

Тут, праўда, Скок нічога ў нашу падтрымку не сказаў, але мы ўсё роўна і ў гэтую чутку верым. Верым і будзем верыць, таму што не можа таго быць, каб у нашых нічога такога не было. І радасна робіц-

ца на душы. Няхай папомняць фашысцкія морды. Яны яшчэ паскачуць.

Сыплюцца на зямлю зоркі, вычэрчваюць па чорным небе агністыя дугі. На траву кладзецца раса. Бабуля даўно падаіла карову — можна смела ісці дамоў. Ногі сырадоем не памажа.

Цвыркае ў цемры пад печчу цвыркун, а я ляжу і думаю пра электрастанцыю, пра Бурага, пра гармату, якая цэлымі вазамі кідае снарады. І трэба ж такую прыдумаць!

І мне здаецца, што я чалавек-невідзімка, якога да вайны бачыў не раз у кіно, што знаходжуся я ў Берліне. Берлін як бы і наша вёска, толькі крыху большы, бяжыць па вуліцы раўчак, шумяць над галавой вербы. Заходжу я ў Гітлераву хату, а ён сядзіць на печы.

— Гутэн таг, фашыст!

Гітлер круць-верць — нікога няма.

— Не круціся, як кот у мяшку! Зараз табе будзе капут!

Гітлер:

— Даруй, Іван, больш не буду. Каб я на гэтым месцы праваліўся!

Ды што з ім размаўляць? Бабахнуў гранатай, якой бабуля хацела бульбу таўчы, аж навокал усё скаланулася і задзінькалі шыбы.

Немцы перапалохаліся, бегаюць, крычаць на ўсю Германію:

— Вас іс дас?

Хочуць мяне злавіць і не могуць: невідзімка я.

І тут заязджае ў Германію вялізны танк са спецыяльнымі дзверцамі. Ён гудзе так, што зямля дрыжыць.

На танкавай вежы сядзіць мой бацька.

— Сякеру маю не чапаў? — пытае ён.

— Не чапаў! — крычу я і лезу да бацькі на вежу.

Гляджу, ды гэта не бацька, а бабуля.

— Ды прачніся ты, ідал! — трасе мяне яна за плечы.

У хаце светла, нібы электрычнасць гарыць. За вокнамі, над горадам у чорным небе вісяць вялізныя ліхтары. Спалохана кідаюцца з боку ў бок праменні пражэктараў. Гудзе зямля і неба. Нашы зноў бамбяць станцыю, і мы бяжым у бабульчын бліндаж.

## 26. МЫ З САНЬКАМ — СЕНЬЁРЫ

Дзядька Скок часта гаворыць, што нашай вёсцы шанцуе. Стаіць яна на шашы пад горадам, вакол лугі ды палі, ад лесу далёка, і таму пабывала ў ёй амаль уся Еўропа. Апранутая ў салдацкія мундзіры гэтая самая Еўропа начавала ў нашых хатах, смяялася з нашых звычаяў, з ахвотай ела нашых курэй, страляла сабак і людзей, крала вёдры, трушчыла платы. Еўрапейскія коні са смакам хрумсталі наша сена. Не лічачы немцаў, мы бачылі ўжо славакаў і мадзьяр. Нам не хапала яшчэ італьянцаў. Цяпер у нас і італьянцы будуць.

Яны прыйшлі сярод дня ў нядзелю. Нягледзячы на нудны, дробны дождж, які імжыў з самай раніцы, я, Санька і іншыя хлапчукі пабеглі паглядзець, што там за яны. Дзядзька Скок казаў, быццам італьянцы любяць жаб. Бяды ў гэтым вялікай няма. Нам такога дабра не шкада — няхай ядуць. У нашым раўчаку іх хопіць на ўсю Італію!

Але на жаб італьянцы не кінуліся. Яны строем прайшлі па вуліцы, мінулі раўчак і накіраваліся да царквы. Потым лавіць, напэўна, будуць, калі разыдуцца па хатах.

Нічога асаблівага ў гэтых італьянцах няма. Мундзіры амаль такога ж колеру, як і нямецкія. Здзівілі нас толькі зорачкі, белыя пяцівугольныя зорачкі на

пілотках і каўнярах мундзіраў. Гэта нас нават збянтэжыла: зорачкі — і супраць нашых? Свет, аказваецца, не такі просты. Не ўсе ворагі з крыжамі.

Нам спадабаліся іх карабіны. Самыя па нашай сіле: намнога карацейшыя і лягчэйшыя за нямецкія вінтоўкі. А гранаты ў іх, як велікодныя яйкі, расфарбаваныя ў розныя колеры: палавіна — сіняя, палавіна — чырвоная. З аднаго канца гузік, каб шморгаць. Словам, нядрэнныя гранаты.

Салдаты ўсе невысокага росту, затое афіцэр, які крочыць перад калонай, нібы пажарная каланча. Шыю выцягнуў, як гусак, і тонкімі нагамі ў бліскучых ботах перабірае. Цот у цот скакун, што быў да вайны ў калгасе.

— Дылда! — сказаў пра яго Санька, і ўсе хлопцы згадзіліся — лепшай мянушкі не прыдумаеш.

Італьянцы раскватараваліся па хатах вакол новай школы. У самой школе ўжо і не пражывеш. У ёй ніводных дзвярэй, ніводнага акна, узадрана драўляная падлога, павыпільваны падмоснікі і бэлькі, на якіх трымалася столь.

На школьным двары спынілася толькі палявая кухня. Повар наліў у катлы вады, насыпаў макароны, спрытна вялікім нажом адкрыў кансервавыя бляшанкі. Па сяле пайшоў мясны пах. Выдумаў, мабыць, дзядзька Скок пра жаб.

Дылда спыніўся на кватэры ў майго дзеда Мікалая. Яму спадабалася, што дзедава хата непадалёку ад шашы і ў гразь не трэба будзе пэцкаць бліскучыя боты.

Дзяншчык, спрытны, каржакаваты салдат, з падводы ў хату бясконца цягае чамаданы, пакункі, скрынкі. Мы з Санькам таўчомся ў сенцах, спадзеючыся ўбачыць што-небудзь цікавае.

Нарэшце падвода разгружана, на канапе зроблена пасцель. Дылда развесіў па сценах свае манаткі:

бінокль, рыпучую папругу з пісталетам, і салдат пачаў збіраць абед.

Да Дылды прыйшлі ў госці два афіцэры, толькі не такія доўгія: адзін з чорнай барадой-венікам, а другі зусім яшчэ малады. Яны сядзяць за сталом, п'юць нейкую рудую гарэлку. Дзед кажа — каньяк.

— Напэўна, конская,— зразумеў Санька.— Ёсць жа конскае шчаўе.

Італьянцы махаюць рукамі, штосьці бубняць, а што — не разбярэш. Толькі два словы мы з Санькам разумеем: сеньёр і дучэ. Сеньёр — гэта па-іхняму пан, а дучэ — гэта іхні Гітлер.

У сенцах на стале салдат адкрываў кансервы ды ўсё новыя бутэлькі. Вось ён дастаў нейкую невялікую дзежачку, калупнуў яе на нож — масла. Лізнуў італьянец нож языком — зморшчыўся. Дзеду пальцам ківае: ідзі паспрабуй.

— Можа, атручанае якое? — апасаецца і дзед, але падкруціў свае вусы і таксама лізнуў.

Дзед зморшчыўся яшчэ больш за італьянца, нават плюнуў і рот далонню выцер.

— Нікс гут! — сказаў ён чамусьці па-нямецку, а потым ужо па-нашаму дадаў: — Дрэнь, адным словам, скура з языка аблазіць.

Тады салдат калупнуў з другой дзежачкі.

Дзед зноў лізнуў, доўга прыслухоўваўся да смаку і сказаў:

— Можна есці.

Італьянец радасна заківаў галавой, аддаў дзеду сапсаванае масла і пачаў штосьці гаварыць і махаць рукамі.

— Ды закапаю, закапаю, не бойся,— зразумеў стары і, праходзячы міма нас на двор, прабурчаў: — Самі баяцца атруціцца, а нам з вамі можна. Мы — не людзі...

Дылдавы госці выжлукцілі сваю конскую гарэлку і пайшлі па хатах. Дылду стала сумна. Заўва-

жыўшы нас з Санькам у парозе, ён паківаў пальцам, каб падышлі.

— Сеньёр Антоніо,— паказаў на сябе Дылда рукой.

Мы кіўнулі галовамі: зразумела — Антон. І тут Дылда ткнуў у Санькаў нос.

— Санька,— працадзіў мой прыяцель.

— Сеньёр Санька,— паправіў яго Дылда і зарагатаў.

Калі Дылдаў палец нацэліўся на мяне, я сам бойка адрапартаваў:

— Сеньёр Іван!

Дылду гэта так спадабалася, што ён аж пасінеў ад смеху. Мне здавалася, што італьянец вось-вось захліпнецца. Як гляне на Санькавы босыя, парэпаныя ногі, дык проста з услона валіцца.

— Сеньёр Санька!

А потым пакажа на мае рудыя, з нямецкага мяшка штаны і за жывот бярэцца.

— Сеньёр Іван.

І тут нас ахапіла злосць: насміхаецца, гад. Відаць, ад гэтай злосці мой прыяцель набраўся храбрасці і пекануў:

— Сеньёр Дылда.

Тут ужо мы давімся смехам. Праўда, так не заліваемся, а фыркаем і пырскаем слінай.

— Но-о,— не згадзіўся афіцэр,— сеньёр Антоніо.

Яшчэ фанабэрыцца. Сказаў бы проста Антон, а то Антоніо. Мне стала яшчэ больш смешна, таму што ўспомніўся прыдуркаваты Антон Глінаед, за якім часта бегаюць дзеці і дражняцца:

Антон — Харытон
Набіў бабу хамутом.
Баба плача,
Антон скача.

Звычайна тады Антон спыняецца, прыстаўляе пальцы да лба, быццам гэта рогі, і мычыць бугаём, палохае.

І тут Дылда, відаць, жадаючы нас задобрыць, зрабіў прамашку. Ён узяў відэлец і дзеўбануў у нейкую смажаніну, што не даелі яго госці. Санька лбом адчыніў дзверы, следам коркам вылецеў я. Станем мы есці. Каб мы бачылі, што яны напіхвалі ў свае бляшанкі, а то, можа, налавілі дзе ў Італіі ў раўчаку. Следам за намі коціцца звонкі рогат.

Выскачылі ў сенцы, агляну́ліся — не даганяе. На двор выйшлі спакойна. Тут на прызбе салдат чысціць афіцэрскія боты. Ён робіць гэта так спрытна, нібы цыркач. Шчотка раз-пораз вырываецца ў яго з рукі, пераварочваецца ў паветры і сама скача італьянцу ў руку. Мы з Санькам аж раты разявілі.

Салдата звалі Педра.

— Педра, Педра,— паказаў ён на сябе бліскучым ботам, нацягнутым на руку, потым плюнуў на яго і зноў зашморгаў шчоткай.

— Пятро, значыць,— пераклаў мне Санька салдацкае імя, хоць я і без яго гэта зразумеў.

Мы таксама назвалі сябе: сеньёр Санька і сеньёр Іван.

Дзяншчык аказаўся гаваркім і вясёлым хлопцам. Кінуўшы чысціць боты, ён дастаў з кішэні карты і паказаў нам фокус: быў туз і няма туза. Затым сцягнуў з пальца пярсцёнак, выцер яго аб штаны, паклаў у рот і на нашых вачах праглынуў. Колькі мы ні заглядвалі яму ў рот, пярсцёнка там не было. Пярсцёнак аказаўся ў Санькавым вуху. Мы проста аслупянелі ад здзіўлення. Адным словам, Педра нам спадабаўся. Ён свой чалавек. Магчыма, гэта той самы Пепа, пра якога мы чыталі ў адной кніжцы. Падрос, вядома.

Таму мы і адважыліся пусціцца ў размовы пра палітыку. Нам карціць ведаць, якія думкі ў італь-

янцаў пра ўсё тое, што робіцца на свеце. Атрымалася гэта так.

— Дучэ гут? — пытае Санька.

Педра ўзняў ад здзіўлення бровы, чамусьці прыплёў нейкую мадонну, а потым прыклаў да лба пальцы, як прыдуркаваты Антон, і смешна забэкаў:

— Бэ-э!

— Дучэ — баран,— пераклаў Санька.

На развітанне Педра даў нам па сухой, як костка, галецціне і панёс боты ў хату.

А ў сенцах нас пачаставала яшчэ і баба Мікалаіха. Яна дала нам па скібцы хлеба з маслам. З той самай дзежачкі, якую дзед быццам бы закапаў. Масла як масла, скура з языка не аблазіць. Дзед сядзіць на ўслоне, хітра ўсміхаецца і мацае свае белыя вусы, ці не згубіліся. Ён толькі напалохаў італьянца.

Калі італьянцы такія, як Педра, то ўвогуле яны неблагія людзі. Так думаюць, вяртаючыся дамоў, два сеньёры: сеньёр Санька і сеньёр Іван.

## 27. ЯК САНЬКУ «АЖАНІЛІ»

Італьянцам вельмі падабаюцца савецкія сярэбраныя паўрублі. За адзін такі паўрубель яны могуць даць суконны салдацкі фрэнч або штаны, чаравікі або пару новай бялізны. Цётка Скачыха выменяла, напрыклад, яшчэ зусім новую салдацкую коўдру.

Нам італьянцы таксама набіваліся рознымі рэчамі: адзін раз салдат прыносіў боты, а ў другі — пару просцін. Мая бабуля вельмі шкадуе, што ў яе няма ніводнага паўрубля. Глядзіш, і прыабула б нас, абшыла б крыху.

У манашкі Чмышыхі аднаму начальніку спадабаліся абразы. Дакладней кажучы, не ўсе абразы, а толькі Багамацер.

— Прычапіўся ён да мяне, як сляпы да плота,— скардзілася Чмышыха, прыйшоўшы да нас пазычыць рэшата.— Ты мне, кажа, мадонну дай, а я табе кувадла. А на якую хваробу мне тое кувадла? Ды і грэх гэта, мая дзеўка, Бога прадаваць. Вось і паказала я яму дарогу да Цімоха Каваля. Можа, яму кувадла трэба.

— Ён табе каня даваў,— падказаў я манашцы, бо мы з Санькам па-італьянску — рэпу грызём.

— Ах, Божа ж ты мой,— спалохалася чамусьці Чмышыха і, забыўшы пра рэшата, бягом пабегла з хаты.

— Грэх ёй Бога прадаваць,— недаверліва паківала галавой бабуля.— Языком толькі.

Бабуля Чмышысе не верыць. Усё жыццё манашка гаварыла, што калгасы ад д'ябла, а потым, калі прыйшлі немцы, з парнікоў перацягала цэлы штабель колікаў, да якіх падвязвалі памідоры. Не паглядзела, што яны ад д'ябла.

Праз дзень пасля размовы пра мадонну ў Чмышысіным двары хадзіла здаравеннае, вымазанае чымсьці смярдзючым ад каросты, «кувадла». Трубіла яно траву, як у трубу. Манашка была ў роспачы: хутка і вушы аб'есць.

У бабы Гапы аднаму італьянцу спадабалася курыца. Праўда, «кувадла» ён за яе не даваў, а пакуль баба была на агародзе, адкруціў курыцы галаву, схапіў пад паху і ўцёк. З гэтага мы таксама зрабілі вывад, што італьянцы лепшыя за немцаў. Яны не бяруць нахабна.

Спадабалася ім і наша возера: шырокае і глыбокае. Якая ў ім глыбіня, дык гэтага і сказаць немагчыма, бо яшчэ ніхто ніколі пасярэдзіне не дасягаў дна. Старыя людзі кажуць, што калісьці на месцы возера і балота з сітнягамі і аерам стаяла высокая гара, а на гары — царква. Аднойчы, калі ў царкву

набілася процьма народу, Бог чамусьці раззлаваўся, і царква з людзьмі праваліпася пад зямлю. З таго часу летам па вечарах, перад захадам сонца, калі добра прыслухацца, нібыта можна пачуць, як пад вадой спяваюць малітву. Мы з Санькам не раз прыслухоўваліся. Сапраўды чуваць спевы, толькі яны чамусьці падобныя на крумканне жаб.

Італьянцы доўга тапталіся ля возера, выбіралі сухое месца, а потым грымнуў выбух, і над люстранай гладдзю слупам узнялася вада. Гахнула другі раз, над вадой пракацілася рэха і сціхла ў сітнягах. А ў трэці раз толькі булькнула, як хто шпурнуў камень.

Салдаты кінулі гранат з дзесяць. Тры не ўзарваліся. Мы з Санькам добра прыкмецілі, куды яны ўпалі.

Салдаты адабралі буйнейшую рыбу і пайшлі, а на нашу долю засталася розная драбяза. Цэлая армія басаногіх хлапчукоў, паскідаўшы штаны, з гоманам і вясёлым крыкам рынулася ў цвілую, ужо добра-такі халодную ваду.

Мы з Санькам не ганяемся за рыбай. Рыбу з'ясі, і ўсё, а граната — іншая рэч.

Аднак не адны мы такія разумнікі. Гранаты шукаюць і другія хлопцы. Асабліва Міцька Малах стараецца. За ім нідзе не паспееш.

— Ага! — крычыць Міцька.— Вось яна пад нагой!

А праз мінуту вылазіць з-пад вады ўрачысты і радасны. У валасах поўна ціны, з галавы сцякаюць мутныя раўчакі, а ў руцэ расфарбаванае ў яркія колеры «яйка». Толькі без гузіка, за які шморгаюць.

Міцькаў поспех нас раззлаваў: шанцуе ж гэтаму Манголу.

Мы зусім адубелі. Саньку калоціць, у мяне таксама скура пагусінілася, але вылазіць на бераг

з пустымі рукамі ніхто не збіраецца. Ад зайздрасці і адчаю я даю доўгага нырца. Вада на дне, як у калодзежы, рукі і ногі зводзіць, аднак вылазіць нельга: я абмацваю і абмацваю мох, перамешваю твань з вадой. Усё дарэмна.

Следам за мной вынырнуў Санька. Па праўдзе кажучы, ён і не вынырнуў па-людску, а неяк высунуўся з-пад вады, быццам пры гульні ў жмуркі. Спачатку паказалася цэлая купіна водарасцей, а потым ужо адно вока, другое завешана травой. Як вадзянік.

— Наглыта-аўся вады,— сказаў Санька, адплёўваючыся, і сцягнуў з галавы травяную шапку. У руцэ граната.

Трэцюю ніхто не знайшоў. Мабыць, яна закацілася куды-небудзь пад куст або хто затаптаў у твань. Дамоў ідзём радасныя. Калі лічыць тую гранату, што выменялі ў Храбрага Зайца на процівагаз, ды бабулін «таўкачык», ды італьянскае «яйка», то ў нас іх ужо тры.

— Толькі гэта можа не ўзарвацца,— бядуе Санька, мацаючы кішэню, куды ён схаваў знаходку.— Мабыць, адсырэла ў вадзе.

— Давай пакладу дома на чарэнь, каб высахла,— прапанаваў я.

— А ў нас што, няма чарэні? — адвёў маю руку Санька і пры гэтым яшчэ дадаў, што няма чаго рот разяўляць на чужыя гранаты. Трэба было мне самому шукаць, калі хачу сушыць.

Мяне ахапіла злосць. Як жа гэта так? Шукаем боепрыпасы разам, разам збіраемся ў партызаны, і раптам італьянская граната — мне чужая? Калі на тое пайшло, дык я першы заўважыў процівагаз, якім мы заплацілі Зайцу; калі ўжо лічыць, дык нямецкі «таўкачык» цэлы, а гэтая так сабе, без гузіка... Слова за слова, і я назваў Саньку скнарай, а ён мяне варонай. Паспрачаліся і разышліся.

А раніцой на другі дзень, калі ад сэрца адлягло і мы з Міцькам зайшлі ў Санькаў двор, цётка Марфешка сустрэла нас, як доўгачаканых гасцей:

— А-а, прыйшлі, бісавы дзеці, каб вы сказылыся, каб вас зямля не насіла. Палюбуйцеся!

Стаім. Любуемся. У вокнах ніводнай шыбы, бітым шклом усыпана сцежка на двары. У хаце, як гаворыцца, і Бог адступіўся: разбурана печ, па падлозе валяюцца залітыя вадой галавешкі, у парозе разбіты надвае шчарбаты чыгун і рассыпана абабраная бульба. Пахне гарэлай анучай і мокрым попелам.

Санька сядзіць у кутку на ўслоне, вочы заплаканыя, пад адным з іх здаравенны сіняк, нос расквашаны, апухлы і бліпчыць, як шкло. Хадзіць Санька не можа: баліць нага.

— Цэ і вы такія безгаловыя? — пытае нас з Міцькам цётка Марфешка.— Вы таксама ў печ бонбы пхаеце?

Мы маўчым, толькі насамі шморгаем.

— Цэ ж добра, цэ ж добра, што так яшчэ абышлося. Мне як наканована, як хто штурхнуў у бок — ідзі вады! А цэй біс,— і яна добра скубанула Саньку за саламяную грыву,— ляжаў на печы. Не скруціла табе галаву, нячыстая сіла...

Санькава маці месца сабе не знаходзіць. Яна збіраецца паклікаць Санькавага дзядзьку Харытона. Той можа паладзіць печ і заадно добра «ажэніць» самаго Саньку.

— Ён «ажэніць»,— з новай сілай разгараецца яе злосць,— «ажэніць» і долю дасць, хай табе грэц.

І, выходзячы за парог, зноў бядуе:

— Ішла да калодзежа — быў комін, іду назад няма коміна. Ах, каб ты...

Калі справа даходзіць да «жаніцьбы», нам тут з Міцькам няма чаго рабіць. Мы заглянулі ў праём столі, праз які комін выходзіў на дах,— свеціць

неба, паспачувалі Саньку і пабеглі: прыйдзе Харытон, будзе і нам тая ж чарка.

У тым, што італьянская граната нарабіла шкоды, Санька, між намі кажучы, і невінаваты. Ён паклаў «яйка» ў печ на цёплы под да раніцы. Жару там не было, а толькі лёгкі дух. Ён разлічваў устаць раней за маці, узяць ужо сухую гранату і занесці ў хованку, ды праспаў. Маці наклала ў печ дроў, наставіла чыгуноў, падпаліла сухія трэскі і пайшла па ваду. Пакуль яна гаманіла з суседкай ля калодзежа, штосьці гахнула. Падышла да хаты — коміна няма.

А Санька наогул спачатку нічога не зразумеў. Невядомая сіла падхапіла яго, з грукатам шпурнула на падлогу і агрэла па твары цаглінай. Навокал дым, галавешкі. Ля дзвярэй стаіць да смерці перапалоханая маці і галосіць, як па нябожчыку. Толькі Санька не чуе яе ляманту, у галаве яго гудзе, быццам ён прыклаў вуха да тэлеграфнага слупа.

Тыдні праз два выйшаў Санька на вуліцу, ды і то яшчэ кульгаючы.

— Ну, а дзядзька цябе «ажаніў»? — спытаў Міцька.

— Хацеў,— сціпла прызнаўся мой прыяцель.

Мне ён расказаў больш. Харытон усё ж накруціў яму вушы, асабліва пасля таго, як, складваючы новую печ, знайшоў у саломе нашу хованку: прапалі нашы патроны, прапаў наш «таўкачык». Цяпер мы зусім абяззброеныя.

## 28. Я ПАЎТАРАЮ ПОДЗВІГ СУСАНІНА

Стогне ў коміне другая ваенная зіма. Ноччу патрэскваюць ад марозу бярвенні сцен. Абкруціла зямлю белымі бінтамі завіруха, засыпала наш раўчак, закавала возера, замяла дарогі, насыпала

гурбы снегу вышэй платоў. Вераб'і зашыліся пад стрэхі. Я, Глыжка і Санька — на свае печы. Нас там і вяроўкай бы не прывязаў, калі б было што апрануць. У рызманах не вельмі далёка разгонішся, хіба выскачыш паглядзець, ці не трапіўся ў сілок снягір.

Глуха на печы. Рэдка калі рыпнуць дзверы і з марозным воблакам загляне ў хату навіна. То Чмышыха-манашка прыйдзе пазычыць вугалькоў, каб у печы распаліць, то дзед Мірон загляне даведацца, як мы тут жывём.

У Чмышыхі адны навіны.

— Госпадзі! — закатвае манашка вочы.— Гэта ж трэба! Вакол усё разбілі, а стаяла капліца са святымі абразамі, і нават пясчынка не звалілася, лампадка як гарэла, так і гарыць. Бог не дапусціў.

У дзеда Мірона навіны другія.

— Учора ўсю Сартыровачную перааралі. Ты паглядзела б, Матрона, як чыгунныя рэйкі пакруціла, аж у вузлы пазавязвала. Во сіла. А поезд з білізінам гарэў — глядзець страшна. Узяліся, відаць, нашы, акрыялі. Мо, дасць Бог, і дачакаемся...

І пад калматымі бровамі заіскрацца вочы, пацяплее позірк. А потым памаўчыць і ўздыхне:

— Дзе ж гэта мой Васіль? Сны пра яго дрэнныя Гапа бачыць.

Бацькі майго таксама не чуваць.

Нашы цяпер прылятаюць кожную ноч. Павесяць над горадам ліхтары — і снег аж вочы слепіць. Вохкаюць у цемры разрывы снарадаў, глуха стогне зямля.

Фашысты задумалі нашых абхітрыць. На беразе возера за вёскай яны наставілі фанерных самалётаў, нарабілі з жалезных бочак карыт і паляць у іх у час бамбёжкі мазут. Гэта для таго, каб нашы падумалі, што тут аэрадром, і кідалі бомбы. Так

нашых і абдурыш. Яны і глядзець не хочуць на гэты «аэрадром».

Затое на гарадзішча адну бомбу скінулі. Там стаяў нямецкі пражэктар. Пражэктар не свяціў дні тры, а потым і зусім на іншае месца пераехаў.

Калі на двары адлёг мароз, мы пабеглі глядзець ямку. Вось гэта яміна! Не тое што была на Скокавым агародзе ад нямецкай бомбы. Сюды ўжо сапраўды цэлая хата ўлезе.

— Добрая галушка! — з гонарам за савецкую бомбу сказаў Санька.

А Міцька дык той зусім у гэтай справе знаўца.

— Фугаска,— даў ён свае тлумачэнні.— Асколашная такую яму не выкапае...

Неяк Міцьку падваліла шчасце. За агародамі ў балоце ён знайшоў зусім цэлую ракету, тую, што вешаюць самалёты. Труба вялікая, пакрэкчаш, пакуль на плечы падымеш. Парашут з шаўковага палатна Міцька забраў сабе, а нам, як добрым таварышам, дазволіў накалупаць па поўнай кішэні таго, што гарыць.

Але яно не толькі гарыць, яно і страляе. Возьмеш кавалачак з гарошыну, пакладзеш на абух і малатком як гакнеш — быццам з ружжа. Цяпер у многіх дварах, дзе ёсць такія стралкі, як мы, толькі і чуваць:

— Бах! Бабах!

Аднойчы мая бабуля нам з Санькам ледзь вушы не паабрывала за гэтыя штучкі. Яна апасаецца, што вочы павысмальвае. І што ты ёй скажаш? Каб ужо ў вайсковай справе разбіралася хоць з камарыную дзюбку, дык не крыўдна было б слухаць.

А сёння нам воля. Яна пайшла да дзеда Мікалая, захапіўшы торбачку ячменю. У старога ёсць уласны млын, зроблены з тоўстай сасновай калодкі і чыгунных чарапкоў. Раней я малоў, а цяпер бабу-

ля мне не давярае: круцячы жорны, палавіну мукі ў рот жменькамі перакідаю.

Не паспелі за бабуляй ляпнуць варотцы, як у хаце пачалася страляніна. Мы ўваткнулі сякеру ў шчыліну на падлозе і давай гасіць малатком па абуху. Аж шыбы звіняць. Каб Глыжка нас бабулі не выдаў, мы і яму пару разоў далі пекануць, а потым паабяцалі даць яшчэ і загадалі глядзець у акно — можа, хто ісці будзе.

І толькі гэта па разу ці два смалянулі, Глыжка спалохана саскочыў з услона:

— Немец!

Санька за свой «зарад» ды ў кішэню, а я і сякеры не паспеў схаваць, вельмі ты яе выцягнеш са шчыліны — па самы абух загналі.

Гэта быў высокі, сухарлявы афіцэр з дзюбатым тварам. Пераступіў парог і падазрона нюхае паветра, уважліва разглядае мяне, Саньку і Глыжку.

Потым паляцелі са стала пустая гліняная салонка і драўляныя лыжкі. Немец змахнуў іх на падлогу чорнай скуранай пальчаткай і разгарнуў карту. Ён доўга і ўважліва штосьці на ёй разглядае, мерае то бліскучым цыркулем, то лінейкай, а мы слупамі стаім каля печы, гатовыя кожную мінуту шмыгнуць за комін.

— Ком гэр! — ківае немец нам чорным пальцам, і мы нясмела падыходзім да стала і таксама ўтаропліваемся ў карту. Хваробу ты на ёй разбярэш: накручана наверчана розных загагулін ды яшчэ панямецку падпісана.

— Падльюбітшы? — пытае фашыст.

Мы маўчым.

— Штаразеле? — тыцкае ён пальчаткай у карту.

Гэта ён пра Стараселле пытае. Знайшоў у каго пытаць. Так мы яму і скажам, Санька ўважліва разглядае карту і моршчыць лоб, усім сваім

выглядам паказвае, што і ў сне пра такое не чуў. Я таксама паціскаю плячыма.

Але немец трапіўся ўпарты, па карце пальцам водзіць і дзяўбе сваё, як дзяцел:

— Падльюбітшы? Штаразеле?

Санька слухаў, слухаў і рашуча адрэзаў:

— Нікс фарштэйн![1]

Дзюбаты змераў нас з галавы да ног: Санька нізкі, прыземісты, дзіця горкае, хоць і стары хрушч, а я высокі і тонкі, як лазіна.

— Ком! — махнуў ён мне рукой, накіроўваючыся за дзверы.

Не мела баба клопату — купіла парася. Так і я з гэтым немцам — не хапала яшчэ дарогу яму паказваць. Трэба неяк выкручвацца.

— Пан, бабы дома няма,— захныкаў я.— Прыйдзе, сварыцца будзе.

Ух, і злосная ў мяне бабуля! Не то што сварыцца, яна і адлупцаваць можа, і я шлёпаю сябе рукой па штанах, паказваю, як мяне яна будзе лупцаваць. Афіцэр ківае галавой, быццам усё разумее, ды як гаркне. Давялося ісці.

Сухі снег крухмалам хрускае пад нагамі. Вецер наскрозь прашывае маю світку, а я цягнуся следам за немцам і праклінаю ўсё на свеце. Прынеслі яго чэрці на маю галаву.

На скрыжаванні дарог, каля старой школы, стаіць чорная легкавая машына, пыхкае шызым дымком. Відаць, зараз мяне сюды пасадзяць і павязуць. Пакатацца на «фордзіку», вядома, нядрэнна — ніколі ў жыцці мне не даводзілася нават пасядзець на мяккіх скураных падушках, але гэта было б здрадай: ехаць з немцамі і паказваць ім дарогу. Я ведаю два шляхі ў Стараселле: адзін — кру-

---

[1] Не разумею! *(ням.)*

гам, шырокі і наезджаны, другі — полем і лугамі, наўпрасткі. Вось другім і павяду — там будзе якраз снегу па вушы, няхай пабуксуюць. Толькі лепш за ўсё было б зусім не весці, а даць лататы.

На маё шчасце, немец не пасадзіў мяне адразу ў машыну. Ён спыніўся ад яе крокаў за дваццаць на самым ветры і чагосьці чакае, углядаючыся ў канец вёскі. Зразумела. Яшчэ павінны пад'ехаць. Пакуль суд ды справа, трэба нешта прыдумаць. Сказаць яму, што жывот забалеў, дык на мой жывот ён чхаць хацеў. Вось хіба прыкінуцца, быццам хачу піць, можа, што і атрымаецца. Забягу ў першы ж двор, а там — на агарод, і бывайце, фашысцкія морды, здаровы!

Афіцэр стукае абцасамі, стараючыся сагрэць ногі, трэ пальчаткамі збялелыя вушы і не звяртае ўвагі на маё хныканне:

— Пан, пі-іць!

Я глытаю сліну, стараюся зрабіць выгляд, што мяне зусім замучыла смага. А ён, доўбня глухая, нават вухам не вядзе, скача ад холаду, і ўсё. Шпару па-нямецку:

— Пан, васэр, баба боршч перасаліла!

Немец падазрона глянуў у мой бок і чорнай пальчаткай паказаў на неба, адкуль сыпаўся мяккі снег.

— Эс іст кальт!

— Няважна, мне не холадна,— махаю яму рукавом і зноў за сваё: — Пі-іць, пі-іць.

Нарэшце ён не вытрымаў, палез у кішэню і дастаў адтуль штосьці закручанае ў бліскучую паперку. Разгарнуў — карычневая плітка, разлінееная на клеткі. Адламаў дзве, паглядзеў на мяне, вырашыў, мабыць, што не здужаю з'есці, спалавініў. Адну сабе кінуў у рот, другую мне працягнуў. Падкупляе, гад. Я хацеў не браць — патрэбен мне

фашысцкі пачастунак, а потым пайшоў на хітрасць, узяў. Няхай думае, што я нічога не маю супраць, магу і дарогу паказаць, а піць мне хочацца проста так, пасля салёнага.

— Гут? — спытаў немец.

— Гут,— кіўнуў я галавой, хоць добра і не рас-смакаваў, горкі ён ці салодкі, той іх «шыкалад».

Ён зноў заскакаў на снезе, а я зноў зацягнуў сваю песню: пі-іць. Немца ўзяла злосць.

— Ком! — гыркнуў ён і так тузануў за плячо, што я ледзь носам снег не ўзараў.

Я хітры, ды ён хітрэйшы. Сам павёў паіць мяне ў бліжэйшую хату. Прыцішыліся спалоханыя гаспадары, стаіць над маёй душой немец, а я над вядром жлукчу праз сілу з меднага карца ваду. Не хачу, а п'ю, каб нічога не падумаў.

Ну, цяпер капцы. Цяпер ты, хлопец, не адкруцішся і ці вернешся дамоў — невядома. Звязуць куды-небудзь, як звезлі ўжо аднаго хлапчука ўласаўцы, або прыстрэляць, чаго добрага. Ад такіх думак стала моташна на душы, і я зусім нос павесіў.

Калі з-за павароту на шашы паказаліся машыны, мой немец занепакоіўся. Ён нешта крыкнуў шаферу, паправіў на шынялі папругу і пачаў нервова то нацягваць, то сцягваць пальчаткі. Цыгарэту, якая да гэтага куродыміла пад яго дзюбатым носам, выплюнуў у снег і затаптаў.

З пярэдняй, легкавой машыны, за якой ішлі крытыя брызентам грузавікі, вылез начальнік не ніжэй, мабыць, генерала. На плячах плеценыя сярэбраныя пагоны і ў пятліцы шыняля чырвоная стужка.

Дзюбаты сарваўся з месца, пабег насустрач генералу і, прыклаўшы руку да картуза, выцягнуўся тэлеграфным слупам. Генерал дробненькі, сухі, як шчэпка, але злосны і сварлівы. Ён чамусьці

крычыць на дзюбатага, а той нясмела і паслухмяна бубніць адно і тое ж:

— Яволь... Яволь...

Афіцэру зараз не да мяне, а генерал на мяне нават і не глядзіць.

Я адышоў да паркана. Спыняць, скажу, што ў зацішак ад ветру хачу стаць. Азірнуўся — ніхто не спыняе. Афіцэр стаіць да мяне спінай і паказвае начальству карту. Я шмыгнуў у варотцы, у двары сігануў цераз плот, па кустах парэчак, засыпаных снегам, выбег да раўчака, скаціўся кулём з гары, падхапіў на хаду шапку, якая звалілася з галавы, і пусціўся куды вочы глядзяць.

Дамоў не пайшоў. Зноў можа зайсці той фашыст. Тады не паздаровіцца. Я пайшоў да Санькі.

Мой прыяцель быў ужо дома.

— Ну што? — спытаў ён, саскакваючы з печы.

— Уцёк,— выдыхнуў я.

Санька высока ацаніў мой учынак. Ён сказаў, што я паўтарыў подзвіг Сусаніна.

Якога яшчэ там Сусаніна? Пра такога мне чуць не даводзілася. Пра Гастэлу яшчэ да прыходу немцаў радыё гаварыла, пра кулямётчыка Жукава таксама чулі, нават верш пра яго склалі:

Кулямётчык Жукаў,
Ён фашыстаў стукаў.

А пра Сусаніна штосьці не чуваць было.

— Эх ты! — з папрокам паківаў галавой Санька і выцягнуў з-за коміна кніжку, якую прынёс з расцІданай Няўмыкам школьнай бібліятэкі. Гэта быў падручнік гісторыі.

Аказваецца, і сапраўды жыў калісьці такі Сусанін, гадоў, можа, дзвесце, а то і трыста назад. Тады на Маскву ішлі палякі. Яны заблудзіліся і хацелі прымусіць аднаго селяніна, каб той паказаў ім

дарогу. Селянін завёў іх у густы лес, у балота. Чужаніцы засеклі яго шаблямі, але і самі не знайшлі дарогі назад. Звалі таго селяніна Іванам Сусаніным.

Сапраўдныя героі — людзі сціплыя. Яны не любяць гучнай славы.

— Дык хіба ж мяне засеклі? — аднекваюся я.— І ў лес я іх не завёў. А што ўцёк, дык першы раз, ці што?

І тут я цыркнуў скрозь зубы. Хацелася, каб выйшла, як у Міцькі-Мангола, але сліна павісла на падбародку.

## 29. РАЗМЯСЦІЎСЯ Ў ПЛЁСАХ АТРАД

Ура — немцы капаюць акопы! І робіцца гэта, вядома, не так сабе. Ідуць нашы. Першым гэтую навіну прынёс у хату Няўмыка. Неяк раніцой ён прыйшоў у наш двор і забарабаніў сваёй гумавай палкай у шыбу.

— Эй вы! Адзін чалавек на акопы!

Бабуля бразнула патэльняй і выбегла на ганак.

— Ды які з мяне капач, Аўдзеіч?

— Няхай хлопец ідзе! — буркнуў Няўмыка і падаўся ў другі двор.— Карміць будуць! — паабяцаў ён напаследак.

Я ім таксама не капач: прыкінуўся хворым і не пайшоў.

А ў хуткім часе пасля гэтага дня, як сказала мая бабуля, і зусім перавярнуўся свет. Немцы — туды, італьянцы — адтуль, аж дрыжыць шаша пад бясконцымі калонамі машын, падвод, гармат. Цяпер у вёсцы ўсе ведаюць, што набліжаецца фронт.

Немцы рыхтуюцца да абароны, рыхтуецца да баёў і мая бабуля. Перш-наперш мы з ёю зрабілі рамонт нашага бліндажа: новым ламаччам умацавалі

накат, абставілі сцены снапамі саломы — не так будзе сыра і холадна.

Людзі пачалі капаць ямы і хаваць у іх збожжа.

Гэта было зусім не лішнім: пшаніцу дык пшаніцу, ячмень дык ячмень — немцы бяруць, што трапіцца на вочы, і высыпаюць коням. Схавалі і мы з бабуляй свае запасы: два мяшкі закапалі пад падлогай у сенцах, адзін зацягнулі пад печ. Ну, думаем, цяпер іх і сам чорт не знойдзе.

Прыйшлі ўласаўцы. Іх бабуля не любіць больш за немцаў. І хоць я ёй сто разоў тлумачыў, што ўласаўцы — тыя ж белагвардзейцы, яна не можа зразумець, як гэта свае пайшлі на сваіх. У тым, што ўласаўцы «свае»,— галоўная бяда. Немец так добра нашых хованак не ведае, нашых хітрыкаў так не разумее, як свой чалавек, рускі. Яны прайшліся па двары з доўгім вострым шворнам, успаролі зямлю, заглянулі ў сенцы, і вось ужо іх коні мелюць нашу пшаніцу.

Калі ўласаўцы паехалі, бабуля са слязьмі падмяла рэшткі збожжа каля карыта, падабрала збожжа да апошняга зярнятка проста з зямлёй.

— Гэта ж трэба так згнюшчацца з хлеба! — не можа супакоіцца яна.

Праўда, уласаўцы зглумілі не ўсё.

— Што, у мяне рукі адсохлі? — абураецца бабуля.— Гэты ідал вядро — коням, а я вядро — у дзежку, пакуль ён у хляве.

Сапраўды, у дзежцы аказалася з мяшок збожжа. Цяпер мы і яго зацягнулі пад печ.

А вось карову пад печ не схаваеш. Міронаву немцы ўжо зарэзалі, пакінулі дзеду толькі шкуру, капыты і вантробы. Дабяруцца і да нашай. Вось тады мы паскачам. Толькі яна нас усю вайну і карміла.

— А ты ж кажала, што ты наш колміш,— сказаў бабулі Глыжка.

— Мы з ёй разам,— удала выкруцілася старая.

Цэлы вечар мы з бабуляй трымалі нараду і вырашылі, што мне трэба гнаць Рыжую ў Плёсы і пасвіць, пакуль трохі схлыне гэтая саранча.

Плёсы — гэта такое ў нас за вёскай ёсць месца: ні луг, ні лес. У лагчынах летам расце асака і густыя кусты лазы да алешніку, на сухіх грывах — бярэзнік, трапляюцца маладыя кучаравыя дубкі і крывыя, развесістыя сосны. Там можна не адну карову схаваць. Зацішнае месца.

І вось раніцой, яшчэ на досвітку, Рыжая і я выйшлі [redacted] двара. За маёй спінай зрэбная торба з харчамі, за поясам сякера, бо трэба ж будзе зрабіць сабе нейкае жыллё.

У Плёсах хлопцаў паўвёскі, усе з каровамі. Яны тут жывуць не першы дзень. Нарабілі буданоў, паляць вогнішча, пякуць бульбу. Тут ужо і Міцька, і Коля Бурэц. Не відаць толькі Санькі, бо ў іх каровы няма, а толькі каза. Але апоўдні з'явіўся і Санька [redacted] казой.

Нас тут чалавек дваццаць, і ніхто да прыходу Санькі не падумаў, каб арганізавацца ў якое-небудзь вайсковае аб'яднанне. А Санька адразу ацаніў абстаноўку і прапанаваў:

— Давайце створым партызанскі атрад. Я буду камандзірам.

— Бач ты! Толькі прыйшоў і ўжо камандзір! — упікнуў яго Міцька.

Міцька таксама хоча быць камандзірам, тым больш што ён першы пасяліўся ў Плёсах. І тут пачаўся шум і гвалт, разгарэлася спрэчка. Я стаю за Саньку, а Коля Бурэц за Міцьку. Нарэшце вырашылі не крыўдзіць абодвух. Саньку, улічваючы яго даўнюю чапаеўскую славу, назначылі камандзірам, а Міцьку — начальнікам штаба. Міцька крыху паўпіраўся і згадзіўся.

І пачалося партызанскае жыццё. Вакол Плёсаў выстаўлены пасты і сакрэты з загадам строга сачыць за праціўнікам. Цэлы дзень у «штаб», які размясціўся ў Міцькавым будане, ідуць з пастоў данясенні: вакол, маўляў, спакойна, вораг не падазрае, што ў плёсаўскіх хмызняках размясціўся наш атрад. Міцька дакладна не ведае, чым павінен займацца начальнік штаба, і часта ўмешваецца ў распараджэнні камандзіра. Яны падоўгу спрачаюцца паміж сабой за ўладу — задзірысты, як малады пеўнік, Санька і спакойны, але ўпарты і настырны Міцька.

Спачатку ўсё гэта было падобна на гульню на поплаве, а потым пачалося і ўсур'ёз. Нехта з дому прывалок вінтоўку і з дзесятак патронаў. Коля Бурэц прынёс тры гранаты. Больш за ўсіх вызначыўся сам начальнік штаба. Ён калісьці на лузе прыхаваў ручны кулямёт і два дыскі з патронамі. Пасля доўгіх пошукаў кулямёт прыцягнулі ў Плёсы. Ён быў іржавы. Міцька не мог адкрыць затвор і са злосцю агрэў абушком маёй вайсковай сякеры па рукаятцы. Пачуўся стрэл, які нарабіў у атрадзе перапалоху. Наперадзе стаяў камандзір. Куля прашыла камандзірскую штаніну і ўспарола мурог перад самай пысай нечай каровы. Карова спалохана адскочыла ад чорнай разоры, а потым вярнулася і са здзіўленнем панюхала свежую зямлю.

— Цяпер, калі прыйдзе па кароў немец, пеканём,— рашуча заявіў Міцька і схаваў кулямёт у траву.

Ніхто ў гэтым не сумняваўся: вядома, пеканём.

Вольныя ад службы хлопцы схадзілі на поле кіламетры за два, накапалі бульбы, і вось ужо войска, расчырванелае ад гарачыні вогнішчаў, перапэцканае ў сажу і вуголле, выкачвае з прысаку — хто лазінай, хто трэскай — печанку і з асалодай на яе дзьме. Эх, і смачная ж бульба, згатаваная

сваімі рукамі ў лесе, на свежым, прыпраўленым восеньскімі гаркаватымі пахамі паветры. Ядуць яе з тым, у каго што ёсць: хто з салам, хто з соллю, а хто і проста з такам — нішчымную. Мы з Санькам мачаем у соль на чыстай белай анучцы, а ў Міцькі соль у бляшанцы з-пад ваксы. Начальнік штаба ляжыць на баку, не спяшаючыся, самавіта разламвае надвае сопкую, гарачую бульбіну, акуратна соліць яе і накіроўвае ў рот.

Павячэраўшы, ён закрывае сваю бляшанку і кладзе яе, нібы табакерку, у кішэню. Начальнік штаба ніколі не разлучаецца са сваёй паходнай салонкай. Ён без яе, як курэц без кісета.

Плыве над Плёсамі вераснёўская ноч, блудзіць па хмызняках вецер, то прыцішыцца, быццам прыслухоўваецца, то сарвецца з месца і пабяжыць, як ашалелы, палохаючы нашых вартавых. Мігаюць на небе далёкія халодныя зоркі, цяжка ўздыхаюць каровы, пазашывалася ў буданы, спіць у сене Санькава войска. Не спяць толькі вартавыя. Яны расклалі маленькі агеньчык і туляцца да святла і цяпла: там, у цемрадзі, нібы хто ходзіць, нібы хто крадзецца, нібы хто прытаіўся за кустом.

А раніцой нашы камандзір і начальнік штаба яшчэ раз паказалі нам, што ўсё гэта не гульня і не жарты. Пецька Чыжоў, ці проста Чыжык, худы і хваравіты дванаццацігадовы хлапчук, страціў пільнасць і заснуў на пасту. Праўда, страшнага нічога не здарылася, калі не лічыць, што паўсвіткі вартавога згарэла ў той час, як ён спаў ля агню, але Санька патрабуе лютай кары.

— Ты ведаеш, чаму загінуў Чапаеў? — грозна вядзе камандзір свой допыт.

Чыжык стаіць у акружэнні «партызан», каб і хацеў даць лататы, ды няма куды. Таму ён кратае

босай нагой сухі сучок і недагарэлым рукавом выцірае нос.

— Чапаеў загінуў,— бушуе Санька,— з-за такіх разяў, як ты. Яны таксама спалі на пасту. Іх саміх зарэзалі белыя і ўсіх чапаеўцаў акружылі. Ты здраднік і смаркач. Такіх расстрэльваць трэба.

Пачуўшы пра расстрэл, Чыжык навастрыў вуха.

— Правільна,— падтрымаў камандзіра начальнік штаба.

— А я дзеду скажу! — прыгразіў Чыжык начальству.

Тут Міцька не вытрымаў і даў няўдаламу вартавому пару разоў па шыі. На гэтым суд і расплата закончыліся.

Пакуль разбіраліся [redacted] Чыжыкам, дэзерціравала камандзірская каза. Мы аблазілі ўсе кусты і ямы, але знайсці нідзе не маглі. Вырашылі, што яна ўцякла дамоў. Санька даручыў атрад Міцьку, а сам са слязьмі і праклёнамі пайшоў у вёску. З ім пайшоў і я. Трэба даведацца, як там бабуля з Глыжкам, ды цяплей апрануцца. Ночы ядраныя.

## 30. САНЬКА АБЯЗЗБРОЙВАЕ ВОРАГА

Ляціць над лугам на павуцінні бабіна лета. Адцвітаюць у траве апошнія краскі. Сонца прыпякае, як у жніўні. А Санька нічога гэтага не хоча заўважаць, усю дарогу ён праклінае сваю збродлівую казу.

Пад самай вёскай на балоце, у густых зарасніках лазы мы наткнуліся на незнаёмага чалавека. Ён выйшаў нам насустрач з-за куста так нечакана, што ўцякаць ужо было позна. Першае, што нам кінулася ў вочы, гэта перавязаная акрываўленай анучай рука. Разгледзелі больш уважліва — юнак

гадоў васемнаццаці, абарваны, стомлены, мурзаты і худы.

— Вы з гэтага сяла? — спытаў ён.

— З гэтага,— насцярожана адказаў Санька.

— Немцы ёсць?

Мы з Санькам пераглянуліся: чаму гэта ён пра немцаў пытае? Хто ж ён такі?

— Не ведаем. Мы кароў у Плёсах пасвім,— растлумачыў я незнаёмаму.

— А хлеба ў вас не знойдзецца?

Хлопец акінуў нас галоднымі вачыма і, відаць, зразумеўшы, што пытанне гэта лішняе, уздыхнуў і сеў на купіну.

Крыху асвоіўшыся, мы асмялелі, і Санька спытаў:

— А ты хто такі?

— А ніхто,— адказаў хлопец.— Прынясіце лепш хлеба. І паглядзіце, ці ёсць немцы ў вёсцы.

— Ты, мажа, партызан? — дапытваецца Санька.

— Мажа,— пацісную плячыма хлопец і загадаў: — Ану, хутчэй!

— А нас возьмеш з сабой? — таргуецца мой сябра.

Хлопец крытычна агледзеў нас з галавы да ног і адрэзаў:

— Без зброі не бяром.— А потым пужнуў: — Ну?!

Мы пусціліся з усіх ног выконваць яго даручэнне. Нарэшце-такі мы сустрэлі сапраўднага партызана! Цяпер трэба не ўпусціць моманту і прасіцца ў атрад, трэба штосьці такое зрабіць, каб паказаць, што мы баявыя, геройскія хлопцы. Тады нас прымуць без размоў, не паглядзяць, што няма і па трынаццаць.

Немцаў у вёсцы амаль у кожным двары. Толькі нашу хату абмінулі. Затое ў Санькавай размясціўся

афіцэр. Цётку Марфешку выгналі ў сенцы, але ў сенцах па начах холадна, і яна спіць у суседзяў.

Мы аббеглі ўсе вуліцы, ткнулі насы ва ўсе двары, у завулкі. Санька налічыў дзесяць грузавікоў, а я дванаццаць і дзве легкавыя машыны. Санька збегаў і да палявой кухні, дзе салдаты атрымлівалі абед. Праўда, тут яго заўважыў повар і адразу ж запрог — прымусіў цягаць з калодзежа ваду. Хлопцу гэта не спадабалася. Ён прывалок два вядры і, як толькі немец адвярнуўся, даў драла.

Дамоў ён прыйшоў апоўдні. Каза спакойна стаяла ў хлеўчуку і ела траву. У сенцах нікога не было.

Затое, калі Санька сунуў нос у пярэднюю хату, адтуль рыкнула:

— Цурык!

Відаць, гэты афіцэр — важная птушка, калі пад вокнамі ў двары ўвесь час таўчэцца вартавы, а ў пярэднюю хату не толькі што Саньку і яго маці нельга заходзіць, самі немцы заходзяць баязліва.

Што робіцца за зачыненымі дзвярыма, не можа бачыць ніхто. Ніхто, апрача Санькі. Дашчаная перагародка калісьці была аблеплена каляровымі паперкамі і старымі газетамі. Аднак клей, звараны з мукі, вельмі спадабаўся мышам. Цяпер сцяна абшарпаная не горш за Санькавы штаны.

У адной з дошак, якраз супраць печы, быў калісьці невялікі смаляны сучок. Санька неяк раней прабіў у сучку дзірку, накрышыў у яе серкі з запалак, заткнуў зверху цвіком і агрэў як мае быць абухом. Хацеў, каб пеканула. А яно не пеканула. Сучок разам з цвіком выскачыў у пярэднюю хату, і атрымалася добрая, гладкая, круглая адтуліна. Праз яе відаць усё на свеце.

Спачатку за перагародкай нічога цікавага не было. Здаравенны афіцэр з шырокай чырвонай патыліцай, якая складваецца над каўняром

гармонікам, разглядае карту. Другі сухі, як кіёк, перавязаны раменнем, стаіць побач і робіць выгляд, што яго карта таксама цікавіць. Спачатку яны мірна паміж сабой гергеталі, затым таўсташыяму штосьці не спадабалася, і ён закрычаў, пырскаючы слінай. Чым далей, тым больш яго разбірала. Нарэшце ён грымнуў па стале кулаком, і сухі немец выскачыў за дзверы чырвоны, быццам печаны рак.

«Ух і злосны ж»,— падумаў Санька. У яго ўжо здранцвелі ногі і самлела спіна. Сядзець, сагнуўшыся ў крук, вельмі нязручна.

Па падлозе прагрукаталі салдацкія боты, гэта немец панёс белы эмаліраваны тазік і ручнік. Начальнік, зняўшы з сябе мундзір, таксама пайшоў на двор — будзе мыцца.

На стале побач з тоўстай скуранай сумкай паблісквае чорнай халоднай сталлю пісталет. У Санькі ёкнула сэрца. Вось яна, зброя.

«Узяць, узяць, узяць,— застукала кроў у скронях.— А калі зловяць?» — на нейкі момант завагаўся Санька. Але без зброі ў партызаны не бяруць.

Гэта адбылося на працягу адной хвіліны. Санька хуценька выскачыў з-за мяшка з просам, на пальцах падбег да дзвярэй і ўзяўся за ручку. З-за коміна саскочыў кот, якога маці прынесла замест павешанага радыстам Паулем. Саскочыў, быццам кованы конь. Санька аж уздрыгнуў.

Ніхто ніколі не чуў, каб дзверы ў гэтай хаце рыпелі. А тут, калі трэба прашмыгнуць ціха, яны рыпнулі старымі, нямазанымі варотамі. Аж у грудзях пахаладзела.

Тры хуткія крокі, і пісталет у руках. Куды яго? З пісталетам на вачах у немцаў не выскачыш.

Ён адцягнуў кішэню так, што штаны трэба трымаць рукамі. Загнаным зверам Санька агляну́ўся на дзверы, на вокны. У двары маячаць каска і штык. Акно на вуліцу прыадчынена. За вокнамі дашчаны плот, яблыня і густы, высокі бульбоўнік.

— Шух-х! — зашамацеў бульбоўнік, і пісталет знік пад пажаўцелым ужо лісцем.

Санька глянуў на дзверы.

— Шух-х! — паляцела наўздагон за пісталетам і палявая афіцэрская сумка.

У сенцах Санька схаваўся за ступу і прыціх. Сэрца калоціцца, нібы злоўлены верабей. Нават у пот кінула. Нават дыхаць перастаў.

А немец фыркае на двары маржом.

«Чыстаплюй!» — са злосцю падумаў Санька.

Глянцавыя хромавыя боты прагрукаталі за два крокі ад Санькі. Таўсташы фашыст, асвяжыўшыся, быў у добрым настроі. Ён на хаду выціраў свае гладкія ружовыя шчокі і напяваў вясёлую песеньку.

Як толькі ляпнулі дзверы, Санька выскачыў з-за ступы, але на парозе сутыкнуўся з салдатам і выбіў у яго з рук эмаліраваны тазік. Немец вылаяўся і паддаў нашаму камандзіру кованым ботам. Той куляй зляцеў з ганка і расцягнуўся пад самымі нагамі вартавога, які заржаў так, быццам яго казыталі пад пахамі. У сваю чаргу ён даў Саньку дабаўкі і закрычаў услед:

— Русь, русь!

У нашым двары Санька ніяк не мог аддыхацца.

— Пойдзем, калі добра сцямнее,— сказаў ён мне.— Трэба забраць пісталет і сумку.

Зразумела, што ні мой сябра, ні я нікому і не заікнуліся пра тое, хто нас чакае ў лазе на балоце і куды мы збіраемся. У такіх выпадках лепш трымаць язык за зубамі.

## 31. ЗАСАДА

Дагарае за полем чырвонае неба. Хмары пакрыліся шэрым прысакам, клубяцца крывавымі цяжкімі клубамі. Па дзядоўніку пацягнула халоднай сырасцю, трава стала вільготная, і Санька праз паўгадзіны адубеў так, што дрыжыць кожная жылка і зуб на зуб не трапляе. Але ісці па пісталет і сумку яшчэ рана: з двара даносіцца нямецкая гаворка, бразгаюць вёдры каля палявой кухні, а дзесьці на краі вёскі працяжна, з надрывам вые сабака. Сабака вые — будзе няшчасце: пажар або нябожчык.

З-за хмары выглянуў шчарбаты месяц, нібы павіс на галіне школьнай таполі, асвяціў сады, стрэхі халодным, скупым святлом. Доўгія чорныя цені дрэў перасеклі дарогу. Над вёскай плыве цішыня.

Стала яшчэ халадней, калі ад раўчака пацягнула туманам. Рэдкімі кудзелькамі ён разаслаўся спачатку па лагчынах, а потым завалок крапіву, ахутаў агарод, толькі слупы агароджы выглядаюць з-пад белай коўдры, быццам гуляюць у жмуркі.

Санька павёў вухам, агледзеўся і пайшоў. Ён ішоў асцярожна, нячутна, як здань. Наперадзе нехта нерухома стаіць і прыслухоўваецца да начной цішыні. Стаіць і прыслухоўваецца і Санька. Цьфу ты, хвароба, ды гэта ж куст бэзу, які сам ён уласнымі рукамі пасадзіў сёлетняй вясной на мяжы пад самым плотам.

Месяц крыху павісеў на дрэве і зноў схаваўся за хмару. Цяпер хоць вока выкалі. Трэба прывыкнуць да цемры, бо нічога не відаць.

— Хальт! — гакнула, як вінтовачны стрэл, дзесьці каля палявой кухні.

Гэта далёка, можна асабліва не турбавацца, тым больш што праз мінуту ўсё сціхла. Напэўна, самі немцы цягаюцца або прыйшла змена.

Па мяжы паміж бульбай і буракамі, паміж сцябламі кукурузы паўзці нязручна і цяжка. Хутка не разгонішся, бо сцяблы гарбузоў, якія садзяць дзеля семак, пераплялiся, нібы вяроўкі, чапляюцца за ногі і рукі, цягнуцца следам, шамацяць. Бульба таксама пераблыталася, пакруцілася, быццам па ёй усё лета качаліся чэрці. А тут яшчэ маці, полючы грады, панакідвала ў межы асоту. За лета ён высах, і калючыя іголкі лезуць у далоні, локці і калені. Колькі разоў загадвала яна Саньку, каб павыкідваў гэтае смецце на вуліцу. Дык ён не паслухаўся, паленаваўся, цяпер жа самому і горш.

Невядома, як нага зачапілася за кукурузіну, і тая не зашамацела, а загрымела сухім лісцем, як грыміць жалезны дах, калі на яго кінеш цагліну. А калі лёгкі начны вецер, заблудзіўшыся ў тумане, таксама трапіў на грады і пачаў скубці сухое лісце, здалося, што хтосьці сюды бяжыць. Тут Санька зусім уліп у сырую зямлю. Але неўзабаве вецер выскачыў на поплаў і знік у глухой начы.

Вось і казіны хляўчук. З-за вугла відаць, як топчацца на двары вартавы. У яго на поясе бразгае нейкая жалезячка. Некалькі цяжкіх крокаў у адзін бок — цішыня, некалькі ў другі — зноў цішыня. Немец прыслухоўваецца. Усё, здаецца, спакойна. Відаць, яны не хапіліся пісталета і сумкі, не заўважылі прапажы.

Санька асцярожна, нячутна прашмыгнуў уздоўж глухой сцяны хаты, залёг у крапіве за вуглом. Крапіва балюча апякла шчаку і рукі, але ён на гэта не звярнуў увагі. Як на тое ліха, зноў выглянуў з-за хмары месяц. Ён заблішчаў у шыбах, асвяціў плот і над плотам нямецкую каску. Каска не варушыцца,— здаецца, што яна павешана на слуп.

Не варушыцца і Санька, хоць яму няёмка ляжаць: у бок упірае нейкае ламачча.

Калі нельга, тады асабліва хочацца чхнуць і чхнуць так, каб па сяле пракацілася рэха. Поўзаючы па агародзе, Санька набраў поўны нос пылу, і зараз там так свярбіць, што няма ратунку. Ён заціснуў нос пальцамі, сцяў зубы, закрыў далонню рот і ціха чхнуў.

Каска нічога не пачула. Пакуль Санька ўтаймоўваў свой нос, яна знікла ў двары, за шуламі, на якіх калісьці віселі вароты. Цяпер можна прабірацца далей.

Ён паўзе асцярожна, спрытна і нячутна, як вуж. Ён чуе, як стукае ўласнае сэрца, стукае гучна і трывожна.

Вось і тое акно. Тут, пад акном, павінны ляжаць сумка і пісталет. Санькавы рукі абмацваюць сырую зямлю і нічога не знаходзяць.

Э-э, чорт, зноў цягнецца вартавы. Цяпер ён спыняецца каля самай агароджы. Чуваць нават, як немец уздыхае. Мабыць, успомніў сваю далёкую Германію. А можа, проста надакучыла стаяць пад вокнамі, калі начальства соладка спіць пад цёплай коўдрай.

Калі пальцы дакрануліся да гладкай, крыху вільготнай ад начной сырасці сумкі, Санька супакоіўся. Усё тут. Вось і пісталет. Цяпер толькі бясшумна выбрацца з-пад акна, а там па агародах, па глухіх закутках на балота, у лазу. Лаві тады ветру ў полі.

Страшэнны ўдар прыйшоўся якраз па галаве. У вушах зазвінелі званы, ярка ўспыхнулі і патухлі зоркі, і Санька паляцеў у чорную бездань. Ён не чуў, як, акружыўшы яго, перагаварваліся немцы:

— Партызан! Партызан!

## 32. Я ІДУ Ў ПАРТЫЗАНЫ

Я чакаю Саньку за гарадзішчам, як было і дамоўлена, пад нахіленым стогам. Чакаю гадзіну, другую, да глыбокай ночы, а яго ўсё няма. Некалькі разоў мне карцела пайсці яму насустрач, але боязна размінуцца, боязна ў цемры наткнуцца на патруля.

Пракрычалі першыя, а затым і другія пеўні, а Санькі не відаць і не чуваць. Мутарна становіцца на душы, у сэрца крадзецца трывога. Што там здарылася? Можа, яго застрэлілі? Адзін раз мільганула думка і аб здрадзе. Сам пайшоў, а мяне кінуў.

Дзесьці на краі вёскі грымнуў стрэл. Трасіруючая куля працягнула агністую нітку ад зямлі да неба і згубілася сярод зорак. Забрахалі ў дварах сабакі. Можа, гэта Санька там напароўся?

Раніцой па агародах я прабраўся дамоў. Мяне сустрэла бабуля са слязьмі і лямантам.

— Прападзі ты пропадам са сваёй помаччу,— загаласіла яна.— Пазбаў ты маю галовачку ад бяды. Адзін ужо даскакаўся, дапартызаніўся, дапартызанішся і ты...

Бабуля і слухаць не хоча, каб я ішоў пасвіць карову. Яна сама прыгоніць Рыжую дамоў, а мне з хаты не дасць носа высунуць. Што яна скажа тады майму бацьку, калі і мяне схопяць? Даруй, Кірыла, не ўберагла? Як яна тады ў вочы людзям будзе глядзець? Саньку, аказваецца, немцы схапілі.

Я ляпнуў дзвярыма, крыкнуў, што зараз вярнуся, і памчаўся на вуліцу. У сенцах зноў узняўся лямант. Бабуля мяне не дагоніць і думае ўзяць слязьмі.

Падыходзіць да Санькавай хаты небяспечна. На мяне падазрона касавурыцца вартавы. Хлопцаў на вуліцы не відаць, няма ў каго распытаць, дзе зараз

наш Чапаеў. З дарослых ніхто толкам нічога не ведае: кажуць, што яго замкнулі ў школьным склепе, у былой валаснай халоднай. Але да халоднай не падысці, там побач з ёй, каля палявой кухні, увесь час таўкуцца немцы.

План прыйшоў у галаву сам сабой, і, па-мойму, някепскі план. Трэба ўзяць на дарогу хлеба і бегчы хутчэй у лазу да партызана, можа, ён нас там яшчэ чакае. Далей разам з партызанам мы ідзём у атрад. Ноччу атрад нападае на немцаў, што размясціліся ў нашай вёсцы, і выручае Саньку. Галоўнае — не траціць часу.

Бабулі ў хаце няма. Глыжка сказаў, што яна пайшла да дзеда Мікалая.

— Яна кажала,— дакладвае Глыжка,— што дзед Мікалай табе пакажа. Яна кажала, што ён будзе біцца...

Што задумала бабуля, няцяжка здагадацца. Прыйдзе дзед, тады сёння не ўцячэш, не пусціць.

Я адрэзаў лусту хлеба, паклаў яе за пазуху і ўжо на парозе папярэдзіў малога:

— Глядзі тут, Рыгор. Слухайся бабу. Калі бульба пад падлогу не ўлезе, закапайце ў капец.

Глыжка глядзіць на мяне і хоча заплакаць.

— А ты куды?

— Ты не плач. Я схаджу толькі ў адно месца і вярнуся. Скажы бабе, каб карову дамоў прыгнала...

Раскашлаціў напаследак непаслухмяны братаў віхор, як, ідучы на вайну, зрабіў гэта мой бацька, і падаўся на агароды. Што робіцца на душы, цяжка і сказаць: шкада кідаць старую з малым, і заставацца мне тут нельга. Санька ў небяспецы.

Да таго месца, дзе мы сустрэліся ўчора з партызанам, я дабраўся без прыгод. Хутка знайшоў і той куст, і тую купіну, але самога партызана няма.

Крычу, свішчу — не адгукаецца. Абышоў навокал у надзеі, што ён, можа, заснуў,— ні жывой душы. Толькі на сухой грыўцы пад развесістай вербалозінай знайшоў абярэмак прымятага сена ды побач з ім маленькі акурак са старой пажаўцелай газеты. Пайшоў. Не дачакаўся. Падмануў.

У роспачы я заплакаў.

Гэта былі горкія слёзы крыўды. Пры чужых людзях я іх глытаў, стараўся не паказацца слабым. Глытаў, калі памерла маці, калі ўпершыню пабіў Няўмыка. Потым крыху аббіўся, зачарсцвела душа, акамянела сэрца. Калі крыўдзяць чужыя людзі, яно не так балюча. А тут свой. Не паверыў. Кінуў у той час, калі асабліва патрэбна яго дапамога, калі мы апынуліся ў бядзе.

Магчыма, яго можна яшчэ дагнаць. Ён пайшоў, напэўна, у бок лесу, трэба толькі не траціць ні хвіліны. Мне здалося, што я нават яго ўбачыў. Нейкі чалавек паказаўся на далёкім узгорку і знік у лагчыне за стагамі сена.

Купіны, пакрытыя мяккім зялёным мохам і асакой, зыбаюцца пад нагамі, угрузаюць у рудую твань. З патрывожанага тарфянога дна вакол іх падымаюцца шыпучыя бурбалкі. Балота шырокае, з кіламетр. Калісьці да вайны ў яго густых буйных асоках вадзілася процьма ўсялякіх птушак. Не раз мы хадзілі сюды па вясне збіраць яйкі дзікіх качак. Так што і зараз мне прабірацца па зыбкай, зарослай зверху травяным кажухом багне не ў навіну. Іншы раз, праўда, ногі саслізгваюць з купіны і правальваюцца па калена ў гразь. Там, спадыспаду, зямля цвёрдая, як ток, і халодная, быццам лёд.

Так-сяк я выбраўся на сухую грыву, абмыўся крыху ў травяністай калдобіне, павесялеў. Па дарозе ўзнік новы план: не даганю таго хлопца, пайду ў лес сам. Адна толькі перашкода — рака.

Ды, можа, як-небудзь перабяруся. Знайду бервяно і пераплыву.

Як складуцца абставіны ў лесе, пакуль што цяжка сабе ўявіць. Але ў хлапечым сэрцы багата надзей. Зразумела, мне сустрэнуцца партызаны. І вось ужо ўяўленне малюе перад вачыма грозныя і радасныя падзеі самай бліжэйшай будучыні. Мы ідзём нячутна, як цені. Я — наперадзе, паказваю дарогу, за мной — камандзір атрада, за камандзірам — ліхія хлопцы з аўтаматамі, вінтоўкамі і гранатамі. На двары ноч, спяць сабе Няўмыка, Ахонька і ўся іх хеўра, спіць таўсташыі Санькаў фашыст, толькі ходзяць пад вокнамі вартавыя. Яны і не здагадваюцца, што іх чакае праз некалькі мінут.

І вось я даю сігнал узмахам рукі. Партызаны па камандзірскаму загаду рассыпаюцца па вуліцы, бягуць уздоўж платоў. І раптам — тра-та-та-та. Гэта стракоча наш кулямёт. Я ляжу побач з кулямётчыкам і падаю стужку з патронамі.

— Ці-у, ці-у,— спяваюць кулі.

Кулямёт змоўк.

— Дзядзька, што з вамі, вы забіты? — падскакваю я.

— Не,— адказвае партызанскі кулямётчык словамі з песні,— я забіт не забіт, а цяжка ранены...

А немцы ўсё бліжэй і бліжэй. Яны думаюць, што іхняе ўзяло, весела гергечуць, але таго не ведаюць, што за кулямётам я.

— Тра-та-та-та. А, што? Не падабаецца, гады паўзучыя?

І вось я імчуся на добрым, баявым кані. Адкуль узяўся конь, пакуль што невядома. Ды гэта не так ужо і важна. Гарацъ хаты паліцэйскіх, а ўсе астатнія полымя не кранае. Людзі радасна сустракаюць вызваліцеляў.

— Глядзі ты? — здзіўляюцца яны.— Ды гэта ж Сырцоў Іван.

— Які?

— Ды Кірылаў большы хлопец?

— Вось і вазьмі яго за руб дваццаць. Яшчэ ўчора карову пасвіў, а сёння на табе, камандзір. Ці не галоўны ён у іх?

— Гэта ён за Саньку так помсціць.

І раптам варожая куля прабівае наскрозь маё мужнае сэрца. Нада мной схіліліся партызаны і аднавяскоўцы. Я нежывы, але добра чую, што яны гавораць:

— Геройскі быў чалавек, даваў немцам прыкурыць...

Праўда, я паміраю не зусім і хутка ачуняю.

Пад такія прыемныя думкі лёгка ідзецца. Далёка за спінай засталася родная вёска. Яна схавалася ў кучаравых шатах вербаў, і толькі школа стаіць на гары як на далоні, глядзіць мне ўслед пустымі вокнамі.

Да лесу засталося трэць дарогі. Здалёк ён здаваўся сінім шчарбатым парканам, цяпер можна разгледзець медныя, магутныя ствалы соснаў. Асабліва тых, што стаяць на самым пясчаным беразе.

Там, за ракой, ужо другая зямля, там, у густым бары, жывуць мае надзеі. Мне хочацца ўбачыць людзей, якім я нясу свае крыўды, але колькі ні ўглядаюся, пакуль што нічога не відаць. Не ходзяць між соснаў партызаны, не глядзіць іх разведчык на мяне ў бінокль.

На беразе старога рэчышча, уздоўж якога ідзе ўжо зарослая травой лугавая дарога на Старую Рудню, я падкасаў штаны і пайшоў шукаць броду. Вада ўжо халодная, пад нагамі распаўзаецца ліпкі глей. Ступіш убок і зусім загразнеш па пояс. Але пераправа прайшла ўдала. Намокла толькі адна калашына. Я выйшаў на супрацьлеглы бераг, задаволены сам сабой. Адным водным рубяжом менш. Застаўся яшчэ адзін, але самы галоўны.

— Хальт! — аперазаў мяне бізуном па спіне нямецкі вокліч.

Іх было двое. Яны стаялі на той самай дарозе, дзе я толькі што падкасваў штаны. На грудзях аўтаматы, рукамі трымаюць веласіпеды. Дагнаць яны мяне не дагоняць, пакуль перабяруцца цераз раку, мой і след прастыне. Але дагоніць куля, тым больш што мне трэба будзе яшчэ ўзбегчы на круты бераг. Для кулі рэчка не перашкода.

І я думаю: «Ну, што яны зробяць малому? Скажу, што прыйшоў лазы нарэзаць. Кошык трэба сплесці».

## 33. УЦЁКІ ЎНАЧЫ

Немцы не сталі дапытвацца, чаго я бадзяюся па лузе. Яны загадалі мне ісці па дарозе, а самі селі на веласіпеды і, ледзь перабіраючы нагамі, паехалі следам. Мне давялося бегчы трушком. Адзін з іх увесь час наязджае на мяне колам, цаляе трапіць у босыя пяткі і камандуе:

— Шнэль, шнэль!

Якое там «шнэль», калі і так дыхаць займае. Збягаючы з узгорка, я няёмка ступіў у глыбокую, зарослую травой каляіну і распластаўся на дарозе. Гэта рассмяшыла фашыстаў.

Кіламетры за два ад Старой Рудні, каля крутой пясчанай гары мяне спынілі. Хацелася зваліцца на зямлю і хоць крыху аддыхацца, але мне загадалі падымацца на гару. Следам карабкаюцца немцы, валакуць свае веласіпеды.

На схіле гары процьма народу капае акопы. Тут распараджаецца пажылы, у нейкім рудым абмундзіраванні салдат. Вінтоўка за плячыма, а ў руках

бліскучы жалезны метр. Ён крытычна аглядае маю хліпкую постаць і падводзіць да кучы рыдлёвак.

— Лапата. Лапата. Арбайтэн. Фарштэен зі? — тлумачыць ён і вядзе да вялізнай ямы.

А тыя двое расселіся на траве і не звяртаюць больш на мяне ўвагі.

«Варона ты, варона, а не партызан,— лаю я сам сябе.— Гэта ж трэба так уліпнуць!»

Нас у яме чацвёра. На дне сівенькі сухарлявы дзядок і тоўстая рыжая дзяўчына. Яны бяруць гліну шуфлямі і кідаюць яе на выступ, падобны на прыпечак, па якім залазяць на чарэнь.

З прыпечка яе шуфлем выкідвае наверх хлопец гады на тры старэйшы за мяне. Мы адразу пазнаёміліся: яго завуць Максімам.

— Цябе гэты татальнік схапіў? — ківае ён на немца ў рудым мундзіры, які ўвесь час вісіць над нашымі галовамі і лаецца на дзяўчыну, бо тая не гладка аскрабае сценку.

— А што гэта за татальнікі такія? — цікаўлюся я.

— Цю-у! Не ведае! — здзівіўся Максім.

Тут у размову ўмешваецца дзядок. Ён выцер далонню пот, абапёрся на рыдлёўку, і растлумачыў:

— Вось не хапае, скажам, у чалавека бульбы. А голад — не цётка. І вось пачынае ён, скажам, есці тую, што пакідаў на насенне. Так і тут: падмятаюць пад венік сваю Германію.

— Ды пры чым тут бульба? — незадаволены дзедавым тлумачэннем, адгукваецца Максім.— Грабуць старых і малых, бо не хапае ўжо ў іх салдат.

— Арбайтэн, арбайтэн! — перапыніў немец гэтую дыскусію і сам расселся на свежым пяску над нашымі галовамі.

— А нам, скажам, не на пажар, — з насмешкай адказаў татальніку дзядок, але заварушыўся.

Вечарам нас прыгналі ў Старую Рудню. Насустрач па дарозе праехалі два грузавікі, гружаныя бярвеннем. Бярвенне не новае, пачарнелае ад дажджоў і вятроў, на ім папрыліпаў спрасаваны мох.

Дзядок дыбае побач са мной і ўздыхае:

— Вось разбураюць хаты, закапваюць у зямлю. Відаць, зімаваць збіраюцца.

На ўскраіне сяла, каля гумна, нас спынілі. Мясцовым загадалі выйсці заўтра на работу і адпусцілі па хатах. А такіх, як я, злоўленых на розных дарогах, загналі ў гумно. Мае спробы даказаць, што я таксама старарудняпскі, скончыліся дрэнна: зарабіў ад аднаго з веласіпедыстаў выспятка. Навучыліся, чэрці, як коні брыкаюцца.

Нас у гумне чалавек дваццаць: бабы, дзяўчаты, гаваркі дзядок і некалькі хлопцаў. Людзі, стомленыя за дзень цяжкай працай, моўчкі пападалі, хто дзе стаяў. Толькі дзядок, падсцілаючы пад бок салому, уздыхнуў:

— Во, кажу, трапіў у нерат — ні ўзад ні ўперад. Трэці дзень ужо раблю чорту лысаму.

Але ніхто размовы не падтрымаў, і дзядок пакрыўджана змоўк. Кожны думае пра сваё. Пра сваё думаю і я. Затрымлівацца на гэтых акопах мне няма разліку. Трэба неяк уцякаць, а як ты ўцячэш, калі вароты закручаныя дротам і адзін з тых веласіпедыстаў непадалёку рыпае на губным гармоніку.

«Эх, варона ты, варона!»

Мармыча нешта скрозь сон рыжая дзяўчына, пасвіствае побач са мной носам, падклаўшы пад галаву кулёк саломы, Максім, толькі мне не спіцца і не ляжыцца. Акраец хлеба, што захапіў з дому, я з'еў яшчэ на лузе, на баланду, якую даюць немцы на акопах, спазніўся, пазнавата мяне прыгналі, і цяпер страшэнна хочацца есці.

Густыя прыцемкі ахуталі зямлю. У гумне і зусім нічога не відаць. Асцярожна, каб не наступіць на

каго-небудзь, я прабіраюся ў дальні куток, стараюся ў шчыліны паміж бярвеннямі разгледзець, што робіцца на вуліцы. Нічога не відаць.

Нечакана наткнуўся на штосьці вострае. Абмацаў рукамі — жалезны зубец, пад нагамі валяецца драўляная барана. Пачаў абыходзіць — спатыкнуўся і паляцеў на голы гліняны ток.

— Ціха ты, абармот! — злосна зашыпеў над самым маім вухам хтосьці з цемры, а потым паклікаў да сябе: — Ідзі сюды. Толькі глядзі, тут нейкае ламачча...

Аказваецца, і Максім не спіць, шнырыць па гумне.

— Можна падкоп зрабіць, ды доўгая песня,— шэпча ён.— Давай лепш страху драць. Мінулай ноччу я спрабаваў — аднаму нязручна. І галоўнае — ціха. Баба тут адна ёсць. Дужа баіцца смерці. Пачуе — лямант узніме.

Максім выгнуў дугой спіну, упёрся рукамі ў сцяну і скамандаваў:

— Лезь...

Стаяць на Максімавых плячах вельмі нязручна. Яны хістаюцца ўвесь час, нібы купіна пад нагамі на зыбкім балоце. Таму скубці салому даводзіцца адной рукой, а другой — трымацца за пераплёціну. Страха зроблена па-гаспадарску, пакрыта, як кажуць, пад грабёнку, трывала ўвязана. Пацягнуў раз, пацягнуў другі — пасыпалася пацяруха, запарушыла вочы. А тут яшчэ Максім пахіснуўся, знікла пад нагамі апора, хруснула пад рукой спарахнелая жардзіна, і я загрымеў на ток. У цемры трэснуўся аб нешта цвёрдае патыліцай, аж войкнуў.

— А Божачка ж ты мой! — залямантавала баба.— Ды нас жа пазабіваюць і спаляць праз гэтых хлопцаў...

Заварушылася на саломе яшчэ некалькі чалавек.

— Вось сaплякі! — прасіпеў нехта з мужчын прастуджаным голасам.

— Рус! Рус! — пагрозліва абазваўся за варотамі немец.

Апоўначы, калі ўсе, здаецца, заснулі, мы зноў узяліся за страху. На гэты раз прыцягнулі барану і асцярожна, каб не стукнуць, прысланілі яе зубцамі да сцяны. Зноў пасыпалася на галаву пацяруха.

— Ты перавясла шукай! — падае парады Максім, прытрымліваючы мяне знізу.

Цяпер я дзейнічаю дзвюма рукамі, і справа падаецца лепш. Як толькі выцягнулася першая жменька саломы, другая пайшла лягчэй. Шмаргану адзін раз і замру. Слухаем, ці далёка немец. Далёка — яшчэ раз. Блізка — чакаем, пакуль зойдзе за вугал.

Так-сяк удалося прадраць невялікую дзірку. Дачакаўшыся, калі вартавы адышоў ад варот, я ўчапіўся за жардзіну і падцягнуўся колькі мог на руках, боўтаю ў паветры нагамі, хачу дастаць сцяну, каб адпіхнуцца. Добра, што знізу падсадзіў Максім.

Ноч дыхнула мне ў твар першым марозцам. Страха ўзялася інеем. Думаць няма калі. Знізу падштурхоўвае Максім:

— Давай...

І я, затаіўшы дыханне, сігануў у невядомую і страшную цемру. Або пан, або прапаў.

Падхапіўшыся на ногі, я пабег уздоўж агародаў, потым пералез цераз адзін штыкетнік, цераз другі, абадраў рукі аб калючы дрот. Сабакі ўзнялі страшэнны гармідар. Спачатку гаўкнуў у бліжэйшым двары, яму адазваўся на суседняй вуліцы, і пачалася пераклічка на розныя галасы. Ногі самі вынеслі мяне за вёску. Я мяшком скаціўся з гары і пашыбаваў, не выбіраючы дарогі, у хмызнякі, па балоце, па купінах, па калючай асацэ.

Дзесьці за спінай грымнуў стрэл, затым другі. У начной цішыні яны гулка пракаціліся па лузе да самага лесу і адтуль рэхам вярнуліся назад.

«Па Максіму»,— здагадаўся я і яшчэ больш паддаў ходу.

Чаўкае пад нагамі вада, усё глыбей і глыбей топяцца купіны, а далей і зусім не прайсці. Давялося бегчы ў абход.

## 34. САНЬКА ВІНАВАЦІЦЬ ВЕРАБ'ЁЎ

Саньку забралі са склепа яшчэ ноччу, кінулі ў машыну і кудысьці павезлі. Куды, ён не ведаў. Думаў, што на расстрэл.

І вось ужо другія суткі Санька сядзіць у цёмным падвале. Ад школьнага склепа ён адрозніваецца толькі тым, што пад самай столлю тут ёсць невялікае акенца. За бруднай шыбай хістаецца ад ветру тоненькая, яшчэ зялёная былінка і раз-пораз праходзяць то ў адзін бок, то ў другі салдацкія боты.

У падвале не так страшна, як у склепе, не так лезуць у галаву чорныя думкі. Тут многа людзей, і гэта супакойвае.

Побач з Санькам сядзіць на цэментаванай падлозе, прыхіліўшыся да цаглянай сцяны, аднарукі дзядзька, зараслы да самых вачэй чорнай шчацінай. Ён звесіў галаву на грудзі і, здаецца, спіць. З другога боку ляжыць дагары, падклаўшы рукі пад патыліцу, яшчэ зусім малады хлопец. А далей — шапкі, картузы, хусткі, дзіравыя боты, старыя, падвязаныя вяроўкай галёшы і нават лапці. Лапці належаць старому з шырокай, як лапата-хлебніца, барадой. Яна закрывае яму грудзі амаль да пояса. Стары ні на каго не глядзіць. Ён увесь час пазірае на свой дзіравы лапаць і вялізнымі, вузлаватымі пальцамі спрабуе запхнуць у дзірку брудную анучу.

Непадалёку ад яго — дзве дзяўчынкі. Яны прыціснуліся адна да адной і спалохана ўздрыгваюць, як толькі што ляпне за дзвярыма. Адна з іх ужо амаль дарослая, а другая — зусім горкае дзіця. Тварык дробненькі, абсыпаны вяснушкамі, нібы вераб'інае яечка.

Гэта толькі здаецца, што аднарукі спіць. Калі Санька прымасціўся побач, ён расплюшчыў вочы, пільна глянуў на свайго новага суседа і, нібы даўняга знаёмага, спытаў:

— А цябе за што?

Спытаў так, быццам Санька і не чалавек, быццам ён не можа нарабіць немцам шкоды. Расказваць неахвота. Санька толькі ўздыхнуў і адвярнуўся.

— Не хочаш — не гавары,— не пакрыўдзіўся сусед і зноў заплюшчыў вочы.

Паветра ў падвале густое і вільготнае, пахне анучамі, сырой адзежай і потам. Ад усяго гэтага кружыцца галава. Як скрозь сон даносяцца крокі з-за бруднага акенца, бразгае замок на дзвярах, вішчаць, аж мароз ідзе па скуры, іржавыя завесы.

— Кандраценка, выходзь!

З кутка падняўся дзядзька ў прамасленым, зашмальцаваным летніку і пачаў пераступаць цераз галовы, цераз ногі, цераз клункі. Завішчалі завесы, і дзверы праглынулі няскладную постаць Кандраценкі.

Санька спіць і не спіць. То яму здаецца, што ляжыць ён у Плёсах каля свайго будана, то паўстае перад вачыма тоўсты карак фашыста, складзены гармонікам над каўняром.

«Яны знайшлі ў бульбе пісталет,— узнікла ў Санькі здагадка,— і пільнавалі, калі я прыйду...»

Аднекуль з-пад столі зноў рыпіць той жа голас:

— Іван Лебяда, выходзь...

На гэты раз падняўся Санькаў аднарукі сусед. Ён не спяшаючыся, па-гаспадарску абцерушыў

прыліплыя да вайсковых пацёртых штаноў саломіны і пайшоў. На парозе павярнуўся і сказаў:

— Бывайце на ўсякі выпадак...

Яму паспеў адказаць толькі шырокабароды дзед:

— Бывай, сынок...

І дзверы праглынулі Лебяду.

Саньку стала страшна. Што ён будзе рабіць, калі паклічуць і яго? Што з ім зробяць? Меншая дзяўчына пачала хліпаць.

— Наташа, мне страшна,— прашаптала яна.

Другі Санькаў сусед, кірпаты хлопец, які да гэтага моўчкі грыз саломіну, з неадабрэннем глянуў на дзяўчат і, звяртаючыся да Санькі, сказаў:

— Абы сырасць разводзіць. Дзеўкі і ёсць дзеўкі. Вочы на мокрым месцы. Мяне не за такое ўзялі і то...

Яны разгаварыліся. Хлопца завуць Міколам. Ён з Чыстых Луж. Затрымалі яго з савецкімі лістоўкамі.

— Пасвіў я ў лесе карову,— шэпча кірпаты,— і вось пайшоў дамоў узяць хлеба, а па дарозе назбіраў лістовак. Іх там цэлымі жмутамі самалёт накідаў.

— А што пішуць?

— Пішуць, што блізка, што пад Курскам сагнулі немцаў у дугу. Ну, ды я ўсяго не памятаю. Словам, з гэтымі лістоўкамі мяне і сцапалі. Партызан, кажуць. А я ім: не, пан, паперу на раскурку ўзяў...

З гэтым хлопцам спакайней. Ва ўсіх яго словах, рухах, паводзінах ёсць упэўненасць і вера, што ўсё абыдзецца, усё будзе добра.

— Я дык уцяку,— не сумняваецца Мікола.— Дзякуй Богу, не першы раз.

— А як? — узняўся на локаць Санька.

— Там будзе відаць...

З пятага на дзесятае расказаў сваю гісторыю і Санька, як ён украў зброю і сумку, як яго схапілі, як білі і пыталіся — навошта.

— Я сказаў, што вераб'ёў страляць...

Мікола доўга слухаў моўчкі, усё грыз сваю саломіну, а потым заўважыў:

— Ну і дурань ты. Трэба было адразу браць і ў сенцы.

Тут нечакана ўвязаўся ў гаворку дзед. Ён непрыкметна перасеў на месца Лебяды.

— Эге-е,— заківаў дзед барадой,— справа твая, хлопец, неважнецкая. Толькі ты слухай сюды нікога больш не ўблытвай. Калі ўзяўся вінаваціць вераб'ёў, на тым і стой...

Тут загрымелі цяжкай клямкай дзверы, завішчалі завесы, і на цэментаваную падлогу мяшком зваліўся акрываўлены Лебяда.

— Аляксандр Макавей, выходзь...

Спачатку Санька і не ўцяміў, што гэта маюць на ўвазе яго. Ён нават азірнуўся навокал, хто там яшчэ з такім жа, як у яго, прозвішчам. Але ніхто не варушыўся.

— Макавей!

І Санька пайшоў, пераступіў цераз крывавую лужыну, што расцяклася з-пад аднарукага, і нейкімі чужымі, драўлянымі нагамі стаў падымацца па каменных прыступках.

І вось перад ім сядзіць пажылы, гладка паголены, наадэкалонены афіцэр. Вочы добрыя, спагадлівыя, не такія, як у таго з тоўстым каркам. Ён з ласкавым папрокам ківае галавой, быццам хоча сказаць: хлопец, хлопец, як мне цябе шкада. Афіцэр хоць і кепска, але гаворыць па-руску:

— Как тэбя зваць, мальшык?

— Санька.

— Санька іст Александр? Карошы мальшык. У меня свой сін ест дома, такой, какой ты. Зваць Петэр, значыць — Пеця, Пеця.

Паведаміўшы пра свайго сына, немец змоўк, цяжка ўздыхнуў і закурыў цыгарэту. Санька, на-

супіўшыся, разглядае вышытага на яго мундзіры арла.

«Хітры,— думае ён пра афіцэра.— Кось-кось і за грыву».

Афіцэр пускае тонкія струменьчыкі дыму і расказвае, як ён вельмі любіць «рускі мальшык», як ён іх шкадуе. Ім, бедным, вайна перашкодзіла вучыцца, многія з іх сіроты, бо бацькоў сілай пагналі на вайну. Санька — хлопчык разумны, і ён, зразумела, раскажа, хто навучыў яго ўкрасці пісталет і сумку. За гэта яму дадуць многа вельмі смачных цукерак і пакатаюць на машыне.

Саньку прыпамяталася, як яго везлі сюды пад аўтаматам. Пакаталі ўжо — хопіць з яго, здаволіўся.

Яму падораць самы сапраўдны пісталет, калі ўжо ён гэтага хоча.

— Ты хацел такой пістоль? — спытаў немец і паклаў на стол зброю.— Пістоль будет твой...

Людзі, якія вучаць красці «рускі мальшык» нямецкія сумкі з картамі і пісталеты,— вельмі дрэнныя людзі. Яны самі баяцца гэта рабіць і пасылаюць «бедны мальшык» на смерць. Але Саньку нічога не будзе. Пакараюць толькі таго, хто яго навучыў. Немцам, якія білі яго там, пад вокнамі ў бульбе, таксама здорава пападзе, таму што «некарашо абідзіт бедны мальшык».

— Ты будзеш гаварыт, затшэм брал пістоль?

Санька моўчкі кіўнуў у знак згоды галавой.

— Затшэм?

— Вераб'ёў страляць,— прызнаўся Санька.

— А сумку?

— Так. Хацеў у яе што-небудзь класці. Яна прыгожая.

Не, афіцэр нічым не зможа «памагайт», калі Санька будзе такім неразумным. Яго будуць біць,

яго могуць расстраляць. Яны хочуць пакараць толькі тых нядобрых людзей, што вучаць красці. Красці непрыгожа і сорамна.

— Вераб'ёў страляць,— стаіць на сваім Санька.

Моцны ўдар па твары зваліў яго на падлогу. У вачах замітусіліся сінія, ружовыя, жоўтыя агеньчыкі, закружыліся столь, лямпа і афіцэр разам са сталом.

— Вераб'ёў? — пытае немец.

— Вераб'ёў,— хныкае Санька.

Яго біў здаравенны салдат, біў цяжкімі валасатымі кулакамі, біў папругай, біў ботамі. Потым, калі страціў прытомнасць, аблілі з вядра вадой. Мокрага, акрываўленага Саньку паднялі пад пахі і зноў пасадзілі на ўслон перад сталом.

Санька баяўся крыві. Ён не мог глядзець, як хлопцы б'юць каменнем жаб, ён уцякаў у белы свет, калі бацька рэзаў свінню. А тут чамусьці абыякава зірнуў на свае чырвоныя пальцы і апусціў галаву. Па лбе [illegible] галавы пацёк цёплы струменьчык, заліў вочы. Санька працёр іх рукавом і глянуў на афіцэра, як скрозь каляровае шкельца. Афіцэр ружовы, салдат ружовы, лямпа над галавой ружовая.

Ён, здаецца, аглух.

У галаве бомкаюць нейкія званы. Быццам дзесьці за сцяной крычыць афіцэр. Што ён крычыць — не чуваць, але і так вядома. Яму хочацца ведаць, навошта ўзяў Санька пісталет.

— Вераб'ёў страляць.

Яго прывалаклі ў падвал ледзь жывога, таксама, як і Лебяду, штурхнулі за дзверы.

— Вераб'ёў страляць,— сказаў Санька шырокабародаму дзеду, які падхапіў яго на рукі, і страціў прытомнасць.

## 35. Я ЎСТУПАЮ Ў МАРЫНІНА

Усю ноч я пракалаціўся на беразе ракі ў лазе. Раніцой, убачыўшы трох жанчын з кашолкамі, вылез з куста і пашыбаваў следам. Разлік быў просты — жанчыны, відаць, ідуць у мястэчка, што раскінулася на тым беразе. Калі іх будзе перапраўляць на лодцы перавозчык, залезу ў лодку і я.

Так яно і выйшла. Пераехаўшы раку, жанчыны сталі разлічвацца, а я саскочыў проста ў ваду і пабег, бо плаціць не было чым.

— А хіба гэта не твой, Хрысціна? — здзівіўся перавозчык, з плаксівым тварам дзядзька, і пачаў лаяцца мне ўслед.

Дужа я цяпер яго баюся. Няхай паспрабуе дагнаць. Цяпер мне сам чорт не брат. Выбраўшыся на пясчаны, разбіты машынамі і фурманкамі шлях, я падаўся ў бок лесу. Каб зноў не наткнуцца на немцаў, трымаюся бліжэй да сасонніку.

Скупое сонца крыху нагрэла дарожны пясок, толькі ў цяньку пад кустамі яшчэ бялее іней. Казычуць у носе грыбныя пахі, блінамі паразлягаліся старыя маслякі. Падняў адзін, другі — патачылі чарвякі.

І раптам дарогу мне перагарадзіў павалены тэлеграфны слуп. Пень ад слупа ў мой рост. Ён ашчэрыўся вострымі шчэпкамі. Нейкая невядомая сіла разарвала бервяно на дзве часткі. Падыходжу да другога слупа, і гэты на баку. Таксама раструшчаны, як і першы. Валяюцца на дарозе парваныя, пераблытаныя правады. І трэці і чацвёрты. Ды што ж гэта такое? Не вецер жа іх паламаў. Радасна ёкнула сэрца — партызаны. Гэтаму быў сведкам і мост цераз невялікую рэчку з непраходнымі забалочанымі берагамі, дакладней

кажучы, тое, што засталося ад моста. А засталіся ад яго толькі чорныя галавешкі, якія тырчалі з тарфяной вады.

У вёску Марыніна, якая прытулілася на краі сасновага бору, я ўвайшоў у баявым, прыўзнятым настроі, як уваходзяць вызваліцелі ў сталіцу. Гэта быў не проста я, а перадавы атрад... Праўда, у мяне не было сцяга, і ніхто не вынес мне хлеба-солі. Кішкі ігралі марш. Свіння з двума рабымі парсюкамі, не падазраючы, хто ідзе, разляглася на дарозе. Я даў аднаму парсюку босай нагой выспятка, той завішчаў і адскочыў убок. Жанчына, якая брала ў калодзежы ваду, з цікаўнасцю правяла мяне позіркам, але нічога не сказала.

Меркавалася прайсці вёску без прывалу, хацелася хутчэй у лес — там партызаны. Але каля сельуправы давялося спыніцца. Да вайны тут, напэўна, было праўленне калгаса. У сельуправе ніводнага акна, дзверы, знятыя з завесаў, валяюцца каля ганка. Па дарозе вецер ганяе паперкі з нямецкімі арламі і пячаткамі. На калодах, зваленых супраць управы, сядзіць мясцовы жыхар і старанна калупае ў носе. Яму год шэсць, як і Глыжку.

— Хто гэта так раскалашмаціў? — пытаюся я ў яго.

Мясцовы жыхар глядзіць на мяне шэрымі цікаўнымі вачыма, выцірае рукавом нос і толькі сапе.

— Можа, ты не ведаеш?

Хлапчука гэта закранула.

— Ага ж, не ведаю,— пакрыўдзіўся ён.— Партызаны. Яны ноччу стралялі.

«Калі так,— думаю,— з гэтай вёскі я не пайду. Яны тут недзе блізка. Дачакаюся. Вернуцца».

Мясцовага жыхара маці паклікала есці крупнік, а я застаўся на калодах. Сяджу, грэюся на сонцы, гляджу на лес, што стаіць сцяной за лужком, і

глытаю сліну — з коміна бліжэйшай хаты даносіцца пах свежага хлеба.

Цэлы дзень я мазолю людзям вочы. Хто праходзіць міма — прыглядаецца: незнаёмы хлапчук. Чаго ён тут?

Вось ужо і вечар надыходзіць, а партызанаў усё няма. Апускаюцца на зямлю халодныя прыцемкі, луг і лес ахутвае шэрая смуга. Дзесьці на краі вёскі баязліва абазваўся гармонік і адразу ж змоўк. Да калодзежа выйшла баба зачэрпаць нанач вады, і стары журавель рыпіць, нібы скардзіцца на сваю немач.

У суседнім двары мужык сварыцца на каня:

— Куды ты, воўчае мяса!

Конь узлез на нейкія жэрдкі і грукоча капытамі на ўсю вуліцу.

Вёска кладзецца спаць. А партызанаў усё няма. Трэба ісці насустрач.

Стары сасновы бор сустрэў мяне трывожным шумам верхавін. У нерашучасці я пастаяў крыху на паляне і нясмела падаўся па прасецы ў глыбіню. З дарогі не сыходжу, можна заблудзіцца.

Гучна патрэскваюць пад нагамі сухія галінкі, ад нечаканасці я кожны раз уздрыгваю і потым падоўгу прыслухоўваюся. Начны лес поўны таямнічых гукаў. Крэкча старая сухастоіна. Вось штосьці піснула ў кустах, зашамацела па сушняку, і ў мяне мурашкі пабеглі па спіне.

Я пільна ўглядаюся ў цемрадзь, хачу ўбачыць партызанскія вогнішчы, лаўлю вухам кожны гук, кожны шолах, хачу пачуць грозны вокліч: «Стой! Хто ідзе?» Але не відаць агнёў, не чуваць партызанскага вартавога. Бясконца шумяць над галавой сосны, заблудзіўся ў маладым бярэзніку бесплатны вецер, і раптам... Не, гэта мне не здалося. Было добра чуваць, як трэснула. Дзесьці ўбаку.

Я аслупянеў. Хвіліна, другая. Вось зноў. Толькі ўжо ў другім баку. Мне стала страшна. Хтосьці ходзіць вакол мяне, сочыць за кожным маім крокам. Хто ён? Можа, чалавек, а можа, і воўк.

Я вярнуўся назад і за марынінскімі агародамі зашыўся пад стог. І сніцца мне Санька. Ён быццам бы прыйшоў да нас у госці. На ім шапка-будзёнаўка і чырвонаармейскі шынель. На баку пісталет, украдзены ў немца. Бабуля з гэтага выпадку пячэ пампушкі. Не тыя чорныя і цяжкія, нібы глей, з дранай бульбы і прымессю саматужнай непрасяванай ячменнай мукі, якія бабуля чамусьці называе «лапонікамі», а сапраўдныя, учыненыя на добрай рошчыне з пшанічнай мукі. Яна кідае пампушкі ў рэшата, а мы крадком хапаем іх з Санькам і ядзім. Толькі па адной праглынулі, аж глядзь — пампушкі пячэ не бабуля, а Няўмыка.

— Хальт! — крычыць ён на Саньку, а потым стаў на карачкі і забрахаў, як сабака: — Гаў, гаў, гаў!

Ад гэтага гаўкання я і прачнуўся. Проста мне ў вочы свеціць сонца, а ў вёсцы сапраўды заліваюцца сабакі.

## 36. Я ЗДЗІЎЛЯЮ СВЯТЫХ

Першым маім імкненнем было падхапіцца і бегчы ім насустрач. Неяк нават не верыцца, што мне ўсё ж пашанцавала. Добра, што я нікуды не сышоў з гэтай вёскі, а застаўся тут начаваць. Узброеныя людзі ходзяць па вуліцы, снуюць туды-сюды, з-за плятнёў відаць іх галовы і дулы вінтовак. Адзінае, што мяне крыху бянтэжыць,— чаму яны прыйшлі не ноччу, а раніцой. Як я ўяўляю, парты-

заны павінны дзейнічаць ноччу. Хаця чаму ноччу? Яны з'яўляюцца тады, калі іх вораг не чакае.

Каля стога расце нейкі бур'ян. Сухое бадыллё хістаецца ад ветру перад вачыма і засціць вуліцу. Каб расчысціць агляд, я высунуўся [illegible] нары і быццам абвараны шмыгнуў назад.

Яны стаялі за якія-небудзь пяцьдзесят крокаў ад мяне ў канцы агародаў, прыхіліўшыся да плятня. Адзін біноклем абводзіць лес, а другі паглядае на мой стог і ўжо скінуў з пляча вінтоўку. Немцы! Зараз ён сюды пекане, абальешся тут крывёю і загінеш, не паспеўшы нічога зрабіць. Паміраць неахвота.

Я выскачыў са сваёй нары і стаў скубці сена. Ліхаманкава мільгаюць у галаве думкі. Галоўнае — не хвалявацца. Калі я не буду ўцякаць, яны ў мяне не стрэляць. Трэба ісці проста да іх, на маім ілбе не напісана, што я шукаю партызанаў. А што потым? Што ты ім скажаш, калі спытаюць, чаго хаваешся пад стогам? Скажу, што вартую сена. Маці загадала вартаваць, бо ноччу хтосьці абскуб стог. А калі спытаюць, дзе твая маці? Тады павяду ў хату. Вось у гэтую хату, што стаіць насупраць у садзе. Над хатай з коміна ўецца сіні дымок. Гаспадыня паліць у печы, гатуе снеданне. Яна пацвердзіць, што гэта яе хлопец.

Калі вырашыў быць гаспадаром, дык трэба ўжо быць гаспадаром. Я не спяшаючыся падграбаю рукамі сена да апошняй травінкі, а немцы моўчкі назіраюць за маімі дзеяннямі. Нарэшце я згроб усё ў абярэмак і панёс у двор.

Перада мной пералаз у сад. Пакратаў я пераламаную жардзіну і паківаў галавой: ай-я-яй, усё развальваецца, трэба будзе неяк паладзіць. Уецца над комінам дымок. Гаспадыня, відаць, пячэ бліны або варыць пшонную кашу. А што, калі тут жыве паліцай ці староста? Вунь якая даміна, і двор з бярвенняў.

А немцы ўжо комгэркаюць, пальцам ківаюць. Ах, гэта паны, а я і не бачыў, думаў, што тут нікога няма. З сенам падыходжу да іх.

— Пан, сена карове нясу...

— Гут, гут,— пахвалілі яны мяне і наперабой залапаталі: — Лапата, лапата. Фарштэен зі?

— Якая лапата? — здзіўляюся я.— Не лапаце сена, а скаціне.— І замычаў бычком: — Му-у!

Я прыкідваюся цялём і быццам не разумею, што ім патрэбна ад мяне. Нарэшце адзін з іх не вытрымаў, рассыпаў маё сена на дарогу і павёў завулкам у вёску. Другі застаўся з біноклем назіраць за лесам. Баяцца ўсё ж такі, каб ім партызаны не падсыпалі гарачых вугалькоў.

На душы ў мяне стала лягчэй. Не здагадаліся, хто я такі. А што на акопы гоняць, дык там будзе відаць, колькі я ім накапаю.

У канцы вуліцы пад бярозамі стаяць дзве падводы. Каля іх ходзяць дзяўчаты, жанчыны, падлеткі. Усе з рыдлёўкамі. Штосьці камандуе, размахваючы рукамі, немец у касцы. Мой канваір лянівы, як біцюг, ісці яму да тых бяроз не хочацца, і ён, склаўшы далоні трубой, загарланіў на ўсю вёску:

— Петэр! Петэр!

Ад падвод адгукнуўся Петэр. Яны перакінуліся парай слоў, і я атрымаў штуршок у спіну: бяжы, маўляў, сам, вадзіцца яшчэ тут з табой. Добра з хрэнам, добра і так, як гаворыць мой дзед Мікалай. Петэр махае рукой — хутчэй. А мне што, на пажар? У мяне не гарыць. Петэр адвярнуўся. Я валакуся, як нежывы, нага за нагу чапляецца. Азірнуўся назад — немец, які прывёў мяне сюды, таксама не глядзіць у мой бок.

«Знайшлі дурня»,— падумаў я, у адзін момант сігануў за вугал і пабег з усіх ног. Зараз добра было б заскочыць у які двор ці агарод, перасядзець гэтую

навалу, а там ужо буду больш асцярожны. Навучылі. Хопіць.

Мне на вочы трапілася царква. На паперці то адчыняюцца, то зачыняюцца дзверы. За імі хаваюцца бабкі ў чорных, напушчаных на самыя вочы хустках, у доўгіх святочных спадніцах, падпяразаных белымі расшытымі фартухамі. А хто мне не дае забегчы крыху пamaліцца?

— О Госпадзі,— шарахнуліся ўбакі дзве старэнькія багамолкі, якіх я ледзь не збіў з ног, і нават перахрысціліся.

А мне не да іх, можа, там за мной ужо бягуць. Я рвануў за клямку і, нарабіўшы грукату, нібы чорт, уляцеў у храм.

На кліpace маладзіцы і два белабародыя дзяды распяваюць малітвы. Пахне воскам і яшчэ нечым прытарна-салодкім. На грукат аглянулася адна з жанчын і праняла мяне з ног да галавы строгім позіркам. Мабыць, хацела адгадаць, чый я: Хрысцінін, Маланчын ці Парасчын. Здзівілася, што не ведае такога, і бязгучна заварушыла губамі — зашаптала малітву.

Трэба і мне маліцца, а то, чаго добрага, прагоняць. І па прыкладу строгай цёткі таксама старанна заварушыў губамі. Я шапчу, што ў галаву прыйдзе: і немцам пагражаю, і партызанаў прашу, каб хутчэй выйшлі з лесу, і нават песню мармычу. Ды, мабыць, крыху перастараўся, бо на мяне пачалі ўсё часцей азірацца. Каб як-небудзь выправіць становішча, я перахрысціўся, але, мусіць, не ў той бок або не той рукой. З кліраса адзін з дзядоў пускае ў мой бок маланкі. Са здзіўленнем глядзяць на мяне са сцен посныя твары святых: што гэта за багамолец такі знайшоўся?

Не дачакаўшыся канца богаслужэння, выйшаў на вуліцу. Немцаў у вёсцы ўжо не было, і гадзіны

праз дзве я ўжо далёка за Марынінам пёк у прысаку бульбу.

Цэлы тыдзень я блудзіў па лясных дарогах, начаваў пад стагамі то каля адной вёскі, то каля другой, разоў дзесяць адседжваўся ў прыдарожных хмызняках, калі на шляху раўлі нямецкія машыны, а партызанаў знайсці не мог. Аднойчы, пачуўшы страляніну, я кінуўся цераз хмызнякі туды, дзе грымеў бой, але заграз у балоце. Давялося вярнуцца назад. Калі, абышоўшы багну, я выбраўся на дарогу, там ужо ўсё скончылася. У канаве коламі дагары ляжала чорная легкавая машына, а крокаў за дзесяць ад яе дагараў бронетранспарцёр. У яго стальным чэраве трашчалі патроны. Забраўшыся ў густы сасоннік, я доўга плакаў ад злосці, праклінаючы свой нешчаслівы лёс.

На другім тыдні ледзь жывы прывалокся дамоў. Бабуля доўга плакала, яна думала, што я пару ўжо дзе-небудзь зямлю, а потым пачала грэць у свіным чыгуне ваду, каб, хоць збольшага, абмыць з мяне бруд.

## 37. «ЗА МЯНЕ СТАНЬ — НЕ ТАК ВЕЦЕР БУДЗЕ»

З другога допыту Іван Лебяда не вярнуўся. Яго справы кепскія — затрымалі на станцыі з толам. Не вярнуўся і дзед Ахрэм, як звалі тут усе шырокабародага старога. На яго данёс стараста — Ахрэм вазіў па начах у лес партызанам харчы. А затым паклікалі і Санькавага новага таварыша Міколу.

— Не хвалюйся, Санька,— сказаў ён на развітанне.— Адкруцімся. Я ім такіх баек нагавару, галава закружыцца...

Не дапамаглі, відаць, байкі — не прыйшоў назад і ён.

А Саньку вадзілі яшчэ два разы і абодва разы білі. Цяпер не абяцалі цукерак і не набіваліся падарункамі. Але нічога новага не выбілі. Ён мармытаў распухлым ад смагі языком адно і тое ж:

— Вераб'ёў страляць...

Пасля апошняга допыту яго зацягнулі волакам у другое памяшканне. Больш нішто не палохала. Раней ён баяўся смерці, асабліва калі выклікалі ўпершыню. Цяпер і з гэтым змірыўся. Калі б у Санькі спыталі, што ў яго баліць, ён, мабыць, не змог бы адказаць. Балела ўсё — рукі, ногі, спіна, на якой не было жывога месца. Хутчэй бы ўсё гэта як-небудзь скончылася.

Але крыху адляжаўшыся, ён пачынаў думаць інакш. Цяпер яму не падыходзіла як-небудзь. Хацелася жыць. Як і многія хлапчукі, ён марыў стаць ваенным, хоць яшчэ не ведаў, што яму больш падабаецца — быць пагранічнікам, як Карацупа, ці лётчыкам або мараком. А цяпер што будзе? Прыйдуць нашы, а яго, Санькі, ужо няма. Далей думкі губляліся і хацелася плакаць.

— Супакойся, унучак, супакойся, дурненькі,— гладзіў яго па галаве дзед Ахрэм.

У цемры Санька не заўважыў, што стары тут. Тут, аказваецца, і Мікола. Цяпер яго не пазнаць. Пад вокам вялізны сіняк, проста крывёй наліўся. І Лебяда ляжыць ніц, падклаўшы пад галаву сваю адзіную руку. Многа людзей і незнаёмых.

Санька хоча спытаць у дзеда, навошта іх перавялі, ды цяжка варочаць языком. Ён і так здагадваецца па хмурых тварах людзей, што будзе нешта нядобрае, страшнае.

Было ўжо цёмна, калі за дзвярыма зараўла машына, загрукаў замок.

Дзед Ахрэм узяў Саньку за руку і сказаў:

— Ты не бойся, унучак, не бойся. Яны цябе адпусцяць.

А Санька і не баіцца. Ён ступае чужымі, здранцвелымі нагамі, нібы ў страшным сне, калі ўцякаеш ад нябачанай пачвары: хочаш бегчы, а не бяжыцца, хочаш крыкнуць, а не крычыцца.

На двары ад дзвярэй да машыны стаяць па баках эсэсаўцы. Каля кузава грузавіка, крытага брызентам, сонным, стомленым голасам лічыць афіцэр:

— ...Драй, фір, фюнф, зэкс... айн унд цванцык, цвай унд цванцык...[1]

Другі побач пыхкае цыгарэтай. Чырвоны агеньчык асвятляе яго востры нос, чорны бліскучы казырок.

Санька з прагнасцю хапіў глыток свежага паветра, глянуў на чорнае неба. Там спакойна мігаюць зоркі. Іх не датычыць тое, што робіцца на зямлі.

Калі надышла Санькава чарга лезці ў машыну, дзед Ахрэм сказаў афіцэру:

— Пан афіцэр, дзіцё гэта. Навошта ён вам? Няхай жыве. Па дурасці ён зрабіў гэта. Адпусціце.

Афіцэр нешта гаркнуў. Да Санькі падскочыў дужы эсэсавец і кінуў яго ў кузаў.

— Фір унд цванцык,— падбіў рахунак афіцэр.

За Санькам залез дзед, сеў побач і суцешыў:

— Нічога. І яны пахаркаюць крывёй...

Недзе ашалела закрычаў певень, быццам яму прысніўся паганы сон. Гыркнуў грузавік, крануўся з месца.

Не думалася Саньку, што ўсё так скончыцца, не спадзяваўся ён так дарэмна загінуць, калі ў першыя дні вайны рыхтаваўся ў паход, калі збіраў патроны і гранаты, каб пайсці ў партызаны не з пустымі рукамі.

---

[1] ...Тры, чатыры, пяць, шэсць... дваццаць адзін, дваццаць два... *(ням.)*

«Як справы, таварышы камандзіры? — успомніўся яму параненьі камісар, які ляжаў у Міронавым бліндажы.— Яны за ўсё заплоцяць. Прыйдзе Чырвоная Армія, і заплоцяць...»

Маці шкада. Гаравацъ будзе... Маці заўсёды гаруе, калі Санька трапляе ў бяду, а бяда за Санькам заўсёды следам ходзіць. То ў калгасную веялку палец укруціў, то дыфтэрыя на яго напала, то калёсамі нагу пераехала, то італьянская граната ледзь не забіла. Санька адсапецца, адляжыцца, а маці наплачацца.

Маці, маці, колькі слёз пралілі вашы вочы, колькі начэй недаспалі, калі вы, схіліўшыся над сынамі, адганялі ад іх бяду. Толькі нязгасныя вашы сэрцы, трапяткія і мужныя, пяшчотныя і суровыя, поўныя любві і гневу, могуць перажыць такія трывогі, якія выпадаюць на вашу долю. Рана адцвітаюць вашы вочы, пакрываюцца маршчынамі родныя твары, але не трэба вам ніякай узнагароды за гэта: жывіце толькі, дзеці, не паміраййце, няхай вас міне хвароба, няхай не кране бяда-гора. Жывіце!

А машына тым часам раве і раве. Кідае яе на ўхабах разбітай, раскоўзанай дарогі, і Санька стукаецца галавой аб драўляную рэйку. Моўчкі сядзяць на выхадзе двое аўтаматчыкаў. Астатнія едуць следам на другім грузавіку. Яго прытушаныя, падслепаватыя фары клапатліва аглядаюць дарогу, выхопліваюць з цемры махнатыя лапы рэдкага сасонніку, заглядаюць у кузаў, дзе сядзяць асуджаныя. У кузаве ўсе маўчаць. Маўчыць і Санька, сцяўшы зубы.

За сасоннікам машына прытармазіла і пачала пералічваць коламі бярвенні старога мастка: раз, два, тры...

— Канава,— сказаў нехта ў цемры, здаецца, Лебяда, і ўсе зразумелі: блізка.

Калі высаджвалі з машыны, дзед Ахрэм яшчэ раз папрасіў:

— Адпусціце дзіця, каты!

І атрымаў прыкладам у плечы.

Іх паставілі ў рад. За спінай супрацьтанкавы роў — наперадзе яркія фары машын. Рэзкае святло б'е ў вочы, аж выступаюць слёзы. Немцы там, за святлом, у цемры. Санька іх не бачыць. Чуваць толькі, як бразгае зброя.

Ноч сырая, золкая, і ў Санькі дрыжыць кожная жылка. Дзед Ахрэм прытуліў яго адной рукой да сябе, другой гладзіць па галаве.

— За мяне стань, за мяне,— шэпча ён,— не так вецер будзе.

Санька нічога не разумее. Пры чым тут вецер? Хіба не ўсё роўна?

Калі клацнулі затворы аўтаматаў, дзед пасунуўся шчыльней да Лебяды і на нейкі момант засціў перад Санькам фары.

Затым усё пераблыталася. Апякло агнём плячо, закружыліся ў вачах зоркі, і Санька паляцеў у чорную бездань. Зверху на яго хтосьці наваліўся, прыціснуў да зямлі. Ён ужо не бачыў, як, пераступаючы цераз людзей, фашысты свяцілі кішэннымі ліхтарыкамі і стралялі з пісталетаў у таго, хто здаваўся ім яшчэ жывым.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Санька апрытомнеў ад холаду. Падняў набрынялыя свінцовым цяжарам павекі і застагнаў. Нельга было паварушыць ні рукой, ні нагой. Сцяўшы зубы, ён зрабіў спробу ўзняць галаву і не змог. Галава чыгунная. Паварушыў рукой, і пякучы боль працяў усё цела да пятак. У вачах замільгалі чырвоныя і сінія кругі.

Так-сяк Санька выбраўся з-пад старога Ахрэма. Выбраўся і сеў. Пакратаў сваё плячо і скрыгануў зубамі. Побач ляжаць Лебяда і кірпаты Мікола.

Дзед Ахрэм застыў у такой позе, быццам збіраўся падхапіцца. Адну нагу падцягнуў пад сябе, рукой абапёрся на пясок, а вуха прыкладаў да зямлі, нібыта слухае, б'ецца яшчэ ў яе сэрца ці не. Вецер пяшчотна перабірае пасмы яго шырокай барады.

Сабраўшы сілы, Санька пабег. Пабег, не выбіраючы дарогі. Ён бег, затым ішоў, потым поўз па лазе, па бульбяным, няўбраным полі. Босыя ногі заходзяцца ад інею, які пакрывае зямлю. Санька здымае з галавы сваю падраную шапку, хавае ў яе ступні ног.

Ён страціў пачуццё часу: то дзень, то зноў ноч, то крычаць у халодным небе дзікія гусі, то равуць бамбардзіроўшчыкі.

Лежачы дагары ў бульбе, Санька праводзіць іх вачыма. Гэта нашы бамбардзіроўшчыкі. На іх крылах чырвоныя зоркі.

І зноў засцілае вочы цемра — нічога не відаць і не чуваць.

Позна вечарам Санька прыпоўз да нейкай вёскі. Дабраўшыся да крайняй, урослай па вокны ў зямлю старэнькай хаты, ён слабай рукой пачаў драпаць дзверы.

## 38. «ХОЦЬ І НЕМЕЦ, А ЧАЛАВЕК»

У Плёсах на хлопцаў, што пасвілі кароў, немцы зрабілі аблаву. Многія паўцякалі, пакідаўшы жывёлу, а чалавек пяць, у тым ліку і Міцьку-Мангола, прывезлі людзі ў вёску на падводзе. Праўда, Міцька аддаў сваё жыццё недарма, ён усё ж пекануў са свайго ржавага кулямёта, і адзін з фашыстаў лёг

касцьмі. Толькі Малашыху гэта не суцяшае. Пахаваўшы сына, яна ўсім скардзіцца, што яе хлопец чамусьці не прыходзіць абедаць. Кажуць, на яе нешта найшло.

Мая бабуля абяцае пасадзіць мяне на ланцуг разам з Жукам, каб не ўцякаў з двара.

— Глядзі, мой хлопец, мухі восенню балюча кусаюцца,— папярэджвае кожны дзень.

Гэта яна пра немцаў так. Бабуля падобная на квактуху, растапырыла, нібы крылы, над намі свае натруджаныя рукі, нос яшчэ больш завастрыўся, быццам дзюба, губы глыбока запалі, вочы насцярожаныя. Вось-вось гляне на неба і пачуецца трывожнае:

— Кыр-р-р!

Хавайцеся, маўляў, пад мяне, каршун кружыцца.

І раптам высяленне! Прайшлі салдаты па вуліцах, выгналі людзей з хат і калонай пад канвоем павялі іх кудысьці на захад. Дарогай некаторыя паўцякалі, разбрыліся па знаёмых і родзічах, што жылі ў іншых вёсках, а некаторыя крадком начамі вярталіся дамоў. Што датычыць нас, дык мы і зусім нікуды не выбіраліся.

— Куды гэта нас панясе супраць зімы? — абурылася бабуля, калі даведалася пра высяленне.— Хіба я зусім ашалела, каб кінуць-рынуць хату ды ісці ў белы свет? Не пойдзем!

Мы хуценька перацягнулі клункі з манаткамі ў бабульчын бліндаж, залезлі туды самі і сцішыліся. Старая села на выхадзе, каб мы з Глыжкам не высоўвалі насоў. Назіранне за ворагам яна вядзе сама і перадае нам кароткія звесткі:

— Топчуцца ў двары... Панясло, каб іх нячыстая сіла насіла.

І вось ужо цэлы месяц снарады з лютым завываннем дзяўбуць мёрзлую зямлю на агародах. Па

начах то на адной, то на другой вуліцы палаюць хаты. Днём, амаль чапляючыся за коміны, носяцца над стрэхамі нашы самалёты-штурмавікі.

Спачатку было страшнавата, а потым неяк прызвычаіліся. Нават бабуля прывыкла да баявой абстаноўкі і перастала божкаць пры кожным выбуху. Яна па гуку навучылася вызначаць, дзе ўзарвалася: далёка ці блізка. Грымне так, што за каўнер сыплецца з бабульчынага накату пясок, а яна супакойвае нас:

— На Скокавым агародзе. Асколашны.

Заходзіць ходырам зямля, а бабка зноў:

— Бач ты... бонбу скінулі.

Я спачатку лез спрачацца — мне ж больш вядома,— толькі старая ў спрэчку не ўвязваецца:

— Ну, няхай міна.

Махне рукой, абы адчапіўся.

Калі страляніна крыху сціхае, мы з Глыжкам прабіраемся ў хату і пачынаем кухарыць: намываем у чыгункі бульбы, запальваем у печы агонь.

У вокнах ніводнай шыбы, па хаце гуляе вецер, завываюць снарады, праносяцца штурмавікі, а ў нас кіпіць бульба. Самае галоўнае — данесці яе ў бліндаж. Гэта не заўсёды ўдаецца. Аднойчы на суседнім агародзе метраў за сто ад нас упалі два снарады. Глыжка з перапуду ткнуўся носам у разору, і па зямлі пакаціўся гарачы чыгунок, рассыпалася бульба.

— Эх ты, салдат! — папракнуў я малога.— Табе толькі паклоны біць.

— А ты шалдат! — пакрыўдзіўся Глыжка, старанна падбіраючы бульбу.— Шам дык поўжаеш...

Але пасля гэтага выпадку пахрабрэў. Калі ўжо і падаў, то бярог чыгунок.

Толькі, нягледзячы на нашу з Глыжкам мужнасць, мы не заўсёды вярталіся ў бліндаж з ежай. Двойчы бульбу ў нас адбіралі немцы. Адзін проста

высыпаў у крысо шыняля і пабег па агародах, а другі выхапіў чыгунок і даў нам кожнаму па выспятку. Неўзабаве бабуля і зусім забараніла такія вылазкі. Здарылася гэта пасля гібелі дзеда Мірона. Ён сядзеў у хаце з бабай Гапай і снедаў. Раптам забег немец, вывеў дзеда на агарод і загадаў легчы. Стары Мірон лёг.

— Не так,— паказаў яму фашыст рукамі.— Лажыся ніц.

Дзед лёг ніц. Немец стрэліў з пісталета ў патыліцу і пайшоў.

Выбегла баба Гапа на агарод, залямантавала на ўсю вуліцу, праклінаючы і гэтых нелюдзяў, і Гітлера, і ўсю Германію. Яна цяпер не баялася смерці, няхай заб'юць і яе. А той нават не азірнуўся, пaціху пайшоў за агароды на гарадзішча, дзе былі іх траншэі.

Ноччу асабліва люта грымеў бой. Стралялі зусім блізка. З аўтаматаў. Мабыць, нашы ўварваліся ў вёску. Успыхваюць ракеты, заліваючы наваколле халодным сіняватым святлом, гараць хаты. Вось ужо настала і раніца, а наверсе робіцца штосьці незразумелае. Страляніна то набліжаецца, то аддаляецца, то сціхае, то разгараецца з новай сілай.

Мне не сядзіцца. Бабуля сварыцца і ўвесь час цягне за зашмальцаваны рукаў маёй світкі, але хіба ты вытрымаеш і не высунеш носа?

Ён быў далекавата, але я адразу зразумеў, што гэта наш баец.

— Баба, нашы! — радасна крычу я ў бліндаж.

— Сядзь, нячысцік! — цягне бабуля мяне за бурак.

Баец пераскочыў агароджу і ўпаў у разору. Замерла сэрца — няўжо забілі. Але праз хвіліну адтуль абазваўся аўтамат. Баец страляе то ў адзін, то ў другі бок. Яго акружаюць.

Вось адзін з немцаў зялёнай яшчаркай паўзе па бульбе.

— Паглядзі, паглядзі сюды,— прашу я байца.

Ён нібыта пачуў. Паглядзеў і даў кароткую чаргу. Яшчарка ўгаманілася.

Баец падхопліваецца з разоры і, кідаючыся то ў адзін, то ў другі бок, бяжыць на вуліцу. Хоча заскочыць у двор. Каля самых варотцаў пахіснуўся і, абдымаючы шула, асеў на зямлю.

Немцы асмялелі. Іх некалькі. Яны падняліся з зямлі і, прыгінаючыся, пачалі перабягаць да Міронавага двара. Вось зноў пападалі. Баец страляе з невялікага дашчанага хлеўчука.

Немцы ракетай падпалілі страху. Я размазваю па шчоках брудныя слёзы. Лютае, ненажэрнае полымя са звярынай радасцю ахапіла салому, затрашчала, зараўло, аблізваючы пачарнелыя галіны вербаў. Але і цяпер баец не дае немцам падняць галавы. То доўгія, то кароткія чэргі аўтамата прыгінаюць ворагаў да зямлі. Толькі тады, калі грукатам праваліўся дах, узняўшы высокі слуп іскраў, аўтамат змоўк.

Я ціха споўз у бліндаж. Усё скончана. Загінуў.

— Нашы плыйшлі? — пытае мяне Глыжка.

Я шморгнуў носам і кіўнуў галавой...

— І плаўда? — узрадаваўся ён.

Яго асадзіла бабуля:

— Праўда — крыўда. Памаўчы. Немцы ходзяць.

Яна як у ваду глядзела. Забразгалі жалезныя бляшанкі процівагазаў. Усё бліжэй і бліжэй. Спыніліся каля нашай нары. Відаць толькі дзве пары салдацкіх ботаў.

Адзін з фашыстаў нагнуўся, і я сустрэўся з ім позіркам. Гэта было рудое, даўно няголенае мурло з нейкімі туманнымі, патухлымі вачыма. Ён махнуў рукой — вылазь.

Другі — чарнявы, худы. У каўняры салдацкага мундзіра змесцяцца дзве яго шыі. Ён пасвяціў у наш бліндаж кішэнным ліхтарыкам і, не знайшоўшы нічога падазронага, адышоў убок.

Мурло агледзела мяне з ног да галавы: вялікая дзіравая шапка спаўзае мне на вочы, звісаюць доўгія рукавы, на нагах буркі — ім ужо ідзе трэцяя зіма. Твар у мяне, як у качагара, адны вочы блішчаць. Тут кожны дзень не наўмываешся. Гэта ўсё дало падставу немцу зазначыць, што я «русіш швайн» — руская свіння. А пасля гэтага ён хутка, з пагрозай штосьці такое загергетаў. Я разабраў толькі некалькі слоў:

— ...Цвай русіш зольдатэн...[1]

— Не разумею,— паціснуў я плячыма.

Мурло нібы звар'яцела. Яно загарлапаніла так, што ў мяне зазвінела ў вушах.

На крык высунулася з бліндажа бабуля і запанкала:

— Пан, паночак, сірата ён, невінаваты ён, ён тут сядзеў...

І пачала плакаць.

Мурло толькі пакасавурылася на старую і ткнула мне пад нос пісталет:

— Пістоль, фарштэен?[2]

— Пістоль, фарштэен,— пацвердзіў я кіўком галавы.

Я здагадваюся пра астатняе. Яны шукаюць двух нашых салдат. Магчыма, разведчыкаў.

Немец паказаў мне пісталетам у бок плота, і я пайшоў. Усё гэта як скрозь нейкі туман. Страляць ён хоча мяне, ці што?

— Айн... цвай... драй...— лічыць мурло мае крокі, а перад вачыма старыя, гнілыя дошкі плота.

---

[1] Два рускія салдаты... *(ням.)*

[2] Пісталет, разумееш? *(ням.)*

Яны бліжэй і бліжэй. На адной зялёныя лішаі, другая трэснута ўздоўж, ледзь трымаецца на ржавым цвіку. Пад плотам густы, мяккі мурог. Тут была высокая трава, ды бабуля сярпом павыжынала... Чаго яна там галосіць? Абы не балюча было. Абы адразу. Калі ў галаву, то добра...

— Хальт!

Стаю. Чакаю. Што ён там робіць? Цэліцца? Замест стрэлу зноў:

— Ком гэр!

І ўсё пачынаецца спачатку:

— Цвай русіш зольдатэн?

— Нікс фарштэен...

— Пістоль, фарштэен?

— Фарштэен...

Ізноў:

— Форвэрц![1]

І зноў:

— Айн, цвай, драй...

А бабуля ўсё лямантуе, ламае рукі.

— Мяне застрэльце, дурную,— просіць яна.— Гэта я тут прыдумала застацца. Мяне забіце. Я нажылася, мне і так паміраць. А яго за што?

А ім трэба, каб было за што? Захацелася ім.

Мурло зноў кліча да сябе. Што ён, бясконца так будзе?

Нарэшце той, другі, не вытрымаў. Ён штосьці хутка і горача загаварыў свайму напарніку. Мурло не хоча яго слухаць, а хапае мяне за плечы і штурхае зноў да плота. Я з іх спрэчкі разабраў толькі некалькі слоў:

— ...гер-гер-гер... кляйне... гер-гер... knабе...[2]

— Гер-гер-гер... алес... гер-гер... швайн... гунд[3].

---

[1] Наперад! *(ням.)*

[2] Малы... хлопчык... *(ням.)*

[3] Усе... свінні... сабакі *(ням.)*.

Але больш чым са слоў, зразумела па вачах, па тварах, па ўзмахах рук: яны спрачаюцца, страляць мяне ці не. Мурло, відаць, не перакрычыш. Ён стаіць на сваім. Значыць, мне — капцы. Не, другі хапае яго за руку [redacted] пісталетам.

І зноў:

— Ком.

На гэты раз за каўнер мяне бярэ худы. Ад моцнага штуршка каленам ніжэй спіны я ластаўкай лячу ў бабульчын бліндаж. Мабыць, таму, што пры палёце трэснуўся лбом аб бервяно, раскалваецца на часткі, як стары гліняны глёк, галава. Мабыць, ад таго, што доўга прастаяў на холадзе, мяне калоціць ліхаманка. Вы думаеце, я спалохаўся? Не, магу і ўсміхнуцца. Толькі ўсмешка нейкая касабокая.

Следам за мной залазіць у бліндаж бабуля.

— Хоць і немец, а чалавек,— гаворыць яна пра чарнявага.— Той бы застрэліў.

## 39. ІДУ ДОБРААХВОТНІКАМ

Нашы прыйшлі ціха. Раніцой я вылез паглядзець, што робіцца на белым свеце, і здзівіўся: навокал глыбокая, цяжкая, дымная цішыня. Там-сям курэлі яшчэ галавешкі на пажарышчах, паветра было горкае ад пахаў попелу, ад сіняватай, едкай смугі. Белая, усыпаная снегам зямля ў чорных язвах варонак. Згарэла Міронава хата, пагарэлі і многія іншыя, некаторыя немцы разабралі на бліндажы. Вуліца стала шчарбатая: двор цэлы, пяць двароў — адны коміны. А наша жытло ўцалела. Толькі задняй сцяны ў сенцах няма — нязвыкла бачыць з агарода дзверы ў хату, абабітыя саламянымі матамі.

Бягуць па агародах людзі, вяртаюцца з бежанцаў. Вунь Малахі пайшлі, вунь яшчэ нехта — далё-

ка. Хто радуецца, хто галосіць, у залежнасці ад таго, што засталося ад двара.

— Няма немцаў, прагналі! — крыкнуў я ў бліндаж і трушком пабег на шашу.

Там грукоча войска. Паглядзець трэба. За мной паплёўся Глыжка, з плачам просіць пачакаць. Вось навязаўся на маю галаву! Без яго, як без солі.

Прыйшлі яшчэ хлапчукі. Стаім і глядзім, абменьваемся ўражаннямі.

— Ух ты! Во, машына! Ды не туды глядзіш — вунь, што пад брызентам.

— То, можа, «кацюша» тая!

— А ты думаў? Канечне, яна.

— Гранаты, глядзі, гранаты якія. Рабрыстыя.

— Гэта каб лаўчэй кідаць...

— Ведаеш ты! Гэта каб больш асколкаў было...

Але больш за ўсё нас уразіў хлопец у ладным кажушку, у шапцы, з зорачкай і нават... з карабінам.

— Хіба і такіх бяруць?

— Добраахвотнік гэта.

Хлопец ехаў у кузаве грузавіка і глядзеў на нас з гонарам, як і належыць глядзець чалавеку, якому абавязаны людзі сваім вызваленнем.

Я іду дамоў, а перад вачыма ўсё той хлопец, і крыўда мяне бярэ: хіба я горшы за яго?

Праз дзень у нашай хаце размясціўся штаб. У двары наблытана правадоў, у парозе на ўслоне, дзе раней стаяла ражка, сядзіць салдат і ўвесь час крычыць у тэлефонную трубку:

— Рэзеда! Рэзеда! Паглухлі там, ці што?

Памаўчыць крыху і зноў:

— Рамашка! Ало, Рамашка!

А на двары з новай бацькавай сякерай ходзіць Сяргеіч, пажылы вусаты дзядзька ў шынялі, падпяразаным ніжэй хлясціка. Ён шукае якую-небудзь дошку, каб збіць хоць часовы стол. Наш,

калі мы сядзелі ў бабульчыным бліндажы, хтосьці паламаў. Што старога салдата завуць Сяргеіч, я ад бабулі пачуў.

Яна з сябе строіць вялікую гаспадыню — бегае за ім следам і ва ўсё ўмешваецца:

— Ты гэтай дошкі не руш, Сяргеіч, вунь тую лепш вазьмі. Гэтай столь замосцім, праламалі, гады паўзучыя.

Я злуюся на старую: усюды яна свой востры нос уткне. Тут вайна ідзе, а ёй дошкі шкада. Асмялела. Немцам так не камандавала.

— Вырас пад неба, а дурань як трэба,— адказала мне на гэта бабуля.— То ж немцы, а то свае.

Глядзі ты, Сяргеіч яе слухаецца. Ён абяцае сам залатаць столь: пяць хвілін страху.

— А гэта твой гаспадар, Матрона Яўсееўна? — цікавіцца ён, ківаючы на мяне.

— Ат! — махае рукой бабуля. Ды як махае! Варта, маўляў, на яго звяртаць увагу.— Без бацькі толку не будзе, скруціць галаву. Доўга цяпер?

— Прыйдзе бацька,— абнадзейвае Сяргеіч і спрытна чэша дошку.

Трэсачкі адскакваюць роўныя, акуратныя.

— Дай жа Бог,— уздыхае бабуля.

Вось прычапілася да чалавека і мне слова не дае ўставіць. Я пакрыўджана зноў іду ў хату, сноўдаюся там з кута ў кут, блытаюся ў штабных пад нагамі. Мяне абыходзяць, просяць не перашкаджаць.

Глыжка сядзіць на печы і грызе чорны салдацкі сухар, ажно іскры з-пад зубоў. А мне не сядзіцца, пагрэўся крыху і зноў блытаюся пад нагамі, прыкідваю, у каго б лепш спытаць пра добраахвотнікаў: бяруць іх ці не?

Чорны гарбаносы капітан, хутаючыся ў шынель, сядзіць над паперамі і п'е нейкія жоўтыя пілюлі. У яго малярыя.

Сяргеіч яго просіць:

— Кладзіцеся на ўслон ды ўкрыйцеся маім кажухом.

Капітан адмоўна круціць галавой і каторы раз пытае талефаніста:

— Кузьмін, першы маўчыць?

— Маўчыць,— вінавата адказвае Кузьмін.

Капітан мне падабаецца: мужны, шыракаплечы, падцягнуты. Чхаць ён хоча на малярыю. Нашым малярыя хоць бы што. Вось толькі ён ужо занадта строгі. З маім пытаннем да яго не паткнешся.

Тэлефаністу таксама не да мяне.

— Рэзеда, рэзеда! — крычыць ён без пярэдыху.

Па хаце ходзіць малады лейтэнант. Шынель на ім з іголачкі, фарсістыя боты гармонікам і новая шапка насунута на адно вуха. Лейтэнант вясёлы і гаваркі.

— Як сухары, братва? — спытаў ён у Глыжкі, а потым пачаў песню спяваць:

> Темная ночь, только пули свистят по степи,
> Только ветер гудит в проводах...

Вось хіба да яго падысці?

— Што? — не зразумеў спачатку лейтэнант.— Добраахвотнікі? Якія добраахвотнікі?

А потым, калі ўцяміў, ва ўсмешцы паказаў мне свае белыя зубы.

— То, мабыць, быў сын палка. Бываюць такія,— растлумачыў ён, калі я расказаў пра хлопца з карабінам, і раптам сур'ёзна спытаў: — Ты да дзяўчат на танцы яшчэ не ходзіш?

— Не,— пачырванеў я.

— Нічога страшнага,— супакоіў мяне лейтэнант.— Падрасцеш, будзеш хадзіць...

І зноў за сваё:

> Темная ночь, только пули свистят по степи,
> Только ветер гудит в проводах...

Яшчэ насміхаецца! У самога, напэўна, адны дзеўкі ў галаве, дык ён і пра другіх так думае. Камісар дык не смяяўся. Вось то быў чалавек — усё разумеў... А гэты...

Темная ночь, только пули свистят...

— Вы начальнік сувязі ці оперны спявак? Чорт вас вазьмі! — раззлаваўся раптам капітан.— У вас заўсёды толькі вецер у правадах!

Лейтэнант вінавата змоўк. Так яму і трэба, дзяўчатніку гэтаму. Вось зараз ён яму дасць! На ўсялякі выпадак я падаўся на двор. Калі справа не ладзіцца — лепш не блытацца тут.

А на двары Сяргеіч выкапаў ровік, прымасціў на цаглінах вялікую каструлю і варыць штабу абед. Вось у яго спытаць бы.

Дык бабуля тут душу злівае:

— Усё чыста забралі, усё пад венік вымелі. Якая бульбіна была, якая адзежына. Засталіся толькі ў чым стаім.

Сяргеіч крывіцца ад дыму, памешвае лыжкай кашу.

— Немцы, Матрона Яўсееўна, што ты хочаш?

— А і нашы добрыя,— не згаджаецца бабуля,— гэтыя самыя ласаўцы. Любяць ласавацца...

— Уласаўцы,— умешваюся я.

— Адчапіся,— ставіць мяне старая на месца,— дай ■ чалавекам пагаварыць. Дык вось я і кажу: увесь двор швайкамі ўспаролі, усё да зярнятка зглумілі...

— Эх, Матрона Яўсееўна,— уздыхае Сяргеіч,— палову Расіі зглумілі, не тое што...

— А Расія з каго састаіць? — пытае бабуля і тут жа сама адказвае: — З нас жа, вось з такіх сірот, і састаіць...

Яна хацела яшчэ нешта сказаць, але тут выбег на ганак сувязіст.

— Матаем вуды, Сяргеіч! — крыкнуў ён і пачаў адчэпліваць свае правады.

Так і не давялося мне спытаць у старога салдата пра добраахвотнікаў. Але я і сам не лыкам шыты: добраахвотнікі таму так і называюцца, што ідуць самі па добрай ахвоце. А мне яе не пазычаць. Выбраўшы зручны момант, калі ля штабной машыны нікога не было, я ўскочыў у будку, схаваўся пад лаўку і накрыўся не то брызентам, не то мяшком. Будзеш прасіцца — не возьмуць, а калі ад'едуць далёка — не выганяць. Скажу, дарогі дамоў не знайду. Так і застануся. Яны вымушаны будуць раздаць мне ўсё: і адзежу, і карабін. Вось тады я раз-лічуся і за Саньку, і за Міцьку, і за ўсе свае выспяткі, і за «русіш швайн».

Пад брызентам душна. Вельмі няёмка ляжаць пад лаўкай, скруціўшыся ў тры пагібелі. Пад самым носам тупаюць боты Сяргеіча. Ён увесь час нездаволена бурчыць:

— Чортава жыццё. Трэці дзень не даюць кашу зварыць...

— Немцаў вінаваць, Сяргеіч, што так уцякаюць.— Гэта лейтэнантаў голас. Вось ён зноў зацягнуў:

Темная ночь, только пули свистят по степи,
Только ветер гудит в проводах,
Тускло звезды мерцают...

Кузаў пада мной уздрыгнуў, хістануўся на ўхабе, і машына пайшла. Добра, што я такі хітры. Стаў бы прасіцца — не ўзялі б. А цяпер — усё. Галоўнае, далей ад хаты ад'ехаць.

І раптам я войкнуў ад пякучага болю. Хтосьці наступіў мне на пальцы. Як я высунуў руку з-пад лаўкі — зразумець не магу.

— Што гэта яшчэ такое? — здзіўляецца Сяргеіч і сцягвае з мяне маскіроўку.

Першае, што я ўбачыў, гэта вясёлага лейтэнанта, які сядзеў насупраць за прымацаваным да сценкі столікам. Спачатку вочы яго сталі круглыя, а потым бліснулі зубы, і вось ён ужо заходзіцца бязгучным смехам. Сувязісты заглядваюць пад лаўку і таксама перасмейваюцца.

— Вылазь,— строга камандуе мне Сяргеіч.

Тут нічога не зробіш, трэба вылазіць.

— Ну, што скажаш? — пытае стары салдат без ценю ўсмешкі.— Чаго ты сюды зашыўся?

Я стаю, пасапваю і маўчу. У мяне адна думка: высадзяць ці не? Што б ім такое сказаць, каб не высадзілі?

— Можа, гэта шпіён? — не то сур'ёзна, не то жартам устаўляе Кузьмін, які ўсё выклікаў у пароле «рэзеду».

Лейтэнант аж задыхаецца. Твар яго стаў чырвоны, як пераспелая вішня.

— Які ён шпіён? — скрозь смех заступаецца лейтэнант за мяне.— Добраахвотнік ён...

Хтосьці пастукаў у сценку супраць кабіны. Машына спынілася. І тут я не вытрымаў.

— Яны Саньку забілі... Яны... Я з вамі паеду.

І выцер здрадніцкую слязу.

Лейтэнант перастаў смяяцца. На яго нібы хмара найшла — пачарнеў. У першы раз ён загаварыў сур'ёзна:

— Рана табе, Ванюха. Мы самі ўправімся. І за сябра твайго доўг аддадзім...— І зноў засвяціў белымі зубамі.— Каб ты хоць да дзяўчат хадзіў...

Ляпнулі дзверцы кабіны.

— Што там яшчэ такое? — пачуўся незадаволены голас капітана.

— Добраахвотнік тут падсеў, таварыш капітан! — далажыў начальнік сувязі.— Трэба высадзіць.

Сяргеіч сунуў мне ў рукі чорствую цагліну хлеба, бляшанку кансерваў і дапамог вылезці.

— Бяжы, брат, да бабулі, ёй дапамагай. І ў школу хутка табе...

У двары патух ужо касцёр. У хаце Глыжка з бабуляй налягаюць на пакінутую штабам пшонную кашу.

— У вас папелі, а ў нас паелі.— Бабуля так заўсёды сустракае мяне, калі я спазняюся на абед.

Я прамаўчаў. Падумаеш, напалохала. У чалавека не такое гора. Моўчкі падаўся на печ.

## 40. БАЦЬКАВА ПІСЬМО

Бульба зазімавала ў полі. Не да яе было: людзей выганялі ў бежанцы, а мы сядзелі ў бабульчыным бліндажы. Тую, што паспелі на агародах схапіць, паелі, а зараз ходзім на поле з ламамі, б'ём імі зямлю, адварочваем цяжкія глыбы, капаем мёрзлую. На полі чорна ад людзей, і бабуля баіцца, што нам не хопіць, таму яна водзіць з сабой не толькі мяне, але і Глыжку. Праўда, помачы ад яго небагата — пасінее, сагнецца крукам.

Бабулі мёрзлая бульба больш па смаку, чым з-пад падлогі, якая засталася на насенне, сядзе лупіць — хваліць:

— Глядзі, як лупіцца, што вараная!

Стане мыць — зноў хваліць:

— Глядзі ты, і белая трапляецца, як быццам і немарожаная.

І драць на драчцы яе не трэба, бо сама распаўзаецца, высушыш — крухмал крухмалам, толькі

сырамаццю пахне. І пампушкі, ці, як кажа старая, «лапонікі», з яе атрымліваюцца добрыя. А што крыху гніллю нясе, дык няма чаго нам насамі круціць.

— Бач, паны якія! Можна падумаць, што, апроч пячэння, яны нічога і не бачылі.

Ходзяць па вёсцы чуткі: то той пісьмо прыслаў, то гэты. Гавораць людзі, што Пятро-каваль і сам прыйшоў. Праўда, без рукі, але дзякуй і за гэта — усё ж такі мужык, усё ж такі гаспадар у доме. Не баба.

Так мяркуе ўся наша хата. А ў хаце цяпер чатыры сям'і пагарэльцаў. Пакуль тыя зямлянкі выкапаюць, але ў цеснаце — не ў крыўдзе.

Я, Глыжка і бабуля, як гаспадары, спім на печы, а астатнія ўпокат на падлозе.

— Ці гэта наш пра дзяцей забыўся, ці ён думае, што я сто гадоў пражыву,— уздыхае старая, калі заходзіць гаворка пра гэтыя самыя пісьмы.

— Адзавецца,— супакойвае яе баба Гапа.

— Ага ж, адзавецца. Можа, зямлю парыць ужо. Ён такі ж дурны, як і гэты хлопец, дзе якая ні хвароба — і ён туды лезе, галаву сваю пхае.

Дурны хлопец — гэта я. Толькі не пра мяне размова, а пра бацьку. Мне крыўдна, што бабуля думае пра яго так. Вунь камісар казаў, танк падпаліў. А старая камісаравых слоў слухаць не хоча: дурыў, маўляў, ён нас, а мы вушы развесілі.

Аднойчы ў нядзелю прыйшоў да нас дзед Мікалай. Снег з шапкі абцярушыў, нагамі ў парозе патупаў і неяк па-святочнаму вусы пагладзіў — спачатку адзін вус, потым другі. А пад вусамі — усмешка.

— Табе што, Мікалай, абаранак далі? — здзіўляецца бабуля, а сама чыгун ставіць на чалеснікі.

— Пісьмо вам,— паведамляе дзед,— ад бацькі. Ішоў міма сельсавета — забраў.— І на мяне: — Злазь з печы, грамацей, чытаць будзем.

Ён дастаў з нетраў сваёй бяздоннай кішэні невялічкі зашмальцаваны трохкутнік, прашыты зялёнымі салдацкімі ніткамі. Хто яго ведае, як людзі дазнаюцца пра навіны. Не паспеў я ніткі ўспароць, прыбягае цётка Марына.

— Пісьмо, кажуць, Кірыла прыслаў?

Разгарнуў я пісьмо, зноў дзверы — рып. На парозе Чмышыха-манашка.

— Прыслаў пісьмо Кірыла?

І вось я сяджу ў цэнтры ўвагі. Вакол мяне, хто дзе прымасціўся, суседзі і радня

— «Драствуйце, родныя і блізкія,— чытаю я,— драствуйце, суседзі... Пішу і не ведаю, ці ёсць каму гэта пісьмо атрымоўваць, ці застаўся хто жывы».

Тут першая ўсхліпнула цётка Марына. Яна ўспомніла маю маці.

— Ой, бедная, не дачакалася, парыць сырую зямельку.

— Ды хопіць, хопіць,— супакойваюць яе.

— Не магу я, не магу...

Вось гэтую манашку я з хаты выгнаў бы, каб мог. Стаіць, каркае:

— Прыйдзе, мачыху возьме...

Плача баба Гапа. Толькі ў яе сваё. Усё па Мірону плача. І ад сына Васіля няма звесткі.

— А ты чытай,— не церпіцца дзеду Мікалаю.

— «Калі нікога з сям'і няма, адзавіцеся вы, дарагія суседзі. Я жыў-здароў, чаго і вам жадаю, хаця сербануў усякага: і выходзіў з акружэння, і двойчы ледзь не трапіў у палон, і пад Масквой ледзь танк мяне не затаптаў».

Тут я пераможна паглядзеў на бабулю: што, дурыў камісар? Праўда, я чамусьці не падумаў пра тое, што, калі камісар ляжаў паранены, немцы ад Масквы яшчэ былі далёка. Хаця гэта, можа, і другі выпадак. Пра ўсё не напішаш. Зразумела, бацька яго падбіў, інакш затаптаў бы сапраўды.

— Чытай, чытай,— падганяе мяне дзед.

— «Але пакуль што, відаць, у Германіі на мяне куля не адліта. Як там наша хата, ці цэлая? Можа, усё па ветры пайшло?»

— А лічы, што і пайшло. Адны сцены засталіся,— адгукнулася бабуля.

Яе перабіла Чмышыха:

— Не гняві Бога, Матрона...

— «Зараз я зноў у шпіталі. На гэты раз, відаць, апошні. Адваяваў я сваё. Як рана зажыве, відаць, дамоў пусцяць».

— Ну і слава Богу. Цяпер мне і паміраць можна,— узрадавалася бабуля.

А дзеду гэта не спадабалася.

— Слава Богу, слава Богу,— передражніў ён старую,— а куды паранены? Можа, без рукі ці без нагі...

— Не напісана,— адказаў я,

— А ты пільней чытай! — не паверыў стары.

— Абы галава цэлая! — не здалася бабка.

— «Так што адпішыце, як вы там. Як сыны...»

— Рогі растуць,— уставіла старая.

— «...як ты, Адарка...»

Тут і я шморгнуў носам, і ў горле нешта перасела, аж голас змяніўся.

Цётка зноў у слёзы.

— «...як дзядзька Мікалай і цётка Матрона...»

— Дзякуй, напішы, што мацуемся,— загадаў дзед.

— «Усім нізка кланяюся. А яшчэ перадайце, калі ёсць хто ў жывых, давялося мне сустрэць Івана Макавея».

«Гэ, дык гэта ж Санькаў бацька!» — здагадаўся я.

— «Мінулай вясной разам у шпіталі ляжалі. Праўда, ён выпісаўся раней і паехаў у сваю часць.

*На тым застаюся К. Сырцоў».*

— Усё?

— Усё,— уздыхнуў я.

— А Васіля майго ён не сустракаў? — спытала баба Гапа, быццам яна і не чула пісьма.

— Не піша.

— А ты, дзетка, будзеш адпісваць, то спытай,— папрасіла Міроніха.

Доўга я пішу бацьку адказ, да самага вечара. Мне падказваюць з усіх бакоў, ад каго перадаваць паклоны, пра каго яшчэ спытаць апрача Міронавага Васіля: пра мужа, пра брата, пра кума.

Пра Саньку я таксама паведаміў. Нядаўна з Ярылавіч пераказалі людзі, што Санька там і каб за ім прыехалі. Яго падабрала тады на парозе сваіх сенцаў адна старая жанчына і доўга лячыла.

Калі выпаў добры снег, цётка Марфешка ўзяла санкі і прывезла сына дамоў саматугам. Зараз мой сябра ходзіць па хаце. Мне спіну сваю паказваў: уся ў шрамах, а на левай лапатцы яшчэ і зараз сядзіць вялікі струп, з-пад яго цячэ сукравіца.

— Добрую яны табе пакінулі памяць, хай ім грэц! — гаворыць Санькава маці.

Дык хіба ж толькі яму? Усім людзям на доўгія гады.

Сяркоў, І. К.
С99 Мы з Санькам у тыле ворага : аповесць : для сярэд. шк. ўзросту / Іван Сяркоў. — Мінск : Маст. літ., 2006. — 223 с.

ISBN 985-02-0865-1.

Вядомы і папулярны твор Івана Сяркова праўдзіва і цікава, з уласцівым аўтару гумарам расказвае аб прыгодах і жыццёвых выпрабаваннях вясковых хлопцаў Івана Сырцова і Санькі Макавея.

УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44

Літаратурна-мастацкае выданне

СЯРКОЎ Іван Кірэевіч

МЫ З САНЬКАМ У ТЫЛЕ ВОРАГА
Аповесць

*Для сярэдняга школьнага ўзросту*

Рэдактар *М. А. Яршова*
Мастакі *К. С. Ракіцкі, В. В. Дударэнка*
Мастацкі рэдактар *К. С. Ракіцкі*
Тэхнічны рэдактар *Л. С. Зубец*
Стылістычны рэдактар *А. М. Анцытовіч*

Падпісана да друку 08.08.06. Фармат 84×108[1]/[32].
Папера газетная. Гарнітура Школьная. Афсетны друк.
Умоўн. друк. арк. 11,76. Улік.-выд. арк. 9,51.
Тыраж 2000 экз. Заказ 2175.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0056778 ад 17.02.2004.
220600, Мінск, праспект Пераможцаў, 11.

Адкрытае акцыянернае таварыства
«Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа».
220600, Мінск, вул. Чырвоная, 23.